# СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ
## НАВЕЙШАГА ЧАСУ
## 1945—2005 гг.

**Вучэбны дапаможнік для 10 класа ўстаноў,
якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі,
з беларускай мовай навучання
з 12гадовым тэрмінам навучання**

Пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук,
прафесара Г. А. Космача

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

*2е выданне*

Мінск
«Выдавецкі цэнтр БДУ»
2006

УДК 94(100)«1945/2005»(075.3=161.3)
ББК 63.3(0)6я72
С90

А ў т а р ы:
*Г. А. Космач* — «Уводзіны», § 2, 18—26;
раздзелы па гісторыі культуры да § 4—8;
*Р. Р. Лазько* — § 1, 3—10;
*У. В. Тугай* — § 11—17

А ў т а р м е т а д ы ч н а г а а п а р а т у
*С. В. Паноў*

Р э ц э н з е н т ы:
заг. каф. гісторыі новага і навейшага часу
Беларускага дзяржаўнага універсітэта,
д-р гіст. навук, праф. *У. С. Кошалеў;*
заг. каф. гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў
Беларускага дзяржаўнага універсітэта,
д-р гіст. навук, праф. *В. А. Фядосік;*
рэктар Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна,
д-р гіст. навук, праф. *М. Э. Часноўскі;*
настаўнік гісторыі гімназіі № 11 г. Мінска *А. А. Карзюк*

Пераклад з рускай мовы *А. В. Скарахода*

С90 **Сусветная** гісторыя навейшага часу, 1945—2005 гг. : вучэб. дапам. для 10-га кл. установ, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі, з бел. мовай навучання з 12-гадовым тэрмінам навучання / Г. А. Космач, Р. Р. Лазько, У. В. Тугай ; пад рэд. Г. А. Космача ; пер. з рус. мовы А. В. Скарахода. — 2-е выд. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2006. — 239 с. : іл.
ISBN 985-476-444-3.

**УДК 94(100)«1945/2005»(075.3=161.3)**
**ББК 63.3(0)6я72**

**ISBN 9854764443**

# ЯК ПРАЦАВАЦЬ З ВУЧЭБНЫМ ДАПАМОЖНІКАМ

Вучэбны дапаможнік складаецца з трох раздзелаў, якія расказваюць пра развіццё краін і рэгіёнаў свету ў другой палове XX і пачатку XXI ст. Вучэбны дапаможнік і кожны раздзел пачынаюцца з агульнай характарыстыкі асноўных кірункаў палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў і дзяржаў сучаснага свету. Пры вывучэнні зместу параграфаў неабходна суадносіць канкрэтныя гістарычныя факты з асноўнымі кірункамі развіцця краіны. Гэта дапаможа вам лепш зразумець і засвоіць вучэбны матэрыял.

Кожны параграф пачынаецца з рубрыкі «Успомніце», якая выступае ў ролі своеасаблівага мастка паміж старым і новым матэрыялам. Наколькі вы ўмееце карыстацца вывучаным матэрыялам, пакажуць вашы адказы на пытанні і заданні ў канцы параграфа. Яны, як правіла, размешчаны па нарастаючай ступені складанасці. Правільна рабіць параўнанне, доказ, рыхтаваць вусны разгорнуты адказ, даваць характарыстыку гістарычным асобам вам дапамогуць метадычныя памяткі, якія вы знойдзеце ў канцы вучэбнага дапаможніка.

Змест большасці параграфаў складаецца з асноўнага і дадатковага матэрыялу. Пры вывучэнні асноўнага матэрыялу вы сустрэнецеся з новымі для вас гістарычнымі тэрмінамі, якія выдзелены курсівам. Іх тлумачэнне даецца непасрэдна ў тэксце параграфа або ў «Слоўніку тэрмінаў» у канцы вучэбнага дапаможніка. У дадатковым матэрыяле, пазначаным дзвюма зорачкамі (**), размешчаны гістарычныя дакументы і матэрыялы, якія адносяцца да падзей, што вывучаюцца.

Звесткі пра ўдзельнікаў гістарычных падзей пададзены ў рубрыцы «Штрыхі да палітычнага партрэта».

Кожны раздзел заканчваецца ўрокам паўтарэння і абагульнення, які ўключае пытанні і заданні, сфармуляваныя ў адпаведнасці з 10-бальнай сістэмай ацэнкі. Пры вызначэнні вынікаў сваёй вучэбнай дзейнасці прытрымлівайцеся наступнага правіла: «Умею — значыць, ведаю, не ўмею — значыць, не ведаю».

«Спіс рэкамендаванай літаратуры» дапаможа тым, хто цікавіцца гісторыяй, больш глыбока вывучыць матэрыял. «Храналагічная табліца» стане для вас своеасаблівым даведнікам па гісторыі навейшага часу і дапаможа запомніць найважнейшыя гістарычныя факты і даты.

Жадаем поспехаў!

# УВОДЗІНЫ. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РАЗВІЦЦЯ КРАІН С ПАСЛЯ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

**Станаўленне двухполюснага свету.** Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны вядучыя пазіцыі ў сусветнай палітыцы занялі дзве звышдзяржавы — СССР і ЗША. Абедзве дзяржавы валодалі самым вялікім у свеце эканамічным і ваенным патэнцыялам. ЗША і Савецкі Саюз, якія правялі выпрабаванні атамных бомбаў і ядзернай зброі, сталі асноўнымі ядзернымі дзяржавамі свету. Паміж імі, а таксама іх саюзнікамі пачалася *«халодная вайна»* — перыяд вострых канфліктаў і гонкі ўзбраенняў.

У **1949 г.** ЗША, Канада і шэраг краін Заходняй Еўропы (Вялікабрытанія, Францыя, Італія і інш.) стварылі *Арганізацыю Паўночна атлантычнага дагавора (НАТО).* У **1955 г.** СССР і яго саюзнікі ўтварылі свой ваенна-палітычны саюз — *Арганізацыю Варшаўска га дагавора (АВД).* І НАТО, і АВД ставілі сабе за мэту сумесную абарону ўдзельнікаў сваіх арганізацый ад агрэсіі. Такім чынам, супрацьстаянне паміж дзвюма звышдзяржавамі дасягнула сусветнага маштабу. Свет ператварыўся ў двухполюсны.

У 1961 г. у ГДР была ўзведзена Берлінская сцяна, якая стала сімвалам «жалезнай заслоны» паміж Усходам і Захадам. У 1962 г. выбухнуў карыбскі крызіс. У адказ на размяшчэнне савецкіх ракет на Кубе ЗША ўстанавілі блакаду гэтай краіны. Свет апынуўся на парозе ядзернай вайны. Канфлікт удалося вырашыць, але саперніцтва дзвюх звышдзяржаў і гонка ўзбраенняў працягваліся.

У 1970-я гг.назіраўся працэс *разрадкі* ў адносінах паміж СССР і Захадам. Былі падпісаны дагаворы аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў. У 1975 г. у Хельсінкі кіраўнікі СССР, ЗША, Канады і 33 еўрапейскіх краін падпісалі Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, у якім замацоўваліся вынікі Другой сусветнай вайны, прынцып непарушнасці граніц і неабходнасць мірнага суіснавання дзяржаў. Аднак увод савецкіх войскаў у Афганістан у 1979 г. прывёў да заканчэння працэсу разрадкі.

З 1985 г. у сувязі з пачаткам перабудовы ў СССР адносіны паміж Усходам і Захадам палепшыліся. Абодва бакі ліквідавалі ракеты сярэд-




няй дальнасці ў Еўропе. У 1989 г. СССР вывеў свае войскі з Афганістана. У 1991 г. быў падпісаны дагавор паміж дзвюма звышдзяржавамі аб скарачэнні стратэгічных узбраенняў, памяншалася і колькасць звычайных узбраенняў.

Вялікую ролю ва ўрэгуляванні многіх канфліктаў у свеце адыграла Арганізацыя Аб’яднаных Нацый (ААН), заснаваная ў **1945 г.** Адным з найбольш важных рашэнняў Генеральнай Асамблеі ААН стала прыняцце ў **1948 г.** Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Аднак барацьба звышдзяржаў у Савеце Бяспекі ААН аслабляла гэтую арганізацыю.



Сцяг ААН

**Распад сацыялістычнага лагера і СССР. Фарміраванне шматполюснага свету.** У канцы 1940-х гг. склалася сусветная сацыялістычная сістэма. У большасці краін, якія ўваходзілі ў яе, у 1950—1960-х гг. былі пабудаваны асновы сацыялізму, г. зн. праведзена нацыяналізацыя сродкаў вытворчасці, індустрыялізацыя, каапераванне вёскі, культурная рэвалюцыя. Аднак па тэмпах росту прадукцыйнасці працы, укаранення новых тэхналогій, вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва, пакупной здольнасці і рэальнай зарплаце краіны сацыялізму адставалі ад развітых дзяржаў Захаду.

У ходзе перабудовы СССР не змог пераадолець унутраны крызіс. На фоне аслаблення пазіцый Савецкага Саюза ў свеце ў шэрагу краін сацыялізму ў **1989—1990 гг.** адбыліся дэмакратычныя рэвалюцыі. Сусветная сацыялістычная сістэма распалася. Скончылася «халодная вайна». У 1990 г. адбылося аб'яднанне ФРГ і ГДР. У 1991 г. перастаў існаваць Савецкі Саюз і ўтварылася Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД). У выніку гэтых гістарычных падзей змянілася геапалітычная сітуацыя на планеце. Свет перастаў быць двухполюсным і ператварыўся ў шматполюсны.

Паступова ўплывовым геапалітычным цэнтрам свету стаў Еўрапейскі Саюз (ЕС). Найважнейшым этапам у працэсе еўрапейскай *інтэграцыі* — збліжэння і паглыблення супрацоўніцтва дзяржаў з'явілася стварэнне ў рамках ЕС адзінай эканамічнай, сацыяльнай, прававой, інфармацыйнай і культурнай прасторы. Узмацнілася палітычная інтэграцыя ЕС за кошт частковай адмовы дзяржаў ад суверэнітэту.

ЗША як адзіная сусветная звышдзяржава фарміруюць новы сусветны парадак. Яны вядуць актыўную геапалітычную агрэсію ў Еўразіі. Блок НАТО стаў пашырацца на Усход. У **1999 г.** у яго склад увайшлі Польшча, Чэхія і Венгрыя. У **2004 г.** у НАТО ўступілі Эстонія, Латвія, Літва, Балгарыя, Румынія, Славакія і Славенія. У гэтых умовах Расія і Беларусь для забеспячэння сваіх нацыянальных і геапалітычных інтарэсаў імкнуцца ўзмацніць інтэграцыю ў рамках СНД і наладзіць партнёрскія адносіны з Кітаем, Індыяй і іншымі краінамі.

**Ад «грамадства дабрабыту» да інфармацыйнага грамад>ства.** У 1950—1960-х гг. у перадавых індустрыяльных краінах Захаду і Японіі склалася «грамадства дабрабыту», якое гарантуе грама-

дзянам высокі ўзровень сацыяльнага забеспячэння пры захаванні рыначнай гаспадаркі. Асновай такога грамадства стаў устойлівы эканамічны рост — «эканамічны цуд» у Германіі, Італіі, Японіі і іншых краінах. Сфарміраваўся моцны *сярэдні клас* — пласты насельніцтва, матэрыяльнае і сацыяльнае становішча якіх забяспечвае стабільнае развіццё грамадства. У найбольш завершаным выглядзе «грамадства дабрабыту» існуе ў Швецыі, Даніі і Нарвегіі. Таму яго часта называюць «скандынаўскай» ці «шведскай» мадэллю дэмакратычнага сацыялізму.

Да сярэдзіны 1970-х гг. «грамадства дабрабыту» апынулася ў стане крызісу. Рост эканомікі запаволіўся з-за вялікіх затрат на развіццё сацыяльнай сферы. Дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі абмяжоўвала развіццё рынку, выраслі беспрацоўе і інфляцыя. У 1973—1975 гг. выбухнуў сусветны эканамічны крызіс.

У канцы 1970-х — пачатку 1980-х гг. да ўлады ў шэрагу краін Захаду прыйшлі кансерватыўныя партыі. Яны аслабілі дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі, паменшылі расходы на сацыяльныя патрэбы, правялі *прыватызацыю* — перадачу ў прыватную ўласнасць часткі дзяржаўнага сектара эканомікі, забяспечылі, знізіўшы падаткі, умовы для развіцця малога і сярэдняга бізнесу і рыначных адносін. Гэта прывяло да эканамічнага росту і абнаўлення тэхналагічнай базы эканомікі. Найбольш глыбокія рэформы прайшлі ў ЗША і Англіі (у выніку палітыкі рэйганомікі і тэтчэрызму), а таксама ў Францыі і ФРГ. Рэзка ўзрасло значэнне навукі і інфармацыйных тэхналогій ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Вялікую ролю ў працэсе станаўлення *інфармацыйнага грамадства* — грамадства, дзе галоўным сектарам эканомікі становіцца вытворчасць ведаў, а прамысловая вытворчасць пераводзіцца на высокія тэхналогіі, адыграла *навуковатэхнічная рэвалюцыя (НТР)*. НТР — карэннае, якаснае рэфармаванне прадукцыйных сіл на аснове ператварэння навукі ў вядучы фактар развіцця грамадскай вытворчасці. Яна пачалася пасля заканчэння Другой сусветнай вайны з шырокай аўтаматызацыі вытворчасці, выцяснення ручной працы, узрослага ўзаемадзеяння навукі і вытворчасці. На першым этапе НТР (канец 1940-х — пачатак 1970-х гг.) узніклі новыя галіны эканомікі — электроніка, сучаснае аўтамабілебудаванне, авіякасмічная, атамная, хімічная і інш.

З сярэдзіны 1970-х гг. пачаўся новы этап НТР, які атрымаў назву тэхналагічнай і інфармацыйнай рэвалюцыі. Абазначыўся пераход ад індустрыяльнага да постіндустрыяльнага (інфармацыйнага) грамадства. Пачалася масавая вытворчасць і выкарыстанне камп'ютэраў. Камп'ютэрызацыя выклікала з'яўленне новых тэхналогій, што прывяло да рабатызацыі і поўнай аўтаматызацыі вытворчасці. Быў забяспечаны новы рост прадукцыйнасці працы і пераважнае развіццё сферы інфармацыі, навукі, ведаў, паслуг і вольнага часу. Змяніўся спосаб жыцця людзей.

НТР і міжнародны падзел працы абумовілі з'яўленне транснацыянальных карпарацый (ТНК), такіх, як «Панасонік», «Самсунг», «Пепсіко» і інш., якія вырабляюць стандартныя тавары для ўсяго свету. ТНК імкнуцца ў сваіх інтарэсах завяршыць працэс *глабалізацыі* — інтэграцыі і цэнтралізацыі эканомікі, культуры, тэхнікі розных краін. Сутнасць глабалізацыі заключаецца ў фарміраванні сусветнага рынку капіталаў, тавараў, паслуг і інфармацыі. Краіны Захаду выкарыстоўваюць працэс глабалізацыі ў сваіх інтарэсах для распаўсюджвання ва ўсім свеце каштоўнасцей заходняй цывілізацыі, сярод якіх вылучаюцца правы і свабоды чалавека, прававая дзяржава, грамадзянская супольнасць. Аднак глабалізацыя пярэчыць асаблівасцям гістарычнага развіцця іншых цывілізацый. Так, большасць краін Усходу не прымаюць дэмакратыю «заходняга ўзору» і заходні спосаб жыцця.

**Узрастанне ролі краін Усходу.** Да пачатку XXI ст. на міжнароднай арэне значна ўзмацнілася роля краін, якія пазбавіліся ў выніку нацыянальна-вызваленчага руху каланіяльнага прыгнёту. Яны атрымалі назву дзяржаў «трэцяга свету». Многія з іх сталі аграрна-індустрыяльнымі або ўвайшлі ў лік індустрыяльных краін.

З усходніх дзяржаў асабліва высокімі тэмпамі развіваліся Японія, Тайвань, Паўднёвая Карэя, а таксама некаторыя краіны — экспарцёры нафты і газу. Паўднёва-Усходняя Азія ператварылася ў буйны эканамічны і геапалітычны рэгіён планеты. Новымі эканамічнымі гігантамі становяцца Кітай і Індыя, у якіх пражывае каля 2,5 млрд чалавек. Кітайская Народная Рэспубліка, ажыццявіўшы рэфармаванне сацыялістычнага грамадства, імкнецца пабудаваць сацыялізм з кітайскай спецыфікай.

Важную ролю пасля распаду каланіяльнай сістэмы ў гады «халоднай вайны» адыгрываў *Рух недалучэння,* заснаваны ў **1961 г.** Удзельнікі руху адмаўляліся далучацца да процілеглых ваенных блокаў НАТО і АВД, імкнуліся праводзіць скаардынаваную палітыку ў інтарэсах уласных народаў. Пасля заканчэння «халоднай вайны» роля гэтага руху прыкметна аслабла.

Працягвае існаваць нераўнамернасць у развіцці краін Усходу. Многія з іх з'яўляюцца адсталымі і крайне беднымі. Захоўваецца іх залежнасць ад развітых краін Захаду. Найбуйнейшыя дзяржавы свету вядуць на Усходзе актыўную барацьбу за крыніцы сыравіны і рынкі збыту. Тут часта ўзнікаюць узброеныя канфлікты і войны, акрамя таго, тут знаходзяцца цэнтры і дзейнічаюць арганізацыі міжнароднага тэрарызму.

**Глабальныя праблемы чалавецтва.** З моманту стварэння атамнай зброі свету пагражае ядзерная катастрофа. Мільёны людзей у ходзе антываеннага руху патрабавалі і патрабуюць забараніць атамную зброю. У 1963 г. СССР, ЗША і Вялікабрытанія падпісалі Дагавор аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, касмічнай прасторы і пад вадой. Да 1990 г. дагавор падтрымалі 117 дзяржаў. У 1968 г. СССР, ЗША, Вялікабрытанія і іншыя дзяржавы заключылі Дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Да 1993 г. яго ўдзельніцамі сталі 158 дзяржаў.

Асаблівую актуальнасць набыла праблема вычарпання прыродных рэсурсаў і пошуку альтэрнатыўных крыніц энергіі. Гэта звязана як з ростам вытворчасці і эксплуатацыі прыроды, так і з павелічэннем колькасці насельніцтва.



Голуб. 1947 г. Гэты малюнак Пабла Пікаса стаў сімвалам прыхільнікаў руху за мір

Свету пагражае экалагічная катастрофа. З прычыны знішчэння лясоў, разбурэння азонавага слоя, парніковага эфекту (награвання ўнутраных слаёў атмасферы), пагрозы раставання льдоў можа адбыцца глабальная змена клімату. Сталі частымі прыродныя катастрофы (паводкі, ураганы і г. д.). Пагаршэнне экалагічнай сітуацыі выклікае ў людзей (нягледзячы на поспехі медыцыны) рост анкалагічных, сардэчна-сасудзістых і нервова-псіхічных захворван-

няў, а таксама з’яўленне новых вірусаў і хвароб (СНІДу, атыповай пнеўманіі і інш.).

Уяўляюць небяспеку для чалавецтва і некаторыя дасягненні НТР. Так, калі тэхніка па розных прычынах выходзіла з-пад кантролю чалавека, адбываліся катастрофы на атамных электрастанцыях і хімічных заводах, што мела цяжкія наступствы для ўсяго свету. Пэўную пагрозу чалавецтву нясуць стварэнне штучнага інтэлекту, новыя біятэхналогіі, генная інжынерыя, кланіраванне.

У канцы XX — пачатку XXI ст. абвастрылася праблема міжнароднага тэрарызму. У наш час найбольш актыўнымі тэрарыстамі з’яўляюцца члены розных ісламскіх фундаменталісцкіх арганізацый. Яны перайшлі да тактыкі масавага тэрору і войнаў у шэрагу рэгіёнаў планеты: на Блізкім Усходзе (Палесціна, Ізраіль), у Азіі (Афганістан, Пакістан) і інш. 11 верасня 2001 г. ісламісты ажыццявілі атаку на Злучаныя Штаты Амерыкі. Гэта змяніла характар міжнародных адносін. Узнікла антытэрарыстычная кааліцыя на чале з ЗША. Барацьба з тэрарызмам стала глабальнай міжнароднай праблемай.

## Пытанні і заданні

1. Якімі былі ўзаемаадносіны краін Захаду, у тым ліку ЗША, і СССР пасля заканчэння Другой сусветнай вайны? Пры адказе выкарыстайце картасхему на с. 5.
2. У чым заключаецца адрозненне паміж двухполюсным і шматполюсным светам? Пры адказе выкарыстайце паняцці *«халодная вайна», разрадка, інтэграцыя.*
3. У чым заключаецца адрозненне паміж індустрыяльным і постіндустрыяль ным грамадствам? Пры адказе выкарыстайце паняцці *навуковатэхнічная рэвалюцыя, інфармацыйнае грамадства, глабалізацыя.*
4. Што ўяўляла сабой «грамадства дабрабыту»? Якая яго аснова і шля хі пераадолення яго крызісу? Пры адказе выкарыстайце паняцці *ся рэдні клас, прыватызацыя.*
5. Якая роля дзяржаў «трэцяга свету»?
6. Пералічыце глабальныя праблемы чалавецтва. Прапануйце і абгрун туйце свае варыянты іх вырашэння.

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РАЗВІЦЦЯ КРАІН Е І АМЕРЫКІ ПАСЛЯ 1945 г.

**«Халодная вайна» і раскол пасляваеннай Еўропы.** Другая сусветная вайна закончылася, але яна пакінула ўсім народам, што ваявалі, мноства вострых праблем. І галоўная з іх — вялізныя людскія страты. Паводле звестак, якія да сённяшняга дня ўдакладняюцца, яны склалі каля 100 млн чалавек! Пры гэтым большая частка загінуўшых — цывільнае насельніцтва: ахвяры бамбёжак, артабстрэлаў, голаду, канцлагераў.

Да пачатку 1950-х гг. еўрапейскія краіны аднавілі даваенны ўзровень вытворчасці, адмянілі размеркаванне прадуктаў па картках. Але пераадолець адчужэнне і варожасць паміж народамі, якія ваявалі, было вельмі цяжка. Першы канцлер пасляваеннай Заходняй Германіі К. Адэнаўэр вызначыў гэтую праблему так: «Вярнуць Германію ў Еўропу». Пераадоленне наступстваў вайны стала адной з асноўных задач і для краін, якія былі саюзніцамі па антыгітлераўскай кааліцыі.

Пасля заканчэння вайны ў свеце сталі праяўляцца новыя супярэчнасці, выкліканыя саперніцтвам паміж СССР і ЗША. З пачатку 1946 г. паміж імі пачалася «халодная вайна». У сакавіку 1946 г. былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі У. Чэрчыль абвінаваціў СССР у фактычным захопе Усходняй Еўропы і ізаляцыі яе ад Захаду «жалезнай заслонай». Ён заклікаў Захад даць адпор «камуністычнай агрэсіі» і ўмацаваць англа-амерыканскі саюз. ЗША ўступілі ў вострую барацьбу з Савецкім Саюзам за ўплыў у Еўропе і Азіі.

З канца 1940-х гг. былыя саюзнікі па антыгітлераўскай кааліцыі СССР і ЗША сталі пагражаць адзін аднаму прымяненнем сілы для абароны сваіх інтарэсаў і прынцыпаў. У **1949 г.** ЗША, Канада і 10 заходнееўрапейскіх краін утварылі Арганізацыю Паўночнаатлантычнага дагавора (НАТО), а СССР і краіны Усходняй Еўропы заключылі эканамічны саюз — *Савет Эканамічнай Узаемадапамогі (СЭУ).* У гэтым жа годзе адбыўся раскол Германіі і былі створаны дзве германскія дзяржавы — Федэратыўная Рэспубліка Германія (ФРГ) і Германская Дэмакратычная Рэспубліка (ГДР). У 1955 г. СССР і яго саюзнікі стварылі Арганізацыю Варшаўскага дагавора (АВД). Так



Будынак Сакратарыята СЭУ ў Маскве. 1986 г.

завяршыўся працэс канчатковага расколу Еўропы і стварэння ваенна-палітычных блокаў, што супрацьстаялі адзін аднаму. Пагроза прымянення сілы і «халодная вайна», якія сеялі страх і недавер паміж народамі, надоўга сталі асноўнымі фактарамі міжнароднай палітыкі. Яны вялі да марнай растраты матэрыяльных і інтэлектуальных рэсурсаў і перашкаджалі працэсу міжнароднага супрацоўніцтва.

**Стварэнне і крызіс сістэмы сацыялізму ў еўрапейскіх краінах.** Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны кіраўніцтва СССР надавала важнае значэнне пабудове сацыялізму ў вызваленых ад фашысцкай агрэсіі краінах Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы. Палітычны рэжым, у асноўным у форме народных дэмакратый, усталяваўся ў Польшчы, Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі, Балгарыі, Югаславіі і Албаніі. Савецкі Саюз садзейнічаў прыходу да ўлады камуністычных партый у гэтых краінах, а таксама аказваў ім эканамічную дапамогу.

Некаторыя з гэтых пераўтварэнняў (напрыклад, індустрыялізацыя) вялі да з'яўлення тэхналагічных элементаў індустрыяльнага грамадства. Аднак пры гэтым прадугледжвалася стварэнне грамадска-

палітычнай сістэмы пад кантролем камуністычных партый. У дзяржавах Усходняй Еўропы такая палітыка сустракала супраціўленне з боку часткі грамадства. У некаторых краінах яно падаўлялася з дапамогай сілы. Так адбылося ў ГДР у 1953 г., у Венгрыі — у 1956 г., у Чэхаславакіі — у 1968 г.

У 1970—1980-я гг. у шэрагу сацыялістычных краін Еўропы склаліся апазіцыйныя ўладзе рухі, а на мяжы 1980—1990-х гг. адбыліся дэмакратычныя рэвалюцыі. Закончылася «халодная вайна», пала «жалезная заслона», якая раздзяляла Усходнюю і Заходнюю Еўропу. Дзякуючы гэтаму склаліся новыя ўмовы для пашырэння супрацоўніцтва народаў Еўропы і ўсяго свету.

**Інтэграцыя краін Захаду.** Пасля Другой сусветнай вайны заходнееўрапейскім краінам таксама давялося сутыкнуцца з немалымі цяжкасцямі. Адным са шляхоў іх пераадолення стала інтэграцыя. У **1949 г.** для садзеяння інтэграцыйным працэсам у галіне правоў чалавека была створана кансультатыўная палітычная арганізацыя — Савет Еўропы (СЕ). У **1957 г.** утворана Еўрапейская эканамічная супольнасць (ЕЭС), або Агульны рынак, якая першапачаткова ўключала Францыю, ФРГ, Італію, Бельгію, Нідэрланды і Люксембург. ЕЭС ставіла сабе за мэту стварэнне адзінай эканамічнай прасторы і павышэнне ўзроўню развіцця яе ўдзельнікаў.

У 1990-я гг. пачаўся новы этап еўрапейскай інтэграцыі. Найважнейшай яго падзеяй стала падпісанне ў **1992 г.** у горадзе Маастрыхт (Нідэрланды) дагавора, у адпаведнасці з якім у 1993 г. быў створаны Еўрапейскі Саюз (ЕС). Вынікам дагавора з'явілася стварэнне ў рамках ЕС адзінай эканамічнай, прававой, валютнай, інфармацыйнай і культурнай прасторы. Было ўведзена адзінае еўрапейскае грамадзянства, а ў 2002 г. — адзіная для краін ЕС валюта — еўра. Прынята таксама рашэнне ўзгадняць знешнюю і абаронную палітыку.



Сцяг Савета Еўропы і Еўрапейскай супольнасці

Краіны Усходняй Еўропы, у якіх адбыліся дэмакратычныя рэвалюцыі, таксама ўключыліся ў працэс еўрапейскай інтэграцыі. З боку ЕС да іх прад'яўляюцца такія ж




патрабаванні, як і да іншых кандыдатаў на ўступленне: стварэнне рыначнай эканомікі, забеспячэнне правоў грамадзян, адсутнасць тэрытарыяльных канфліктаў з суседзямі. У **2004 г.** у ЕС былі прыняты Венгрыя, Польшча, Чэхія, Эстонія, Латвія, Літва, Славакія, Славенія. У 2005 г. у склад ЕС уваходзіла 25 дзяржаў, якія вырабляюць звыш 21 % сусветнага валавога прадукту. У іх пражывае больш за 460 млн чалавек.

Інтэграцыйныя працэсы адбываліся не толькі ў Еўропе. У 1947 г. дваццаць тры дзяржавы, у тым ліку і ЗША, падпісалі Генеральнае пагадненне аб тарыфах і гандлі. У 1995 г. на яго аснове была створана Сусветная гандлёвая арганізацыя (СГА), у якую ў наш час уваходзіць большасць краін свету. Існуе таксама шэраг арганізацый рэгіянальнага супрацоўніцтва як у Еўропе, так і за яе межамі.

У канцы XX ст. паглыбілася паўночнаатлантычная інтэграцыя. У 1988 г. была створана зона свабоднага гандлю паміж ЗША і Канадай, а ў 1992 г. да яе далучылася Мексіка. Новая арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва паміж ЗША, Канадай, Мексікай атрымала назву Паўночнаамерыканскага пагаднення аб свабодным гандлі (НАФТА).

Інтэграцыя краін Захаду садзейнічала іх эканамічнаму развіццю, а таксама паскорыла НТР, працэс глабалізацыі і пераход ад індустрыяльнага да постіндустрыяльнага (інфармацыйнага) грамадства.

**Пытанні і заданні**

1. У чым заключаўся раскол пасляваеннай Еўропы? Пры адказе выкарыстайце паняцці *двухполюсны свет* і *«халодная вайна»*.
2. Чаму Савецкі Саюз аказваў садзеянне краінам Цэнтральнай і Паўднёва Усходняй Еўропы, у якіх зацвердзілася народная дэмакратыя?
3. У чым заключаецца працэс інтэграцыі краін Захаду? Пры адказе вы карыстайце картасхему на с. 15.

## § 1. ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЕРЫКІ

**Успомніце**

1. Якую ролю адыгралі ЗША ў Другой сусветнай вайне?
2. Што такое двухполюсны свет і «халодная вайна»?

**Становішча пасля Другой сусветнай вайны.** ЗША не панеслі такіх вялікіх страт у вайне, як іншыя краіны. Але гэта не азначае, што пасля вайны Злучаныя Штаты не сутыкнуліся з праблемамі. Галоўная з іх заключалася ў тым, што ЗША больш не мелі патрэбы ў магутнай

ваеннай эканоміцы. Паўстала пытанне: што выпускаць замест цяпер ужо непатрэбных самалётаў, гармат, снарадаў? Чым заняць рабочых, якія іх выраблялі? Акрамя таго, з арміі давялося звольніць 12 млн салдат і афіцэраў. Ім таксама было неабходна дапамагчы знайсці сваё месца ў мірным жыцці. Інакш кажучы, узнікла праблема *рэканверсіі,* г. зн. пераводу эканомікі на мірныя рэйкі. І ЗША паспяхова з ёй справіліся. Для гэтага яны выкарысталі «адкладзены» попыт насельніцтва на тавары народнага спажывання, які павялічыўся пасля заканчэння вайны, палітыку «адкрытых дзвярэй» у гандлі з іншымі краінамі і *план Маршала.* Паводле гэтага плана, прапанаванага ў **1947 г.** дзяржаўным сакратаром ЗША Дж. К. Маршалам, Амерыка аказвала краінам Заходняй Еўропы велізарную фінансавую дапамогу (больш за 13 млрд долараў). Умовай яе атрымання быў вывад з урадаў гэтых дзяржаў камуністаў або абмежаванне іх уплыву і ўстанаўленне дружалюбных адносін з ЗША.

Укладваючы свае капіталы за мяжой, ЗША імкнуліся атрымаць гарантыі, што гэтыя капіталы не будуць нацыяналізаваны, а прыбыткі, атрыманыя ад іх укладання, можна будзе свабодна вывозіць. Гэта прадвызначыла антыкамуністычны курс ЗША як на міжнароднай арэне, так і ўнутры краіны. У канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг. у ЗША пачалося праследаванне кампартыі, а таксама прагрэсіўных дзеячаў і арганізацый. Гэты перыяд атрымаў назву *«макартызм»* (ад імя сенатара Дж. Р. Макарці, які адыграў актыўную ролю ў антыкамуністычнай кампаніі).

ЗША спрабавалі праводзіць у адносінах да СССР палітыку «стрымлівання камунізму» шляхам стварэння вакол Савецкага Саюза і краін сацыялізму стратэгічных ваенных баз і пагрозы прымянення ядзернай зброі. Гэта палітыка атрымала назву *дактрыны Трумэна,* якая была абвешчана ў сакавіку **1947 г.** У такіх абставінах у 1948 г. праходзілі чарговыя прэзідэнцкія выбары. Перамогу на іх атрымала Дэмакратычная партыя. Яе кандыдат прэзідэнт Г. Трумэн быў абраны на другі тэрмін. У сацыяльна-эканамічнай галіне дэмакраты праявілі сябе прыхільнікамі актыўнага дзяржаўнага рэгулявання. Пасля заканчэння вайны і да пачатку 1980-х гг. менавіта яны ў цэлым на працягу 20 гадоў кіравалі краінай.

Аднак у 1953—1961 гг. дэмакратаў адцяснілі ад улады рэспубліканцы. Прэзідэнтам ЗША ў гэтыя гады быў Д. Эйзенхаўэр.

### Штрыхі да палітычнага партрэта



**Д. Эйзенхаўэр (1890—1969)**

Дуайт Дэвід Эйзенхаўэр — 34ы прэзідэнт ЗША ад Рэспубліканскай партыі. У дзяцінстве любімымі прадметамі Дуайта былі гісторыя і матэматыка. Пастуліўшы ў ваеннае вучылішча ва УэстПойнце, ён, аднак, праславіўся як лепшы ігрок у амерыканскі футбол. Удзельнік Першай сусветнай вайны, да 1940 г. Эйзенхаўэр так і не змог атрымаць каманднай пасады. Аднак Другая сусветная вайна зрабіла яго славутым. Эйзенхаўэр быў вярхоўным галоўнакамандуючым войскамі саюзнікаў у Заходняй Еўропе, выступаў за магчымасць супрацоўніцтва з СССР.

**ЗША ў 1960—1970>я гг.** У часы «халоднай вайны» ў ЗША і некаторых іншых краінах умацаваўся саюз паміж часткай палітыкаў, военачальнікаў і вытворцамі ўзбраенняў. Д. Эйзенхаўэр назваў яго *ваеннапрамысловым комплексам (ВПК).* У 1961 г. прэзідэнт ЗША выступіў з перасцярогай аб росце ўплыву ВПК. Ён падкрэсліваў, што кожнае ружжо, якое выпускаецца, кожны карабель, які спускаецца на ваду, — гэта крадзеж у тых, хто галадае і не мае адзення.

Адной з найбольш вострых заставалася праблема расавай дыскрымінацыі, г. зн. абмежавання правоў нябелага насельніцтва. У 1957 г. кангрэс ЗША прыняў закон, які абараняў грамадзянскія правы афра-амерыканцаў. Аднак фармальнае прызнанне роўнасці правоў не азначала фактычнага раўнапраўя. У 1968 г. расістамі быў забіты кіраўнік грамадзянскага руху за раўнапраўе каляровага насельніцтва, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1964), святар М. Л. Кінг. Яго гібель выклікала сур'ёзныя хваляванні ў краіне.



М. Л. Кінг

На прэзідэнцкіх выбарах 1960 г. перамог дэмакрат Дж. Кенэдзі. Ён прапанаваў праграму «новых рубяжоў», г. зн. уздыму эканомікі амерыканскага грамадства шляхам вырашэння сацыяльных праблем. Яго пераемнік Л. Джонсан (1963—1969) працягваў курс «новых рубяжоў» і прапанаваў

**Штрыхі да палітычнага партрэта**



**Дж. Ф. Кенэдзі (1917—1963)**

Джон Фіцджэралд Кенэдзі, сын бізнесмена, атрымаў бліскучую адукацыю ў лепшых універсітэтах ЗША. У 1941—1945 гг. служыў у флоце — камандаваў тарпедным катэрам.

Пасля перамогі на выбарах Кенэдзі стаў самым маладым прэзідэнтам у гісторыі ЗША. У сваёй інаўгурацыйнай прамове ён заклікаў амерыканцаў змагацца «супраць агульных ворагаў чалавецтва: тыраніі, беднасці, хвароб і вайны», што прыцягнула да яго сімпатыі шырокіх пластоў насельніцтва.

праграму стварэння «вялікага грамадства» ў ЗША. Яна таксама была нацэлена на забеспячэнне эканамічнага росту і дабрабыту насельніцтва (**1). У хуткім часе былі павышаны зарплаты, прадоўжаны выплаты дапамогі па беспрацоўі, аказана дадатковая дапамога фермерам, павялічаны выдаткі на сістэму адукацыі і ахову здароўя, зніжаны падаткі, актыўна развівалася праграма асваення космасу (**2).

У 1968 г. на прэзідэнцкіх выбарах перамогу атрымаў кандыдат ад Рэспубліканскай партыі Р. Ніксан. Ён абвясціў «новую эканамічную палітыку», якая прадугледжвала скарачэнне шэрагу сацыяльных праграм. У гэты час эканамічнае становішча ЗША пагоршылася з-за сусветнага эканамічнага крызісу (1973—1975). Абвастрылася і ўнутрыпалітычная сітуацыя ў сувязі з так званай «уотэргейцкай справай».

У 1972 г. на прэзідэнцкіх выбарах перамогу зноў атрымаў Р. Ніксан. Пазней стала вядома, што ў перыяд выбарчай кампаніі ў атэлі «Уотэргейт», дзе размяшчалася штаб-кватэра Дэмакратычнай партыі, пры спробе ўстанавіць апаратуру для падслухоўвання было арыштавана некалькі чалавек, звязаных з рэспубліканцамі. У ходзе расследавання былі таксама выяўлены шматлікія парушэнні законнасці (подкуп, шантаж) адказнымі супрацоўнікамі Белага дома.

У выніку Р. Ніксан у 1974 г. быў вымушаны аб’явіць аб сваёй адстаўцы. Згодна з Канстытуцыяй ЗША новым прэзідэнтам стаў віцэ-прэзідэнт Дж. Форд. У 1977 г. прэзідэнцкі пост заняў Дж. Картэр




(Дэмакратычная партыя). Яго адміністрацыя, нягледзячы на асобныя поспехі, не змагла вырашыць многія сацыяльна-эканамічныя і знешнепалітычныя праблемы. Таму на чарговых прэзідэнцкіх выбарах 1980 г. дэмакраты пацярпелі поўнае паражэнне.

У галіне знешняй палітыкі асноўнай праблемай для ЗША сталі адносіны з Савецкім Саюзам. Саперніцтва паміж дзвюма дзяржавамі не раз ставіла свет на мяжу ядзернай катастрофы. Так было ў час вайны ў Карэі (1950—1953), у якой ЗША ўдзельнічалі ад імя ААН, а СССР падтрымліваў Паўночную Карэю. Так было і ў час крызісу ў Карыбскім моры восенню **1962 г.** Падставай для гэтага канфлікту, які атрымаў у гісторыі назву *карыбскага крызісу,* паслужыла размяшчэнне савецкіх ракет на Кубе. Тэрыторыя ЗША апынулася ў межах дасягальнасці гэтых ракет. Прэзідэнт Дж. Кенэдзі патрабаваў ад СССР ліквідаваць на востраве савецкія базы, выдаліць ракеты і аб'явіў марскую блакаду Кубы. Узброеныя сілы ЗША і СССР апынуліся на мяжы сутыкнення.

Аднак лідэры абедзвюх краін — Дж. Кенэдзі і М. С. Хрушчоў праявілі вытрымку і дзяржаўную мудрасць, што дазволіла ўтрымаць свет ад вайны. Савецкія ракеты былі вывезены з Кубы, а ЗША адмовіліся ад спроб уварвання на востраў Свабоды. Акрамя таго, Кенэдзі заявіў, што ЗША не імкнуцца да сусветнага панавання.

Такі палітычны курс амерыканскага прэзідэнта выклікаў незадаволенасць рэакцыйных колаў ЗША. У лістападзе 1963 г. у час знаходжання ў г. Далас Дж. Кенэдзі быў забіты. Афіцыйна прызнана, што замах зрабіў Л. Х. Освальд, які некаторы час жыў у Савецкім Саюзе (у Мінску). Аднак да сённяшняга часу многія абставіны гэтай драмы не высветлены.

Пасля смерці Кенэдзі ўзаемаадносіны паміж СССР і ЗША заставаліся напружанымі, асабліва ў 1965—1970 гг., у разгар вайны ЗША ў В'етнаме. Кароткачасовы перыяд разрадкі ў савецка-амерыканскіх адносінах у пачатку і сярэдзіне 1970-х гг. змяніўся іх абвастрэннем, асабліва пасля ўводу савецкіх войскаў у Афганістан (1979).

**ЗША ў 1980—2005 гг.** Сусветны эканамічны крызіс 1973—1975 гг. і ўдзел ЗША ў гонцы ўзбраенняў абвастрылі сацыяльныя праблемы. Гэта сведчыла пра немагчымасць пераадолення эканамічных цяжкасцей шляхам узмацнення дзяржаўнага рэгулявання эканомікі. Наспелыя праблемы ў развіцці краіны па-новаму паспрабаваў вырашыць прэзідэнт Р. Рэйган, абраны ў 1980 г. ад Рэспубліканскай партыі.

Яго палітыка атрымала ў гісторыі назву *рэйганомікі*. Яна заключалася ў скарачэнні дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку, зніжэнні падаткаў на прыбытак прадпрыемстваў і даходы насельніцтва, каб тым самым заахвочваць попыт, а ў выніку — рост вытворчасці. Памяншэнне даходаў дзяржавы, выкліканае зніжэннем падаткаў, кампенсавалася за кошт скарачэння расходаў на медыцыну, адукацыю, падтрымку беспрацоўных. У той жа час урад не шкадаваў сродкаў на распрацоўку новых высокапрадукцыйных і рэсурсазберагальных тэхналогій.


Р. Рэйган

Былі прыняты таксама меры па абароне ўнутранага рынку ад канкурэнцыі з боку замежных тавараў — японскіх, паўднёвакарэйскіх. Падтрымліваўся дробны і сярэдні бізнес. Рэйганоміка

прывяла да станоўчых змен у эканоміцы, а разам з тым і да скарачэння беспрацоўя, павышэння жыццёвага ўзроўню амерыканцаў, узмацнення ролі сярэдняга класа. Таму не дзіўна, што большасць выбаршчыкаў прагаласавала за рэспубліканцаў у 1984 і 1988 гг.

У галіне знешняй палітыкі ўрад Рэйгана пачаў сваю дзейнасць з заявы аб новым «крыжовым паходзе» супраць камунізму, а СССР вызначыў як «імперыю зла». У пачатку 1980-х гг. ваенныя расходы ЗША хутка павялічваліся, а разам з імі раслі даўгі дзяржавы. Значную частку сродкаў паглынала распрацоўка Стратэгічнай абароннай ініцыятывы (САІ) — праграмы стварэння проціпаветранай абароны, якая прадугледжвала вывад ядзернай і лазернай зброі ў космас. Але яшчэ ў большай ступені гонка ўзбраенняў знясільвала эканоміку СССР, што разумеў і савецкі кіраўнік М. С. Гарбачоў. Таму ў 1985—1991 гг. лідэры дзвюх дзяржаў правялі серыю сустрэч. У выніку было прызнана, што ў ядзернай вайне не можа быць пераможцаў і яна ніколі не павінна быць развязана.

У перыяд прэзідэнцтва рэспубліканца Дж. Буша (старэйшага) (1989—1993) знешняя палітыка ЗША не змянілася. Але да гэтага часу ў многім з-за ваенных расходаў вытворчасць прадукцыі ў грамадзянскіх галінах стала скарачацца. Нягледзячы на абмежавальныя меры, што прымаліся ўрадам, павялічваўся прыток на ўнутраны рынак замежных тавараў, якія часта аказваліся больш якаснымі і таннымі, чым амерыканскія. Дробныя і сярэднія амерыканскія прадпрымальнікі разараліся. А значыць, у краіне скарачалася колькасць рабочых месцаў, павялічваўся разрыў ва ўзроўні даходаў паміж багатымі і беднымі.

У такіх умовах на прэзідэнцкіх выбарах 1992 г. пераканаўчую перамогу атрымаў кандыдат ад Дэмакратычнай партыі Б. Клінтан. Гэта быў палітык новага пакалення, якое вырасла ва ўмовах барацьбы супраць вайны ЗША ў В’етнаме. Клінтан і сам быў удзельнікам антываеннага руху. У сваёй перадвыбарнай кампаніі Клінтан рабіў упор на неабходнасць эканамічнага ўздыму і стварэння ўмоў для дасягнення поспеху сярэднімі пластамі насельніцтва. Гэта было забяспечана шляхам скарачэння ваенных расходаў і зніжэння падаткаў на малыя даходы, а таксама



Б. Клінтан

дзякуючы рэалізацыі праграмы дапамогі моладзі ў атрыманні адукацыі і працаўладкаванні. На прэзідэнцкіх выбарах 2000 і 2004 гг. з нязначнай перавагай перамог рэспубліканец Дж. Буш (малодшы). Яго адміністрацыя імкнецца знізіць падаткі, палепшыць якасць жыцця амерыканцаў, забяспечыць канкурэнтаздольнасць эканомікі ЗША ва ўмовах глабалізацыі.

На мяжы XX і XXI стст. абвастрыліся супярэчнасці паміж ЗША і ісламскімі тэрарыстамі. **11 верасня 2001 г.** ісламскія экстрэмісты ажыццявілі тэрарыстычную атаку на ЗША. Самалёты з тэрарыстамі-смяротнікамі знішчылі адзін з сімвалаў ЗША — будынкі Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Йорку і разбурылі частку Пентагона (Міністэрства абароны ЗША), а таксама правялі іншыя тэрарыстычныя акцыі супраць амерыканцаў. У выніку загінула каля 4 тыс. амерыканскіх грамадзян. ЗША ўзначалілі міжнародную антытэрарыстычную кааліцыю, якая ліквідавала ісламскі тэрарыстычны рэжым у Афганістане.

Аднак пад сцягам барацьбы з тэрарызмам ЗША імкнуцца ўстанавіць сваю гегемонію ў свеце. У **сакавіку 2003 г.** войскі ЗША і іх саюзнікаў без санкцыі ААН акупіравалі Ірак і зверглі рэжым С. Хусейна. Абапіраючыся на новую праамерыканскую ўладу ў Іраку, ЗША спрабуюць кантраляваць гэты стратэгічна важны і багаты нафтай раён. Але ў саміх ЗША расце незадаволенасць гэтым курсам рэспубліканскай адміністрацыі.



11 верасня 2001 г. два пасажырскія самалёты, захопленыя тэрарыстамі, урэзаліся ў вежы Сусветнага гандлёвага цэнтра

**Дадатковы матэрыял**

**** 1. З выступлення Л. Джонсана ў Мічыганскім універсітэце**

«Вялікае грамадства грунтуецца на дастатку і свабодзе для ўсіх. У бліжэйшыя сорак гадоў мы павінны будзем перабудаваць усе гарады ЗША, таму што становіцца ўсё цяжэй жыць у амерыканскіх гарадах... Нам не хапае дамоў і дарог... Падругое, наша сельская мясцовасць. Сёння яе прыга

жосць у небяспецы. Вада, якую мы п’ём, прадукты, якія мы ядзім, нават паветра, якім мы дыхаем, — усё знаходзіцца пад пагрозай забруджвання... Зялёныя палі і густыя лясы знікаюць. Сёння мы павінны дзейнічаць, каб прадухіліць з’яўленне „агіднай Амерыкі“... Наша грамадства будзе вялікім, калі кожны малады чалавек атрымае магчымасць вывучыць усе дасягненні чалавечай думкі. У наш час ніякая краіна не можа быць неадукаванай і ў той жа час вялікай».

****2. Асваенне космасу**



Вялікія поспехі былі дасягнуты ЗША ў асваенні космасу. Другі ў гісторыі чалавецтва палёт у космас пасля Ю. А. Гагарына ў маі 1961 г. здзейсніў амерыканскі касманаўт А. Шэпард. У ліпені 1969 г. больш за 500 млн тэлегледачоў назіралі за высадкай астранаўтаў касмічнага карабля «Апалон11» на Месяцы. Адзін з іх, Н. Армстранг, вобразна назваў крокі чалавека па месячнай паверхні «гіганцкім скачком чалавецтва». Касмічная праграма ЗША, як і СССР, базіравалася на будаўніцтве касмічных станцый на калязямной арбіце. У 1980х гг. пачалося стварэнне караблёў шматразовага выкарыстання тыпу «Шатл». Нягледзячы на трагічныя няўдачы (напрыклад, узрывы касмічных караблёў і гібель касманаўтаў), рэалізацыя праграмы не спынена. Працягваецца і запуск беспілотных апаратаў для даследавання планет Сонечнай сістэмы.

## Пытанні і заданні

1. У чым заключаецца асноўны змест плана Маршала і дактрыны Трумэна? Пры адказе выкарыстайце паняцці *рэканверсія, «макартызм»*.
2. Вызначце прычыны ўзнікнення ВПК ва ўмовах гонкі ўзбраенняў. Выкажыце свае адносіны да меркавання прэзідэнта ЗША Д. Эйзенхаўэра наконт ВПК.
3. Вызначце, у чым заключаўся змест праграмы «новых рубяжоў». Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял.
4. Раскажыце аб прычынах карыбскага крызісу. Як вы лічыце, ці мог ён закончыцца перамогай якоганебудзь боку? Сваё меркаванне аргументуйце.
5. Растлумачце, якім чынам рэйганоміка прывяла да станоўчых вынікаў у эканоміцы ЗША.
6. Прывядзіце прыклады, якія сведчаць пра імкненне ЗША ўзмацніць свой уплыў на міжнароднай арэне.
7. Раскажыце пра поспехі ЗША ў асваенні космасу. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.

# § 2. КУЛЬТУРА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЕРЫКІ

**Успомніце**

Што ўяўляе сабой «грамадства дабрабыту»?

**Літаратура.** У ЗША, як і ў іншых краінах Захаду, у пасляваенны перыяд склаліся дзве разнавіднасці культуры. Гэта элітарная, «высокая» культура, якая захоўвала класічныя традыцыі і ідэалы, і *масавая культура,* для якой характэрныя пэўныя стандарты, арыентацыя на інтарэсы масавага спажыўца, спрошчанасць, відовішчнасць і даступнасць. У адрозненне ад элітарнай, масавая культура стала своеасаблівым сродкам забавы людзей і адначасова рэкламай заходняга спосабу жыцця.

У пасляваеннай амерыканскай літаратуры гуманістычныя ідэалы ярка праявіліся ў творчасці двух вядучых прадстаўнікоў рэалістычнага кірунку — У. Фолкнера і Э. Хемінгуэя, якія сталі лаўрэатамі Нобелеўскай прэміі. У. Фолкнер у раманах «Прытча», «Горад», «Асабняк» паказаў падзенне нораваў белых амерыканцаў з Поўдня. Пісьменнік падкрэсліваў адказнасць новых пакаленняў амерыканцаў за злачынствы, здзейсненыя іх продкамі-рабаўладальнікамі і сучаснымі расістамі. Аповесць-прытча «Стары і мора» Э. Хемінгуэя прысвечана пошуку сэнсу чалавечага жыцця. Пісьменнік лічыў, што чалавек у сучасным жорсткім свеце абавязаны імкнуцца да высокіх ідэалаў і захоўваць мужнасць і годнасць у любых абставінах.

Дж. Сэлінджэр у аповесці «Над безданню ў жыце» асудзіў атмасферу хлусні і крывадушнасці, якая панавала ў амерыканскім грамадстве. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі Дж. Стэйнбек развянчаў часовыя каштоўнасці «грамадства спажывання» ў аповесці «Жамчужына» і рамане «Зіма трывогі нашай». Сямейныя драмы, супярэчнасці паміж грэшнасцю чалавека і пошукамі духоўных ідэалаў, асабістая і калектыўная адказнасць людзей за зло ў свеце — усё гэта знайшло адлюстраванне ў багатай творчай спадчыне драматурга А. Мілера («Смерць коміваяжора», «Гэта здарылася ў Вішы» і інш.). Крызіс традыцыйнай маралі, жорсткасць паўсядзённага жыцця сталі асноўнымі матывамі п’ес «Хто баіцца Вірджыніі Вулф?» і «Слухаючы» драматурга Э. Олбі. Дзякуючы дынамічнаму сюжэту і рэалістычнаму адлюстра-

ванню жыцця дзелавой Амерыкі сталі бестселерамі «вытворчыя» раманы А. Хейлі «Атэль», «Аэрапорт» і інш., а таксама вострасюжэтны раман пра амерыканскае тэлебачанне і міжнародны тэрарызм «Вячэрнія навіны».

У пасляваеннай літаратуры ЗША шырока прадстаўлены розныя авангардысцкія плыні. Пісьменнікі-авангардысты шукалі новыя, незвычайныя сродкі для перадачы формы і зместу сваіх работ. Так, паэтычныя творы тэарэтыка амерыканскага мадэрнізму Э. Паўнда напоўнены імітацыямі, наследаваннем паэтам антычнасці і сярэдневякоўя і адлюстроўваюць пратэст супраць «ліхвярскай» заходняй цывілізацыі. Пісьменнік Дж. Барт мае схільнасць да прозы «чорнага гумару» (раман «Дзень адпачывання»), якая перадае ў гратэскавай форме светаадчуванне абсурду жыцця. Выдатны драматург Т. Уільямс у сваіх псіхалагічных п’есах («Шкляны звярынец», «Трамвай „Жаданне“» і інш.) раскрывае пакуты натхнёных, паэтычных асоб у бяздушным, нецярпімым акружэнні.

З 1950-х гг. у ЗША распаўсюдзілася масавая літаратура, асноўнае месца ў якой занялі, з аднаго боку, творы, што апяваюць культ насілля і пажадлівых уцех (раманы Г. Мілера), з другога — трылеры і дэтэктывы (творчасць Дж. Чэйза).

**Выяўленчае мастацтва.** Рэалістычны кірунак у амерыканскім выяўленчым мастацтве звязаны з імёнамі мастакоў, якія ў цэнтр сваёй творчасці ставілі праблемы простага чалавека. Гэта Р. Кент, А. Рэфрэж’е і Э. Уает. Актыўна развіваліся розныя авангардысцкія кірункі і плыні, такія, як абстракцыянізм і поп-арт (папулярнае мастацтва). Поп-арт узнік у Англіі і пашырыўся ў ЗША. Мастакі гэтай мадэрнісцкай плыні, адмаўляючыся ад звычайных метадаў жывапісу і скульптуры, выкарыстоўваюць нечаканыя спалучэнні гатовых бытавых прадметаў, механічных копій (фатаграфій, плакатаў) і г. д., ператвараючы гэтыя рэчы ў творы мастацтва. Напрыклад, адзін з заснавальнікаў поп-арту Дж. Джонс стварыў свае мастацкія работы з кансервавых бляшанак і сцягоў ЗША. Э. Уорэл, які стаў вядомым дзякуючы серыйным партрэтам амерыканскай кіназоркі М. Манро і карціне-копіі 32 бляшанак супу «Кэмпбэл», выказаў сутнасць новага кірунку ў мастацтве так: «Поп-арт — гэта любіць рэчы».

У 1960-х гг. у амерыканскім выяўленчым мастацтве з’явіліся такія неаавангардысцкія кірункі, як оп-арт (аптычнае мастацтва); бодзі-



Дж. Джонс. Сцяг на аранжавым полі. 1957 г.

арт (мастацтва чалавечага цела); кінетычнае мастацтва, заснаванае на руху карцін або іх частак; гіперрэалізм (дакладнае капіраванне аб’ектаў) і да т. п. Рост наркаманіі на Захадзе садзейнічаў папулярнасці твораў псіхадэлічнага мастацтва, якія часта ствараліся і ўспрымаліся пад уздзеяннем наркотыкаў.

У 1960—1970-х гг. абстракцыянізм развіваўся ў асноўным у выглядзе канцэптуальнага мастацтва. Яго прадстаўнікі лічылі, што твор можа не мець матэрыяльнага ўвасаблення і існаваць у выглядзе ідэі або знака. Захоўваў свой уплыў сюррэалізм, прадстаўлены ў карцінах іспана-амерыканскага мастака С. Далі, які пасля 1945 г. некаторы час жыў у ЗША.

**Музыка.** У другой палове XX ст. адбыліся якасныя змены ў музычнай культуры ЗША, звязаныя перш за ўсё са з’яўленнем рок-музыкі. Яна адлюстроўвала настроі значнай часткі моладзі як у ЗША, так і ў іншых заходніх краінах, якая не прымала «ўстарэлыя» каштоўнасці старэйшага пакалення. У маладзёжным асяроддзі вылучаліся бітнікі і хіпі. Першыя крытыкавалі амерыканскія ідэалы, імкнуліся да свабоды самавыяўлення, у тым ліку і ў знешнім выглядзе, асуджалі багацце і агульнапрызнаную мараль, ужывалі наркотыкі і алкаголь. Хіпі не прызнавалі прыватную ўласнасць, сям’ю, традыцыйнае хрысціянства і заходні спосаб жыцця. Большасць з іх выступала супраць вайны і любых формаў насілля. Жылі яны, як правіла, абшчынамі і вылучаліся сваімі яркімі і мудрагелістымі ўборамі. Многія хіпі актыўна ўжывалі наркотыкі. У выніку ў ЗША і іншых краінах Захаду ўтварылася маладзёжная субкультура (асобны пласт культуры).

Рок-музыка ўзнікла на аснове спалучэння афра-амерыканскіх мелодый, найперш стылю «рытм энд блюз», і народнай музыкі белых жыхароў Амерыкі (кантры). Першым кірункам рок-музыкі стаў рок-н-рол (літаральна «хістацца і круціцца»). Яго своеасаблівым гімнам з’явілася песня ў выкананні Б. Хейлі «Рок круглыя суткі» (1954). Прызнаным каралём рок-н-ролу лічыцца Э. Прэслі, які з сярэдзіны 1950-х гг. стаў кумірам моладзі. Яго лірычная балада «Кахай мяне



Э. Прэслі

пяшчотна» доўгі час узначальвала амерыканскія хіт-парады.

У 1960—1970-х гг. з’явілася шмат новых кірункаў у рок-музыцы. Найбольш вядомыя — фолк-рок, або народны рок (Б. Дзілан і інш.); хард-рок, або жорсткі рок (творчасць групы «Кіс»); хэві-метал, або цяжкі рок, і інш. У сувязі з ужываннем наркотыкаў з’явіўся псіхадэлічны рок (група «Дорз» і інш.). Панк-рок адлюстраваў дрэнныя густы часткі моладзі (у тым ліку прапаведзь насілля). Спалучэнне класічнай і рок-музыкі прывяло да ўзнікнення жанраў рок-оперы і арт-року. У сярэдзіне 1970-х гг. узнік рэп, пад які выконваўся папулярны танец брэйк-данс. У ЗША праводзіліся рок-фестывалі, найбуйнейшы з якіх адбыўся ў Вудстаку ў 1969 г. і сабраў каля 300 тыс. гледачоў.

Актыўна развівалася і папулярная музыка, у сувязі з чым у ЗША была створана магутная шоу-індустрыя (шоу-бізнес). Сусветную вядомасць набылі такія выканаўцы папулярнай музыкі, як Ф. Сінатра, Л. Мінелі, Ц. Цёрнер, М. Джэксан, Мадонна, У. Х’юстан і інш. У 1940—1960 гг. у ЗША была створана вялікая колькасць мюзіклаў — музычна-сцэнічных твораў, якія спалучаюць у сабе элементы эстрады, аперэты і балета (Л. Бернстайн, Ф. Лоў, К. Портэр і інш.).

**Кіно.** У кінематаграфіі ЗША панаваў Галівуд з яго праслаўленнем амерыканскага спосабу жыцця і культам кіназорак. Разам з тым некаторыя кінарэжысёры і акцёры адлюстроўвалі ў сваёй творчасці вострыя сацыяльныя праблемы і асуджалі палітыку афіцыйных улад. У 1952 г. Ч. Чаплін, які не прымаў «макартызм», пакінуў ЗША. У Еўропе ён зняў яшчэ некалькі фільмаў, у тым ліку «Агні рампы», «Кароль у Нью-Йорку», у якіх выказаў спадзяванні і трывогі простых людзей. Шырокі грамадскі рэзананс атрымалі фільмы рэжысёра С. Крамера, якія закраналі вострыя сацыяльна-эканамічныя праблемы («Не схіліўшыя галавы», «Нюрнбергскі працэс», «Гэты вар’яцкі, вар’яцкі, вар’яцкі свет» і інш.).

У 1960—1970-х гг. многія кінарэжысёры і акцёры кінулі выклік галівудскай «фабрыцы мрояў». З’явіліся фільмы, якія асуджалі культ

долара, бяздушнасць і ўзнімалі актуальныя маладзёжныя праблемы («Злыя вуліцы» М. Скарсезе, «Паўночны каўбой» Дж. Шлезінгера, «Загнаных коней прыстрэльваюць, ці не так?» С. Полака і інш.). На экране з'явіўся новы тып героя — «чалавек з вуліцы», якога таленавіта сыгралі Дж. Фонда, Г. Фонда, Д. Хофман і інш.



Алея Зорак у Галівудзе



М. Манро

Вайна ў В'етнаме атрымала водгук і ў галіне кіно. Адны кінастужкі апраўдвалі або гераізавалі агрэсію ЗША («Зялёныя берэты» Д. Уэйна), другія — асуджалі в'етнамскую вайну («Вяртанне дадому» Х. Эшбі, «Узвод» О. Стоўна і інш.).

Асноўную масу амерыканскіх фільмаў складаюць меладрамы, дэтэктывы, трылеры, фільмы жахаў і прыгод. Сусветную папулярнасць заваявала серыя фільмаў пра непераможнага «агента 007» Джэймса Бонда. Гэтак жа вядомы кінастужкі пра гангстэраў і мафію (напрыклад, «Хросны бацька» Ф. Копалы), серыялы пра зорныя войны Дж. Лукаса, фільмы жахаў («Сківіцы» і «Парк юрскага перыяду» С. Спілберга) і інш.

Сярод амерыканскіх кіназорак сусветную вядомасць заваявалі акцёры М. Манро, Э. Тэйлар, Ш. Стоўн, М. Дуглас, Б. Уіліс, Дж. Нікалсан, Д. Мур, К. Бейсінгер, Дж. Робертс, А. Шварцэнегер і інш.

**Архітэктура.** Вядучыя пазіцыі ў свеце займае сучасная амерыканская архітэктура. Пасля вайны працягвала развівацца арганічная архітэктура, у якой будынак разглядаецца як арганізм, звязаны з прыродным асяроддзем. Заснавальнік арганічнай архітэктуры Ф. Л. Райт у 1950-х гг. праектаваў сусветна вядомы будынак Музея Гугенхейма ў Нью-Йорку. Тэхніцызм характэрны для творчасці Л. Міс ван дэр Роэ, які стварыў новы тып будынка — паралелепіпед са стальным каркасам і суцэльным зашкленнем навясных сцен. Новымі формамі адрозніваюцца будынкі, узведзеныя па праектах Э. Саарынена, напрыклад, комплекс будынкаў кампаніі «Джэнерал Мотарз» ва Уорэне. У ЗША працягвалася традыцыя пабудовы небаскробаў. У 1971—

1973 гг. у Нью-Йорку былі ўзведзены дзве вежы Цэнтра міжнароднага гандлю (110 паверхаў вышынёй 412 м), у Чыкага — будынак фірмы «Сірс і Робак» вышынёй 422 м.

Варта адзначыць, што пасля Другой сусветнай вайны амерыканская культура, за выключэннем асобных галін, стала пануючай у краінах Захаду. Распаўсюджванне амерыканскай культуры ў свеце праявілася перш за ўсё ў сферы масавай культуры, а таксама ў галіне адукацыі і навукі.

**Пытанні і заданні**

1. Дайце азначэнне паняццю *масавая культура.* Прывядзіце прыклады твораў, якія адносяцца да масавай культуры.
2. У чым праявіліся гуманістычныя ідэалы прадстаўнікоў амерыканскай літаратуры?
3. Якім чынам «грамадства спажывання» ў ЗША звязана з праслаўленнем рэчавізму ў культуры?
4. Прывядзіце прыклады попарту ў амерыканскім жывапісе.
5. У чым выявіўся пратэст часткі моладзі заходніх краін супраць «устарэлых» каштоўнасцей старэйшага пакалення? Супраць чаго выступалі хіпі?
6. Чаму Галівуд называюць «фабрыкай мрояў»? Прывядзіце прыклады кінастужак, якія закранаюць вострыя сацыяльныя праблемы.
7. Падрыхтуйце паведамленні пра творчасць прадстаўнікоў амерыканскай культуры (на ваш выбар).

## § 3. КРАІНЫ ЛАЦІНСКАЙ АМЕРЫКІ

**Успомніце**

Назавіце вядомыя вам краіны Лацінскай Амерыкі.

**Праблемы эканамічнага развіцця.** Сучасная Лацінская Амерыка — гэта вялікі і складаны рэгіён. Тут пражывае каля 500 млн чалавек. У краінах Лацінскай Амерыкі сканцэнтравана пятая частка запасаў нафты Заходняга паўшар'я, 20—30 % сусветных запасаў іншых сыравінных рэсурсаў. На працягу першых пасляваенных дзесяцігоддзяў тэмпы росту эканомікі большасці лацінаамерыканскіх дзяржаў былі высокімі. Паколькі прыватнага капіталу не хапала, тут

актыўна развіваўся дзяржаўны сектар. У гэты ж час узмацнілася пранікненне капіталу ЗША ў эканоміку рэгіёна. Гэта быў супярэчлівы працэс. З аднаго боку, замежны капітал, укладзены ў вытворчасць, садзейнічаў яе развіццю, з другога — замежныя ўкладчыкі па-дра-



пежніцку эксплуатавалі прыродныя і людскія рэсурсы, часта ўмешваліся ва ўнутраную і знешнюю палітыку краін кантынента.

Хуткі эканамічны рост краін рэгёна адбываўся нераўнамерна. Напрыклад, Аргенціна, якая знаходзілася на першым месцы па ўзроўні эканамічнага развіцця, у 1980-я гг. апынулася ў стане глыбокага і зацяжнога крызісу. А Бразілія ў гэты ж час вырвалася наперад. Ёй адзінай з усіх лацінаамерыканскіх краін удалося наблізіцца да ўзроўню постіндустрыяльных дзяржаў.

У цэлым краінам Лацінскай Амерыкі, нягледзячы на актыўную ролю дзяржаўнага рэгулявання, не ўдалося змяніць структуру эканомікі. Яны па-ранейшаму пастаўляюць на сусветны рынак пераважна сыравіну і прадукты (медзь, волава, нафту, кофе, садавіну). Большасць з іх не змаглі ўключыцца ў працэс НТР, які паскорыўся. У канцы XX ст. нават знізілася іх удзельная вага ў сусветнай прамысловай вытворчасці і гандлі. Гэта азначае, што лацінаамерыканскія краіны застаюцца як бы эканамічнымі «задворкамі» развітых дзяржаў.

**Праблемы сацыяльна>палітычнага развіцця.** Асаблівасцю Лацінскай Амерыкі з'яўляецца тое, што сёння каля 70 % яе насельніцтва пражывае ў гарадах, якія раслі ў пасляваенны перыяд вельмі хуткімі тэмпамі. Гэта прывяло да з'яўлення так званага новага сярэдняга пласта — служачых, інтэлігенцыі. У той жа час застаецца нямала людзей, звязаных з такімі галінамі эканомікі, як сельская гаспадарка і рамяство. Для гэтых пластоў насельніцтва характэрны вельмі нізкі ўзровень даходаў і культурнага развіцця. Асабліва ў цяжкім стане апынуліся індзейцы, занятыя сельскай гаспадаркай і традыцыйнымі промысламі. Яны пакутуюць ад самавольства кампаній, якія распрацоўваюць сыравінныя рэсурсы, і ад малазямелля. Часта гэта вымушае людзей, каб пракарміць свае сем'і, ісці на службу да наркагандляроў.

Для вырашэння шматлікіх складаных праблем народам Лацінскай Амерыкі не хапала не толькі матэрыяльных сродкаў, але і вопыту палітычнай культуры. Занадта доўга яны жылі ва ўмовах каланіяльнай, а затым паўкаланіяльнай залежнасці. Парасткі дэмакратыі тут аказаліся кволымі. У такіх абставінах неабходнасць паскоранага эканамічнага развіцця для пераадолення адсталасці і пастаянны ціск нізоў насельніцтва на правячыя вярхі падштурхоўвалі да ўстанаўлення дыктатарскіх рэжымаў, якія ўзнікалі, як правіла, у выніку ваенных пераваротаў. Толькі на працягу 1945—1970-х гг. іх было зроблена не менш за 70.

**Пункт гледжання**

Доўгі час вучоныя не маглі прыйсці да адзінага меркавання пра тое, як вызначыць характар дыктатур, што ўзнікаюць у выніку пераваротаў. Адны лічылі іх паўфашысцкімі ці нават фашысцкімі дыктатурамі, скіраванымі су праць пагрозы рэвалюцыі. Другія адносілі іх да аўтарытарных рэжымаў. А іх характар прапаноўвалі вызначаць у залежнасці ад таго, ці садзейнічае дык татура працэсу мадэрнізацыі, г. зн. фарміраванню грамадства, заснаванага на сучаснай рыначнай эканоміцы, ці не. Калі садзейнічае, то рана ці позна грамадзянская супольнасць, якая фарміруецца на базе гэтай эканомікі, ад кідвае дыктатуру.

У верасні **1973 г.** у Чылі ў ходзе ваеннага перавароту быў звергнуты ўрад сацыяліста С. Альендэ (** 1), у склад якога ўваходзілі і камуністы. Да ўлады прыйшла ваенная хунта на чале з генералам А. Пінацэтам. Рэжым Пінацэта на некаторы час забяспечыў стабільнае эканамічнае развіццё Чылі. У канцы 1980-х гг. гэты рэжым быў ліквідаваны.


А. Пінацэт

Пэўны ўплыў на палітычнае развіццё лацінаамерыканскіх краін зрабіла сацыялістычная рэвалюцыя на Кубе, якая пачалася ў **1959 г.** пад кіраўніцтвам Ф. Кастра.

**Штрыхі да палітычнага партрэта**

**Ф. Кастра (нарадзіўся ў 1926 г.)**



Фідэль Кастра нарадзіўся ў сям'і, дзе акрамя яго было яшчэ сем братоў і сясцёр. Скончыў юрыдыч ны факультэт Гаванскага універсітэта. У 1953 г. узначаліў узброенае паўстанне супраць дыктатар скага рэжыму Батысты, якое закончылася пара жэннем. Кастра быў асуджаны да 15 гадоў турмы. Аднак ужо праз два гады ўлады пад ціскам гра мадскасці былі вымушаны яго вызваліць. Жыў у эміграцыі ў ЗША і Мексіцы. А ў 1956 г. Кастра разам з групай рэвалюцыянераў высадзіўся ў гарах СьераМаэстра і стварыў паўстанцкія войскі, якія ў ходзе партызанскай ба рацьбы разграмілі рэжым Батысты.

За некалькі дзесяцігоддзяў дзякуючы дапамозе СССР Кубе ўдалося дасягнуць пэўных поспехаў, асабліва ў галіне адукацыі і аховы здароўя. Практычна да апошняга часу яна заставалася краінай, якая працягвала будаваць сацыялізм паводле савецкага ўзору (**2). Яе кіраўніку Ф. Кастра па рашэнні савецкага ўрада было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Нязменны лідэр Кубы Ф. Кастра застаецца верны сваёй заяве, што не зголіць бараду, пакуль на востраве не будзе пабудаваны сацыялізм. Але цяпер і ён вымушаны згадзіцца на ўвядзенне некаторых элементаў рыначнай эканомікі.

Апошнія некалькі гадоў адрозніваюцца больш спакойным палітычным развіццём краін Лацінскай Амерыкі. Вопыт многіх з іх сведчыць аб тым, што ўстанаўленне аўтарытарных палітычных рэжымаў само па сабе не стварае эфектыўнай эканомікі і не вырашае грамадскіх праблем.

**Асаблівасці этнічнага складу і культуры.** Насельніцтва Лацінскай Амерыкі належыць да розных расавых і этнічных груп. Карэннае насельніцтва, якое еўрапейцы ў часы Калумба назвалі індзейцамі, складае меншасць. Акрамя таго, тут жывуць нашчадкі перасяленцаў з Еўропы, а таксама неграў, якіх вывозілі з Афрыкі ў каланіяльную эпоху, і змешанае насельніцтва. Усе яны гавораць на розных мовах. Найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца мовы еўрапейскага паходжання, найперш іспанская і партугальская, у аснову якіх пакладзены лацінскі алфавіт. Адсюль і назва рэгіёна — Лацінская Амерыка.

Розны і рэлігійны склад насельніцтва. Большасць жыхароў з'яўляюцца каталікамі. Сярод індзейцаў яшчэ захоўваюцца дахрысціянскія вераванні, але многія з іх успрынялі ад еўрапейцаў каталіцызм. Такая «стракатасць» насельніцтва зрабіла вялікі ўплыў на фарміраванне культуры народаў гэтага рэгіёна. Яна багатая і разнастайная і ў працэсе свайго развіцця зведала ўплыў як даўніх традыцый, так і сучасных працэсаў — індустрыялізацыі і урбанізацыі. Напрыклад, яшчэ і сёння народныя карнавалы і танцы застаюцца важным элементам лацінаамерыканскай культуры. Разам з тым візітнай карткай сталіцы Бразіліі сталі ўзведзеныя па праектах сусветна вядомага бразільскага архітэктара О. Німеера будынкі са шкла і бетону ў яркай каляровай гаме.

Барацьба лацінаамерыканскіх народаў за свабоду і прагрэс стала вядучай тэмай манументальнага жывапісу мексіканскага мастака



Сабор у горадзе Бразілія. Архітэктар О. Німеер

Д. Сікейраса. Ён ствараў грандыёзныя роспісы як у сябе на радзіме, так і за мяжой. Адна з яго кампазіцый, завершаная ў 1971 г., атрымала назву «Марш чалавецтва па Зямлі і ў космасе».

Адным з самых вядомых твораў лацінаамерыканскай літаратуры стаў раман калумбійскага пісьменніка Г. Гарсія Маркеса «Сто гадоў адзіноты» (1967). Спалучаючы фантастычнае і рэальнае, аўтар апісвае жыццё маленькага калумбійскага гарадка і сям'і, што яго заснавала. Гэтая гісторыя, у якой адлюстроўваецца гісторыя ўсёй Лацінскай Амерыкі, успрымаецца як расказ аб развіцці ўсяго чалавецтва. Раман «Восень патрыярха» з'яўляецца, паводле слоў самога Маркеса, увасабленнем лацінаамерыканскага міфа пра дыктатара.

**Дадатковы матэрыял**

****1. Сальвадор Альендэ**



Чалавекам, які ўвайшоў у гісторыю як дзеяч, што аддаў жыццё за свае прынцыпы, лічаць С. Альендэ. У 1970 г. ён быў абраны прэзідэнтам Чылі. Альендэ быў добра знаёмы з Ф. Кастра і Э. Чэ Геварам. У адрозненне ад іх ён лічыў, што рух да сацыялізму ў больш гуманным, дэмакратычным варыянце магчымы не з дапамо

гай узброенага паўстання, а мірным канстытуцыйным шляхам. Ён прасіў называць сябе не «сеньёр», а «таварыш прэзідэнт». У 1971 г. была праве дзена «чылінізацыя», г. зн. нацыяналізацыя эканомікі. Па гэтай прычыне ўзнік канфлікт прэзідэнта з парламентам, які выступаў супраць перадачы эканомікі пад кантроль дзяржавы. У 1973 г. у выніку ваеннага перавароту да ўлады ў Чылі на 18 гадоў прыйшоў генерал А. Пiначэт. С. Альендэ не прыняў яго прапанову пакінуць краіну і загінуў у час штурму ваеннымі прэзідэнцкага палаца.

## **2. Эрнеста Чэ Гевара



Чалавекамлегендай, які шчыра жадаў шчасця народам Лацінскай Амерыкі і верыў, што гэта можна зрабіць з дапамогай рэвалюцыі, стаў аргенцінец Э. Чэ Гевара. Ён быў знаёмы з Ф. Кастра, прымаў самы актыўны ўдзел у перамозе рэвалюцыі на Кубе і будаўніцтве тут «рэальнага сацыялізму». Гевара шчыра верыў у перамогу камунізму ва ўсім свеце. Ён пакінуў кіраўнічыя пасады на Кубе і адправіўся арганізоўваць узброеную партызанскую барацьбу для перамогі лацінаамерыканскай рэвалюцыі і аслаблення пазіцый ЗША. У адным з баёў ён загінуў. У апошнім пісьме да сваіх дзяцей Чэ Гевара напісаў: «Ваш бацька быў чалавекам, які дзейнічаў згодна са сваімі поглядамі і жыў згодна са сваімі пераканаснямі». Калі Гевара стаў славутым, газеты пісалі аб тым, што ён рускі, які выдае сябе за лацінаамерыканца.

### Пытанні і заданні

1. Пералічыце імёны найбольш вядомых прадстаўнікоў лацінаамерыканскай культуры і іх творы.
2. Да якіх вынікаў у сацыяльнапалітычным развіцці краін Лацінскай Амерыкі прывялі эканамічная адсталасць і адсутнасць вопыту палітычнай культуры?
3. Чаму кіраўніку Кубы Ф. Кастра было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза?
4. У чым заключаліся праблемы эканамічнага развіцця краін Лацінскай Амерыкі ў канцы XX ст.?
5. Параўнайце погляды Ф. Кастра, Э. Чэ Гевары і С. Альендэ наконт метадаў пабудовы сацыялізму. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.

## § 4. ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

**Успомніце**

Якую ролю адыграла Вялікабрытанія ў разгроме фашызму?

**Сітуацыя пасля Другой сусветнай вайны.** З вайны Вялікабрытанія, у адрозненне ад СССР і Германіі, выйшла з параўнальна невялікімі людскімі стратамі: каля 370 тыс. чалавек. Але вайна прывяла да аслаблення эканамічных і палітычных пазіцый краіны. У сувязі з гэтым узмацнілася фінансавая і палітычная залежнасць Вялікабрытаніі ад ЗША. Акрамя таго, нацыянальна-вызваленчая барацьба ў калоніях прывяла да распаду брытанскай каланіяльнай імперыі. Ужо ў 1947 г. дабілася незалежнасці Індыя, і на тэрыторыі былой калоніі ўтварыліся дзве дзяржавы — Індыйскі саюз і Пакістан. У 1948 г. стала незалежнай федэратыўнай рэспублікай Бірма (М'янма); у тым жа годзе Цэйлон (Шры-Ланка) атрымаў самакіраванне. У 1949 г. Ірландыя набыла статус незалежнай рэспублікі.

У палітычным жыцці Вялікабрытаніі пасля вайны захавалі свае вядучыя пазіцыі дзве партыі — Лейбарысцкая і Кансерватыўная. На выбарах 1945 г. выбаршчыкі аддалі перавагу першай. Лейбарысты выступалі за ўзмацненне ролі дзяржавы ў эканоміцы і сацыяльным жыцці. Створаны імі ўрад К. Этлі правёў нацыяналізацыю Англійскага банка, шэрагу галін прамысловасці, транспарту і сувязі. Нацыяналізацыя праводзілася на ўмовах кампенсацыі ўладальнікам кошту іх уласнасці. Па сутнасці, гэта азначала, што дзяржава бярэ на сваё ўтрыманне малаэфектыўныя, але важныя для ўсёй краіны галіны. Такая мера садзейнічала пераадоленню цяжкасцей, выкліканых вайной. Развіццю пасляваеннай эканомікі спрыяла таксама дапамога, атрыманая паводле плана Маршала.

У хуткім часе, аднак, стала відавочнай невысокая эфектыўнасць дзяржаўнай эканомікі. Для падтрымкі дзяржсектара ўрад быў вымушаны пайсці на павышэнне падаткаў, скарачэнне расходаў на грамадскія патрэбы. Большасць выбаршчыкаў расчараваліся ў палітыцы лейбарыстаў.

**Вялікабрытанія ў 1950—1960-я гг.** З 1951 да 1964 г. улада ў Вялікабрытаніі належала Кансерватыўнай партыі, сімвалам якой


У. Чэрчыль

доўгі час быў У. Чэрчыль. У 1951—1955 гг. ён быў прэм'ер-міністрам краіны. Менавіта Чэрчыль у сакавіку 1946 г. у сваёй прамове ў амерыканскім горадзе Фултан заявіў пра неабходнасць аб'яднання ўсяго заходняга свету ў барацьбе супраць камунізму і гаварыў аб «жалезнай заслоне» ў Еўропе, якой СССР адгарадзіўся ад Захаду.

Эканамічная палітыка кансерватараў была накіравана на скарачэнне дзяржаўнага сектара шляхам яго дэнацыяналізацыі. У гэтыя гады тэмпы прамысловай вытворчасці ў Англіі крыху павысіліся, але ненадоўга. Па агульным аб'ёме вытворчасці яе абагналі ФРГ, пазней Японія і Францыя, дзе хутчэй укараняліся дасягненні НТР.

Асабліва адчувальнай стратай для Англіі стаў распад яе каланіяльнай імперыі. Прадухіліць яго былі не ў сілах ні кансерватары, ні лейбарысты. Восенню 1956 г. англійскі ўрад, імкнучыся перашкодзіць нацыяналізацыі Суэцкага канала, уцягнуў краіну ў вайну супраць Егіпта. Гэта выклікала масавы рух пратэсту ў Вялікабрытаніі і за яе межамі, што стала адной з прычын паражэння англічан у вайне. Гэта агрэсія паставіла на мяжу развалу Брытанскую Садружнасць нацый (з 1947 г. — Садружнасць) — звязаную з Англіяй дагаворамі групу яе былых калоній. Пераканаўшыся ў бесперспектыўнасці палітыкі сілы, англійскі парламент у 1959 г. быў вымушаны прыняць меры па дэкаланізацыі Брытанскай імперыі.

**Ольстэрская і іншыя праблемы 1970>х гг.** Адной з самых вострых для англічан стала праблема Ольстэра, ці Паўночнай Ірландыі. Пасля стварэння Ірландскай Рэспублікі Ольстэр застаўся ў складзе Вялікабрытаніі, хаця і атрымаў аўтаномію. Адну трэць насельніцтва складалі каталікі, карэнныя ірландцы, дзве трэці — пратэстанты, нашчадкі перасяленцаў — англійскіх каланізатараў.

Ольстэр быў у той час эканамічна адсталым рэгіёнам Вялікабрытаніі. Узровень жыцця мясцовага насельніцтва — каталікаў быў нізкі, іх неахвотна прымалі на працу, і яны былі ўшчэмлены ў грамадзянскіх правах. Каталікі звязвалі такую сітуацыю са спадчынай каланіяльнага мінулага і патрабавалі прадастаўлення ім роўных правоў з іншымі брытанскімі падданымі. Але пратэстанцкая большасць не жадала ісці

на ўступкі. Так утварыліся два непрымірымыя лагеры, якія ўступілі ў жорсткую кровапралітную барацьбу адзін з адным. Для пагашэння канфлікту ў 1969 г. у Ірландыю былі ўведзены брытанскія войскі, а ў 1972 г. — прыпынена дзейнасць паўночнаірландскага парламента і ўведзена прамое кіраванне з Лондана.

Сярод іншых праблем, якія ўзніклі ў 1970-я гг., неабходна назваць энергетычны і сыравінны крызіс. З яго спрабавалі выйсці, пачаўшы здабычу нафты ў англійскім сектары Паўночнага мора. Але гэта не прывяло да станоўчых перамен на ўстарэлай англійскай вытворчасці. Яна скарачалася, што выклікала рост беспрацоўя.

У такіх умовах на выбарах 1979 г. большасць выбаршчыкаў аддалі свае галасы Кансерватыўнай партыі. Незадоўга да выбараў упершыню ў гісторыі Вялікабрытаніі гэту партыю ўзначаліла жанчына — М. Тэтчэр, якая і сфарміравала кабінет міністраў.

**Вялікабрытанія ў 1980—2005 гг.** У адрозненне ад палавінчатых мер 1950-х гг., кансерватары гэтым разам рашуча пайшлі на прыватызацыю (перадачу ў прыватную ўласнасць) шэрагу галін прамысловасці — нафтавай, авіякасмічнай, суднабудаўнічай. Адначасова дзяржава стала расходаваць менш сродкаў на адукацыю, ахову здароўя, жыллёвае будаўніцтва, быў скарочаны штат дзяржаўных служачых. Урад заахвочваў закрыццё старых неэфектыўных прадпрыемстваў, нягледзячы на тое, што гэта павялічвала беспрацоўе. Восенню 1981 г. колькасць беспрацоўных дасягнула небывалых маштабаў — 3 млн ча-

**Штрыхі да палітычнага партрэта**

**М. Тэтчэр (нарадзілася ў 1925 г.)**



Маргарэт Тэтчэр нарадзілася ў сям'і дробнага крамніка. Бацька зза скупасці адмаўляўся купіць дзяўчынцы веласіпед і не даваў грошай на кіно. Але яна багатварыла яго, таму што бацька браў яе кожны чацвер на сходы партыі кансерватараў. Стрымліваючы дыханне, дзяўчынка слухала размовы пра палітыку, якая ў далейшым стала справай усяго яе жыцця. Атрымаўшы дзве вышэйшыя адукацыі (Тэтчэр авалодала спецыяльнасцямі хіміка і юрыста), яна стала мэтанакіраваным, жорсткім і разважлівым палітыкам. За гэтыя якасці характару яе сталі называць «жалезнай лэдзі».

лавек. Тым не менш кансерватары выйгралі парламенцкія выбары 1983 і 1987 гг. Прычыну гэтых поспехаў часткова можна звязаць з асобай прэм'ер-міністра М. Тэтчэр.

«Жалезная лэдзі» валодала дастатковай для палітыка гнуткасцю і добрым разуменнем эканамічнай сітуацыі. Прынятыя яе ўрадам меры па скарачэнні расходаў на сацыяльныя патрэбы, продажы ў прыватную ўласнасць дзяржаўных прадпрыемстваў атрымалі назву палітыкі *тэтчэрызму* (**1). А ўмацаванне фунта стэрлінгаў прывяло да зніжэння цэн, павышэння дзелавой ініцыятывы і прадукцыйнасці працы. Асабліва хутка развіваліся галіны вытворчасці, якія актыўна выкарыстоўвалі дасягненні НТР.

Карысталася папулярнасцю ў англічан і знешняя палітыка ўрада М. Тэтчэр. У 1982 г. Вялікабрытанія атрымала перамогу ў ваенным канфлікце з Аргенцінай з-за Фалклендскіх (Мальвінскіх) астравоў. У 1985 г. для вырашэння ольстэрскага крызісу англійскі ўрад пайшоў на пагадненне з Ірландскай Рэспублікай. Бакі дамовіліся садзейнічаць эканамічным сувязям паміж дзвюма часткамі вострава і сумесна змагацца супраць тэрарызму ў Ольстэры. Гэта змякчыла сітуацыю, хаця праблема да канца не вырашана і сёння.

Умацаванню ўплыву кансерватыўнага ўрада М. Тэтчэр шмат у чым садзейнічалі змены ў структуры насельніцтва, якія адбыліся ў выніку НТР. Яны выявіліся перш за ўсё ў памяншэнні долі рабочага класа і павелічэнні колькасці служачых. У наш час у Англіі больш работнікаў занята разумовай працай, чым фізічнай. Вырасла і колькасць уласнікаў. Да 1990 г. 9 млн англічан сталі акцыянерамі, 2/3 сем'яў — уладальнікамі дамоў і кватэр. А 2/3 служачых традыцыйна галасуюць за Кансерватыўную партыю — гэтак жа, як і 1/3 рабочых.

Аднак на мяжы 1980—1990-х гг. папулярнасць М. Тэтчэр стала падаць. У гэтых умовах «жалезная лэдзі» не стала «чапляцца» за ўладу. У 1990 г. яна пакінула пост лідэра партыі і прэм'ер-міністра свайму пераемніку — Дж. Мэйджару. Але на парламенцкіх выбарах 1997 г. кансерватары пацярпелі паражэнне.

Урад узначаліў лідэр перамогшай Лейбарысцкай партыі Т. Блэр. Поспеху лейбарыстаў садзейнічала іх адмова ад ідэі стварэння грамадства, заснаванага на грамадскай уласнасці, і абяцанне правесці рэформы, накіраваныя на дэмакратызацыю дзяржаўнага ладу, на што

не згаджаліся кансерватары. Некаторыя з гэтых рэформаў ужо рэалізаваны (адменены прынцып наследавання ў палаце лордаў, ліквідаваны пост лорд-канцлера ў палаце абшчын і інш.), што забяспечыла партыі падтрымку сярэдніх пластоў грамадства. Дасягнуты прагрэс у вырашэнні ольстэрскай праблемы (у прыватнасці, адменена прамое кіраванне Лондана).

**Культура.** У пасляваеннай англійскай літаратуры адлюстраваліся складаныя грамадскія працэсы і супярэчнасці эпохі.

Драматургі «новай хвалі» і пісьменнікі групы «раззлаваныя маладыя людзі» ўнеслі ў літаратуру дэмакратычны вострасацыяльны змест («Азірніся ў гневе» Дж. Осбарна, «Смак мёду» Ш. Дылэні і інш.). Яны пратэставалі супраць улады грошай, ханжаства і ставілі вострыя палітычныя пытанні. Так, у раманах Дж. Б. Прыстлі «Сэр Майкл і сэр Джордж», «Лонданскі тупік» паказана падзенне нораваў англійскай бюракратыі і багатых абывацеляў. Ч. П. Сноў у шматтомнай эпапеі «Чужыя і браты» раскрыў супярэчлівы шлях англійскай навуковай інтэлігенцыі на фоне найважнейшых гістарычных падзей. Г. Грын у сваёй творчасці востра ставіў праблемы маральнага і палітычнага выбару чалавека (раман «Цаной страты»). Пісьменнік прыходзіць да вываду, што насілле і тэрарызм у наш час уяўляюць сабой «не што іншае, як спадчыну гітлерызму, менавіта гэтай заражанай кроўю Еўропа падзялілася з астатнім светам». Сацыяльна-псіхалагічныя карані фашызму, збядненне душы і страта духоўнасці, жорсткасць жыцця, пошукі творчай інтэлігенцыі складаюць галоўныя тэмы творчасці пісьменнікаў М. С. Спарка і Дж. Фаўлза.

Новай з'явай у літаратуры стаў свет чароўнай казкі, міфа і фантазіі. Трылогія Дж. Р. Толкіена «Валадар Кольцаў» прасякнута ідэяй вялікага ўплыву на ход гісторыі зла і насілля, перамога над якімі каштуе значных намаганняў і ахвяр. У канцы 1990-х гг. з'явіліся інтэлектуальныя казкі пра Гары Потэра пісьменніцы Дж. Роўлінг, якія сталі папулярнымі ва ўсім свеце.

У Вялікабрытаніі, як і ў іншых краінах Захаду, выдавалася шмат дэтэктываў, раманаў пра шпіёнаў і іншай прадукцыі масавай культуры. Сярод іх былі і таленавітыя творы: дэтэктывы А. Крысці пра сышчыкаў-аматараў міс Марпл і Пуаро, а таксама раманы Я. Флемінга пра прыгоды супершпіёна «агента 007» Джэймса Бонда.



Ансамбль «Бітлз»



Паклоннікі «Бітлз». Лондан. 1960 г.

У рамках масавай культуры развівалася і англійская рок-музыка. У пачатку 1960-х гг. на Захадзе пачалася сапраўдная «бітламанія», звязаная з творчасцю рок-групы «Бітлз», лідэрам якой быў Дж. Ленан. Іх меладычныя песні пра каханне і маладзёжныя праблемы, у якіх музыканты здолелі спалучыць сучасныя рытмы з фальклорнымі матывамі, заваявалі сусветную вядомасць («Учора», «Дзяўчына», «Яна кахае цябе» і інш.). У 1970 г. ансамбль «Бітлз» распаўся. Дж. Ленан працягваў творчую дзейнасць. Ён займаў актыўную грамадзянскую пазіцыю, асуджаў войны і насілле, дэманстратыўна вярнуў англійскай каралеве ўручаны яму ордэн «Член Брытанскай імперыі» і арганізаваў канцэрт «Вайна скончана». Ён супрацоўнічаў з вядомым брытанскім рок-музыкантам Э. Джонам. У 1980 г. Ленан быў забіты ў Нью-Йорку. Члены «Бітлз» П. Макартні і Дж. Харысан таксама працягвалі сваю творчую дзейнасць.

Вялікі ўклад у развіццё рок-музыкі зрабіла група «Ролінг Стоўнз» на чале з М. Джагерам. Творчасць ансамбля (песня «Джэк Непаседа», альбомы «Няхай цячэ кроў», «Сталёвыя колы», «Масты ў Вавілон» і інш.) звязана з некалькімі кірункамі ў рок-музыцы (хард, хэві, псіхадэлічны рок, рок-н-рол і інш.).

У 1975—1979 гг. сваёй агрэсіўнасцю і ненарматыўнай лексікай вылучалася група «Секс Пісталз», якая грала так званую «брудную» музыку (панк-рок) і перадавала пачуцці беспрацоўнай і па-экстрэмісцку настроенай часткі моладзі.

Класікай хард-року стала творчасць трох вядомых англійскіх груп — «Лэд Зепелін», «Дзіп Пёпл» і «Блэк Сэбет». Разнастайнай

была музыка ансамбля «Куін» (1972—1991) на чале з Ф. Мерк’юры. Кампазіцыя «Багемская рапсодыя», альбом «Ноч у оперы» лічацца вяршыняй іх творчасці. Група «Куін» выконвала рок- і поп-музыку самых розных стыляў, у тым ліку хард, арт, глэм-рок, аперэту, рок-оперу.

Для англійскага выяўленчага мастацтва гэтага перыяду характэрнае з’яўленне розных авангардысцкіх кірункаў. У Вялікабрытаніі ўзнікла мадэрнісцкая мастацкая плынь — поп-арт. Яе родапачынальнікамі лічацца Э. Паалоцы — аўтар калажа «Я была цацкай багацея» (1947) і Р. Хэмілтан, які стварыў праграмную калаж-карціну «Што ж робіць нашы сучасныя дамы такімі асаблівымі, такімі прываблівымі?» (1956). У хуткім часе поп-арт распаўсюдзіўся ў многіх краінах Захаду, і найперш у ЗША.

Вялікі ўклад у развіццё брытанскага кінематографа і тэатра зрабіў акцёр і рэжысёр, кіраўнік Нацыянальнага тэатра ў Лондане (1963—1973) Л. Аліўе (здымаўся ў фільмах «Спартак», «Марафонец» і інш.), а таксама актрыса В. Лі (кінастужкі «Трамвай „Жаданне“», «Паядынак анёлаў» і інш.).

Як таленавіты выканаўца шэкспіраўскіх роляў у тэатры, а таксама як кінаакцёр праславіўся Р. Бартан (фільмы «Азірніся ў гневе», «Хто баіцца Вірджыніі Вулф?» і інш.). Дж. Гілгуд атрымаў вядомасць як рэжысёр, які ўмела спалучае прыёмы англійскага традыцыйнага сцэнічнага мастацтва з элементамі сістэмы К. С. Станіслаўскага (пастаноўкі п’ес У. Шэкспіра, А. П. Чэхава), а таксама як акцёр рэалістычнага кіно (фільм «Гандзі» і інш.). Адным з заснавальнікаў жанру фільмаў жахаў стаў англа-амерыканскі рэжысёр А. Хічкак.



Л. Аліўе ў ролі прынца Гамлета

**Дадатковы матэрыял**

****1. М. Тэтчэр. Інтэрв’ю газеце «Известия» 30 красавіка 1989 г.**

«Гэта (рост дабрабыту) дасягнута дзякуючы прадпрымальніцтву, таленам і здольнасцям народа... Мы акуратна кіравалі фінансамі, не абяцалі больш, чым маглі зрабіць. Калі вы траціце больш, чым зарабляеце, у вас

будуць непрыемнасці. Таму значна лепей цвёрда і разумна весці фінансы, няўхільна паляпшаць сітуацыю, чым спрабаваць дасягнуць скачкападобнага вялізнага росту вытворчасці, што часта затым вядзе да яе скарачэння. Людзі павінны выбіраць, што купляць, і, калі яны вырашылі нешта не купляць, гэтая рэч так і застанецца на паліцы. А яе вытворчасць аказваецца ў цяжкім становішчы».

### Пытанні і заданні

1. Параўнайце эканамічную палітыку лейбарысцкага ўрада К. Этлі і кансерватыўнага ўрада У. Чэрчыля.
2. У чым заключалася сутнасць ольстэрскай праблемы?
3. Ахарактарызуйце палітыку М. Тэтчэр, у якой праявіліся яе якасці як «жалезнай лэдзі».
4. Параўнайце палітыку рэйганомікі і тэтчэрызму. Вызначце пункт гледжання М. Тэтчэр па пытанні дабрабыту народа. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
5. Прывядзіце прыклады найбольш папулярных англійскіх літаратурных і кінематаграфічных твораў.
6. Выкажыце свае адносіны да меркавання англійскага пісьменніка Г. Грына аб тым, што насілле і тэрарызм у наш час уяўляюць сабой «не што іншае, як спадчыну гітлерызму, менавіта гэтай заражанай кроўю Еўропа падзялілася з астатнім светам».

## § 5. ФРАНЦЫЯ

### Успомніце

Які ўклад французскага народа ў справу перамогі над фашызмам?

**Становішча краіны пасля Другой сусветнай вайны.** Летам 1944 г. у вызваленай Францыі быў створаны часовы ўрад на чале з генералам Ш. дэ Голем, кіраўніком руху «Змагарная Францыя». Ва ўрадзе былі прадстаўлены палітычныя сілы, якія ўдзельнічалі ў руху Супраціўлення, у тым ліку і камуністы. Іх аб’ядноўвала імкненне аднавіць сваю краіну, вярнуць ёй становішча вялікай дзяржавы. Гэта было няпроста. Францыя перажыла капітуляцыю 1940 г., панесла

значныя матэрыяльныя, а таксама людскія страты (600 тыс. чалавечых жыццяў).

Пасля вайны ўсю краіну ахапіў небывалы патрыятычны ўздым. Прайшоўшыя восенню 1945 г. выбары ва Устаноўчы сход зноў дазволілі сфарміраваць кааліцыйны ўрад з удзелам левых партый, у тым ліку камуністаў. Найважнейшай яго задачай было аднаўленне эканомікі. І ажыццявіць гэта можна было шляхам стварэння дзяржаўнага сектара. У адпаведнасці з рашэннем парламента Францыі былі нацыяналізаваны найбуйнейшыя французскія банкі, прадпрыемствы вугальнай, газавай, электраэнергетычнай прамысловасці, а таксама іншыя прадпрыемствы, калі іх уладальнікі супрацоўнічалі з акупантамі. За некалькі гадоў краіна аднавіла даваенны ўзровень вытворчасці, з 1949 г. былі адменены карткі на хлеб.

У палітычнай галіне асноўная ўвага французаў была прыцягнута да распрацоўкі канстытуцыі. Уступленне яе ў сілу ў **1946 г.** адкрыла ў гісторыі Францыі перыяд, які атрымаў назву Чацвёртай рэспублікі. Гэта канстытуцыя аказалася самай дэмакратычнай з усіх французскіх канстытуцый, але дзейнічала яна ўсяго 12 гадоў. Для вырашэння праблем, што існавалі ў краіне, была неабходна больш моцная канцэнтрацыя ўлады. За гэта выступалі прыхільнікі дэ Голя, якія стварылі ў 1947 г. партыю Аб’яднанне французскага народа (РПФ). У 1947 г. пад ціскам правых сіл і ЗША камуністы былі выключаны з урада. Пасля гэтага ў палітычным жыцці краіны адбыўся зрух управа.

**Распад каланіяльнай сістэмы.** Адной з праблем, што паўсталі перад краінай, была каланіяльная. У адпаведнасці з канстытуцыяй Францыя абавязвалася «не пачынаць ніякіх войнаў з мэтай заваявання і ніколі не выкарыстоўваць свае сілы супраць свабоды якога-небудзь народа». Французская каланіяльная імперыя пераўтваралася ў Французскі саюз. Разам з усімі калоніямі, што атрымалі цяпер унутраную аўтаномію, у саюз увайшлі і дзяржавы, якія ўжо сталі на шлях незалежнасці, — В’етнам, Камбоджа, Лаос.

Але неўзабаве камуністычны ўрад В’етнама адмовіўся ад гэтага рашэння. Тады насуперак канстытуцыі Францыя ў 1946 г. пачала захопніцкую вайну супраць Дэмакратычнай Рэспублікі В’етнам. Яна была доўгай і цяжкай, але перамогі не прынесла. Летам 1954 г. Францыя была вымушана падпісаць пагадненне аб яе спыненні.

Яшчэ больш драматычна для Францыі закончылася вайна ў Алжыры, якая пачалася восенню 1954 г. Тут сітуацыя была зусім іншая, чым у В'етнаме. Алжыр знаходзіцца побач з Францыяй. Ён быў адной з самых старых і багатых французскіх калоній. Акрамя таго, там пражывала каля 1 млн выхадцаў з Францыі, што складала прыкладна 11 % насельніцтва ўсёй краіны. Многія французы зжыліся з думкай аб тым, што Алжыр — гэта «свая», французская зямля. Да таго ж Францыя ў 1956 г. была вымушана прызнаць незалежнасць Марока і Туніса. Каб не страціць яшчэ і Алжыр, прыхільнікі захавання французскай каланіяльнай імперыі ў 1958 г. узнялі мяцеж супраць урада. Францыя апынулася ў стане глыбокага грамадска-палітычнага крызісу.

У такіх умовах зноў успомнілі пра генерала Ш. дэ Голя, які аднойчы ўжо выступаў у ролі выратавальніка краіны. Дэ Голь адышоў ад палітычнай дзейнасці ў 1955 г., але цяпер адгукнуўся на заклік і 1 чэрвеня 1958 г. быў прызначаны кіраўніком урада. На наступны дзень Нацыянальны сход даў яму надзвычайныя паўнамоцтвы і даручыў распрацаваць новую канстытуцыю. Гісторыя Чацвёртай рэспублікі ў Францыі скончылася.

**Унутраная і знешняя палітыка Ш. дэ Голя.** Генерал Ш. дэ Голь заўсёды быў прыхільнікам моцнай выканаўчай улады (**1). Гэта знай-

**Штрыхі да палітычнага партрэта**

**Ш. дэ Голь (1890—1970)**



Шарль дэ Голь з дзяцінства выхоўваўся ў кансерватыўным духу. У яго сям'і Вялікую французскую буржуазную рэвалюцыю лічылі трагічнай памылкай, а «Марсельезу», якая стала дзяржаўным гімнам Францыі, называлі «бязбожнай песняй». У час Першай сусветнай вайны, калі быў маладым афіцэрам, дэ Голь трапіў у нямецкі палон, з якога пяць разоў спрабаваў уцячы. Вярнуўшыся дадому, працягваў службу ў арміі. У 1940 г., у час акупацыі Германіяй Францыі, заснаваў у Лондане рух «Свабодная Францыя» (з 1942 г. «Змагарная Францыя»), які прымкнуў да антыгітлераўскай кааліцыі. Яго імя неразрыўна звязана з перамогай над фашызмам.

шло адлюстраванне ў новай канстытуцыі, прынятай у 1958 г. Яна пашырала ўладу прэзідэнта і ўрада, звужала паўнамоцтвы парламента і захоўвала ўсе правы грамадзян, устаноўленыя канстытуцыяй 1946 г. Восенню 1958 г. адбыліся выбары ў Нацыянальны сход. Па іх выніках адносную большасць месцаў атрымала новая партыя галістаў — Саюз у абарону новай Рэспублікі (пазней яна была перайменавана ў Аб'яднанне ў падтрымку Рэспублікі — АПР).

У канцы **1958 г.** Ш. дэ Голь быў абраны прэзідэнтам краіны. Наступны перыяд увайшоў у гісторыю Францыі пад назвай Пятай рэспублікі.

Карыстаючыся сваім аўтарытэтам, дэ Голь дабіўся спынення ў 1962 г. вайны і надання незалежнасці Алжыру. Гэта ўмацавала ўнутрыпалітычную сітуацыю ў краіне і дазволіла Францыі весці больш упэўненую знешнюю палітыку. У 1966 г. краіна выйшла з ваеннай арганізацыі НАТО, застаўшыся толькі ў яго палітычнай сістэме. Гэта зменшыла яе залежнасць ад ЗША. Такі крок быў ураўнаважаны, з аднаго боку, стварэннем уласнай ядзернай зброі, з другога — паляпшэннем адносін з Савецкім Саюзам. У 1966 г. дэ Голь наведаў СССР з афіцыйным візітам. Менавіта ў гады прэзідэнцтва дэ Голя Францыя змагла аднавіць сваё становішча вялікай краіны са статусам ядзернай і касмічнай дзяржавы.

Росту прэстыжу Францыі ў свеце садзейнічалі і яе поспехі ў галіне эканомікі і навукі. Урад падтрымліваў развіццё навейшых галін прамысловасці і рэканструкцыю старых. Зрухі ў галіне эканомікі, забяспечаныя ў асноўным укараненнем у вытворчасць дасягненняў НТР, прывялі да важных перамен у структуры насельніцтва. Удзельная вага занятых у сельскай гаспадарцы работнікаў паменшылася, але павялічылася доля працоўных у невытворчай сферы. Да сярэдзіны 1970-х гг. у сферы фінансаў, гандлю і паслуг было занята больш насельніцтва, чым ва ўсіх галінах прамысловасці. На вытворчасці значна павялічылася праслойка высокакваліфікаваных рабочых і служачых.

**Францыя ў 1970—1980>я гг.** Для новых пластоў насельніцтва былі характэрны і новыя інтарэсы: атрымаць адукацыю, павысіць сваю кваліфікацыю, удзельнічаць у кіраванні на ўсіх узроўнях. Гэтая частка насельніцтва не магла прыняць аўтарытарны стыль кіраўніцтва, уласцівы Ш. дэ Голю.



На вуліцах Парыжа. Май 1968 г.

У **маі 1968 г.** студэнты Сарбонскага універсітэта ў Парыжы — аднаго з найстарэйшых у Еўропе — выступілі з патрабаваннямі дэмакратызацыі сістэмы адукацыі. Іх падтрымалі рабочыя, якія пачалі ўсеагульную забастоўку. У ёй удзельнічала каля 10 млн чалавек. Але ўзначальвалі майскія выступленні «новыя левыя» — левper радыкальныя экстрэмісцкія групы анархісцкага кірунку, якія практыкавалі палітычны тэрор супраць улад (**2). Выступленні студэнтаў і забастоўкі суправаджаліся беспарадкамі і сутыкненнямі з паліцыяй. Краіну ахапіў глыбокі грамадска-палітычны крызіс.

У 1969 г. па ініцыятыве Ш. дэ Голя быў праведзены рэферэндум, на які выносілася пытанне аб рэформе сістэмы самакіравання ў краіне. Больш за палову ўдзельнікаў рэферэндуму не падтрымалі прэзідэнта, і ён адразу ж пайшоў у адстаўку.

З сярэдзіны 1970-х гг. Францыя ўступіла ў паласу эканамічных і палітычных цяжкасцей, шмат у чым абумоўленых сусветным эканамічным крызісам. Каб паменшыць залежнасць краіны ад знешніх крыніц энергіі, урад заняўся пошукамі сродкаў для распрацоўкі рэсурсазберагальных тэхналогій і развіцця атамнай энергетыкі. Але палітыка «жорсткай эканоміі» сустрэла супраціўленне з боку значнай часткі насельніцтва, якое звыклася з тым, што дзяржава ў Францыі нясе даволі вялікую частку сацыяльных расходаў. У такіх умовах левыя партыі — сацыялісты і камуністы, якія заўсёды выступалі за павышэнне ролі дзяржавы ў размеркаванні даходаў, змаглі перамагчы на прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах 1981 г.



Ф. Мітэран

Прэзідэнтам краіны стаў лідэр Сацыялістычнай партыі Ф. Мітэран. Адначасова быў сфарміраваны ўрад левых сіл, у які ўпершыню з 1947 г. увайшлі камуністы. Аднак ён не змог справіцца з эканамічнымі цяжкасцямі. На парламенцкіх

выбарах 1986 г. левыя сілы пацярпелі паражэнне. У той жа час Ф. Мітэрану як аўтарытэтнаму палітыку зноў удалося атрымаць перамогу на прэзідэнцкіх выбарах у 1988 г.

**Францыя на мяжы стагоддзяў.** Палітычная сітуацыя ў Францыі ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. характарызавалася паступовым ростам уплыву правых партый, уключаючы партыю паслядоўнікаў Ш. дэ Голя. А уплыў левых партый, у тым ліку і сацыялістаў, слабеў.

У 1993 г. правыя партыі, аб'яднаўшыся ў выбарчы блок, перамаглі на парламенцкіх выбарах і сфарміравалі свой урад. У 1995 г. прэзідэнтам краіны стаў паслядоўнік Ш. дэ Голя — Ж. Шырак. Ён выступае за вызваленне французскай эканомікі і грамадства ў цэлым ад празмернага кантролю дзяржавы, праводзіць палітыку, падобную да курсу М. Тэтчэр у Англіі.

На прэзідэнцкіх выбарах 2002 г. большасць выбаршчыкаў зноў падтрымала Ж. Шырака. Ён атрымаў перамогу над лідэрам крайне правага Нацыянальнага фронту Ле Пэнам. Нацыянальны фронт выступае за ўсталяванне «моцнай улады» ў краіне супраць глабалізацыі, нелегальнай іміграцыі, за высяленне з Францыі многіх імігрантаў. Масавыя беспарадкі, якія ахапілі прыгарады Парыжа, іншых гарадоў восенню 2005 г., абвастрылі праблему эмігрантаў з былых калоній. Значна менш рознагалоссяў выклікае знешняя палітыка дзяржавы, хаця Францыя ў 1996 г. вярнулася ў ваенную арганізацыю НАТО.

**Культура.** Перыяд уздыму дэмакратычнага руху пасля 1945 г. зрабіў вялікі ўплыў на развіццё культуры. Камуністамі сталі мастак П. Пікаса, паэт П. Элюар і інш. Сацыялістычны рэалізм ярка праявіўся ў творах Л. Арагона (раман «Камуністы»). Крытычны рэалізм таксама з'яўляўся ўплывовай мастацкай плынню. Выдатным яго прадстаўніком быў аўтар шматлікіх раманаў, у тым ліку і гістарычных, М. Друон. Рэалістычныя матывы ўласцівы таксама творчасці Ж. Сіменона, аўтара серыі дэтэктыўна-псіхалагічных раманаў пра паліцэйскага камісара Мегрэ.

На французскую літаратуру прыкметна ўплывалі розныя філасофскія плыні, у тым ліку *экзістэнцыялізм* і марксізм. Гэта ў значнай меры абумоўлівала тэматыку і ідэйную накіраванасць творчасці многіх пісьменнікаў. Філосаф і пісьменнік Ж. П. Сартр у сваіх ранніх працах

крыніцай зла ў грамадстве называў індывідуальную прыроду чалавека. Потым ён звярнуўся да праблемы класавай няроўнасці. Пісьменніца С. дэ Бавуар у сваёй творчасці выступала супраць фактычнага нераўнапраўя жанчын. Гэтай тэме прысвечаны таксама раманы Ф. Саган. Лаўрэата Нобелеўскай прэміі А. Камю хвалявала праблема свабоды маральнага выбару чалавека, пошукі сэнсу жыцця.

У 1950—1970-я гг. у французскай літаратуры ўзнік жанр «новага рамана», ці «антырамана», у якім не было сюжэта, а апісваліся толькі пэўныя з'явы і прадметы (напрыклад, раманы Н. Сарот). У заходнееўрапейскай драматургіі і тэатры ў 1950—1960-я гг. з'явілася новая плынь — драма абсурду. Яе зачынальнікамі сталі Э. Іанеска (Францыя) і С. Бекет (Ірландыя). Іх творы напоўнены адчуваннем кашмару, бессэнсоўнасці і хаосу сучаснага жыцця. У іх адсутнічае сюжэт і якая-небудзь логіка.

Французскае кіно пасля 1945 г. паспяхова сапернічала з амерыканскім. Сусветнае прызнанне атрымалі такія французскія акцёры, як І. Мантан, А. Дэлон, Л. дэ Фюнес, Ж. П. Бельмандо, К. Дэнёў, Ж. Дэпардзьё. Адной з самых вядомых актрыс краіны, якую лічылі другім па папулярнасці чалавекам пасля Ш. дэ Голя, стала кіназорка 1950—1960-х гг. Б. Бардо.

Музычная культура Францыі прадстаўлена творчасцю вядомых шансанье (эстрадных спевакоў) Э. Піяф, М. Шэвалье, С. Адамо, Ш. Азнавура, С. Генсбура, М. Мацьё, Дж. Дасэна, П. Каас і інш. Яркі след у эстрадным мастацтве пакінула творчасць П. Марыа і яго аркестра (альбомы «Квітнеючыя хіты», «Успаміны пра Расію» і інш.).

Найбольш яркімі прадстаўнікамі масавай культуры сталі французскія мадэльеры, якія па праве лічацца заканадаўцамі сучаснай моды. Мадэльеры Г. Шанэль, К. Дзіор, П. Кардэн і іншыя вядомы ўсяму свету. Выраб адзення і яго рэклама прыносяць ім або іх дамам моды вялікія прыбыткі. Калекцыі адзення П. Кардэна дэманстраваліся і ў Беларусі, а сам куцюр'е ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

Французскі архітэктар Ш. Э. Ле Карбюзье распрацаваў канструктыўныя прыёмы ўзвядзення «жылых блокаў», якія прадугледжваюць каркасную канструкцыю будынкаў, іх свабодную, не звязаную з вонкавымі сценамі планіроўку, размяшчэнне суцэльных вокнаў па фасадзе, плоскі дах. Будынак Нацыянальнага цэнтра мастацтва і куль-



Будынак Нацыянальнага цэнтра мастацтва і культуры імя Ж. Пампіду ў Парыжы

туры імя Ж. Пампіду, узведзены ў Парыжы ў 1977 г., стаў прыкладам стылю хай-тэк (скарочанае англійскае словазлучэнне «высокая тэхналогія»), які аб'ядноўвае перадавыя будаўнічыя тэхналогіі з дасягненнямі мастацтва.

## Дадатковы матэрыял

****1. Ш. дэ Голь аб палітычным рэжыме Чацвёртай рэспублікі. 1947 г.**

«Цяперашняя канстытуцыя не забяспечвае велічы Францыі, адзінага май го клопату і найвышэйшай мэты майго жыцця. Рэжым партый шкодны. Ён перашкаджае правядзенню вялікай знешняй палітыкі і парушае стабільнасць і ўнутраны спакой... Вы папракаеце мяне за тое, што я стаў палітычным павадыром. Так, я палітычны павадыр... Я застаюся палітычным павадыром нацыі. Не здзіўляйцеся, калі я выкажу іншыя прапановы і выступлю па праблемах будучага Радзімы, не чакайце ад мяне адрачэння... Я служу толькі Францыі і заўжды буду служыць толькі Францыі».

****2. Інтэрв'ю аднаго з лідэраў маладзёжнага руху ў Францыі ў маі 1968 г. (дадзена ў пачатку 1990>х гг.)**

«Самае дакладнае вызначэнне — бунт пакалення... Марксізм, ленінізм, анархізм — усе гэтыя словы ўваходзілі... у наш палітычны інструмента

рый, з дапамогай якога мы спрабавалі вытлумачыць сутнасць таго, што адбываецца… Наша пакаленне проста хацела сказаць грамадству, у якім мы жылі, — ці ў Францыі, ці ў Германіі, у Англіі ці Амерыцы: мы не хочам, каб нас вучылі жыць. Мы імкнуліся выпрацаваць свае формы жыцця...»

### Пытанні і заданні

1. Прывядзіце факты, якія сведчаць пра распад французскай каланіяльнай імперыі.
2. Ахарактарызуйце палітыку прэзідэнта Францыі Ш. дэ Голя.
3. Ці можна згадзіцца з меркаваннем Ш. дэ Голя аб тым, што ён з'яўляецца «палітычным павадыром нацыі»? Чаму французы лічаць генерала Ш. дэ Голя сваім нацыянальным героем? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
4. Вызначце прычыны майскіх падзей 1968 г. у Францыі.
5. Падрыхтуйце паведамленні пра найбольш выдатных прадстаўнікоў фран цузскай культуры і іх творчасць.

## § 6—7. ФЕДЭРАТЫЎНАЯ РЭСПУБЛІКА ГЕРМАНІЯ

### Успомніце

Як быў вырашаны лёс Германіі на канферэнцыях у Ялце і Патсдаме?

**Раскол Германіі.** 8 мая 1945 г. вайна для Германіі закончылася, але трагедыя германскага народа працягвалася. З кожным днём станавілася ўсё больш зразумела, якой страшнай катастрофай абярнуўся прыход фашыстаў да ўлады: больш за 13 млн загінуўшых, пакалечаных і трапіўшых у палон, разбураная эканоміка, пагроза голаду. Германскае грамадства ахапіла пачуццё прыгнечанасці, многія чакалі помсты з боку пераможцаў. У такіх абставінах неабходна было наладжваць новае пасляваеннае жыццё.

На Крымскай (Ялцінскай) у пачатку 1945 г. і Патсдамскай **(ліпень — жнівень 1945 г.)** канферэнцыях адказнасць за лёс пасляваеннай Германіі ўзялі на сябе краіны-пераможцы. Кожная з іх абавязвалася ў сваёй зоне акупацыі забяспечыць правядзенне дэнацыфі-

кацыі (выкараненне ідэй нацызму і пакарання фашысцкіх ваенных злачынцаў), дэмакратызацыі і дэмілітарызацыі. Аднак вельмі хутка высветлілася, што кожная з дзяржаў разумее пастаўленыя задачы па-свойму.

Савецкае кіраўніцтва было ўпэўнена ў тым, што гэтыя задачы могуць быць вырашаны з дапамогай левых сіл Германіі, здольных правесці антыкапіталістычныя пераўтварэнні. Таму яно падтрымлівала аднаўленне Камуністычнай партыі Германіі, а потым яе аб'яднанне з сацыял-дэмакратамі савецкай зоны акупацыі. У выніку ўзнікла Сацыялістычная адзіная партыя Германіі (САПГ). У англійскай і амерыканскай зонах узмацняўся ўплыў Хрысціянска-дэмакратычнага саюза (ХДС) і Хрысціянска-сацыяльнага саюза (ХСС). Стварэнне гэтых новых партый адлюстроўвала натуральнае ўзмацненне цікавасці шырокіх мас насельніцтва да рэлігіі ва ўмовах той глыбокай катастрофы, якая спасцігла нямецкі народ. Акрамя таго, арганізатары гэтых партый разлічвалі, што адраджэнне хрысціянскіх прынцыпаў у палітычным жыцці дапаможа прымірэнню Германіі з Захадам. У той жа час узнікла і ліберальная партыя — Свабодная дэмакратычная партыя (СвДП).

У першыя пасляваенныя гады жыццёва важнымі сталі пытанні аднаўлення эканомікі і забеспячэння насельніцтва самым неабходным. Але вырашыць іх ва ўмовах падзелу краіны на чатыры зоны было складана. Для стварэння адзінай эканомікі англійскія і амерыканскія ўлады ў снежні 1946 г. аб'ядналі свае зоны. У 1948 г. да іх далучылі французскую зону — так узнікла «Трызонія». Яна атрымлівала дапамогу паводле плана Маршала.

Летам таго ж года ў заходніх зонах была праведзена грашовая рэформа, накіраваная на замену абясцэненых марак новымі, і адменены кантроль дзяржавы над цэнамі. Гэтыя меры азначалі рашучы курс адміністрацыі заходніх зон і мясцовых нямецкіх органаў на развіццё рыначнай эканомікі ў Германіі. Савецкая адміністрацыя ў сваёй зоне не магла гэтага дапусціць. Быў забаронены ўвоз у савецкую зону як старых, так і новых грашовых знакаў, што ўскладняла тавараабмен. Для Берліна, які знаходзіўся ў цэнтры савецкай зоны, гэтыя меры азначалі эканамічную блакаду. Тады адміністрацыя заходніх зон наладзіла забеспячэнне заходніх сектараў Берліна па паветраным мосце. Гэтыя падзеі прывялі да рэзкага абвастрэння адносін паміж СССР і заходнімі краінамі.

Раскол Германіі, які фактычна адбыўся, заставалася аформіць толькі юрыдычна.

Гэта адбылося ў **1949 г.** 23 мая была абнародавана канстытуцыя новай заходнегерманскай дзяржавы. Такім чынам была створана Федэратыўная Рэспубліка Германія (ФРГ). 7 кастрычніка 1949 г. у процівагу ёй у савецкай зоне акупацыі ўтворана Германская Дэмакратычная Рэспубліка (ГДР).

Канстытуцыя 1949 г. абвясціла ФРГ федэрацыяй асобных зямель са сваімі ўрадамі. Агульнадзяржаўнымі (федэральнымі) органамі ўлады сталі двухпалатны парламент, прэзідэнт і ўрад на чале з канцлерам. Устанаўлівалася, што адна з палат парламента — бундэстаг — выбіраецца, другая — бундэсрат — назначаецца ўрадамі зямель. Канцлер выбіраецца бундэстагам і валодае згодна з канстытуцыяй вялікімі паўнамоцтвамі. Як і ўсякая дэмакратычная канстытуцыя, канстытуцыя ФРГ абвяшчала асабістыя і палітычныя правы грамадзян. Артыкул 23-і прадугледжваў магчымасць распаўсюджвання канстытуцыі на нямецкія землі, якія не ўваходзілі тады ў склад ФРГ.

На першых выбарах у бундэстаг, якія адбыліся ў 1949 г., перамогу атрымаў блок партый ХДС/ХСС на чале з К. Адэнаўэрам. Сфарміраваны ім урад размясціўся ў Боне.

### Штрыхі да палітычнага партрэта

**К. Адэнаўэр (1876—1967)**



Конрад Адэнаўэр, юрыст па адукацыі, быў обербургамістрам Кёльна ў 1917—1933 гг. З'яўляўся адным з лідэраў каталіцкай партыі «Цэнтр» у перыяд Веймарскай рэспублікі. У гады фашысцкай дыктатуры праследаваўся нацыстамі. Пасля 1945 г. супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі ЗША і Вялікабрытаніі. Стаў адным з заснавальнікаў і кіраўніком ХДС. Поўнасцю падтрымаў курс на стварэнне ФРГ і ўключэнне яе ў НАТО, а таксама еўрапейскія структуры. У 1949—1963 гг. стаў першым канцлерам ФРГ, устанавіў аўтарытарны палітычны рэжым. Паслядоўна выступаў супраць прызнання ГДР. Разам з Л. Эрхардам лічыцца стваральнікам сістэмы сацыяльнай рыначнай гаспадаркі ў ФРГ.

**«Эканамічны цуд» у ФРГ.** Прыняты ў ФРГ варыянт эканамічнага развіцця атрымаў назву «сацыяльнай рыначнай эканомікі». Ён адрозніваецца тым, што разам з дзеяннем рыначных механізмаў у эканоміцы дзяржава пакідае за сабой актыўную ролю ў сацыяльнай галіне: распрацоўвае і праводзіць у жыццё законы аб працы і пенсійным забеспячэнні, удзельнічае ў будаўніцтве жылля і развіцці адукацыі. Урад ФРГ адмовіўся ад нацыяналізацыі вытворчасці, як гэта было зроблена ў Вялікабрытаніі і Францыі. У дзяржаўны сектар перайшла ўласнасць былога фашысцкага рэйха.

Дзякуючы таму, што прыватны капітал атрымаў свабоду, ужо на мяжы 1940—1950-х гг. адбыўся рэзкі рост капіталаўкладанняў у вытворчасць. Гэта стала галоўнай прычынай германскага «эканамічнага цуда», г. зн. паскоранага развіцця краіны. Іншымі прычынамі былі: дапамога, атрыманая паводле плана Маршала, сканцэнтраванасць у Заходняй Германіі асноўных запасаў сыравіны (жалезная руда, каменны вугаль), а таксама высокая кваліфікацыя рабочых кадраў. Іх колькасць пастаянна папаўнялася за кошт перабежчыкаў з ГДР, дзе фарміравалася сацыялістычная эканоміка. Незадаволенасць часткі грамадзян ГДР існуючым рэжымам прывяла да паўстання ў чэрвені 1953 г., падаўленага з дапамогай войскаў.

Садзейнічала паскоранаму развіццю ФРГ і тая акалічнасць, што вытворчасць аднаўлялася на сучаснай тэхнічнай аснове. Акрамя таго, у пасляваенны перыяд Заходняя Германія даволі доўга не ведала ваенных расходаў, за выключэннем расходаў на ўтрыманне акупацыйных войскаў. Нельга не ўлічваць і тую акалічнасць, што традыцыйна немцы ўмеюць працаваць шмат і добра.

Усё гэта прывяло да таго, што ўжо да канца 1950-х гг. ФРГ выйшла на другое месца ў заходнім свеце па ўзроўні прамысловай вытворчасці. Толькі ў канцы 1960-х гг. яе апярэдзіла Японія.

**Палітычнае развіццё ФРГ.** У першыя гады пасля свайго ўтварэння ФРГ не была раўнапраўнай у адносінах з іншымі краінамі. ЗША, Вялікабрытанія і Францыя размясцілі на яе тэрыторыі свае войскі і мелі права ўмешвацца ў яе ўнутраную і знешнюю палітыку. Таму ўрад ФРГ найважнейшай задачай лічыў цеснае супрацоўніцтва з заходнімі краінамі і ўдзел у «будаўніцтве Еўропы». У 1954—1955 гг. ФРГ дабілася прыняцця яе ў НАТО, пасля чаго ёй было дазволена стварыць свае ўзброеныя сілы колькасцю да 500 тыс. чалавек. Удзел

у НАТО значна ўмацоўваў міжнароднае становішча краіны. У адказ сацыялістычныя краіны Еўропы ў 1955 г. падпісалі ў Варшаве дагавор аб супрацоўніцтве і калектыўнай бяспецы, у які ўвайшла і ГДР.

У той жа час уступленне ФРГ у НАТО прывяло да паскоранай мілітарызацыі краіны. Яе ўзброеныя сілы аснашчаліся самай сучаснай зброяй. Але мілітарызацыя толькі стварала ілюзію ўмацавання бяспекі, што пацвердзілася ў час берлінскага крызісу 1961 г. Ён наспяваў даўно, а яго асноўнай прычынай былі ўцёкі часткі насельніцтва з ГДР у заходнія сектары Берліна.

Заходнія палітыкі апасаліся, што СССР і ГДР могуць паспрабаваць сілай далучыць Заходні Берлін. Каб перашкодзіць такому развіццю падзей, камандаванне войскаў НАТО не выключала магчымасці атамнай бамбардзіроўкі аднаго з савецкіх ваенных аб'ектаў у ГДР. Але гэта азначала б развязванне ядзернай вайны. На шчасце, да ваеннага сутыкнення справа не дайшла. 13 жніўня **1961 г.** улады ГДР устанавілі строгі кантроль на мяжы з Заходнім Берлінам, а ў хуткім часе збудавалі сцяну, якая наглуха падзяліла горад на дзве часткі. Яна стала сімвалам расколу Германіі і «халоднай вайны» паміж Усходам і Захадам.

Берлінскі крызіс паказаў, што нямецкі народ стаў заложнікам палітыкі процiборства дзвюх сістэм — капіталізму і сацыялізму, Захаду і СССР. У краіне ўзмацніўся антываенны рух і ўсё больш настойліва гучалі патрабаванні перагляду адносін з сацыялістычнымі краінамі, г. зн. «усходняй палітыкі».



Узвядзенне Берлінскай сцяны

**«Новая ўсходняя палітыка».** Неабходнасць перагляду знешняй палітыкі ўзмацнялася ў сувязі з тым, што ў свядомае жыццё ўступала пакаленне, якое не ведала вайны і больш не хацела бачыць на ўсходзе Еўропы сваіх праціўнікаў. Палітыка процiборства з ГДР і іншымі сацыялістычнымі краінамі ва ўмовах гонкі ядзерных узбраенняў здавалася гэтаму пакаленню небяспечнай і неразумнай. Выказваючы інтарэсы значнай часткі насельніцтва, Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі (СДПГ) прапанавала ідэю *«новай усходняй палітыкі».* Гэтая палітыка



Канцлер Германіі В. Брант каля помніка ахвярам гета ў Варшаве. 1970 г.

была скіравана на прызнанне існуючых граніц і супрацоўніцтва з усходнееўрапейскімі краінамі, уключаючы ГДР. У 1969 г. СДПГ у саюзе з СвДП перамагла на выбарах у бундэстаг, а яе лідэр В. Брант узначаліў урад.

Урад В. Бранта ў **1970 г.** падпісаў дагавор з СССР, у якім абедзве дзяржавы прызналі непарушнасць існуючых у Еўропе граніц (у тым ліку граніцы паміж дзвюма германскімі дзяржавамі) і абавязаліся вырашаць усе свае спрэчкі толькі мірнымі сродкамі. Затым такія ж дагаворы былі заключаны з Польшчай і Чэхаславакіяй. Дагавор з Чэхаславакіяй прызнаваў незаконным і несапраўдным Мюнхенскае пагадненне 1938 г. У 1972 г. быў заключаны Дагавор аб асновах адносін паміж ФРГ і ГДР, у якім прызнаваўся факт існавання ў Еўропе дзвюх германскіх дзяржаў. Большасць насельніцтва падтрымала «новую ўсходнюю палітыку».

З сярэдзіны 1970-х гг. у краіне сталі нарастаць эканамічныя цяжкасці, з якімі СДПГ з яе метадамі дзяржаўнага ўмяшання ў вытворчасць і размеркаванне прадукцыі не змагла справіцца. Частка яе выбаршчыкаў перайшла на бок руху «зялёных» (г. зн. абаронцаў навакольнага асяроддзя), які ўзнік у гэты час. У 1982 г. да ўлады прыйшоў блок ХДС/ХСС — СвДП, а яго лідэр Г. Коль стаў канцлерам і прыступіў да фарміравання ўрада.

## Штрыхі да палітычнага партрэта



**Г. Коль (нарадзіўся ў 1930 г.)**

Гельмут Коль вывучаў права, паліталогію, гісторыю ва універсітэце ФранкфуртанаМайне. У 1959 г. стаў самым маладым дэпутатам мясцовага парламента. У 1976 г. быў абраны кіраўніком ХДС. На чале ўрада ФРГ у 1982—1998 гг. кіраваў правядзеннем шырокіх сацыяльнаэканамічных рэформаў, падобных да неа кансерватыўнай палітыкі Р. Рэйгана ў ЗША і М. Тэт чэр у Англіі. З дзейнасцю Г. Коля звязаны эканаміч ны рост у ФРГ і працэс фарміравання інфармацый нага грамадства. Найбольшую папулярнасць Колю прынесла палітыка, накіраваная на аб'яднанне Германіі. Яно было праведзена на ўмовах, най больш выгадных для ФРГ. Г. Коль увайшоў у гісторыю як «аб'яднальнік Германіі».

**ФРГ у 1980>я гг. Аб'яднанне Германіі.** Г. Коль аказаўся вельмі энергічным палітыкам і добрым тактыкам, што дазволіла яму заставацца канцлерам на працягу 16 гадоў. Яго кабінет вярнуўся да палітыкі сацыяльнай рыначнай эканомікі. Шляхам зніжэння падаходнага падатку яму ўдалося ажывіць эканамічнае развіццё і скараціць беспрацоўе. Ва ўнутрыпалітычным развіцці ўрад улічваў перш за ўсё нарастанне антываенных настрояў і ўплыў нацыяналізму, які ўзмацніўся і быў выкліканы ў многім расколам краіны. Антываенныя настроі праявіліся ў росце папулярнасці партыі «зялёных», якая выступала за ядзернае раззбраенне, і ў правядзенні масавых кампаній супраць размяшчэння ў Еўропе амерыканскіх ракет сярэдняй дальнасці. Урад Коля адважыўся на вывад ракет. Гэта стала магчымым дзякуючы паляпшэнню міжнароднага становішча ў другой палове 1980-х гг.

У такой міжнароднай сітуацыі вырашалася і пытанне аб адзінстве Германіі. Поспехі, якіх дасягнула заходняя эканоміка, рабілі заходні лад жыцця ўсё больш прывабным для насельніцтва краін Усходняй Еўропы. У той жа час савецкае кіраўніцтва адмовілася ад жорсткага кантролю над усходнееўрапейскімі краінамі. Таму САПГ на чале з Э. Хонекерам, якая знаходзілася ва ўладзе ў ГДР, пазбавілася падтрымкі з боку СССР. Акрамя таго, выявілася яе няздольнасць

забяспечыць насельніцтву ва ўсходняй частцы Германіі той жа ўзровень жыцця, што і ў заходняй. Рабочы ў ГДР у сярэднім зарабляў у 2,5—3 разы менш, чым у ФРГ.

У такіх умовах немцы з ГДР працягвалі «галасаваць нагамі» супраць сацыялізму: яны ўцякалі ў суседнюю ФРГ, якую лічылі часткай агульнай радзімы. У самой ГДР пачаліся масавыя антыўрадавыя выступленні. Для іх падаўлення былі выкарыстаны паліцыя і войскі. Але масавыя хваляванні працягваліся. Э. Хонекер вымушаны быў пайсці ў адстаўку. **9 лістапада 1989 г.** Берлінская сцяна перастала падзяляць Германію на дзве часткі. Пазней сцяна была дэманціравана. У сакавіку 1990 г. адбыліся свабодныя выбары ў парламент ГДР. На іх перамаглі партыі, якія выступалі за аб'яднанне Германіі.

Пад ціскам падзей у ГДР чатыры дзяржавы — пераможцы ў Другой сусветнай вайне згадзіліся без прамаруджвання прызнаць аб'яднанне Германіі. У маі 1990 г. паміж ФРГ і ГДР быў падпісаны дагавор, які садзейнічаў эканамічнаму аб'яднанню дзвюх краін. Ён прадугледжваў увядзенне заходнегерманскай маркі ў якасці валюты на тэрыторыі ГДР, «раздзяржаўленне» ўласнасці шляхам выпуску і продажу акцый і інш. Затым быў падпісаны Дагавор аб аб'яднанні



Берлінская сцяна ў час урачыстасцей з нагоды аб'яднання Германіі. 1989 г.

дзвюх дзяржаў на аснове распаўсюджання канстытуцыі ФРГ на тэрыторыю ГДР. **3 кастрычніка 1990 г.** ён уступіў у сілу.

Напярэдадні знікнення з палітычнай карты Еўропы дзвюх раз’яднаных германскіх дзяржаў СССР, ЗША, Вялікабрытанія і Францыя падпісалі з імі Дагавор аб канчатковым урэгуляванні ў адносінах да Германіі. Ён пацвярджаў недатыкальнасць граніц аб’яднанай Германіі з яе суседзямі, правядзенне ёю міралюбнай палітыкі, захаванне яе членства ў НАТО. У адпаведнасці з дагаворам былі скарочаны германскія войскі і з тэрыторыі Германіі выведзены савецкія. Сталіцай аб’яднанай Германіі стаў горад Берлін.

**Адзіная Германія на мяжы стагоддзяў.** Аб’яднанне дзвюх дзяржаў не магло прывесці да неадкладнага і гарманічнага аб’яднання дзвюх эканомік, двух розных спосабаў жыцця і мыслення людзей. Адсталая арганізацыя і тэхналогія вытворчасці ў былой ГДР не магла забяспечыць такой жа прадукцыйнасці працы, як у Заходняй Германіі. Таму намаганні ўрада ФРГ былі накіраваны на тэхналагічнае абнаўленне гаспадаркі ўсходніх зямель і ўключэнне іх у адзіную эканоміку. Каб прыцягнуць неабходныя для гэтага капіталы, для заходніх немцаў быў уведзены спецыяльны «падатак салідарнасці». Прытоку капіталаў садзейнічала таксама раздзяржаўленне ўласнасці былой ГДР. Дзякуючы гэтым мерам эканамічны рост ва ўсходніх землях у 1990-я гг. перавышаў 10 % у год.

Такія імклівыя палітычныя і эканамічныя працэсы выклікалі змены ў структуры насельніцтва і настроях розных яго груп. Адразу пасля аб’яднання ў былой ГДР у сувязі з ростам прадукцыйнасці працы і скарачэннем арміі вырасла беспрацоўе (да 15 % ад агульнай колькасці работнікаў). Каб атрымаць працу, многім давялося пераvучвацца, іншым — змяніць месца жыхарства. Не ўсе прынялі гэтыя перамены. Таму ва Усходняй Германіі захоўваўся ўплыў левай партыі — Партыі дэмакратычнага сацыялізму (ПДС), а ў іншых абласцях аднавілі свае пазіцыі СДПГ і партыя «зялёных».

Хаця мала хто ў Германіі сумняваўся ў станоўчым значэнні аб’яднання, тым не менш у адрас Г. Коля гучалі папрокі ў тым, што ён недастаткова займаўся праблемамі аб’яднанай краіны. У выніку на чарговых выбарах у бундэстаг (1998 і 2002 гг.) перамога дасталася сацыял-дэмакратам. У сфарміраваны іх лідэрам Г. Шродэрам урад уваходзілі і прадстаўнікі партыі «зялёных». Аднак гэты ўрад не змог

справіцца з эканамічнымі цяжкасцямі, якія ўзніклі ў апошнія гады, і асабліва з праблемай беспрацоўя. Восенню 2005 г. былі праведзены датэрміновыя выбары ў бундэстаг, але яны не выявілі перавагі якой-небудзь партыі. Быў сфарміраваны ўрад «вялікай кааліцыі» з удзелам як ХДС/ХСС, так і сацыял-дэмакратаў. Яго ўпершыню ў гісторыі Германіі ўзначаліла жанчына, лідэр ХДС А. Меркель.

**Нямецкая культура.** Працэс адраджэння нямецкай літаратуры звязаны найперш з утварэннем у 1947 г. «Групы 47», куды ўваходзілі Г. Грас, З. Ленц і іншыя заходнегерманскія пісьменнікі. Яны бязлітасна крытыкавалі фашызм, выкрывалі яго злачынную сутнасць (трылогія Г. Граса «Бляшаны барабан», «Кошка і мыш», «Сабачыя гады»). Г. Грас у 1999 г. стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Іншы лаўрэат Нобелеўскай прэміі Г. Бёль у раманах «Вачыма клоуна», «Групавы партрэт з дамай» і іншых рэзка асуджаў недахопы сацыяльна-палітычнага жыцця ФРГ, крытыкаваў каталіцкую царкву.

У 1970—1980-х гг. у літаратуры адбыўся паварот да апісання асабістага жыцця і ўнутранага свету чалавека, з'явілася «жаночая літаратура» (К. Штрук) і дэтэктыўна-шпіёнскія раманы (Г. Конзалік).

У ГДР сфарміравалася літаратура сацыялістычнага рэалізму, у рамках якой было створана шмат «вытворчых» раманаў (напрыклад, «Рашэнне» і «Давер» Г. Зэгерс). У ГДР прыехалі многія вядомыя нямецкія пісьменнікі, якія раней былі ў эміграцыі. Гэта перш за ўсё Л. Фейхтвангер, Б. Брэхт і І. Бехер. Яны адыгралі важную ролю ў развіцці культурнага жыцця Усходняй Германіі. Пісьменнікаў і паэтаў, якія крытыкавалі ўлады (напрыклад, В. Бірмана), пазбаўлялі грамадзянства і вымушалі эмігрыраваць.

У ФРГ у галіне выяўленчага мастацтва пераважалі авангардысцкія кірункі — абстракцыянізм, поп-арт, оп-арт (мастакі О. Піне, Г. Мак, А. Кіфер і інш.). У канцы XX ст. сталі папулярнымі галаграфічныя карціны, створаныя з дапамогай камп'ютэра. У архітэктуры панаваў постмадэрнізм, прыкладам якога сталі будынкі канцэрна «БМВ» у Мюнхене, Берлінскай філармоніі і ўрадавыя будынкі ў Берліне.

У галіне кіно найбольшай вядомасці дабіўся нямецкі рэжысёр Р. Фасбіндэр. У яго фільмах «Замужжа Марыі Браўн», «Берлін,

Аляксандэрплац» і іншых здымалася знакамітая нямецкая кінаактрыса Х. Шыгула. «Залатую пальмавую галіну» ў Канах і «Оскара» ў ЗША атрымала экранізацыя рамана Г. Граса «Бляшаны барабан» кінарэжысёра Ф. Шлёндарфа. Гісторыі Другой сусветнай вайны прысвечаны фільм «Сталінград» І. Фільсмаера. Праблемы аб'яднання Германіі адлюстраваны ў кінастужках «Учэпістая піла» і «Тэрор 2000» рэжысёра К. Шлінгензіфа.



«Модэрн Токінг»

Нямецкая класічная музыка выконваецца найперш на Бетховенскім фестывалі ў Боне і Вагнераўскім фестывалі ў Байройце, якія маюць міжнародны статус. Нямецкую рок- і поп-музыку прадстаўляюць «панк-лэдзі» Н. Хаген, спявак У. Ліндэнберг і такія папулярныя рок-групы, як «Скорпіёнз», «Рамштайн» і «Модэрн Токінг», якую ўзначальваў вядомы вакаліст і кампазітар Д. Болен.

## Пытанні і заданні

1. Растлумачце, у чым заключалася рознае разуменне саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі сваіх задач па пераўладкаванні пасляваеннай Германіі.
2. Ахарактарызуйце «сацыяльную рыначную эканоміку» ўрада К. Адэнаўэра.
3. Пералічыце прычыны «эканамічнага цуду» ў Германіі.
4. Якімі прычынамі быў выкліканы берлінскі крызіс 1961 г.?
5. Ахарактарызуйце «новую ўсходнюю палітыку». Чаму яе падтрымлівала пасляваеннае пакаленне немцаў?
6. Якія вынікі палітыкі ўрада Г. Коля прадвызначылі новае аблічча Германіі?
7. У чым прычыны расколу і аб'яднання Германіі?
8. Чаму падзенне Берлінскай сцяны стала сімвалам аб'яднання Германіі?
9. У чым заключаюцца цяжкасці, якія ўзніклі ў сувязі з аб'яднаннем Германіі? Як бы вы на месцы ўсходняга ці заходняга немца аднесліся да «падатку салідарнасці»? Чаму ён так называецца?
10. Падрыхтуйце паведамленне пра творчасць аднаго з прадстаўнікоў нямецкай культуры.

## § 8. ІТАЛІЯ

**Успомніце**

Які палітычны рэжым існаваў у Італіі ў час Другой сусветнай вайны?

**Пераўтварэнні 1945—1947 гг.** Італія была адной з краін, якія пацярпелі паражэнне ў Другой сусветнай вайне. Аднак у адрозненне ад Германіі значная частка італьянскага народа на заключным этапе вайны прыняла актыўны ўдзел у вызваленні сваёй радзімы ад фашызму. У канцы красавіка 1945 г. на поўначы Італіі пачалося паўстанне, якое прывяло да вызвалення гэтай часткі краіны яшчэ да падыходу войскаў саюзнікаў. Найбольш уплывовай сілай у раёнах, ахопленых паўстаннем, стала Італьянская кампартыя (ІКП). Яна супрацоўнічала з Італьянскай сацыялістычнай партыяй і іншымі антыфашысцкімі сіламі.

Створаная ў 1944 г. Хрысціянска-дэмакратычная партыя (ХДП) таксама прымала ўдзел у антыфашысцкай барацьбе. Партыя была выразніцай інтарэсаў шырокіх пластоў каталіцкага насельніцтва, але асаблівай падтрымкай карысталася сярод сялянства Поўдня. Яна заклікала адмовіцца ад класавай барацьбы, прапаведавала хрысціянскія маральныя каштоўнасці, выказвалася за дэмакратычныя рэформы.

Пасля 1945 г. усе фашысцкія арганізацыі ў краіне былі забаронены. Большасць італьянцаў чакалі дэмакратычных пераўтварэнняў. Але частка насельніцтва ўспрымала паражэнне ў вайне як нацыянальную знявагу. Гэта стварыла ўмовы для з'яўлення фашысцкага руху, які атрымаў назву *неафашызму,* г. зн. новага фашызму. Узнікла неабходнасць працягваць супрацоўніцтва антыфашысцкіх сіл і ў пасляваенны час.

У такіх умовах быў створаны кааліцыйны ўрад, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі хрысціянскіх дэмакратаў, камуністаў і сацыялістаў. Урад правёў рэферэндум па пытанні аб форме дзяржаўнага кіравання. На ім большасць італьянцаў выказалася за рэспубліку. Яна была абвешчана ў **1946 г.** У адпаведнасці з канстытуцыяй 1947 г. вышэйшымі органамі ўлады сталі двухпалатны парламент і прэзідэнт як кіраўнік дзяржавы. Абвяшчалася, што прыватная ўласнасць недатыкальная і можа быць абмежавана толькі законам. Канстытуцыя

ўпершыню ўстанавіла роўнасць грамадзянскіх правоў мужчын і жанчын. У красавіку 1948 г. былі праведзены выбары ў парламент, якія прынеслі пераканаўчую перамогу ХДП.

**Эканамічнае развіццё. Праблема Поўдня.** Эканоміка Італіі паступова выходзіла з пасляваеннага крызісу. Як і ў іншых краінах, для гэтага быў выкарыстаны «адкладзены» попыт насельніцтва, перавод капіталаў з ваенных галін у цывільныя, дзяржаўная падтрымка малаэфектыўных, але важных для ўсёй краіны галін. У 1948 г. Італія атрымала ад ЗША бязвыплатную дапамогу паводле плана Маршала. У 1957 г. яна ўступіла ў ЕЭС, што палегчыла збыт яе прадукцыі на еўрапейскіх рынках.

Разам з тым у Італіі востра паўстала праблема Поўдня. Тут пражывала 35 % насельніцтва краіны. Большая яго частка займалася сельскай гаспадаркай, якая была адсталай. Таму даход на душу насельніцтва быў амаль у 2 разы ніжэйшы, чым на Поўначы. Гэта стрымлівала развіццё эканомікі ўсёй краіны, абмяжоўваючы яе ўнутраны рынак.

Каб пераадолець адсталасць і беднасць Поўдня, урад зрабіў шэраг захадаў. У пачатку 1950-х гг. пачалося ажыццяўленне аграрнай рэформы. У адпаведнасці з ёй дзяржава выкупляла частку буйной зямельнай уласнасці і прадавала ў растэрміноўку сялянам, якім на гэтыя мэты выдаваліся крэдыты. Павялічыліся дзяржаўныя капіталаўкладанні ў эканоміку Поўдня, што прывяло да павелічэння ў ёй долі прамысловасці і сферы паслуг. Паступова поўдзень краіны ператварыўся ў аграрна-індустрыяльны раён.

Выраўноўванне ўзроўню развіцця Поўдня і Поўначы мела несумненныя станоўчыя бакі: умацоўвалася эканамічнае адзінства краіны, прамысловасць Поўначы атрымлівала з Поўдня танную рабочую сілу, якая вызвалялася ў сувязі з мадэрнізацыяй сельскай гаспадаркі. Але гэты працэс прывёў і да сур’ёзных сацыяльных і палітычных ускладненняў. Справа ў тым, што мадэрнізацыя суправаджалася ростам беспрацоўя. На Поўдні яно было ў два разы вышэйшае, чым на Поўначы. У пошуках працы жыхары Поўдня імкнуліся на Поўнач, але вельмі часта не маглі знайсці яе і там. У краіне разгортвалася НТР, што прывяло да скарачэння патрэбнасці ў некваліфікаваных рабочых. У такіх умовах выхадцы з Поўдня, часта непісьменныя, на Поўначы адчувалі сябе адрынутымі. Нярэдка яны траплялі ў поле зроку *мафіі* — тайнай

тэрарыстычнай арганізацыі, якая займалася злачынным бізнесам (наркабізнес, ігральныя дамы і інш.).

**Палітычнае развіццё Італіі.** У палітычным жыцці Італіі вялікую ролю працягваў адыгрываць Ватыкан — дзяржава-горад, на чале яко-га стаяў папа рымскі. Так, у разгар «халоднай вайны» дзейнасць каму-ністаў і сацыялістаў была асуджана Ватыканам. Аднак ва ўмовах да-лейшага развіцця краіны ўплыў Ватыкана ў духоўным і палітычным жыцці стаў памяншацца. Змяняліся і погляды камуністаў на некаторыя ключавыя пытанні. У прыватнасці, яны прыйшлі да вываду аб магчы-масці мірнага пераходу да сацыялізму, што дазволіла ім у 1960-я гг. на-ладзіць супрацоўніцтва з сацыялістамі. Аднак гэта выклікала незада-воленасць з боку двух крайніх флангаў палітычных сіл: тых, хто лічыў, што такі курс вядзе ўбок ад камунізму, і неафашыстаў, якія сцвярджа-лі, што супрацоўніцтва з сацыялістамі адкрывае камуністам дарогу да ўлады. Гэтыя палітычныя сілы ўзялі на ўзбраенне тактыку тэрору. У выніку пацярпелі сотні ні ў чым не вінаватых людзей. Меры ўлад супраць злачынцаў былі малаэфектыўнымі з-за карумпіраванасці (подкупу, хабарніцтва) дзяржаўнага апарату.

Рост напружанасці ў краіне, выкліканы разгулам злачыннасці, сведчыў пра глыбокі грамадска-палітычны крызіс, у якім знаходзілася італьянскае грамадства. З боку правых сіл актыўны палітычны тэрор



Дзяржавагорад Ватыкан, размешчаны ў межах сталіцы Італіі — Рыма, з'яўляецца цэнтрам каталіцкай царквы і рэзідэнцыяй яе кіраўніка — папы рымскага



А. Мора

праводзілі неафашысты на чале з «Нацыянальным фронтам» і партыяй Італьянскі сацыяльны рух — Нацыянальныя правыя сілы. З другога боку дзейнічалі крайне левыя экстрэмісты. У 1978 г. члены тэрарыстычнай лявацкай арганізацыі «Чырвоныя брыгады» выкралі лідэра ХДП А. Мора і забілі яго. Гэтая жорсткая акцыя ўскалыхнула ўсю краіну: 18 млн італьянцаў правялі агульную забастоўку супраць тэрору і насілля.

Італьянскае грамадства напружана шукала шляхі выхаду з палітычнага крызісу. Кіраўніцтва ІКП яшчэ ў 1970-х гг. прыйшло да вываду аб неабходнасці абнаўлення марксізму і згуртавання народа для адпору рэакцыі і леваму экстрэмізму. Кампартыя зыходзіла з таго, што шлях Італіі да сацыялізму ляжыць праз дэмакратыю, а не праз дыктатуру пралетарыяту. З'езд ІКП у 1975 г. прапанаваў палітыку «гістарычнага кампрамісу» — адзінства дзеянняў камуністаў, сацыялістаў і католікаў, г. зн. нацыянальнага адзінства. Такая палітыка атрымала шырокую падтрымку з боку італьянцаў. Аднак у пачатку 1980-х гг. кампартыя вярнулася да палітыкі супрацьстаяння ХДП і стала хутка страчваць свой уплыў. У 1991 г. на аснове ІКП, якая заявіла аб спыненні сваёй дзейнасці, узнікла новая арганізацыя — Дэмакратычная партыя левых сіл (ДПЛС). Яна практычна парвала з камуністычнай ідэалогіяй.

**Палітычныя перамены ў Італіі ў 1990>х гг. — пачатку XXI ст.** У пачатку 1990-х гг. у Італіі склалася новая палітычная сітуацыя. Сышла з палітычнай сцэны адна з найбуйнейшых партый — ІКП. Глыбокі крызіс ахапіў палітычную сістэму, у цэнтры якой была ХДП. Партыя, якая шмат гадоў знаходзілася ва ўладзе, пагразла ў карупцыі і паступова страчвала падтрымку выбаршчыкаў.

Вясной 1993 г. у Італіі адбыўся рэферэндум, большасць удзельнікаў якога выказаліся за рэформу выбарчай сістэмы. Выбары ў парламент, праведзеныя па гэтай сістэме ў 1994 г., прынеслі перамогу новай палітычнай партыі правых сіл «Наперад, Італія!» на чале з С. Берлусконі (**1). Набыла ўплыў Дэмакратычная партыя сацыялістычных і левых сіл. У складзе блока левых сіл яна неаднаразова прыходзіла да ўлады. У Італіі пачала складвацца новая палітычная

сітуацыя. Палітычная сістэма краіны стала паступова змяняцца ў бок двухпартыйнасці. У 2001 г. урад Італіі зноў узначаліў С. Берлусконі. Вясной 2006 г. да ўлады ў чарговы раз прыйшоў блок левых сіл на чале з Р. Продзі.

**Культура.** Культура краіны вельмі доўга знаходзілася пад уплывам трагедыі, перажытай італьянскім народам у гады Другой сусветнай вайны. Вайна абвастрыла ўвагу да ўнутранага свету простага чалавека, які часта апынаўся перад праблемай маральнага выбару. У кінематографе і літаратуры пад уплывам ідэй руху Супраціўлення і пасляваеннага дэмакратычнага ўздыму склаўся цэлы кірунак — неарэалізм, які моцна паўплываў на культуру іншых краін. Мастацкім маніфестам неарэалізму стаў фільм рэжысёра Р. Раселіні «Рым — адкрыты горад» (1945). Работы выдатных прадстаўнікоў гэтага кірунку хвалююць мільёны людзей у свеце і ў наш час. Гэта фільмы П. Джэрмі «Дарога надзеі», «Развод па-італьянску», Дж. Дэ Сантыса «Няма міру пад алівамі», В. Дэ Сіка «Сланечнікі», «Шлюб па-італьянску» і інш. У іх на поўную сілу раскрыўся талент знакамітых акцёраў С. Ларэн і М. Мастраяні, а таксама Дж. Лалабрыджыды і К. Кардынале. Адыход ад неарэалізму намеціўся ў творчасці італьянскага кінарэжысёра Ф. Феліні, чые фільмы «Салодкае жыццё», «Восем з паловай» і іншыя чатыры разы атрымалі прэмію амерыканскай Акадэміі кінамастацтва «Оскар», сталі выдатнай з’явай сусветнай культуры.

Ярка праявіўся неарэалізм у італьянскай літаратуры. Антыфашысцкая тэма і сацыяльныя праблемы занялі цэнтральнае месца ў творчасці пісьменнікаў В. Праталіні («Аповесць пра бедных закаханых», трылогія «Італьянская гісторыя»), П. Пазаліні («Ліхія хлопцы», «Жорсткае жыццё»), А. Маравія («Рымскія апавяданні») і паэта С. Квазімада (зборнікі «Фальшывая і сапраўдная зеляніна», «Зямля непараўнальная» і інш.), які ў 1959 г. атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Рэалістычныя матывы і зварот да рабочай аўдыторыі характэрныя для п’ес драматурга і акцёра Д. Фо («Выпадковая смерць анархіста» і інш.), які стаў у 1997 г. лаўрэатам Нобелеўскай прэміі. Складаныя творы, якія сумяшчаюць дэтэктыўныя і рэлігійна-філасофскія сюжэты, стварае сучасны іта-



Ф. Феліні на здымачнай пляцоўцы



У зале тэатра «Ла Скала»

льянскі пісьменнік-мадэрніст У. Эка. Вялікі ўплыў на італьянскае і сусветнае выяўленчае мастацтва зрабіла творчасць антыфашыста, удзельніка руху Супраціўлення, мастака Р. Гутуза. На яго палотнах адлюстраваны сцэны народнага жыцця і рэвалюцыйнай барацьбы.

У галіне музычнай культуры Італіі традыцыйна належаць вядучыя пазіцыі. Знакаміты міланскі тэатр «Ла Скала» з канца XVIII ст. застаецца цэнтрам сусветнай опернай культуры. Імя спевака Л. Павароці шырока вядомае аматарам опернага мастацтва ва ўсім свеце. У Італіі штогод праводзяцца шматлікія музычныя фестывалі і конкурсы. Найбольш папулярным спеваком, музыкантам, танцорам, акцёрам і рэжысёрам з'яўляецца А. Чэлентана. Вядомыя такія выканаўцы, як Т. Кутуньё, дуэт Аль Бана і Раміны Паўэр, група «Рычы Э Поверы» і інш.

**Дадатковы матэрыял**

****1. Прэса пра італьянскага прэм'ер>міністра С. Берлусконі**

«Пра яго кажуць — „самы багаты“. І гэта чыстая праўда. Праўда і тое, што… Сільвіо Берлусконі… самы „непатапляльны“ палітык Італіі, а магчыма, і ўсёй Еўропы. У чым толькі не абвінавачвалі Берлусконі — у карупцыі, фінансавых махінацыях, ва ўхіленні ад падаткаў. У 1997 г. яго асудзілі да 16 месяцаў турмы за незаконную куплю кампаніі па кіна і відэапракаце, але тут жа амнісціравалі…

Жамчужына кароны Берлусконі — шматпрофільная кампанія „Фінінвест“ з многамільярдным абарачэннем. „Фінінвесту“ належаць будаўнічыя фірмы… футбольны клуб „Мілан“, рэкламныя, страхавыя і інвестыцыйныя фірмы.

…Літаральна за дватры месяцы ён здолеў арганізаваць і раскруціць новую палітычную партыю з футбольнай назвай „Наперад, Італія!“. Фан клубы ператварыліся ў выбарчыя штабы, Берлусконі не сыходзіў з тэлеэк ранаў. Сам праводзіў апытанні, сам прысвойваў сабе перамогу. На выбары ішоў пад лозунгам „Не пусцім камуністаў да ўлады!“. Прадпрымальнікам абяцаў скараціць уплыў дзяржавы, служачым — працоўныя месцы і зніжэн не падаткаў».

**Пытанні і заданні**

1. Якія прычыны з'яўлення і наступствы неафашызму?
2. У чым заключалася праблема Поўдня? Ахарактарызуйце станоўчыя і ад моўныя наступствы яе вырашэння.
3. Параўнайце ІКП і ХДП па наступных прыкметах: а) адносіны да фашызму; б) пласты насельніцтва, якія падтрымлівалі партыю; в) рэгіёны краіны, дзе партыя карысталася значным уплывам. У чым заключалася палітыка «гіста рычнага кампрамісу»?
4. Якія фінансавыя магчымасці і палітычная тактыка зрабілі С. Берлусконі самым «непатапляльным» палітыкам Італіі? Пры адказе выкарыстайце да датковы матэрыял да параграфа.
5. Падрыхтуйце паведамленне пра аднаго з прадстаўнікоў італьянскай культуры.

## § 9. ПАЎНОЧНЫЯ КРАІНЫ ЗАХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ

**Успомніце**

Пералічыце паўночныя краіны Заходняй Еўропы.

**Месца ў сучасным свеце.** Пасля Другой сусветнай вайны паўночныя краіны Заходняй Еўропы захавалі форму дзяржаўнага кіравання, якая склалася ў іх гістарычна: Нарвегія, Швецыя і Данія засталіся канстытуцыйнымі манархіямі, Фінляндыя — прэзідэнцкай рэспублікай. Незалежнасць Ісландыі ў 1944 г. таксама была абвешчана ў форме рэспублікі.

Усе гэтыя дзяржавы, за выключэннем маленькай Даніі, а таксама Ісландыі, па плошчы большыя за Беларусь, а па колькасці насельніцтва значна ўступаюць ёй (толькі Швецыя набліжаецца да Беларусі па гэтым паказчыку). Усе паўночнаеўрапейскія краіны змаглі заняць прыкметнае месца ў еўрапейскай палітыцы, эканоміцы і культуры. Па вытворчасці прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі на душу насельніцтва яны сёння лідзіруюць у Еўропе. Сімваламі поспеху гэтых краін выступаюць шведскі аўтамабільны канцэрн «Вольва», фінскае прадпрыемства па вытворчасці мабільных тэлефонаў «Нокіа», нарвежскі рыбалавецкі флот, дацкая сельская гаспадарка. Шведскі і фінскі хакей дэманструе не толькі высокі ўзровень спартыўнай культуры гэтых народаў, але і лепшыя рысы нацыянальнага характару. А ансамбль «АББА» стаў нацыянальным гонарам шведаў (**1).

**Эканамічнае развіццё пасля Другой сусветнай вайны.** Нарвегія, Данія і Фінляндыя менш пацярпелі ў гады вайны, чым іншыя еўрапейскія краіны, а Швецыя, якая захавала нейтралітэт, зусім не панесла страт. Таму і стартавыя пазіцыі гэтых краін для пасляваеннага эканамічнага развіцця былі лепшыя. Паўночным дзяржавам Заходняй Еўропы ўдалося ўжо да 1947 г. аднавіць даваенны ўзровень прамысловай вытворчасці, а Швецыя нават перавысіла яго амаль у 1,5 раза.

З 1948 г. усе гэтыя краіны, акрамя Фінляндыі, сталі атрымліваць амерыканскую дапамогу паводле плана Маршала. Паколькі вытворчасць была ўжо адноўлена, дапамога накіроўвалася на яе абнаўленне і на развіццё галін вытворчасці, якія пастаўлялі прадукцыю на экспарт. Дзякуючы гэтаму была забяспечана перабудова структуры вытворчасці на карысць новых галін, транспарту, суднаходства і сферы паслуг.

У выніку да пачатку 1970-х гг. доля сельскай, лясной гаспадаркі і рыбалоўства ў нацыянальным даходзе ўсіх краін скарацілася да 10 %. Пры гэтым сельская гаспадарка заставалася высокаразвітай, тэхнічна добра аснашчанай. Для яе было характэрна шырокае развіццё спецыялізацыі і перапрацоўчай кааперацыі на аснове прыватнай уласнасці. У найбольшай ступені захавала аграрную накіраванасць сваёй гаспадаркі Данія. Яна з'яўляецца адным з найбуйнейшых у Еўропе пастаўшчыкоў мяса-малочнай прадукцыі на знешнія рынкі. А Нарвегія займае адно з вядучых месцаў у свеце па ўзроўні развіцця гандлёвага і рыбалоўнага флоту і вылаве рыбы.

Сярод прычын паспяховага эканамічнага росту паўночнаеўрапейскіх краін варта назваць гнуткую палітыку дзяржавы. У адрозненне ад Заходняй Еўропы тут не праводзілася шырокая нацыяналізацыя вытворчасці, аднак адбывалася дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі. У першыя пасляваенныя гады яно ў асноўным ажыццяўлялася прама праз дзяржаўныя капіталаўкладанні ў найважнейшыя галіны, а з канца 1940-х гг. — ускосна, у асноўным шляхам падатковых ільгот прадпрыемствам і дзяржаўных крэдытаў. З дзяржаўнага бюджэту фінансавалася значная частка расходаў на будаўніцтва і адукацыю. Гэтыя меры спрыялі росту пакупной здольнасці насельніцтва. Але, з іншага боку, яны вымушалі падтрымліваць высокі ўзровень падаткаў як на даходы грамадзян, так і на прыбыткі прадпрыемстваў. У найбольшай ступені такая палітыка характэрная для Швецыі.

Важнае значэнне мела наладжванне супрацоўніцтва паміж паўночнымі краінамі Заходняй Еўропы. З гэтай мэтай у 1952 г. быў створаны Паўночны Савет, які складаецца з дэпутатаў нацыянальных парламентаў. Па яго ініцыятыве сфарміраваны агульны для паўночных краін рынак рабочай сілы, распрацавана агульнае працоўнае заканадаўства.

**Сацыяльна>палітычнае развіццё.** Палітычнае развіццё краін рэгіёна ў пасляваенныя гады праходзіла спакайней, чым у многіх дзяржавах Заходняй Еўропы. Палітычныя дзеячы і грамадскасць паўночных краін не маглі ізалявацца ад такіх сусветных працэсаў, як «халодная вайна» і гонка ўзбраенняў. Разам з тым яны апынуліся ўбаку ад эпіцэнтра барацьбы двух палітычных блокаў.

Ва ўнутранай палітыцы паўночных краін Заходняй Еўропы пераважала лінія класавага міру, рэформаў. Яна праводзілася або кіруючымі сацыял-дэмакратычнымі партыямі (у асноўным у Швецыі), або кааліцыйнымі ўрадамі з удзелам сацыял-дэмакратаў. Дзякуючы гэтаму курсу паўночным дзяржавам удалося дэмакратызаваць выбарчыя сістэмы, пашырыць мясцовае самакіраванне. Данія прызнала незалежнасць Ісландыі, дала шырокую аўтаномію сваім адасобленым тэрыторыям — Фарэрскім астравам і Грэнландыі.

Вялікія змены адбыліся і ў сацыяльнай сферы. На працягу 1950—1960-х гг. ва ўсіх краінах склалася сістэма сацыяльнай абароны грамадзян. Яна ўключае роўную аплату працы для мужчын і жанчын, усеагульнае страхаванне на выпадак хваробы і беспрацоўя, чатырох-

тыднёвыя аплачваемыя водпускі, дапамогу на дзяцей, пенсіі па старасці і за выслугу гадоў. У гэтыя ж гады была ўведзена бясплатная абавязковая дзевяцігадовая адукацыя.

Кіруючыся прынцыпам «дэмакратыя на вытворчасці — шлях да сацыялізму», сацыял-дэмакратычныя ўрады падтрымлівалі стварэнне на прадпрыемствах вытворчых камітэтаў з удзелам рабочых і служачых. Да іх думкі па пытаннях вытворчасці, аховы і аплаты працы прыслухоўваліся прадпрымальнікі. Абапіраючыся на ўласны вопыт, сацыял-дэмакратычныя партыі краін Паўночнай Еўропы ў 1960-я гг. адмовіліся ад праграмных палажэнняў марксізму аб непазбежнасці класавай барацьбы і неабходнасці абагулення сродкаў вытворчасці для пераходу да сацыялізму. Гэты вопыт часта называюць *«шведскай мадэллю» сацыялізму.* Адным з яркіх палітычных лідэраў Швецыі і ідэолагаў «шведскага сацыялізму» 1960—1980-х гг. з'яўляўся У. Пальме.

**Знешняя палітыка.** Знешняя палітыка паўночных дзяржаў Заходняй Еўропы мае, бадай, больш адрозненняў, чым унутраная. Швецыя пасля вайны пажадала захаваць свой нейтралітэт. Фінляндыя, якая пацярпела ў вайне паражэнне ад СССР, была вымушана каардынаваць пасляваенную палітыку са сваім вялікім усходнім суседам. Яна падпісала з СССР Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе. У адпаведнасці з гэтым дагаворам Фінляндыя актыўна выкарыстоўвала вялізны савецкі рынак для свайго эканамічнага развіцця. Гэта была палітычная «лінія Паасіківі — Кеканена», названая ад імён першых пасляваенных прэзідэнтаў краіны. У той жа час Данія, Нарвегія і Ісландыя ўступілі ў НАТО. Але гэты крок не азначаў іх сляпога падпарадкавання палітыцы найбуйнейшай дзяржавы, якая ўваходзіла ў блок НАТО, — ЗША. Так, напрыклад, яны не падтрымалі агрэсію ЗША ў В'етнаме.



У. Пальме, прэм'ер міністр Швецыі ў 1969—1976 гг. і 1982 г.

Прызнаннем аўтарытэту паўночных краін Заходняй Еўропы было правядзенне ў **1975 г.** у сталіцы Фінляндыі Хельсінкі Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе з удзелам 35 краін, у тым ліку ЗША і Канады. Нарада выпрацавала асновы міждзяржаўных адносін: су-

верэнітэт і роўнасць, узаемная адмова ад прымянення сілы, непарушнасць граніц, мірнае ўрэгуляванне спрэчак, неўмяшанне ва ўнутраныя справы, шанаванне правоў чалавека. Працэс наладжвання нармальных узаемаадносін паміж дзяржавамі з розным палітычным ладам атрымаў назву *хельсінкскага працэсу.*

**Паўночныя краіны Заходняй Еўропы ў канцы XX — пачатку XXI ст.** Дзяржавы гэтага рэгіёна не пазбеглі тых праблем, з якімі ў сярэдзіне 1970-х гг. сутыкнуўся ўвесь заходні свет. Аслабленне сусветных гаспадарчых сувязей, справакаванае энергетычным крызісам, ударыла па вытворчасці ў гэтых краінах, у значнай ступені арыентаванай якраз на знешні рынак. Асабліва ў цяжкім становішчы апынулася Швецыя. Тут прадпрымальнікі на працягу многіх гадоў былі вымушаны адлічваць у бюджэт значную частку сваіх прыбыткаў на дзяржаўныя сацыяльныя расходы, замест таго каб выкарыстоўваць іх для абнаўлення вытворчасці. У такіх умовах прадпрымальнікам цяжка было канкурыраваць на сусветных рынках. Нарвежскай эканоміцы пераадолець энергетычны крызіс дапамагло адкрыццё вялікіх запасаў нафты ў Паўночным моры. Але ўсё ж на працягу некаторага часу ва ўсіх краінах назіралася зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, а пасля выхаду з крызісу тэмпы яе росту ў большасці краін засталіся невысокімі. Адпаведна знізілася паступленне сродкаў у бюджэт на сацыяльныя расходы, многія сацыяльныя праграмы былі абмежаваны.

У 1990 г. урад сацыял-дэмакратаў у Швецыі пайшоў на беспрэцэдэнтны для гэтай краіны крок: ён правёў праз парламент законы аб замарожванні заработнай платы і аб забароне стачак на два гады. Гэта выклікала абурэнне шведаў і расчараванне іх у «шведскай мадэлі» сацыялізму. Краіна сутыкнулася з неабходнасцю правядзення эканамічнай палітыкі, падобнай да тэтчэрызму. Каб забяспечыць перабудову вытворчасці на аснове дасягненняў сучаснай НТР, было неабходна вызваліць яе ад непасільнага цяжару сацыяльных расходаў. У гэтых умовах на парламенцкіх выбарах 1991 г. шведы выказаліся за прыход да ўлады кансерватыўных партый. Такая сітуацыя назіралася і ў іншых краінах рэгіёна. У выніку, каб захаваць становішча лідэра ў сучасным постіндустрыяльным свеце, паўночным дзяржавам Заходняй Еўропы давялося пераадольваць сур'ёзныя цяжкасці.

Дадатковы матэрыял

****1. «АББА»**




Шведская група «АББА» ўзнікла ў 1970 г. у Стакгольме. Вясной 1974 г. яна з трыумфам перамагла на конкурсе «Еўрабачання», выка наўшы песню «Ватэрлоо», якая ўжо летам узначаліла хітпарады большасці краін Еўропы. У 1970х гг. «АББА» была самай паспяховай еў рапейскай групай. Агульны тыраж яе пласцінак перавысіў 200 млн. У сябе на радзіме, у Швецыі, калектыў стаў нацыяналь ным гонарам, а па рэнтабельнасці заняў другое месца пасля Стакгольмскай фондавай біржы, абагнаўшы нават аўтамабільны канцэрн «Вольва». У 1982 г. група распалася, але яе папулярнасць захоўваецца да гэтага часу.

Пытанні і заданні

1. Якія формы дзяржаўнага кіравання існуюць у паўночных краінах Заходняй Еўропы?
2. Пералічыце тавары, вытворчасць якіх з'яўляецца своеасаблівым сімвалам поспеху паўночнаеўрапейскіх краін.
3. Пералічыце вядомыя вам дасягненні паўночнаеўрапейскіх краін у галіне культуры.
4. У чым заключаліся прычыны паспяховага эканамічнага росту паўночных краін Заходняй Еўропы?
5. Што ўяўляе сабой «шведская мадэль» сацыялізму?
6. Пералічыце прынцыпы міждзяржаўных адносін, выпрацаваныя на Нарадзе па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

## § 10. КРАІНЫ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ПАЎДНЁВА>УСХОДН ЕЎРОПЫ

Успомніце

Як склаўся ў гады Другой сусветнай вайны лёс Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі?

**Выбар шляху развіцця.** Ва ўмовах двухполюснага свету, які склаўся пасля Другой сусветнай вайны, шэраг дзяржаў Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы сталі саюзнікамі СССР і атрымалі назву

краін *«усходняга блока»*. Гэтыя дзяржавы паступова ўвайшлі ў сусветную сістэму сацыялізму, якая процістаяла капіталістычным дзяржавам. У 1949 г. яны стварылі Савет Эканамічнай Узаемадапамогі (СЭУ), а ў 1955 г. — ваенна-палітычны саюз — Арганізацыю Варшаўскага дагавора (АВД).

Утварэнне ГДР адбылося ў выніку расколу Германіі. З гісторыяй іншых краін «усходняга блока» (Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі, Югаславіі і Албаніі) мы азнаёмімся з дапамогай параўнальнай табліцы. На мяжы 1940—1950-х гг. у гэтых краінах былі ажыццёўлены рэвалюцыйна-дэмакратычныя пераўтварэнні, а затым пачаўся працэс будаўніцтва сацыялізму.

Камуністычныя партыі краін «усходняга блока» спрабавалі вырашаць задачы грамадскага развіцця, зыходзячы з уяўленняў аб сацыя-

**Агульныя і асаблівыя рысы будаўніцтва сацыялізму ў СССР і краінах Цэнтральнай і ПаўднёваУсходняй Еўропы**

| Сферы жыцця грамадства | СССР у канцы 1920х — 1930я гг. | Краіны «ўсходняга блока» ў канцы 1940х — 1950я гг. |
|---|---|---|
| Эканоміка | Поўная нацыяналізацыя прамысловасці, банкаў, транспарту. Устанаўленне дзяржаўнай уласнасці | Нацыяналізацыя буйных і сярэдніх прадпрыемстваў з выплатай кампенсацыі іх уладальнікам. Захаванне прыватнай уласнасці на дробныя рамесныя прадпрыемствы |
| | Фарсіраваная індустрыялізацыя | Індустрыялізацыя, акрамя Чэхіі (вобласць Чэхаславакіі) і ГДР, дзе існаваў высокі ўзровень прамысловага развіцця |
| | Суцэльная калектывізацыя сельскай гаспадаркі | Правядзенне аграрнай рэформы. Ліквідацыя памешчыцкага землеўладання. Перадача зямлі ва ўласнасць сялянам. Кааперацыя з захаваннем прыватнай уласнасці на зямлю і маёмасць |

*Заканчэнне*

| Сферы жыцця грамадства | СССР у канцы 1920х — 1930я гг. | Краіны «ўсходняга блока» ў канцы 1940х — 1950я гг. |
|---|---|---|
| Палітыка | Савецкая грамадска-палітычная сістэма. Аднапартыйнасць. Адміністрацыйна-камандныя метады кіравання. Культ асобы Сталіна | Існаванне народных франтоў, якія аб'ядноўвалі антыфашысцкія сілы. Ліквідацыя манархіі ў Балгарыі, Югаславіі, Румыніі. Устанаўленне рэвалюцыйна-дэмакратычнай улады народных мас у першыя пасляваенныя гады ў большасці краін (акрамя Югаславіі і Албаніі). Захаванне шматпартыйнасці ў Чэхаславакіі, Балгарыі, Польшчы, ГДР пры вядучай ролі партый камуністычнай арыентацыі. Культ асобы (І. Броз Ціта — у Югаславіі і інш.) |
| Ідэалогія і культура | Марксісцка-ленінская ідэалогія. Ліквідацыя непісьменнасці. Развіццё нацыянальных культур | Марксісцка-ленінская ідэалогія. Захаванне ўплыву царквы ў Польшчы, Венгрыі, Югаславіі. Развіццё нацыянальнай культуры пад кантролем камуністычных партый |

лізме, якія склаліся ў СССР. Яны карысталіся падтрымкай Савецкай дзяржавы. Гэтымі краінамі быў адхілены план Маршала. Іх эканоміка развівалася пераважна ў ходзе сацыялістычнай інтэграцыі і ў рамках сацыялістычнага лагера.



І. Броз Ціта ў сваім рабо чым кабінеце

**Пачатак крызісу «рэальнага сацыялізму».** Нягледзячы на «жалезную заслону», прывабнасць заходняга, больш высокага ўзроўню жыцця для насельніцтва сацыялістычных краін, уласны вопыт іх народаў прывялі да таго, што ў некаторых дзяржавах рэгіёна ўжо ў пачатку 1950-х гг.

сталі праяўляцца прыкметы незадаволенасці часткі грамадства новым палітычным рэжымам. ЗША і некаторыя заходнееўрапейскія краіны актыўна падтрымлівалі апазіцыю ў гэтых дзяржавах. Пачалася актывізацыя антысацыялістычных элементаў у краінах народнай дэмакратыі. З асаблівай сілай гэта праявілася ў Венгрыі і Польшчы восенню **1956 г.**

У Венгрыі народныя выступленні прынялі форму ўзброенай барацьбы супраць органаў улады і партыйных камітэтаў. Новы венгерскі ўрад пад кіраўніцтвам І. Надзя заявіў аб выхадзе Венгрыі з АВД. Але далейшае развіццё падзей у гэтай краіне было спынена з дапамогай савецкіх войскаў. Улада перайшла ў рукі ўрада Я. Кадара, створанага пры падтрымцы СССР. Гэтыя падзеі атрымалі ў гісторыі назву *«будапешцкая восень»*.

Хваляванні ў Польшчы не насілі такога вострага характару. Новае польскае кіраўніцтва на чале з У. Гамулкам заявіла, што Польшча застаецца ў «сацыялістычным лагеры».

Для таго каб ліквідаваць недахопы «рэальнага сацыялізму», новыя кіраўнікі сацыялістычных дзяржаў паспрабавалі рэфармаваць яго. Але гэтыя рэформы не закранулі галоўнага — манаполіі камуністычных партый на ўладу. Перспектыва яе аслаблення ўзнікла толькі ў ходзе рэформаў у Чэхаславакіі ў 1968 г., калі Першым сакратаром ЦК кампартыі стаў А. Дубчак. Тут пачалося ўкараненне элементаў рынку... рыначнай эканомікі, была дапушчана некаторая дэмакратызацыя ду-



Савецкія танкі ў Будапешце. 1956 г.




Прага. 1968 г.

хоўнага і палітычнага жыцця грамадства. Папулярнай у краіне стала ідэя стварэння «сацыялізму з чалавечым тварам». Спроба абнаўлення сацыялізму ў гэтай краіне атрымала ў гісторыі назву *«пражская вясна»*.

Чэхаславацкі вопыт мог стаць прывабным для іншых сацыялістычных краін. Каб не дапусціць гэтага, савецкае кіраўніцтва ў жніўні **1968 г.** арганізавала ўвод войскаў дзяржаў — членаў Варшаўскага дагавора — СССР, Балгарыі, Венгрыі, ГДР і Польшчы ў Чэхаславакію. Спроба абнаўлення сацыялізму ў Чэхаславакіі была сарвана.

**Дэмакратычныя рэвалюцыі. Станаўленне дэмакратычнага грамадства.** На мяжы 1980—1990-х гг. у сацыялістычных краінах Еўропы адбыліся дэмакратычныя па сваім характары рэвалюцыі. Прычынамі іх сталі складаная эканамічная сітуацыя, расчараванне людзей у сацыялізме і палітыцы рэжымаў, заснаваных на культе асобы іх кіраўнікоў. Перабудова ў СССР таксама садзейнічала наспяванню рэвалюцыйнай сітуацыі.

Рост агульнага ўзроўню культуры і адукацыі, павышэнне інтарэсу да заходняга спосабу жыцця выклікалі крытычныя адносіны да рэчаіснасці ў значнай часткі насельніцтва сацыялістычных краін, асабліва ў моладзі і інтэлігенцыі. Менавіта гэтыя сацыяльныя сілы і выступілі ў авангардзе рэвалюцый. У выніку кіруючыя рэжымы ў большасці краін былі звергнуты мірным шляхам, таму гэтыя падзеі атрымалі назву *«аксамітных рэвалюцый»*. Толькі ў Румыніі, дзе правіў дыкта-

тар Н. Чаўшэску, пралілася кроў. У асноўным мірнаму ажыццяўленню гэтых рэвалюцый садзейнічала неўмяшанне СССР, які сам у той час перажываў крызіс. У ходзе барацьбы за дэмакратыю з'явіліся новыя лідэры: Ж. Жэлеў у Балгарыі, Л. Валенса ў Польшчы, В. Гавел у Чэхаславакіі.

У 1989—1990 гг. ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы былі праведзены свабодныя выбары на шматпартыйнай аснове. Яны прынеслі перамогу арганізацыям, якія стаялі на нацыянальна-патрыятычнай і дэмакратычнай платформе, такім, як Грамадзянскі форум у Чэхаславакіі, Венгерскі дэмакратычны форум, Саюз дэмакратычных сіл у Балгарыі. У Польшчы ролю такой арганізацыі выканала прафсаюзнае аб'яднанне «Салідарнасць», створанае ў **1980 г.** Сфарміраваныя ўрады ўзялі курс на стварэнне шматпартыйнага дэмакратычнага грамадства, якое абапіраецца на рыначную эканоміку.

Гэты працэс праходзіў нераўнамерна. Хутчэй і з меншымі ўскладненнямі ён развіваўся ў краінах, дзе пераўтварэнні былі падрыхтаваны рэформамі, праведзенымі яшчэ да падзення кіруючых рэжымаў (Венгрыя, Польшча, Чэхія і Славакія). Такая сітуацыя аблягчала правядзенне прыватызацыі — раздзяржаўлення ўласнасці, што неабходна для фарміравання рыначных адносін. Гэтыя краіны ўжо дасягнулі ўстойлівага росту эканомікі і ўзроўню жыцця насельніцтва. Аднак на



Мітынг «Салідарнасці» ў Польшчы

шляху да такіх поспехаў у пачатку 1990-х гг. яны перажылі спад вытворчасці ў сярэднім на 20 %, рост цэн і беспрацоўя. Другую групу складаюць краіны, дзе рынычныя рэформы ішлі павольна, непаслядоўна і з вялікімі ўскладненнямі. Гэта Балгарыя, Румынія, большасць рэспублік былой сацыялістычнай Югаславіі. Тармажэнне рэформаў прывяло да доўгага цяжкага эканамічнага крызісу і пагаршэння становішча насельніцтва, што выклікала палітычную напружанасць у гэтых краінах.

Непазбежныя цяжкасці, звязаныя з правядзеннем рэформаў (**1), прывялі да такой з'явы ў былых сацыялістычных краінах, якую можна назваць «палітычным маятнікам». На працягу апошняга дзесяцігоддзя XX ст. настроі выбаршчыкаў некалькі разоў мяняліся ад галасавання на выбарах за нацыянальна-дэмакратычныя партыі і арганізацыі, якія былі ініцыятарамі рэформаў, да падтрымкі сацыялістычных партый, створаных на аснове былых кампартый. Сацыялістам у шэрагу краін удавалася прыйсці да ўлады. Напрыклад, у Польшчы на працягу двух тэрмінаў прэзідэнтам быў сацыяліст А. Квасьнеўскі. Восенню 2005 г. да ўлады прыйшла кааліцыя кансерватараў і лібералаў. Прэзідэнтам стаў кансерватар Л. Качыньскі.

Знешнія гарантыі дэмакратычных рэформаў былыя сацыялістычныя краіны бачаць у сваім збліжэнні з краінамі НАТО. Паварот у гэты бок пачаўся ў **1991 г.** з роспуску АВД і СЭУ, а цяпер завяршаецца ўступленнем шэрагу гэтых дзяржаў у НАТО і Еўрапейскі Саюз. Членамі гэтых арганізацый ужо сталі найбліжэйшыя суседзі Беларусі — Польшча і рэспублікі Прыбалтыкі.

**Югаслаўская трагедыя.** У шматнацыянальных дзяржавах Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы адной з прычын крызісу і крушэння кіруючых рэжымаў стала іх нздольнасць забяспечыць фактычнае нацыянальнае раўнапраўе і вырашыць нацыянальныя супярэчнасці, якія ўзніклі на гэтай глебе.

У аслабленні славянскіх дзяржаў былі зацікаўлены заходнія краіны, асабліва Германія. Усё гэта прывяло да распаду Чэхаславакіі і Югаславіі. Але калі Чэшская і Славацкая рэспублікі падзяліліся мірна ў пачатку **1993 г.,** то ў Югаславіі падзеі **1991—1995 гг.** развіваліся драматычна.

Са складу Югаслаўскай федэрацыі выйшлі чатыры рэспублікі з шасці: Славенія, Харватыя, Боснія і Герцагавіна, Македонія. Заста-




ліся Сербія і Чарнагорыя. Сербскае насельніцтва на тэрыторыі Харватыі, Босніі і Герцагавіны пры падтрымцы суседняй Сербіі (Бялграда) паспрабавала стварыць яшчэ дзве рэспублікі. Гэта прывяло да грамадзянскай вайны, якая цягнулася каля чатырох гадоў. Дадатковую вастрыню надавала розная рэлігійная прыналежнасць насельніцтва, якое ваявала: сербы і чарнагорцы — праваслаўныя, харваты — каталікі, а баснійцы — у асноўным мусульмане.

Сербам у Харватыі не ўдалося адстаяць сваю рэспубліку. А Боснія і Герцагавіна пасля мірнага пагаднення, падпісанага ў горадзе Дэйтан (ЗША) у канцы 1995 г., пераўтворана ў федэратыўную дзяржаву. Яна складаецца з дзвюх аўтаномных рэспублік: Сербскай Рэспублікі і мусульмана-харвацкай федэрацыі. Створаны і агульныя для іх органы ўлады. Войны на тэрыторыі былой Югаславіі забралі каля 200 тыс. чалавечых жыццяў, некалькі мільёнаў чалавек былі выгнаны з месцаў пастаяннага жыхарства. Была падарвана і эканоміка — не толькі па прычыне ваенных разбурэнняў, але і эканамічнымі санкцыямі, уведзенымі ААН супраць Югаславіі.

Аднак для Сербіі канфлікт, спынены Дэйтанскім пагадненнем, не стаў апошнім. Албанцы ў яе паўднёвым краі Косава выступілі з патрабаваннем незалежнасці. Прэзідэнт Югаславіі С. Мілошавіч, каб не дапусціць далейшага развалу краіны, увёў у Косава войскі. У жорсткую вайну, якая разгарнулася тут у **1999 г.,** умяшалася НАТО, спрабуючы спыніць яе шляхам бамбардзіровак сербскіх аб'ектаў. У выніку пацярпела мірнае насельніцтва, як сербы, так і албанцы.



С. Мілошавіч

У чэрвені 1999 г. С. Мілошавіч быў вымушаны заключыць мір. У Косава ўведзены міратворчыя сілы ААН. Мілошавіч, які не здолеў выйграць вайну, але спрабаваў утрымаць уладу ў сваіх руках, у 2000 г. пацярпеў паражэнне на прэзідэнцкіх выбарах. Прэзідэнтам Югаславіі быў абраны прадстаўнік дэмакратычных сіл В. Каштуніца. У 2003 г. Югаславія пераўтворана ў дзяржаўную супольнасць Сербіі і Чарнагорыі. На рэферэндуме ў 2006 г. Чарнагорыя прагаласавала за аддзяленне ад Сербіі.

## Дадатковы матэрыял

****1. З прамовы В. Гавела, Прэзідэнта Чэхаславацкай Рэспублікі (1989—1992) і Чэшскай Рэспублікі (1993—2003). 1990 г.**

«Людзі ў гэтых краінах [Цэнтральнай і Усходняй Еўропы] з вялікімі цяжкасцямі адваявалі... свабоду. Аднак у той момант, калі яе атрымалі, раптам як бы разгубіліся: адвыклі ад яе настолькі, што цяпер не ведаюць, як з ёй быць; баяцца яе... жыццё нібыта адразу страціла сэнс. У гэтай частцы свету

можна таксама назіраць і прыкметы новага страху перад будучыняй. У адрозненне ад часоў таталітарызму, калі будучыня была хаця і ўбогая, але акрэсленая, цяпер яна многім уяўляецца як быццам у тумане. Нібыта замест аднойадзінай, хаця і ўсёпранікальнай, але ўжо знаёмай пагрозы, якой быў таталітарны рэжым са сваім уціскам, з'явіўся цэлы спектр новых, невядомых або даўно забытых небяспек: ад пагрозы нацыянальных канфліктаў і пагрозы страціць сацыяльную абароненасць да таталітарнай пагрозы спажывальніцтва, камерцыі і ўлады грошай».

## Пытанні і заданні

1. Раскрыйце прычыннавынікову сувязь паміж складваннем двухполюснага свету і стварэннем «усходняга блока». Якімі арганізацыямі былі прадстаўлены краіны гэтага блока?
2. Параўнайце з дапамогай табліцы «Агульныя і асаблівыя рысы будаўніцтва сацыялізму ў СССР і краінах Цэнтральнай і ПаўднёваУсходняй Еўропы» працэсы эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця ў гэтых краінах і ў Савецкім Саюзе.
3. У чым заключаліся і аб чым сведчылі «будапешцкая восень» і «пражская вясна»?
4. Якія прычыны і вынікі «аксамітных рэвалюцый»? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
5. У чым заключаюцца прычыны распаду Югаславіі? Чаму гэтыя падзеі характарызуюцца як трагедыя?

# АСНОЎНЫЯ ВЫНІКІ ЭКАНАМІЧНАГА, ПАЛІТЫЧНА І КУЛЬТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ КРАІН АМЕРЫКІ І ЕЎРО

## Урок паўтарэння і абагульнення

**1.** У 1943 г., калі пасол СССР у ЗША, ураджэнец Беларусі А. А. Грамыка ўручаў амерыканскаму прэзідэнту вярыцельныя граматы, Ф. Д. Рузвельт сказаў: «Адзінства мэты, якое аб'ядноўвае нашы народы і краіны ў вайне, ператворыцца ў цеснае і трывалае супрацоўніцтва разам з іншымі аднолькава мыслячымі краінамі ў справе стварэння справядлівага міру». Наколькі спраўдзіліся словы Рузвельта ў пасляваенны перыяд?

**2.** Чаму стварэнне НАТО і АВД стала прыкметай расколу пасляваеннага свету? Выкарыстайце для адказу прыведзеныя ніжэй дакументы.

Дагавор аб стварэнні НАТО.

«Артыкул 1. Дагаворныя бакі абавязуюцца, як гэта абумоўлена Статутам Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, вырашаць усе міжнародныя спрэчкі, у якія яны могуць быць уцягнуты, мірнымі сродкамі, такім чынам, каб не ставіць пад пагрозу міжнародны мір і бяспеку і справядлівасць…

Артыкул 5. Дагаворныя бакі пагаджаюцца, што ўзброены напад на адзін з іх або на некалькі бакоў у Еўропе ці Паўночнай Амерыцы будзе разглядацца як напад на ўсе дагаворныя бакі…»

Варшаўскі дагавор.

«Артыкул 1. Дагаворныя бакі абавязуюцца ў адпаведнасці са Статутам Арганізацыі Аб’яднаных Нацый устрымлівацца ў сваіх міжнародных адносінах ад пагрозы сілай і яе прымянення і вырашаць свае міжнародныя спрэчкі мірнымі сродкамі такім чынам, каб не ставіць пад пагрозу міжнародны мір і бяспеку…

Артыкул 4. У выпадку ўзброенага нападу ў Еўропе на адну або некалькі дзяржаў — удзельніц Дагавора з боку якой-небудзь дзяржавы ці групы дзяржаў, кожная дзяржава — удзельніца Дагавора ў парадку ажыццяўлення права на індывідуальную або калектыўную самаабарону… акажа дзяржаве ці дзяржавам, якія падвергліся такому нападу, неадкладную дапамогу…»

**3.** Запішыце ў табліцы асноўныя гістарычныя факты, якія адпавядаюць указаным працэсам у развіцці краін Еўропы і Амерыкі.

| **Працэсы** | **Другая палова 1940х —1980я гг.** | **1990я гг. — пачатак XXI ст.** |
|---|---|---|
| Геапалітычная сітуацыя (гонка ўзбраенняў і разрадка напружанасці, фарміраванне двухполюснага і шматполюснага свету, суіснаванне і спаборніцтва капіталістычнай і сацыялістычнай сістэм) | | |
| Сацыяльна-эканамічнае развіццё (дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі, эканамічная інтэграцыя) | | |
| Навукова-тэхнічны прагрэс і развіццё культуры | | |
| Глабальныя праблемы сучаснасці | | |

**4.** Выберыце з наступных тэрмінаў тыя, якія з’яўляюцца па сутнасці падобнымі: *тэтчэрызм, Берлінская сцяна, інфармацыйнае грамадства, «макартызм», «усходні блок», карыбскі крызіс, інтэграцыя, «пражская вясна», рэйганоміка, постіндустрыяльнае грамадства, антыкамунізм, «будапешцкая восень», «жалезная заслона», Арганізацыя Варшаўскага дагавора, Еўрапейскі Саюз, берлінскі крызіс.*

**5.** Вызначце, у чым заключаецца важнасць прынцыпаў, сфармуляваных у тэксце Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, падпісанага 1 жніўня 1975 г. у Хельсінкі.

«Высокія прадстаўнікі дзяржаў-удзельніц урачыста… заяўляюць аб сваёй рашучасці паважаць і прымяняць у адносінах кожнай з іх з усімі іншымі дзяржавамі-ўдзельніцамі, незалежна ад іх палітычных, эканамічных і сацыяльных сістэм, а таксама іх памераў, геаграфічнага становішча і ўзроўню эканамічнага развіцця, наступныя прынцыпы…

I. …павага правоў, уласцівых суверэнітэту.

II. Непрымяненне сілы або пагрозы сілай.

III. Непарушнасць граніц.

IV. Тэрытарыяльная цэласнасць дзяржавы.

V. Мірнае ўрэгуляванне спрэчак.

VI. Шанаванне правоў чалавека і асноўных свабод, уключаючы свабоду думкі, сумлення, рэлігіі, перакананняў».

**6.** Вызначце, якія пласты грамадства абазначаюцца паняццем «сярэдні клас» і якую ролю ён адыгрывае ў стабільным развіцці кожнай краіны. Выкарыстайце выказванне М. Тэтчэр пасля перамогі кансерватараў на выбарах у 1987 г.: «Наша палітыка заключаецца ў тым, каб кожны, хто мае даход, стаў уласнікам… Мы будуем дэмакратыю ўласнікаў».

**7.** У 1961 г. у штогадовым пасланні да ўсіх католікаў папа рымскі падкрэсліў недатыкальнасць прыватнай уласнасці, прызнаў магчымасць дзяржаўнага рэгулявання эканомікі. У 1963 г. у яго звароце прагучаў заклік да спынення гонкі ўзбраенняў і захавання міру, прызнавалася магчымасць супрацоўніцтва ўсіх вернікаў, незалежна ад іх рэлігійных перакананняў. У чым заключаецца значэнне ідэй і заклікаў папы?

**8.** У 1980 г. у амерыканскім часопісе «Тайм» быў апублікаваны артыкул, у якім выказвалася наступная думка: «Па меры таго як індустрыяльныя… краіны спрабуюць вырашаць праблемы новай эканаміч-

най эпохі, яны павінны зрабіць выбар паміж дзвюма прынцыпова рознымі эканамічнымі сістэмамі — паміж рыначнай і планавай эканомікай».

Ахарактарызуйце перавагі і недахопы кожнай з гэтых сістэм. Пры характарыстыцы выкарыстайце такія паняцці, як *«новы курс», рэйганоміка, тэтчэрызм, германскі «эканамічны цуд»*.

**9.** Пасля падзей 11 верасня 2001 г. барацьба з міжнародным тэрарызмам стала глабальнай праблемай сучаснасці. Восенню 2002 г. чэчэнскія баевікі захапілі ў якасці заложнікаў гледачоў, якія прыйшлі на мюзікл «Норд-Ост» у маскоўскі канцэртны цэнтр на Дуброўцы. Загінула звыш 100 чалавек. Вось як паставіліся да гэтага тэрарыстычнага акта маскоўскія школьнікі:

«З моманту, калі ў ЗША 11 верасня ўзрывалі дамы, я здагадвалася аб тым, што нешта дрэннае пачынаецца. Што ва ўсіх краінах будзе штосьці падобнае. Няхай не дамы ўзрывацца, дык людзей у заложнікі браць, а потым забіваць, без гэтага не абыдзецца. Пасля ЗША чарга дайшла да нас».

«Я не магу дакладна сказаць, хто вінаваты ў тым, што адбылося, — наш урад, які не спыняе ваенных дзеянняў, ці тэрарысты, якія спрабуюць такім чынам дабіцца іх спынення, але і ў той і ў другой сітуацыі ні ў якім разе не павінны пакутаваць ні ў чым не павінныя людзі».

«Нават калі б там былі людзі іншай нацыянальнасці, то ўсё роўна гэта людзі, і ў кожнага ёсць права на жыццё, і ніхто іншы яго пазбавіць чалавека не можа…»

Вызначце, у чым заключаецца небяспека сусветнага тэрарызму.

**10.** У 2003 г. ЗША пры падтрымцы Вялікабрытаніі без згоды з боку Савета Бяспекі ААН пад выглядам барацьбы з міжнародным тэрарызмам пачалі вайну супраць Ірака. У выніку абрынуўся дыктатарскі рэжым, які існаваў у Іраку. З пачаткам вайны па ўсёй Еўропе прайшлі дэманстрацыі супраць вайны ў Іраку. У антываенным маршы ў Лондане, які праходзіў пад лозунгам «Спынім агрэсію ЗША!», прынялі ўдзел 700 тыс. брытанцаў. Гэтая падзея стала самай масавай дэманстрацыяй у англійскай гісторыі. Растлумачце прычыны такога шырокага пратэсту супраць дзеянняў ЗША. Чаму руху масавага пратэсту не адбылося ў ЗША, хаця падобны рух у Амерыцы быў вельмі актыўным у гады в’етнамскай вайны?

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РАЗВІЦЦЯ СССР ПАСЛЯ 1945 г. І СУЧАСНАЙ РАСІІ

**Асноўныя этапы грамадска>палітычнага развіцця.** Пасля перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне з’явіліся надзеі на лепшае жыццё і дэмакратызацыю палітычнага ладу. Аднак партыйнае кіраўніцтва, у руках якога знаходзілася ўся паўната ўлады, не пайшло на рэфармаванне палітычнага рэжыму. У пачатку 1950-х гг. узвялічванне асобы Сталіна дасягнула свайго апагея.

Са смерцю І. В. Сталіна ў 1953 г. закончылася цэлая эпоха ў гісторыі краіны. Барацьба за ўладу паміж спадкаемцамі правадыра завяршылася перамогай М. С. Хрушчова. У 1956—1964 гг. у СССР пачаўся перыяд палітычнай «адлігі». У краіне быў узяты курс на дэмакратызацыю жыцця грамадства. Яна была звязана з *дэсталінізацыяй* — крытыкай культу асобы і *рэабілітацыяй* — аднаўленнем правоў бязвінна рэпрэсіраваных. Палітыка дэмакратызацыі савецкага грамадства праводзілася ў пэўных рамках, з тым каб не скампраметаваць партыйных лідэраў і савецкую грамадска-палітычную сістэму. М. С. Хрушчоў не ставіў пытанне аб рэформе сацыялістычнага ладу, даказваў, што дастаткова толькі асудзіць і выкараніць культ асобы Сталіна, і шлях да камунізму будзе адкрыты. Аднак сутнасць савецкага грамадска-палітычнага ладу заставалася нязменнай. Яго характэрнымі прыкметамі былі кантроль дзяржавы над грамадскім жыццём, дзяржаўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, марксісцка-ленінская ідэалогія.

Трэба адзначыць, што ў той час практычна ўвесь савецкі народ падтрымліваў палітыку КПСС. Савецкія людзі шчыра верылі ў магчымасць пабудовы камуністычнага грамадства і лічылі савецкую сацыялістычную сістэму самай перадавой у свеце. Яна давала чалавеку ўпэўненасць у заўтрашнім дні, таму што ў СССР не было беспрацоўя, існавала шырокая сістэма сацыяльнага забеспячэння, у тым ліку бясплатная адукацыя і медыцынскае абслугоўванне, агульнадаступная сістэма адпачынку і г. д. Савецкія людзі справядліва ганарыліся выдатнымі дасягненнямі СССР у галіне навукі, адукацыі і культуры.

З прыходам да ўлады ў 1964 г. Л. І. Брэжнева паступова згортвалася палітыка дэсталінізацыі. Да канца 1970-х гг. праявіліся элементы застою ў грамадска-палітычным жыцці СССР.

Канстытуцыя СССР 1977 г. замацавала кіруючую і накіроўваючую ролю КПСС у грамадстве, вызначыла яе як аснову палітычнай сістэмы. У Канстытуцыі былі замацаваны дасягненні савецкага грамадства ў сферы забеспячэння рэальных правоў і свабод чалавека. У той час савецкаму грамадству былі ўласцівы аптымізм, прывабнасць ідэй сацыялізму, сацыяльная справядлівасць, супрацоўніцтва паміж савецкімі рэспублікамі.

Да сярэдзіны 1980-х гг. у Савецкім Саюзе абазначыўся эканамічны спад. Ініцыятарам наспелых рэформаў выступіў кіраўнік Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў **1985—1991 гг.** М. С. Гарбачоў. Перыяд яго дзейнасці атрымаў назву *«перабудова».* У час перабудовы праводзілася палітыка галоснасці, пачалася адкрытая крытыка сталінізму. На хвалі дэмакратызацыі ў СССР афармілася шматпартыйнасць. Аднак захаванне старой адміністрацыйна-каманднай сістэмы, нерашучасць і памылкі М. С. Гарбачова прывялі да таго, што рэформы аказаліся неэфектыўнымі. Разбурэнне савецкай грамадска-палітычнай сістэмы ў выніку палітыкі перабудовы стала адной з прычын распаду СССР. Першымі заявілі аб выхадзе з яго складу Літва, Латвія і Эстонія. Іншыя рэспублікі таксама прынялі законы аб суверэнітэце, які рабіў іх фактычна незалежнымі ад Масквы. У снежні 1991 г. кіраўнікі Расіі, Украіны і Беларусі без удзелу М. С. Гарбачова заявілі аб спыненні існавання СССР і ўтварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).

**Асноўныя рысы сацыяльна-эканамічнага становішча СССР.** Галоўнай задачай эканамічнай палітыкі СССР у першыя пасляваенныя гады было аднаўленне народнай гаспадаркі. Частка абаронных прадпрыемстваў была пераведзена на выпуск тавараў для насельніцтва. Прадугледжвалася павелічэнне расходаў на развіццё цывільных галін эканомікі. Праца народа, талент арганізатараў вытворчасці, вучоных і канструктараў садзейнічалі выкананню і перавыкананню асноўных паказчыкаў пасляваенных пяцігодак.

Ва ўмовах «халоднай вайны» першачарговая ўвага надавалася развіццю галін цяжкай і найперш абароннай прамысловасці. Гэта да-

зволіла вырашыць пытанне, звязанае са стварэннем атамнай зброі ў працэсе ўзмацнення гонкі ўзбраенняў паміж звышдзяржавамі. Пераважнае развіццё цяжкай індустрыі прывяло да памяншэння выпуску тавараў першай неабходнасці ў лёгкай прамысловасці.

Вялікую ролю ў развіцці СССР адыгралі эканамічныя рэформы сярэдзіны 1960-х гг., якія спрыялі росту народнай гаспадаркі Савецкага Саюза. Восьмая (1966—1970) і дзевятая (1971—1975) пяцігодкі лічацца самымі паспяховымі ў эканамічным жыцці СССР. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Савецкай дзяржавы было арыентавана на паступовае станаўленне індустрыяльнага грамадства. СССР дасягнуў вялікіх сацыяльна-эканамічных поспехаў, асабліва ў сферы абароны краіны, што дазволіла яму падтрымліваць статус сусветнай звышдзяржавы. У 1970—1980-я гг. у краіне былі створаны гіганцкія тэрытарыяльна-вытворчыя комплексы, у тым ліку ў Сібіры і на Далёкім Усходзе. У гэтыя гады ўзмацнілася сацыялістычная інтэграцыя ў рамках СЭУ.

У галіне сельскай гаспадаркі галоўнай формай вытворчасці заставаліся калгасы. Сяло служыла крыніцай сыравіны, рабочай сілы для прамысловасці. Дзяржава прымала меры па павышэнні закупачных цэн на сельгаспрадукцыю, увядзенні гарантаванай аплаты працы калгаснікаў, умацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі, стварэнні аграпрамысловага комплексу. Нягледзячы на гэта, поўнасцю вырашыць харчовую праблему так і не ўдалося.

На мяжы 1970—1980-х гг. у эканоміцы СССР абазначыліся застойныя з’явы. Яны былі звязаны з адставаннем у галіне НТР ад сусветнага ўзроўню, арыентацыяй пераважна на колькасныя, а не якасныя паказчыкі развіцця, нерацыянальным выкарыстаннем прыроднай сыравіны і ў першую чаргу нафты як прадукту продажу, а не перапрацоўкі.

Працэс рэфармавання народнай гаспадаркі ў гады перабудовы быў звязаны з рэалізацыяй курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Была зроблена спроба пераарыентацыі эканомікі на развіццё прамысловасці, якая забяспечвае вытворчасць прадметаў народнага спажывання, увядзенне формаў вытворчасці, што ўлічваюць асабістую матэрыяльную зацікаўленасць, прымяненне мер па павышэнні якасці прадукцыі, якая выпускаецца. Пры гэтым у эканоміцы захоўваліся адміністрацыйна-камандныя метады кіравання

і пераважна дзяржаўная форма ўласнасці на сродкі вытворчасці. Аднак перашкодзіць спаду эканамічнага развіцця так і не ўдалося.

**Сучасная Расія на шляху рэформаў.** Надзённымі задачамі суверэннай Расіі пасля распаду СССР сталі пераадоленне эканамічнага і палітычнага крызісу, забеспячэнне цэласнасці Расійскай Федэрацыі. Эканамічныя рэформы пачаліся з увядзення свабодных рыначных цэн і прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і жылля. З улікам назапашанага вопыту была распрацавана і ажыццяўляецца праграма развіцця эканомікі, у якой вядучая роля належыць не дзяржаўнаму сектару, а фінансава-прамысловым групам, прыватнаму бізнесу.

Дзяржава адмовілася ад цэнтралізаванай сістэмы кіравання малым бізнесам і прадпрымальніцтвам, сканцэнтравала свае намаганні на шэрагу сфер. Сярод іх — укараненне дасягненняў НТР у вытворчасць, ажыццяўленне кантролю над банкаўскай сферай, рэарганізацыя сістэмы энергазабеспячэння, здабычы, перапрацоўкі і транспарціроўкі нафты і газу. Расія імкнецца пераадолець становішча краіны — пастаўшчыка энергарэсурсаў і сыравіны на сусветны рынак, дамагчыся рацыянальнага выкарыстання навуковага і тэхналагічнага патэнцыялу краіны для павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Дзяржава перажыла канстытуцыйны крызіс 1993 г., звязаны з супрацьстаяннем прэзідэнта і парламента. Канфлікт паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады быў пераадолены, і адобраны прэзідэнцкі варыянт Канстытуцыі. У цяперашні час прымаюцца меры па ўмацаванні прэзідэнцкай вертыкалі ўлады.

Ва ўмовах абвастрэння міжнацыянальных адносін у многіх раёнах Расіі склаліся небяспечныя сітуацыі, асабліва ў Чэчні, на тэрыторыі якой сепаратысты абвясцілі незалежную дзяржаву. У выніку прынятых мер, звязаных з ліквідацыяй тэрарыстычных арганізацый баевікоў, гэты рэгіён застаўся састаўной часткай Расійскай Федэрацыі. Ураду ўдалося прадухіліць дэзінтэграцыю і развал Расіі як федэрацыі.

Расія праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку, падтрымлівае сувязі з многімі краінамі свету. Працягваецца інтэнсіўны дыялог з ЗША і іншымі дзяржавамі Захаду па пытаннях сумеснай барацьбы з тэрарызмам. Умацаваліся адносіны Расіі з краінамі, якія ўваходзяць у СНД, і ў прыватнасці з Рэспублікай Беларусь.

**Пытанні і заданні**

1. Дайце азначэнне наступных паняццяў: *дэсталінізацыя, рэабілітацыя.*
2. Якімі былі прыкметы савецкай грамадскапалітычнай сістэмы?
3. Аб чым сведчыла замацаванне ў Канстытуцыі СССР 1977 г. кіруючай і на кіроўваючай ролі КПСС?
4. Пералічыце з’явы ў грамадскапалітычным жыцці СССР, якія ўзніклі ў час перабудовы.
5. На што было арыентавана сацыяльнаэканамічнае развіццё СССР у гады восьмай і дзевятай пяцігодак?
6. На што накіраваны рэформы ў эканамічнай, унутры і знешнепалітычнай сферы, якія праводзяцца ў сучаснай Расіі?

## § 11. САВЕЦКАЯ КРАІНА Ў 1945—1953 гг.

**Успомніце**

1. Пералічыце прыкметы савецкай грамадскапалітычнай сістэмы.
2. Што ўяўляў сабой двухполюсны свет?

**Перавод народнай гаспадаркі на мірныя рэйкі. Станові> шча ў сельскай гаспадарцы.** Страты, якія панёс Савецкі Саюз у час Вялікай Айчыннай вайны, былі велізарнымі: краіна страціла трэцюю частку нацыянальнага багацця. У руінах ляжалі 1710 гарадоў, звыш 70 тыс. сёл і вёсак. Захопнікі знішчылі амаль 32 тыс. фабрык і заводаў. Мільёны савецкіх людзей страцілі родных і блізкіх. Вайна адабрала больш за 27 млн чалавечых жыццяў. З мужчын 1923 года нараджэння, г. зн. тых, каму ў 1941 г. споўнілася 18 гадоў, засталося жывымі да канца вайны не больш за 3 %.




«Дэмабілізаваны — на бу доўлю!» Плакат. 1945 г.

Адразу пасля заканчэння вайны пачалася дэмабілізацыя з радоў узброеных сіл, якія налічвалі да таго часу больш за 11 млн чалавек. Былыя воіны вярнуліся да мірнай працы. На радзіму вярталіся таксама мільё-

ны грамадзян, вывезеных фашыстамі ў Германію, і сотні тысяч ваеннапалонных.

Задачы адраджэння народнай гаспадаркі былі сфармуляваны ў чацвёртым пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі (1946—1950). Галоўная задача заключалася ў першачарговым абнаўленні і далейшым развіцці цяжкай прамысловасці.

У пачатку 1945 г. заказы на вытворчасць прадукцыі мірнага часу атрымаў завод «Уралмаш» і іншыя буйныя прадпрыемствы. Павялічыўся выпуск сельскагаспадарчай тэхнікі і запасных частак да яе. Эфектыўна працавалі Маскоўскі і Горкаўскі аўтамабільныя заводы. Быў адноўлены Днепрагэс, а таксама іншыя гідраэлектрастанцыі; закладзены асновы для шырокага развіцця электратэхнічнай прамысловасці.

У першыя гады чацвёртай пяцігодкі былі адменены некаторыя абмежаванні ваеннага часу: на прадпрыемствах і ва ўстановах зноў устанаўліваўся васьмігадзінны рабочы дзень, адмяняліся абавязковыя звышурочныя работы, аднаўляліся штогадовыя водпускі. У снежні 1947 г. была адменена карткавая сістэма. У 1947—1950 гг. цэны на тавары масавага ўжытку зніжаліся пяць разоў.

З'явіліся масавыя рухі наватараў вытворчасці. Усёй краіне сталі вядомы імёны перадавікоў: П. Б. Быкава, рабочага Маскоўскага завода шліфавальных станкоў; Г. С. Барткевіча, токара Ленінградскага станкабудаўнічага завода імя Свярдлова, які вызначыўся як у гады вайны (меў 11 баявых узнагарод), так і на працоўным фронце (выканаў за адну змену 13-дзённую норму). Людзі працавалі ў напружаным рытме. На многіх заводах работа праходзіла на старым аварыйным абсталяванні, пад адкрытым небам. Савецкія людзі верылі ў перамогу сацыялізму і аддавалі ўсе сілы дзеля яе дасягнення. У кастрычніку 1947 г. быў дасягнуты даваенны ўзровень прамысловай вытворчасці. У цэлым пяцігодка была выканана за 4 гады і 3 месяцы. За гэты час удалося аднавіць і пабудаваць 6200 прадпрыемстваў (**1).

Адной з найбольш складаных задач стала аднаўленне сельскай гаспадаркі, аб'ём прадукцыі якой быў на 40 % ніжэйшы за даваенны. Сітуацыю ўскладніла засушлівае лета 1946 г., што рэзка абвастрыла харчовае пытанне. У некаторых рэгіёнах краіны не хапала прадуктаў харчавання, людзі жылі на мяжы голаду.

Галоўнай формай сельскагаспадарчай вытворчасці заставаліся калгасы. Калектывізацыя была праведзена ў заходніх абласцях БССР

і УССР, рэспубліках Прыбалтыкі. Адбылося ўзбуйненне калгасаў, значна паменшыліся індывідуальныя надзелы сялян.

У 1947 г. Вярхоўны Савет СССР прыняў два ўказы, якія прадугледжвалі ад пяці да дваццаці гадоў зняволення ў лагеры за ўсякі замах на дзяржаўную і калгасную ўласнасць, а таксама павышэнне падаткаў і збораў з даходаў сялян ад продажу іх прадукцыі на рынку. Адмоўна адбілася на ўзроўні жыцця сялян грашовая рэформа 1947 г. (**2). Разам з тым у вёску была пастаўлена значная колькасць тэхнікі, палепшаны гатункі збожжавых культур, стаў ажыццяўляцца «сталінскі план пераўтварэння прыроды», які прадугледжваў укараненне травапольных севазваротаў, пасадку полеахоўных лесапалос, будаўніцтва каналаў, вадаёмаў і г. д.

Дзякуючы працоўнаму подзвігу савецкіх людзей у пачатку 1950-х гг. удалося дасягнуць даваеннага ўзроўню развіцця сельскай гаспадаркі.

Поспехі СССР у аднаўленні разбуранай вайной эканомікі маглі быць больш значнымі, калі б СССР атрымаў дапамогу згодна з планам Маршала. Аднак урад ЗША патрабаваў ад Савецкага Саюза палітычных уступак, што і вымусіла кіраўніцтва СССР адмовіцца ад атрымання амерыканскіх крэдытаў.

**Грамадска>палітычнае жыццё.** У першыя пасляваенныя гады ў СССР прайшла рэарганізацыя дзяржаўных органаў у адпаведнасці з новымі ўмовамі. Быў ліквідаваны Дзяржаўны камітэт абароны (ДКА). У лютым 1946 г. адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Яго сесія ў сакавіку 1946 г. прыняла Закон аб чацвёртым пяцігадовым плане




Святкаванне 70годдзя І. В. Сталіна. 1949 г.

(1946—1950) і Закон аб пераўтварэнні Савета Народных Камісараў СССР у Савет Міністраў СССР. Яго старшынёй быў зацверджаны І. В. Сталін. У гэтыя гады краіну ахапіў новы патрыятычны ўздым. Савецкія людзі ганарыліся перамогай над фашызмам і імкнуліся хутчэй аднавіць народную гаспадарку.

У пасляваенныя гады ў вышэйшым палітычным кіраўніцтве заставаліся прыхільнікі каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, што адбілася на далейшым развіцці краіны. У гэтых умовах працягваліся пачатыя яшчэ ў даваенны перыяд рэпрэсіі. Напрыклад, іх ахвярай быў А. А. Кузняцоў, які ў гады вайны з'яўляўся адным з арганізатараў абароны Ленінграда. У 1946 г. ён стаў сакратаром ЦК ВКП(б) і адказваў за работу з кадрамі. У 1949 г. супраць Кузняцова і яго паплечнікаў была сфабрыкавана так званая «Ленінградская справа». Па ёй праходзіў намеснік кіраўніка ўрада, вядучы эканаміст краіны М. А. Вазнясенскі, які кіраваў абароннай прамысловасцю ў гады вайны і выступаў за ўмацаванне таварна-грашовых адносін. Абвінавачаных па «Ленінградскай справе» арыштавалі якраз у той час, калі ў краіне адмянілі пакаранне смерцю. Тым не менш яны былі расстраляны.

У канцы 1940-х гг. пачалася кампанія па выкрыцці «касмапалітызму», г. зн. абыякавых адносін да айчыны і нізкапаклонства перад Захадам, узмацнілася праследаванне яўрэяў. Быў забіты вядомы акцёр С. М. Міхоэлс, арганізавана «справа» крамлёўскіх урачоў, якіх абвінавацілі ў імкненні атруціць кіраўнікоў партыі і Савецкай дзяржавы.

Пасля перамогі ў вайне ўзраслі аўтарытэт і ўплыў военачальнікаў. Аднак бязглуздыя абвінавачанні былі сфабрыкаваны супраць маршала Г. К. Жукава, якога панізілі ў пасадзе. Сталін не рашыўся арыштаваць яго, таму што Жукаў карыстаўся вельмі вялікай папулярнасцю. Рэпрэсіям падвяргаліся партыйныя, гаспадарчыя, армейскія кадры.

Кіруючая роля камуністычнай партыі ярка праявілася і ў пасляваенныя гады. Кампартыя ўзначальвала і актывізавала грамадска-палітычнае жыццё краіны. У кастрычніку 1952 г. адбыўся XIX з'езд партыі. Ён перайменаваў Усесаюзную камуністычную партыю (бальшавікоў) — ВКП(б) у Камуністычную партыю Савецкага Саюза (КПСС). Генеральным сакратаром партыі зноў стаў І. В. Сталін.

**Навука і культура ў пасляваенныя гады.** На развіцці адукацыі, навукі і культуры ў 1945—1953 гг. адбіліся наступствы вайны. Вялізным быў матэрыяльны ўрон. Яшчэ больш страшнымі сталі людскія страты.

Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці, савецкая навука працягвала развівацца. Значных поспехаў удалося дасягнуць у галіне фізікі. Так, пад кіраўніцтвам І. В. Курчатава было адкрыта спантаннае дзяленне ядраў урану, распачаты даследаванні ў галіне мірнага выкарыстання атамнай энергіі, створана атамная зброя. У **жніўні 1949 г.** на палігоне ў Сяміпалацінскай вобласці прайшлі выпрабаванні першай савецкай атамнай бомбы.

Разам з тым стрымліваючым фактарам развіцця навукі з'яўлялася дзейнасць некаторых ілжэвучоных, напрыклад, такіх, як Т. Дз. Лысенка. Ён і яго прыхільнікі поўнасцю адмаўлялі навуку генетыку як «ідэалістычную» і «буржуазную». У выніку развіццё біялогіі і генетыкі спынілася на шмат гадоў.

Вялікіх поспехаў дасягнула школьная адукацыя. Да 1950 г. была адноўлена сетка школ, і іх колькасць стала перавышаць даваенны ўзровень. Такая ж сітуацыя склалася і з настаўніцкімі кадрамі.



Акадэмік І. В. Курчатаў (першы справа) у адной з лабараторый Інсты тута атамнай энергіі

У галіне літаратуры і мастацтва асноватворнымі былі прынцып партыйнасці і метад сацыялістычнага рэалізму. Пераважала тэматыка, якая ўслаўляла гераізм аднаўлення краіны і адлюстроўвала станоўчыя бакі грамадскага жыцця.

У гэтыя гады з'явіліся кнігі, прысвечаныя тэме вайны, рабочаму класу, калгаснай вёсцы. Сярод іх — «Аповесць пра сапраўднага чалавека» Б. Палявога, «Журбіны» У. Кочатава, «Бітва ў дарозе» Г. Нікалаевай, «Першыя радасці» і «Незвычайнае лета» К. Федзіна.

Атмасфера, што панавала ў грамадстве, прывяла да барацьбы супраць заходняга ўплыву ў айчыннай культуры, якую ўзначаліў член Палітбюро, сакратар ЦК ВКП(б) А. А. Жданаў.

Сумную вядомасць набыла Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб часопісах „Звезда" і „Ленинград"», прынятая ў 1946 г. Галоўнымі аб'ектамі крытыкі сталі Г. Ахматава і М. Зошчанка. Нападкам за «фармалізм у музыцы» падвергліся кампазітары С. Пракоф'еў — аўтар патрыятычнай оперы «Вайна і мір» і Дз. Шастаковіч — аўтар Сёмай сімфоніі, створанай у блакадным Ленінградзе, а таксама М. Мяскоўскі і А. Хачатуран. Аддзел агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б) абвінаваціў выдавецтва «Советский писатель» у перавыданні кніг І. Ільфа і Я. Пятрова «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цяля», якія «ганьбілі савецкую рэчаіснасць і дзяржаўны апарат».

**Знешняя палітыка СССР.** Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны сітуацыя ў свеце карэнным чынам змянілася. Былыя саюзнікі СССР па антыгітлераўскай кааліцыі пачалі распрацоўваць планы нападу на Савецкі Саюз з прымяненнем атамнай зброі. Адносіны, якія склаліся ў пасляваенны перыяд паміж капіталістычнымі і сацыялістычнымі краінамі, прынята называць «халоднай вайной».

Ва ўмовах двухполюснага свету савецкае кіраўніцтва лічыла, што для забеспячэння бяспекі краіны неабходна ў бліжэйшы час стварыць уласную зброю масавага знішчэння як процівагу палітыцы «атамнай дубінкі», якая праводзілася з боку ЗША. Разам з тым Савецкі Саюз прадэманстраваў магчымасць мірнага суіснавання дзяржаў з рознымі палітычнымі сістэмамі. Так, у 1948 г. быў заключаны Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе з Фінляндыяй.

Няпроста складваліся адносіны СССР з Югаславіяй, якая займала па шэрагу пытанняў самастойныя пазіцыі. У 1948 г. паміж імі адбыўся канфлікт. Яго прычынай стала сутыкненне поглядаў двух кіраў-

нікоў — І. В. Сталіна і І. Броз Ціта. У гэты час у Югаславіі сфарміраваўся культ асобы Ціта, які не падпарадкаваўся патрабаванням сталінскага кіраўніцтва і заявіў пра магчымасць для югаслаўскай дзяржавы будаваць сацыялізм паводле ўласнага ўзору. У адказ Савецкі Саюз адклікаў сваіх саветнікаў з краіны і разгарнуў антыюгаслаўскую кампанію.

У канцы 1940-х гг. асаблівым чынам складваліся ўзаемаадносіны СССР і Польшчы, дзе існавала ўзброенае падполле, звязанае з былым эмігранцкім урадам у Лондане і Арміяй Краёвай. Яно выступіла супраць таго, каб урад нацыянальнага адзінства, створаны дзякуючы падтрымцы СССР, праводзіў прасавецкую палітыку. Савецкі бок аказаў дапамогу органам мясцовай улады пры падаўленні супраціўлення ўзброенага падполля.

СССР аказваў вялікую падтрымку антыфашысцкім пераўтварэнням і народна-дэмакратычным рэвалюцыям у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У канцы 1940-х гг. утварылася сусветная сацыялістычная сістэма на чале з СССР. У студзені 1949 г. Савецкі Саюз і шэраг сацыялістычных краін стварылі Савет Эканамічнай Узаемадапамогі (СЭУ).

Савецкі Саюз у гэтыя гады ішоў у авангардзе барацьбы народаў за мір і раззбраенне. У 1950 г. Стакгольмскую адозву Пастаяннага камітэта Сусветнага кангрэса прыхільнікаў міру падпісала 115,5 млн савецкіх людзей. У сакавіку 1951 г. Вярхоўны Савет СССР прыняў Закон аб абароне міру. Прапаганда вайны аб'яўлялася найцяжэйшым злачынствам, за якое прадугледжвалася крымінальнае пакаранне.

**Дадатковы матэрыял**

****1. Аднаўленне народнай гаспадаркі**

Камуністычная партыя звярнулася з заклікам да савецкага народа разгарнуць барацьбу за паспяховае ажыццяўленне чацвёртай пяцігодкі. Хуткімі тэмпамі адраджалася ўсесаюзная качагарка — Данбас. Нягледзячы на каласальныя разбурэнні, у рэкордныя тэрміны быў узняты з руін Днепрагэс. Ужо ў сакавіку 1947 г. адбыўся пуск першай чаргі станцыі. Пасля аднаўлення Днепрагэс стаў вырабляць больш электраэнергіі, чым усе электрастанцыі дарэвалюцыйнай Расіі. Да канца пяцігодкі ўступілі ў строй усе электрастанцыі Прыдняпроўя, Данбаса, Кіева, Харкава, Крывога Рога, Краснадара,

Варонежа, Бранска і іншых гарадоў. Зноў запрацавалі гіганты металургіі і машынабудавання Поўдня. Поўным ходам ішло аднаўленне і развіццё прамысловасці ў рэспубліках і абласцях, якія ўвайшлі ў склад СССР напярэдадні вайны.

****2. З дакладной запіскі ЦК ВКП(б) «Аб правядзенні грашо>вай рэформы». 1947 г.**

«…Абмену будуць падлягаць банкаўскія і казначэйскія білеты на суму каля 60 млрд рублёў. Пры абмене грошай у суадносінах пяць да аднаго грашовая маса паменшыцца на 48 млрд рублёў і на рукі насельніцтву будзе выдадзена 12 млрд рублёў грашовымі знакамі новага ўзору».

**Пытанні і заданні**

1. У чым заключаўся патрыятычны ўздым савецкіх людзей у гады чацвёртай пяцігодкі і якія вынікі яе выканання? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
2. Якімі былі ўмовы жыцця пасляваеннага пакалення савецкіх людзей?
3. Ахарактарызуйце сітуацыю, якая склалася ў галіне сельскай гаспадаркі.
4. Ахарактарызуйце грамадскапалітычнае жыццё ў СССР у 1945—1953 гг.
5. Якія фактары вызначалі асноўныя кірункі развіцця навукі і культуры ў СССР у першыя пасляваенныя гады?

## § 12. ПЕРШЫЯ СПРОБЫ РЭФАРМАВАННЯ ПАЛІТЫЧНАГА КУРСУ СССР

**Успомніце**

Якая палітычная сітуацыя існавала ў СССР у 1945—1953 гг.?

**Смерць Сталіна і перамены ў грамадска>палітычным жыцці СССР.** **5 сакавіка 1953 г.** памёр І. В. Сталін. Культ асобы Сталіна настолькі глыбока ўкараніўся ў свядомасці мільёнаў савецкіх людзей, што яны шчыра смуткавалі, калі даведаліся пра яго смерць. Цела Сталіна змясцілі ў маўзалеі побач з У. І. Леніным (у 1961 г. яно было перапахавана каля Крамлёўскай сцяны). Са смерцю Сталіна скон-




Пахаванне І. В. Сталіна

чылася цэлая эпоха ў гісторыі савецкай грамадска-палітычнай сістэмы.

Пасля І. В. Сталіна ў выніку барацьбы за ўладу Першым сакратаром ЦК КПСС стаў М. С. Хрушчоў.

Па яго ініцыятыве ў СССР пачаўся працэс дэсталінізацыі. Ён азначаў ліквідацыю тых парушэнняў законнасці, якія былі дапушчаны пры Сталіне. У свядомасці мільёнаў савецкіх людзей трывала замацавалася перакананне, што ўсе перамогі і дасягненні звязаны з імем правадыра. Таму выкрыццё культу асобы Сталіна патрабавала ад Хрушчова ўзяць на сябе вялікую палітычную адказнасць. Ён быў упэўнены, што створаная ў СССР сістэма ў асноўным справядлівая і ў цэлым гуманная, здольная прадэманстраваць усяму чалавецтву дасягненні Краіны Саветаў у эканоміцы і духоўным жыцці.

## Штрыхі да палітычнага партрэта

**М. С. Хрушчоў (1894—1971)**



Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў нарадзіўся ў сям'і селянінабедняка ў Курскай губерні. У мала досці працаваў шахцёрам. Уступіў у партыю бальшавікоў у 1918 г. У 1938 г. стаў Пер шым сакратаром ЦК КП(б) Украіны, аднача сова ў 1944—1947 гг. — Старшыня Савета Міністраў УССР. У галодным 1946 г. Хру шчоў не пабаяўся (хаця і беспаспяхова) па прасіць у Сталіна паменшыць план хлеба нарыхтовак ва Украіне. У **верасні 1953 г.** стаў Першым сакратаром ЦК КПСС, у 1958—1964 гг. адначасова з'яў ляўся Старшынёй Савета Міністраў СССР. Пленумам ЦК КПСС 14 каст рычніка 1964 г. быў вызвалены ад абавязкаў Першага сакратара ЦК КПСС і члена Прэзідыума ЦК КПСС.



Г. М. Малянкоў

У **1956 г.** адбыўся XX з'езд КПСС, на якім М. С. Хрушчоў выступіў з дакладам аб выкрыцці культу асобы І. В. Сталіна. Хрушчоў не закранаў перад дэлегатамі з'езда пытанне пра сваё асабістае дачыненне да рэпрэсій. Віну за іх ён ускладаў на Сталіна і кіраўнікоў органаў унутраных спраў — М. І. Яжова, Л. П. Берыю. І хаця тэкст даклада не быў апублікаваны, яго агульная скіраванасць стала вядомая грамадству. Выкрыццё культу асобы Сталіна і асуджэнне неабгрунтаваных рэпрэсій атрымалі назву *«курс XX з'езда»*. Ён меў вялікае станоўчае значэнне. Па патрабаванні Хрушчова была паскорана працэдура рэабілітацыі — вызвалення і перагляду спраў рэпрэсіраваных.

Аднак некаторыя вышэйшыя службовыя асобы на чале з В. М. Молатавым, Г. М. Малянковым і іншымі былі незадаволены палітыкай М. С. Хрушчова. Таму ў 1957 г. яны зрабілі спробу зняць яго. Але Хрушчова падтрымаў Г. К. Жукаў, які займаў у той час пост міністра абароны. Пасля гэтага ў руках Хрушчова сканцэнтравалася вялізная ўлада: ён быў не толькі Першым сакратаром ЦК КПСС, але і Старшынёй Савета Міністраў СССР (з 1958 г.).

**Хрушчоўская «адліга».** Перыяд, які ахоплівае 1956—1964 гг., увайшоў у гісторыю як *хрушчоўская «адліга»*. У гэты час пачаўся працэс рэфармавання грамадства пры захаванні марксісцка-ленінскай ідэалогіі і адміністрацыйна-каманднай сістэмы кіравання.

Працэс дэсталінізацыі праходзіў паступова, а ў барацьбе са спадчынай культу асобы Сталіна спачатку выкарыстоўваліся яго ж метады. Так, Л. П. Берыі быў вынесены смяротны прысуд як шпіёну замежных спецслужбаў і «ворагу Камуністычнай партыі і савецкага народа». XX з'езд КПСС паслужыў магутным імпульсам працэсу рэабілітацыі, а таксама ўнёс змяненні ў ідэалагічную канцэпцыю партыі. На з'ездзе ўпершыню было заяўлена пра магчымасць пабудовы сацыялізму рознымі шляхамі, пра прынцып мірнага суіснавання як аснову савецкай знешняй палітыкі. Былі адноўлены ў правах народы, якія падвергліся *дэпартацыі*. Так, у пачатку 1957 г. была вернута скасаваная ў гады вайны аўтаномія балкарскаму, чэчэнскаму, інгушскаму, калмыцкаму і карачаеўскаму народам.




Ва ўмовах хрушчоўскай «адлігі» сфарміравалася пакаленне «шасцідзесятнікаў» — людзей, якія выступалі за дэмакратызацыю савецкага грамадска-палітычнага ладу. У сувязі з пачаткам праследаванняў маскоўскай інтэлігенцыі з'явіліся *дысідэнты* — члены грамадства, якія інакш думалі і выступалі супраць уладарання КПСС. Вядомымі дысідэнтамі былі П. Р. Грыгарэнка, У. К. Букоўскі, Ю. М. Даніэль, А. Д. Сіняўскі і інш.

У час кіравання краінай М. С. Хрушчовым крыху зменшыўся ўплыў адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Саюзным рэспублікам давалася права ствараць на сваёй тэрыторыі новыя краі і вобласці. У Статуце партыі з'явіўся пункт, паводле якога ніхто не мог займаць выбарную пасаду больш чым тры тэрміны запар.

У пачатку 1959 г. адбыўся XXI з'езд КПСС, на якім было заяўлена, што ў СССР сацыялізм атрымаў поўную і канчатковую перамогу. З'езд

зацвердзіў сямігадовы план развіцця народнай гаспадаркі (1959—1965).

У **1961 г.** на XXII з'ездзе КПСС была прынята новая Праграма партыі, у якой ставілася за мэту пабудаваць камунізм у СССР на працягу 20 гадоў, а да 1970-х гг. дагнаць і перагнаць ЗША па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва. Стаў папулярным лозунг «Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме». У 1961 г. быў прыняты Маральны кодэкс будаўніка камунізму (**1). Але камунізм, як вядома, праз 20 гадоў так і не надышоў.

У кастрычніку 1964 г. на пленуме ЦК КПСС палітыка Хрушчова была ахарактарызавана як *валюнтарызм,* г. зн. было прызнана, што яна не адпавядала тагачаснай рэальнасці, не ўлічвала аб'ектыўных заканамернасцей развіцця грамадства. М. С. Хрушчоў быў вызвалены ад пасад, якія ён займаў.

**Развіццё ўзаемаадносін СССР з краінамі сусветнай суполь> насці.** У справаздачным дакладзе М. С. Хрушчова на XX з'ездзе КПСС прагучала нямала палажэнняў, якія для таго часу па-новаму ацэньвалі міжнародную сітуацыю. Было заяўлена, што мірнае суіснаванне дзяржаў — гэта не часовы тактычны ход, а нязменная палітычная лінія СССР. Важным быў вывад пра магчымасць прадухілення войнаў у сучасным свеце. У дакладзе Хрушчова таксама прагучала думка аб мірным, парламенцкім шляху прыходу да ўлады камуністычных партый.

У 1950-я гг. пасля смерці І. В. Сталіна ў некаторых краінах Усходняй Еўропы адбыліся выступленні часткі насельніцтва, скіраваныя супраць сацыялістычнага ладу. Вельмі абвастрылася сітуацыя ў Венгрыі восенню 1956 г. Венгерскае кіраўніцтва страціла кантроль над падзеямі. Урад, які прыйшоў да ўлады, заняў рэфармісцкія пазіцыі, распусціў камуністычную партыю. Венгрыя заявіла аб сваім выхадзе з АВД. Савецкія войскі пакінулі Будапешт і іншыя гарады краіны. У гэтых умовах створаны пад кантролем СССР новы часовы рабоча-сялянскі ўрад Венгрыі на чале з Я. Кадарам звярнуўся да савецкага ўрада з просьбай зноў увесці савецкія войскі ў краіну. З дапамогай СССР спроба змены існуючага ладу ў Венгрыі была спынена.

СССР прызнаў новы ўрад Кубы на чале з Ф. Кастра, які прыйшоў да ўлады ў выніку перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі. Спробы кубінскіх контрас (контррэвалюцыянераў) пры падтрымцы ЗША



Ф. Кастра з М. С. Хрушчовым у час візіту ў Маскву. 1963 г.

звергнуць урад Ф. Кастра прымусілі кіраўніцтва СССР падумаць аб мерах, якія маглі б стрымліваць дзеянні Злучаных Штатаў.

Восенню 1959 г. М. С. Хрушчоў сустракаўся з прэзідэнтам ЗША Д. Эйзенхаўэрам. На гэтай сустрэчы абмяркоўваліся праблемы раззбраення і «германскае пытанне». Аднак чарговая сустрэча былых саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі, прызначаная на май 1960 г., не адбылася. У час святкавання 1 Мая ў 1960 г. савецкія ракетчыкі збілі ў раёне Урала амерыканскі самалёт-шпіён, які парушыў паветраную прастору СССР. Гэтая падзея была выкарыстана савецкім бокам як падстава для зрыву сустрэчы.

СССР, ЗША, Англія і Францыя ніяк не маглі знайсці ўзаемаразумення па «германскім пытанні». У жніўні 1961 г. урад ГДР па ўзгадненні з СССР прыняў рашэнне ўзвесці загароды вакол Заходняга Берліна і ўстанавіць кантрольна-прапускныя пункты. У хуткім часе была збудавана Берлінская сцяна, якая падзяліла горад на дзве часткі. Гэтая падзея яшчэ больш абвастрыла сітуацыю, якая ледзь не закончылася ўзброеным канфліктам паміж СССР і ЗША. Становішча ў Берліне яшчэ доўгі час заставалася напружаным, пакуль у 1971 г. не было падпісана чатырохбаковае пагадненне паміж СССР, ЗША, Англіяй і Францыяй аб асобым статусе Заходняга Берліна.

Восенню 1960 г. дэлегацыя на чале з М. С. Хрушчовым прымала ўдзел у рабоце Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку. Савецкі бок унёс прапанову аб правядзенні ўсеагульнага і поўнага раззбраення,

Камунізм — гэта бяскласавы грамадскі лад з адзінай агульнанароднай уласнасцю на сродкі вытворчасці... дзе разам з усебаковым развіццём людзей вырастуць і прадукцыйныя сілы на аснове пастаяннага развіцця навукі і тэхнікі, усе крыніцы грамадскага багацця пальюцца поўным пато кам і ажыццявіцца вялікі прынцып: „Ад кожнага — па здольнасцях, кожна му — па патрэбнасцях“.

Пры камунізме... знікнуць... адрозненні паміж горадам і вёскай... З пе рамогай камунізму... работнікі фізічнай працы... узнімуцца да ўзроўню людзей разумовай працы».

КПСС ставіла сабе за мэту забяспечыць усебаковае гарманічнае развіццё асобы, якая спалучае ў сабе духоўнае багацце, маральную чысціню, фізічную дасканаласць. Праграма партыі фармулявала Маральны кодэкс будаўніка камунізму. Ён уключаў такія маральныя прынцыпы, як адда насць справе камунізму, любоў да сацыялістычнай Радзімы, да краін са цыялізму; добрасумленная праца на карысць грамадства; клопат кожнага пра захаванне і памнажэнне грамадскага набытку; высокае ўсведамленне грамадскага абавязку, нецярпімасць да парушэнняў грамадскіх інтарэсаў; калектывізм і таварыскую ўзаемадапамогу: кожны за ўсіх і ўсе за аднаго; гуманныя адносіны і ўзаемная павага паміж людзьмі: чалавек чалавеку — сябар, таварыш і брат; сумленнасць і праўдзівасць, маральную чысціню і сціпласць у грамадскім і асабістым жыцці.

## Пытанні і заданні

1. Які перыяд называюць хрушчоўскай «адлігай» і ў чым яна заключалася? Пры адказе выкарыстайце паняцце *«курс XX з’езда»*.
2. Ці можна лічыць выкрыццё культу асобы Сталіна ўчынкам, які патрабаваў грамадзянскай мужнасці ад М. С. Хрушчова?
3. Чаму палітыка М. С. Хрушчова была ахарактарызавана як валюнтарызм?
4. Вызначце гістарычнае значэнне палітыкі «адлігі» з дапамогай успамінаў М. С. Хрушчова: «Няўжо камунебудзь магло прысніцца, што мы можам сказаць Сталіну, што ён нас не задавальняе, і прапанаваць яму пайсці ў ад стаўку? Ад нас бы мокрага месца не засталося. Цяпер усё інакш».
5. Ахарактарызуйце ўзаемаадносіны СССР з ЗША і Кубай, Венгрыяй, Кітаем у перыяд хрушчоўскай «адлігі».

# § 13. РАЗВІЦЦЁ ЭКАНОМІКІ І КУЛЬТУРЫ Ў СССР У КАНЦЫ 1950-х — СЯРЭДЗІНЕ 1960-х гг.

**Успомніце**

Што азначае тэрмін «навукова-тэхнічная рэвалюцыя»?

**Развіццё прамысловасці. Выкарыстанне дасягненняў НТР у эканоміцы.** Змена палітычнага курсу ў СССР прывяла да перамен у эканамічным развіцці краіны. Аднак кіраўніцтву Савецкага Саюза, якое абвясціла ў канцы 1950-х гг. поўную і канчатковую перамогу сацыялізму, не ўдалося правесці глыбокія эканамічныя рэформы. Перавагі сацыялізму разглядаліся як раз і назаўсёды дадзеныя, здольныя самі па сабе забяспечыць развіццё і працвітанне савецкага грамадства. Кіруючая партыя краіны прытрымлівалася камандна-адміністрацыйных прынцыпаў кіравання эканомікай.

У гады знаходжання ва ўладзе М. С. Хрушчова была праведзена гаспадарчая рэформа. Згодна з ёй міністэрствы як органы кіравання адпаведнымі галінамі эканомікі былі заменены Саветамі народнай гаспадаркі. Саўнаргасы кіравалі развіццём прамысловасці ў межах вобласці або рэспублікі. Аднак рэформа чаканых вынікаў не пры-



Каля пульта кіравання Обнінскай атамнай электрастанцыі. 1957 г.

несла, а прывяла толькі да блытаніны ў кіраванні народнай гаспадаркай.

У 1950-я гг. была зроблена спроба далейшага ўздыму эканомікі краіны на аснове дасягненняў НТР. У гэты час з'явіліся новыя станкі, машыны, прыборы і аўтаматы, канвеерныя лініі на вытворчасці. У 1954 г. была пабудавана першая ў свеце атамная электрастанцыя ў Обнінску. У 1950-я гг. быў уведзены ў эксплуатацыю атамны ледакол «Ленін», новыя пасажырскія самалёты, створаныя ў канструктарскім бюро А. М. Тупалева. Пачалася электрыфікацыя чыгунак. Развівалася вытворчасць мінеральных угнаенняў на прадпрыемствах хімічнай вытворчасці. Разгарнулася масавая вытворчасць халадзільнікаў і тэлевізараў. З'явіліся новыя формы сацыялістычнага спаборніцтва, у тым ліку рух за званне брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы (**1).

Да сярэдзіны 1960-х гг. тэмпы росту прамысловасці сталі замаруджвацца. Гэта было звязана і з увядзеннем саўнаргасаў, і з пераводам большасці рабочых са здзельнай аплаты, якая ажыццяўлялася па рэальных выніках працы, на пагадзінную, г. зн. за фактычна адпрацаваны час.

Важнае значэнне для паляпшэння матэрыяльных умоў жыцця савецкага народа мела масавае жыллёвае будаўніцтва. Да сярэдзіны 1960-х гг. мільёны савецкіх людзей атрымалі кватэры, якія ў народзе празвалі «хрушчоўкамі». І хаця гэтае жыллё было не зусім камфартабельным, яно дазволіла многім перабрацца з камунальных кватэр і баракаў у асобныя кватэры. Таксама палепшылася пенсійнае забеспячэнне пажылых людзей, былі ўведзены пенсіі для калгаснікаў.



Будаўніцтва жылога дома. Масква. 1960 г.

**Развіццё сельскай гаспадаркі.** У канцы 1950-х — сярэдзіне 1960-х гг. у СССР узнікла праблема забеспячэння насельніцтва прадуктамі першай неабходнасці — мясам, малаком, хлебам. У сувязі з гэтым былі праведзены пераўтварэнні ў галіне сельскай гаспадаркі, зроблена спроба павялічыць колькасць збожжа за кошт асваення цалінных і абложных зямель

Казахстана, Сібіры, Урала, Паволжа. Сюды па закліку партыі і камсамола ў 1954 г. прыбыло больш за паўмільёна чалавек, у асноўным моладзь. У гэтым жа годзе звыш 40 % усяго збожжа ў СССР было атрымана дзякуючы асваенню цаліны. Усёй краіне стаў вядомы подзвіг Л. Картаузава, які загінуў на цаліне ў час вясенняй паводкі пры спробе выратаваць трактар, што праваліўся пад лёд. Пасля смерці ў яго кішэні знайшлі пасведчанне Героя Савецкага Саюза. Гэтую ўзнагароду ён атрымаў яшчэ на вайне.

М. С. Хрушчоў прапанаваў сваё вырашэнне аграрнай праблемы. Знаходзячыся ў 1959 г. з візітам у ЗША, ён быў здзіўлены ўраджаямі кукурузы на палях фермераў штата Аява. Пасля вяртання на радзіму Хрушчоў з вялікім запалам стаў укараняць яе ў савецкую сельскую гаспадарку. Вырошчванне кукурузы ў тых раёнах, дзе яна поўнасцю выспявала і затым выкарыстоўвалася ў якасці кармавой культуры, сапраўды дапамагло справіцца з праблемамі ў сельскай гаспадарцы. Аднак планы сяўбы кукурузы атрымалі практычна ўсе гаспадаркі, незалежна ад кліматычных умоў, у якіх яны знаходзіліся. Гэта не адпавядала векавому вопыту і традыцыям вядзення сельскай гаспадаркі. Вынікі такой практыкі былі мізэрнымі.

У ходзе «разгорнутага камуністычнага будаўніцтва» ўлады павялі наступленне на асабістыя падсобныя гаспадаркі. У калгаснікаў абразаліся зямельныя ўчасткі, прымусова выкуплялася жывёла.

Нягледзячы на распачатыя меры, сельская гаспадарка да сярэдзіны 1960-х гг. апынулася на мяжы крызісу. Былі ўведзены харчовыя карткі і павышаны цэны на асноўныя прадукты харчавання. Выявіліся памылкі, дапушчаныя пры апрацоўцы глеб у час асваення цаліны, калі ўрадлівы пласт на вялікіх прасторах быў знесены пыльнымі бурамі. Празмернае ўгнаенне глебы прывяло да яе забруджвання. Дала знаць аб сабе і кукуруза, якая насаджалася паўсюдна. Хрушчоў, жадаючы дабіцца станоўчых вынікаў, не ўлічваў таго, што для іх дасягнення неабходна зыходзіць з рэальнага становішча спраў.

Няўдачы ў сельскай гаспадарцы прывялі да пагаршэння харчовага забеспячэння гарадскога насельніцтва. Гэта, у сваю чаргу, выклікала павышэнне цэн на прадукты. Неўраджай 1963 г. абвастрыў праблему забеспячэння насельніцтва хлебам. Каб справіцца з гэтай праблемай, давялося скарыстаць стратэгічныя запасы збожжа і тэрмінова закупляць яго за мяжой. Хлебны гандаль у краіне амаль год

знаходзіўся ў цяжкім стане. У многіх раёнах, асабліва паўднёвых, упершыню пасля 1947 г. былі ўведзены талоны на хлеб. Павышэнне цэн на харчовыя тавары і валюнтарысцкая палітыка, якая праводзілася М. С. Хрушчовым, прывялі да незадаволенасці сярод насельніцтва і сацыяльных канфліктаў. Найбольш трагічныя падзеі адбыліся ў чэрвені 1962 г. у г. Новачаркаску Растоўскай вобласці, дзе выступленне мясцовых жыхароў было падаўлена. Загінула больш за 20 чалавек, было асуджана звыш 100 чалавек, з іх 7 асуджана да расстрэлу.

**Развіццё савецкай навукі і культуры. Новыя з'явы ў жыцці савецкіх людзей.** Вялікіх поспехаў дасягнула савецкая навука. Урад укладваў вялізныя сродкі ў развіццё касманаўтыкі і ракетабудавання. Але гэтыя сродкі выкарыстоўваліся галоўным чынам у мэтах павышэння абараназдольнасці краіны. У гэтыя гады ў свядомасці савецкіх людзей умацаваўся рамантычны вобраз вучонага-даследчыка. Тады яшчэ нічога не гаварылася пра няўдачы першых выпрабаванняў і аварыі на атамных аб'ектах, не паведамлялася і пра небяспеку, якую нясе масавае асваенне ядзернай энергіі.

4 кастрычніка 1957 г. у СССР упершыню ў свеце быў ажыццёўлены запуск штучнага спадарожніка Зямлі. **12 красавіка 1961 г.** упершыню ў свеце з касмадрома Байканур стартаваў касмічны карабель «Усход» з чалавекам на борце. Ім стаў грамадзянін СССР, ваенны лётчык Ю. А. Гагарын. Паведамленне аб палёце чалавека ў космас з радасцю было сустрэта ва ўсім свеце. Стваральнікам касмічнага ка-



Касманаўты Ю. А. Гагарын (справа) і П. Р. Паповіч на Краснай плошчы ў Маскве



Кадр з фільма «Лёс чалавека». С. Бандарчук у ролі Андрэя Сакалова. 1959 г.

рабля і галоўным яго канструктарам быў С. П. Каралёў. У пачатку 1960-х гг. адбыўся яшчэ цэлы шэраг касмічных палётаў. У 1963 г. стартаваў касмічны карабель «Усход-6», які пілатавала першая ў свеце жанчына-касманаўт В. У. Церашкова. Касмічныя даследаванні і асваенне космасу садзейнічалі развіццю эканомікі СССР і ўмацаванню абараназдольнасці краіны.

Хрушчоўская «адліга» зрабіла дабратворны ўплыў на развіццё народнай адукацыі і культуры. Была адменена плата за навучанне ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. У 1950-х гг. у асноўным завяршыўся пераход да абавязковай усеагульнай сямігадовай адукацыі. Колькасць сярэдніх школ павялічылася ўдвая. У пачатку 1960-х гг. атрымалі распаўсюджанне школы рабочай моладзі. Адкрываліся новыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, у тым ліку і універсітэты. У той час адукацыя насіла політэхнічны характар. Падрыхтоўка выпускнікоў і якасць іх ведаў былі звязаны з развіццём у СССР індустрыяльнага грамадства. Ад выпускніка школы патрабавалася не толькі валодаць неабходнымі ведамі, але і быць добра падрыхтаваным да вытворчай працы на карысць грамадства.

У літаратуры асновай мастацкай творчасці заставаўся метад сацыялістычнага рэалізму. Галоўнай тэмай твораў гэтага перыяду стаў гераізм савецкіх людзей, праяўлены ў час вайны і ў цяжкія пасляваенныя гады. Яна знайшла сваё адлюстраванне, напрыклад, у апавяданні «Лёс чалавека» М. Шолахава. Вялікай папулярнасцю карысталіся творы Я. Смелякова, А. Фадзеева, К. Сіманава. Светлай памяці загінуўшых у баях з фашыстамі былі прысвечаны фільмы «Ляцяць журавы» М. Калатозава, «Балада пра салдата» Р. Чухрая, «Лёс чалавека» С. Бандарчука. Вернасць і адданасць Радзіме і партыі апеты ў фільме «Камуніст» рэжысёра Ю. Райзмана. У 1950-х гг. адбылося першае выкананне оперы С. Пракоф’ева «Вайна і мір», балета А. Хачатурана «Спартак».

Разам з тым ва ўмовах хрушчоўскай «адлігі» з’явіліся новыя тэмы ў мастацтве. У гэты перыяд былі напісаны смелыя для таго часу творы.

Сярод іх — паэма А. Твардоўскага «За даллю — даль» (**2), верш Я. Еўтушэнкі «Нашчадкі Сталіна».

Блакаднікам Ленінграда былі прысвечаны вершы і паэмы В. Бергольц. Яна сама перажыла блакаду і захавала ў якасці рэліквіі 125-грамовую пайку хлеба.

У 1957 г. публічнаму ганьбаванню падвергся раман У. Дудзінцава «Не хлебам адзіным». У ім аўтар ставіў пытанні гонару і годнасці чалавека, асуджаў сталінскія рэпрэсіі. Сапраўдным узрушэннем для мільёнаў савецкіх людзей стала аповесць А. Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», апублікаваная ў 1962 г. У ёй апавядалася пра жыццё зняволеных у лагерах і асуджаліся рэпрэсіі. Варта адзначыць, што М. С. Хрушчоў спрыяў выхаду гэтай кнігі і нават публічна адобрыў яе вылучэнне на прысуджэнне Ленінскай прэміі. Аднак прэмію Салжаніцыну так і не прысудзілі, а Хрушчоў да гэтага пытання больш не вяртаўся.

А. Салжаніцын

У жывапісе яркай з’явай сталі партрэты вядомых людзей, напісаныя мастаком П. Дз. Корыным, гісторыка-рэвалюцыйныя палотны С. В. Герасімава. У галіне скульптуры былі створаны помнікі М. Г. Чарнышэўскаму і У. У. Маякоўскаму (скульптар А. П. Кібальнікаў) і скульптурныя ансамблі («Перакуем мячы на аралы», помнік-ансамбль на Мамаевым кургане ў Валгаградзе), аўтарам якіх быў Я. В. Вучэціч.

## Дадатковы матэрыял

****1. Уздым творчай актыўнасці працоўных**

Усёй краіне сталі вядомы імёны М. Я. Мамая, брыгадзіра шахты «Паўночная» Варашылаўградскай вобласці, які выступіў ініцыятарам руху за штодзённае перавыкананне зменных нормаў, брыгадзіра Вышневалоцкага баваўнянага камбіната В. І. Гаганавай, якая перайшла ў адстаючую брыгаду, каб, выкарыстаўшы свой вопыт, вывесці яе ў перадавыя. Новым у сацыялістычным спаборніцтве за званне брыгад і ўдзельнікаў камуністычнай працы з’явілася тое, што ў ім удзельнічалі не толькі перадавікі вытворчасці, але і цэлыя прадпрыемствы, а таксама калектывы асобных галін прамысловасці.

****2. З паэмы А. Твардоўскага «За даллю — даль»**

...Когда кремлевскими стенами
Живой от жизни огражден,
Как грозный дух он был над нами —
Иных не знали мы имен...
Так это было: четверть века
Призывом к бою и труду
Звучало имя человека
Со словом «Родина» в ряду...

**Пытанні і заданні**

1. Прывядзіце прыклады ўздыму эканомікі ў СССР на аснове дасягненняў НТР і поспехаў савецкай навукі ў асваенні космасу.
2. Якімі былі новыя формы сацыялістычнага спаборніцтва і чаму яно было звязана з рухам за камуністычную працу? Пры адказе выкарыстайце да датковы матэрыял да параграфа.
3. Дакажыце, што ў галіне сельскай гаспадаркі пры М. С. Хрушчове прымяня ліся валюнтарысцкія метады кіравання.
4. Чаму школьная адукацыя насіла політэхнічны характар?
5. Пералічыце творы літаратуры і мастацтва, прысвечаныя тэме Вялікай Ай чыннай вайны.
6. Пра якую з'яву пісаў А. Твардоўскі ў паэме «За даллю — даль»? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.

## § 14. УНУТРАНАЯ І ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА СССР У СЯРЭДЗІНЕ 1960>х — ПАЧАТКУ 1980>х гг.

**Успомніце**

Што азначае тэрмін «пражская вясна»?

**Асаблівасці палітычнага жыцця СССР.** Пасля зняцця ў **1964 г.** М. С. Хрушчова Першым сакратаром ЦК КПСС быў абраны Л. І. Брэжнеў. У 1977 г. ён стаў яшчэ і Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Фармальна гэты пост быў вышэйшай дзяржаўнай пасадай у Савецкім Саюзе.

**Штрыхі да палітычнага партрэта**



**Л. І. Брэжнеў (1906—1982)**

Леанід Ільіч Брэжнеў нарадзіўся ва Украіне ў сям'і рабочага. У гады вайны быў палітработнікам. У 1950—1952 гг. Першы сакратар ЦК КП(б) Малдавіі. З 1953 г. намеснік начальніка Галоўнага палітупраўлення Савецкай Арміі і ВМФ. У 1954—1956 гг. Другі сакратар, Першы сакратар ЦК КП Казахстана. У 1952—1953, 1956—1960, 1963—1964 гг. сакратар ЦК КПСС. У 1964 г. выступіў адным з арганізатараў зняцця М. С. Хрушчова. Старшыня Савета Абароны СССР. Першы (1964—1966) і Генеральны (1966—1982) сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР (1960—1964, 1977—1982). Кантраляваў ажыццяўленне касмічнай праграмы ў СССР.

Асаблівасцю палітычнага жыцця савецкага грамадства заставалася аднапартыйнасць. Камуністычная партыя Савецкага Саюза з'яўлялася кіруючай і накіроўваючай сілай грамадства. Яна праводзіла работу па разгортванні сацыялістычнага спаборніцтва, арганізацыі выбараў у мясцовыя Саветы і Вярхоўны Савет СССР, падрыхтоўцы новай Канстытуцыі.

Кіраўніцтва КПСС у канцы 1960-х гг. зрабіла вывад аб пабудове «развітога сацыялізму» ў СССР, што было афіцыйна замацавана ў рашэннях XXIV з'езда партыі ў 1971 г.

У **1977 г.** была прынята новая Канстытуцыя СССР, у якой заканадаўча замацоўвалася роля партыі як «кіруючай і накіроўваючай сілы савецкага грамадства», «ядра палітычнай сістэмы». Колькасць членаў КПСС павялічылася з 12,4 млн у 1966 г. да 18,3 млн у 1985 г. Камуністычная партыя фактычна ператварылася ў дзяржаўную арганізацыю. КПСС падпарадкоўваліся прафесійныя саюзы, Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі, Усесаюзная піянерская арганізацыя імя У. І. Леніна. Канстытуцыя зафіксавала пабудову «развітога сацыялізму» і стварэнне «агульнанароднай дзяржавы» ў СССР (**1). У ёй таксама было сказана пра ўзнікненне новай гістарычнай супольнасці — савецкага народа. У гэтыя гады ў СССР умацаваўся братэрскі саюз рэспублік.




Адкрыццё XXVI з'езда КПСС. 1981 г.

У сярэдзіне 1980-х гг. у склад СССР уваходзілі 15 саюзных рэспублік: Азербайджанская, Армянская, Беларуская, Грузінская, Казахская, Кіргізская, Латвійская, Літоўская, Малдаўская, РСФСР, Таджыкская, Туркменская, Узбекская, Украінская і Эстонская. На тэрыторыі вялікай краіны пражывала больш за 270 млн чалавек — прадстаўнікі звыш 100 нацый і народнасцей. На думку афіцыйнага кіраўніцтва краіны, у СССР было ў прынцыпе вырашана нацыянальнае пытанне і адбылося фактычнае выраўноўванне рэспублік па ўзроўні сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця.

**Знешняя палітыка СССР.** У 1970-я гг. паміж СССР і ЗША ўстанавілася раўнавага ў галіне ўзбраенняў. У 1971 г. у СССР была прынята «Праграма міру». Яна прадугледжвала забарону ядзернай, хімічнай, бактэрыялагічнай зброі, ядзернае раззбраенне ўсіх дзяржаў, якія валодалі ім, спыненне гонкі ўзбраенняў.

У выніку візітаў прэзідэнта ЗША Р. Ніксана ў Маскву і Л. І. Брэжнева ў ЗША ў пачатку 1970-х гг. былі падпісаны «Асновы ўзаемаадносін паміж СССР і ЗША». У «Пагадненні аб прадухіленні ядзернай вайны» ўпершыню было сфармулявана палажэнне, што ў ядзернай вайне не можа быць пераможцаў. У **1972 г.** паміж СССР і ЗША быў падпісаны дагавор АСУ-1 (аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў). **18 чэрвеня 1979 г.** Л. І. Брэжнеў і прэзідэнт ЗША Дж. Картэр падпісалі новы дагавор аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў (АСУ-2).

**Штрыхі да палітычнага партрэта**

**А. Дз. Сахараў (1921—1989)**



Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў — фізіктэарэтык, грамадскі дзеяч, акадэмік АН СССР (1953). Тройчы Герой Сацыялістычнай Працы. Адзін са стваральнікаў вадароднай бомбы ў СССР у 1953 г. З канца 1950х гг. актыўна выступаў за спыненне выпрабаванняў ядзернай зброі, за мірнае суіснаванне дзяржаў, супраць парушэння правоў чалавека, асуджаў увод войскаў у Чэхаславакію. У адкрытым пісьме Л. І. Брэжневу А. Дз. Сахараў пісаў пра яго асабістую адказнасць як грамадзяніна за трагічныя падзеі, звязаныя з уводам войскаў у Афганістан. Ён падкрэсліваў, што афганскія падзеі «кардынальна змянілі палітычнае становішча ў свеце. Яны паставілі пад удар разрадку, стварылі прамую пагрозу міру не толькі ў гэтым раёне, але і ўсюды…». Акадэмік патрабаваў вываду савецкіх войскаў з Афганістана і вырашэння гэтай праблемы ў ААН. У студзені 1980 г. А. Дз. Сахараў быў пазбаўлены ўсіх дзяржаўных узнагарод. Вернуты са ссылкі ў 1986 г., у 1989 г. абраны народным дэпутатам СССР, прапанаваў праект новай канстытуцыі краіны.

Найважнейшым кірункам савецкай знешняй палітыкі было далейшае пашырэнне супрацоўніцтва з сацыялістычнымі краінамі. Першапачаткова савецкае кіраўніцтва падтрымала працэс абнаўлення грамадства ў Чэхаславакіі, які пачаўся ў 1968 г. Група А. Дубчака ў Кампартыі Чэхаславакіі выступіла за сацыялізм «з чалавечым тварам», г. зн. дэмакратызацыю сацыялістычнага ладу.

21 жніўня 1968 г. войскі пяці дзяржаў — членаў АВД — СССР, ГДР, Польшчы, Венгрыі і Балгарыі ўступілі на тэрыторыю Чэхаславакіі. У Савецкім Саюзе ў сувязі з чэхаславацкімі падзеямі прайшла незвычайная дэманстрацыя, у якой удзельнічала толькі восем чалавек. Дэманстранты размясціліся на Краснай плошчы і разгарнулі лозунгі «Рукі прэч ад ЧССР!», «Ганьба акупантам!», «За нашу і вашу свабоду!».

Калі перыяд 1960-х — сярэдзіны 1970-х гг. характарызаваўся значнай міжнароднай актыўнасцю, якая прывяла да разрадкі напружанасці, то з канца 1970-х да сярэдзіны 1980-х гг. пачаўся новы, небывалы да гэтага этап гонкі ўзбраенняў. Да сярэдзіны 1980-х гг.

удасканальванне і нарошчванне ядзернай і звычайнай зброі дасягнула крытычнай адзнакі. Запасы ядзерных узбраенняў былі здольны знішчыць цывілізацыю некалькі дзесяткаў разоў. У ЗША пачалася падрыхтоўка праграмы «зорных войнаў». СССР быў уцягнуты ў новы віток гонкі ўзбраенняў, неабходна было ўмацоўваць бяспеку краіны.

Пралікам у знешняй палітыцы стаў увод у канцы 1979 г. абмежаванага кантынгенту савецкіх войскаў у Афганістан пасля неаднаразовых зваротаў афганскага кіраўніцтва за дапамогай да СССР. Такое рашэнне было прынята некалькімі членамі Палітбюро ЦК КПСС на чале з Л. І. Брэжневым. Савецкае кіраўніцтва растлумачыла сваё рашэнне жаданнем дапамагчы дружалюбнаму афганскаму народу. Яно падкрэслівала, што Афганістан з'яўляецца паўднёвым суседам СССР, і ў выпадку ўзмацнення на гэтай тэрыторыі ўплыву ЗША там могуць быць устаноўлены амерыканскія ракеты.

У выніку ваенных дзеянняў на тэрыторыі Афганістана загінула каля 15 тыс. савецкіх салдат, 35 тыс. атрымалі раненні. Супраць уводу войскаў у Афганістан рашуча выступілі дысідэнты на чале з акадэмікам А. Дз. Сахаравым.

## Дадатковы матэрыял

****1. З Канстытуцыі СССР 1977 г.**

«...У СССР пабудавана развітое сацыялістычнае грамадства. На гэтым этапе, калі сацыялізм развіваецца на сваёй уласнай аснове, усё паўней раскрываюцца стваральныя сілы новага ладу, перавагі сацыялістычнага спосабу жыцця, працоўныя ўсё шырэй карыстаюцца здабыткамі вялікіх рэвалюцыйных заваёў... Найвышэйшая мэта Савецкай дзяржавы — пабудова бяскласавага камуністычнага грамадства...»

## Пытанні і заданні

1. У чым заключаліся асаблівасці грамадскапалітычнай сістэмы ў СССР? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
2. Ці можна сцвярджаць, што ў СССР нацыянальнае пытанне ў прынцыпе было вырашана? Свой адказ аргументуйце.
3. У чым заключалася «Праграма міру» і якія вынікі яе рэалізацыі?
4. Якімі былі адносіны ў СССР да падзей 1968 г. у Чэхаславакіі?
5. Чаму, на думку А. Дз. Сахарава, увод абмежаванага кантынгенту савецкіх войскаў у Афганістан паставіў пад удар разрадку напружанасці?

# § 15. САЦЫЯЛЬНА>ЭКАНАМІЧНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ САВЕЦКАГА ГРАМАДСТВА Ў СЯРЭДЗІНЕ 1960>х — ПАЧАТКУ 1980>х гг.

**Успомніце**

У чым праявілася хрушчоўская «адліга» ў сферы культуры?

**Новыя гаспадарчыя рэформы ў сярэдзіне 1960>х гг.** З вясны 1965 г. пачалі ажыццяўляцца эканамічныя рэформы, якія звязваюць з імем Старшыні Савета Міністраў СССР А. М. Касыгіна. Ён улічваў некаторыя рыначныя механізмы рэгулявання эканомікі. У аснову рэформаў была пакладзена ідэя спалучэння цэнтралізаванага кіравання эканомікай з элементамі рынку і гасразліку, хаця ў цэлым рэформы не закраналі асновы існуючай сістэмы вядзення народнай гаспадаркі.

Былі скасаваны Саветы народнай гаспадаркі і адноўлена галіновае кіраванне. Адным з галоўных паказчыкаў работы прадпрыемстваў стаў аб’ём рэалізаванай прадукцыі. Скарацілася (да пяці) колькасць планавых паказчыкаў, якія ўводзіла дзяржава. Для стымулявання вытворчасці і работнікаў на прадпрыемствах за кошт адлічэнняў ад прыбытку былі створаны спецыяльныя фонды: фонд матэрыяльнага заахвочвання, фонд сацыяльна-культурнага і бытавога развіцця (будаўніцтва жылля, клубаў, дамоў адпачынку і інш.), фонд самафінансавання вытворчасці. У галіне сельскай гаспадаркі былі праведзены мерапрыемствы па павышэнні матэрыяльнай і фінансавай зацікаўленасці калгаснікаў у выніках сваёй працы.



А. М. Касыгін

Аднак да пачатку 1970-х гг. рэформа пайшла на спад. Міністэрствы павялічвалі колькасць планавых паказчыкаў (да некалькіх сотань), абмяжоўвалі гаспадарчую самастойнасць прадпрыемстваў. Валавыя паказчыкі зноў занялі вядучае месца.

**Эканамічнае развіццё Савецкай краіны ў другой палове 1960>х — пачатку 1980>х гг.** Эканамічная рэформа прынесла станоўчыя

вынікі. Пачаўся новы ўздым эканомікі краіны. Былі ўведзены ў дзеянне Брацкая і Краснаярская ГЭС, нафтаздабыўныя комплексы ў Цюменскай вобласці, Волжскі аўтамабільны завод (ВАЗ) у Тальяці, завод па вытворчасці велікагрузных аўтамабіляў (КамАЗ) у Набярэжных Чаўнах, металургічны камбінат у Карагандзе. У 1970-х гг. пачалося будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі (БАМ), ці «будоўлі веку», як яе тады называлі, стварэнне ў Сібіры тэрытарыяльна-вытворчых комплексаў, асваенне Нечарназёмнай зоны РСФСР. Вялікі ўклад у эканамічнае развіццё краіны зрабіла савецкая моладзь. Камсамольцы з’яўляліся ўдарнай сілай у ходзе будаўніцтва многіх народнагаспадарчых аб’ектаў (**1).

Восьмая (1966—1970) і дзевятая (1971—1975) пяцігодкі — гэта перыяды найбольш стабільнага развіцця савецкай эканомікі. Паводле афіцыйных даных, аб’ём прамысловай прадукцыі павялічыўся на 50 %. У перыяд дзесятай пяцігодкі (1976—1980) прыярытэтнае развіццё зноў атрымалі галіны цяжкай індустрыі, перш за ўсё абаронная прамысловасць. Вытворчасць ваеннай тэхнікі на машынабудаўнічых прадпрыемствах дасягнула ўзроўню 60 % ад усёй прадукцыі, якую яны выпускалі.

У гэтыя гады СССР выйшаў на перадавыя рубяжы сацыяльна-эканамічнага развіцця, значна ўзрос дабрабыт народа. Савецкі Саюзператварыўся ў магутную індустрыяльную дзяржаву (**2).




Будаўніцтва БАМа



Гатовая прадукцыя Волжскага аўтамабільнага завода

У 1970-я гг. за мяжу прадавалася вялікая колькасць неперапрацаванай нафты. Прыток выручанай валюты дазваляў доўгі час падтрымліваць стабільнасць эканомікі. На мяжы 1970—1980-х гг. рэзка панізіліся сусветныя цэны на нафту. Гэта негатыўна адбілася на фінансавым становішчы СССР, які быў адным з галоўных яе экспарцёраў на сусветным рынку.

**Поспехі і праблемы ў развіцці сельскай гаспадаркі.** Другая палова 1960-х і 1970-я гг. былі самымі спрыяльнымі і выніковымі для сельскай гаспадаркі СССР. Насельніцтва краіны было забяспечана асноўнымі прадуктамі харчавання.

У сакавіку 1965 г. былі ўведзены цвёрдыя планы закупак сельгаспрадукцыі на некалькі гадоў наперад, павышаны закупачныя цэны на збожжавыя культуры і жывёлу. Уведзена была таксама гарантаваная аплата працы калгаснікаў, прыняты меры, якія маглі павысіць матэрыяльную зацікаўленасць, зняты абмежаванні ў вядзенні асабістых гаспадарак.

Аднак рэформы ў сельскай гаспадарцы аказаліся няўдалымі. Калгасы не падвергліся рэфармаванню. Вялізныя сродкі, укладзеныя ў развіццё сельскай гаспадаркі, былі патрачаны крайне нерацыянальна. Напрыклад, хімізацыя прывяла да забруджвання глеб хімічнымі ўгнаеннямі, будаўніцтва гіганцкіх свінагадоўчых комплексаў выклікала цяжкасці ў перапрацоўцы іх прадукцыі. Актыўна праводзілася *меліярацыя* — асушэнне забалочаных зямель і будаўніцтва арашаль-

ных каналаў у бязводных мясцовасцях. Але яна была праведзена неэфектыўна і разаральна для краіны. Недасканалай была і сістэма фінансавання дзяржавай сельскай гаспадаркі, пры якой урад падтрымліваў непрыбытковыя гаспадаркі.

У канцы 1970-х — пачатку 1980-х гг. у СССР узнікла харчовая праблема. У 1982 г. была распрацавана «Харчовая праграма», якая, як меркавалі, выведзе сельскую гаспадарку з застою. Але яна не закранула галоўнага — матэрыяльнай зацікаўленасці сялян у выніках сваёй працы, таму не дала чаканага эфекту.

Павелічэнне памераў капіталаўкладанняў і паставак тэхнікі сялу не спыніла нарастання праблем у сельскай гаспадарцы. З канца 1970-х і асабліва ў 1980-я гг. з мэтай інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці сталі ствараецца аграпрамысловыя аб'яднанні, камбінаты, аграфірмы. У іх склад былі ўключаны калгасы і саўгасы, прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны і тэхнічных культур, арганізацыі транспарту і гандлю. Аднак гэтыя мерапрыемствы не вырашылі праблему адставання сельскай гаспадаркі, хаця і палепшылі становішча ў вёсцы ў шэрагу рэгіёнаў краіны.

**Цяжкасці ў развіцці эканомікі СССР.** Да пачатку 1960-х гг. у СССР быў створаны магутны індустрыяльны і навуковы патэнцыял. Паводле даных ЮНЕСКА, у 1960 г. СССР па навуковым патэнцыяле займаў 2—3-е месца ў свеце. Адбыліся змены ў структуры нацыянальнага валавога даходу: доля сельскай гаспадаркі зменшылася да 24 %, а доля прамысловасці і будаўніцтва павялічылася да 42 %. Цяжкая індустрыя і абаронная прамысловасць развіваліся паспяхова, але некаторыя галіны лёгкай прамысловасці, пазбаўленыя прытоку навейшых тэхналогій, адставалі.

У канцы 1960-х — пачатку 1970-х гг. СССР апярэджваў ЗША па ўзроўні вытворчасці вугалю, коксу, цэменту, трактароў, але значна ўступаў па выпуску прадметаў ужытку, неабходных для насельніцтва. Сур'ёзна адставаў і аграрны сектар эканомікі. СССР меў больш за палову сусветных плошчаў урадлівых чарназёмных зямель, але так і не змог у поўнай меры вырашыць праблему забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання. На долю СССР у 1970-х гг. прыходзілася ўсяго 4 % ад аб'ёму сусветнага гандлю.

Павелічэнне расходаў на нерэнтабельную сельскую гаспадарку, грандыёзныя праграмы па «пераўтварэнні прыроды» (асваенне

Сібіры, уздым Нечарназем'я), «будоўлі веку» (БАМ і інш.) пакрываліся даходамі ад павелічэння паставак нафты і газу ў Еўропу.

На мяжы 1970—1980-х гг. тэмпы эканамічнага росту ў СССР знізіліся. У гэты час аказаліся вычарпанымі магчымасці экстэнсіўнай гаспадаркі, звязанай з развіццём вытворчасці за кошт яе пашырэння, г. зн. колькасных фактараў. Вялізным быў бюракратычны апарат. У 1985 г. налічвалася 18 млн кіраўнікоў рознага ўзроўню — шостая частка ўсіх занятых у вытворчасці. Пагоршылася дэмаграфічная сітуацыя. Зніжэнне нараджальнасці насельніцтва прывяло да скарачэння прытоку працоўных рэсурсаў. Выявілася адставанне ад сусветнай НТР у развіцці мікраэлектронікі, інфарматыкі, робататэхнікі, біятэхналогій. Павялічыліся дзяржаўныя расходы на падтрымку сацыяльнай сферы, развіццё абаронных галін, эканамічную і ваенную дапамогу знешнепалітычным саюзнікам, вядзенне вайны ў Афганістане.

У той жа час склалася неспрыяльная эканамічная сітуацыя на сусветным рынку. Рэзка ўпала цана на нафту — найважнейшы прадукт савецкага экспарту. Пакрываць бюджэтныя выдаткі на сацыяльныя патрэбы за кошт паступлення так званых нафтадолараў, атрыманых ад продажу сырой нафты, стала немагчыма. Пагоршылася харчовае забеспячэнне, па-ранейшаму вострай была праблема дэфіцыту жылля. З сярэдзіны 1980-х гг. узровень жыцця насельніцтва СССР пачаў падаць.



Цырымонія закрыцця XXII летніх Алімпійскіх гульняў у Маскве. 1980 г.



Савецкія паэты (злева направа): Я. Еўтушэнка, Б. Акуджава, А. Вазнясенскі, Р. Раждзественскі

**Развіццё савецкай культуры ў 1965—1985 гг.** У гэты перыяд значна ўмацавалася матэрыяльная база для развіцця культуры. Павялічылася колькасць агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, вышэйшых навучальных устаноў, новых тэатраў, музеяў, бібліятэк, клубаў. Пачалося будаўніцтва тэлецэнтра ў Астанкіне. Да XXII Алімпійскіх гульняў, якія праводзіліся ў Маскве ў **1980 г.,** былі ўзведзены сучасныя спартыўныя збудаванні.

Як і ў папярэднія гады, у савецкім грамадстве вялікай папулярнасцю карысталіся творы, прысвечаныя ваеннай тэматыцы, напрыклад, раманы Ю. Бондарава «Гарачы снег», І. Стаднюка «Вайна», вершы Ю. Друнінай, кінафільмы «А зоры тут ціхія...» С. Растоцкага, «Яны змагаліся за Радзіму» С. Бандарчука, «Вызваленне» Ю. Озерава, тэлесерыял «Семнаццаць імгненняў вясны» Т. Ліёзнавай, дакументальны фільм «Звычайны фашызм» М. Рома.

Былі створаны таксама кінастужкі «Масква слязам не верыць» У. Мяньшова і «Службовы раман» Э. Разанава, якія адлюстроўвалі прыватнае жыццё простага савецкага чалавека. У мастацкіх фільмах рэжысёраў С. Герасімава, В. Шукшына, Э. Разанава, М. Міхалкова, С. Растоцкага закраналіся глыбокія маральныя і філасофскія праблемы. Адным з лепшых майстроў жанру кінакамедыі стаў кінарэжысёр Л. Гайдай («Брыльянтавая рука», «Іван Васільевіч мяняе прафесію» і інш.).

«Вясковую» тэму разглядалі ў сваіх кнігах П. Праскурын, Б. Мажаеў, В. Распуцін, В. Шукшын. Гераічнай абароне горада на Няве



У. Высоцкі

прысвяціла свае творы В. Бергольц. Тэму духоўнасці ў сваёй творчасці закраналі Ч. Айтматаў і Г. Траяпольскі. Праблемы грамадзянскасці, маралі, міжнароднай палітыкі аналізаваліся ў вершах і паэмах Я. Еўтушэнкі, Б. Ахмадулінай, Р. Раждзественскага (**3) і інш.

У рэпертуары савецкіх тэатраў і кіно былі шырока прадстаўлены класічныя творы А. Чэхава, А. Астроўскага, а таксама п'есы, напісаныя савецкімі аўтарамі.

1970-я гг. сталі часам так званай «магнітафоннай рэвалюцыі». Масавае распаўсюджанне атрымалі запісаныя на магнітафонную плёнку песні Б. Акуджавы, А. Галіча, У. Высоцкага, якія карысталіся ўсеагульнай папулярнасцю.

У гэтыя гады захаваўся ўплыў дзяржавы на пытанні культурнага развіцця краіны. У 1969 г. з Саюза пісьменнікаў СССР выключылі А. Салжаніцына, і ён быў вымушаны выехаць за мяжу. Такі ж лёс напаткаў і кінарэжысёра А. Таркоўскага, тэатральнага рэжысёра Ю. Любімава.

## Дадатковы матэрыял

### **1. Студэнцкія будаўнічыя атрады



Цесная сувязь камсамола з жыццём моладзі выявілася ў многіх пачынаннях, у тым ліку ў арганізацыі студэнцкіх будаўнічых атрадаў. Менавіта ў 1960х гг. з'явілася такое паняцце, як «трэці семестр», якое адлюстравала масавы характар новага руху студэнцкай моладзі. Най больш шырокія маштабы гэты рух прыняў у га ды восьмай пяцігодкі. У дні летніх канікулаў 1969 г. у будатрадах працавала ўжо 270 тыс. студэнтаў, прычым яны не толькі ўдзельнічалі ў будаўніцтве жылых дамоў, фермаў, прамысловых аб'ектаў, але і актыўна дапамагалі сельскім школам, шэфствавалі над падлеткамі, стваралі агітбрыгады і да т. п.

****2. Дасягненні ў развіцці народнай гаспадаркі**

Адметнай асаблівасцю эканомікі развітога сацыялізму было шырокае стварэнне тэрытарыяльнапрамысловых комплексаў як эфектыўнай формы арганізацыі прамысловай вытворчасці, найперш у раёнах з высокай канцэнтрацыяй прыродных рэсурсаў і энергетычных магчымасцей. Гэта наблізіла прамысловасць да сыравінных і працоўных рэсурсаў, скараціла выдаткі, звязаныя з перавозкай грузаў і перамяшчэннем рабочай сілы.

Брацкі, Краснаярскі, ІркуцкаЧарамхоўскі і іншыя комплексы былі ўтвораны на базе энергіі наймагутнейшых электрастанцый, пабудаваных у 1950—1960х гг. на Ангары, Енісеі і іншых сібірскіх рэках. На базе Краснаярскай ГЭС узнік прамысловы горад Дзіўнагорск з насельніцтвам 50 тыс. чалавек, на базе Вілюйскай ГЭС было створана 200 прамысловых прадпрыемстваў. Гэты працэс развіваўся і ў раёнах Сярэдняй Азіі.

За 10 гадоў (1961—1970) СССР падвоіў свой нацыянальны даход. Для дасягнення падобнага выніку ЗША спатрэбілася 20 гадоў, Англіі — звыш 30, ФРГ — амаль 15 гадоў. Каб павялічыць у 2 разы аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі, ЗША патрацілі 18 гадоў, Англія — 22, ФРГ — звыш 11 гадоў, у той час як Савецкі Саюз дабіўся гэтага за 8,5 года.

****3. З верша Р. Раждзественскага «Могілкі Сен>Жэнеўеў>дзю>Буа», прысвечанага белай эміграцыі**

Здесь похоронены сны
и молитвы,
слезы и доблесть:
«прощай» и «ура!».
Штабскапитаны
и гардемарины,
хватыполковники
и юнкера.
Белая гвардия, белая стая,
белое воинство,
белая кость.
Влажные камни травой
зарастают.
Русские буквы —
французский погост...

### Пытанні і заданні

1. У чым заключалася эканамічная рэформа 1965 г.?
2. Чаму будаўніцтва БАМа называлі «будоўляй веку»? Пры адказе выкарыстайце картасхему на с. 102.
3. Дакажыце, што СССР у выніку выканання восьмай і дзевятай пяцігодак ператварыўся ў індустрыяльную дзяржаву. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
4. Як рэзкае падзенне сусветных цэн на нафту адбілася на фінансавым становішчы СССР?
5. Чаму ў СССР былі цяжкасці з забеспячэннем насельніцтва прадуктамі харчавання?
6. Назавіце прычыны зніжэння тэмпаў эканамічнага росту ў СССР на мяжы 1970—1980х гг.
7. Падрыхтуйце паведамленні пра творчасць дзеячаў савецкай культуры ў 1965—1985 гг.

## § 16. ПЕРАБУДОВА Ў СССР. ПОШУК ШЛЯХОЎ ДАЛЕЙШАГА РАЗВІЦЦЯ КРАІНЫ

### Успомніце

У чым заключаліся асноўныя тэндэнцыі сацыяльнаэканамічнага развіцця СССР на мяжы 1970—1980х гг.?

**Красавіцкі паварот 1985 г.** Пасля смерці Л. І. Брэжнева ў 1982 г. кіраўніком краіны стаў Ю. У. Андропаў (1914—1984). Гэта быў чалавек незвычайнага розуму. У 1967—1982 гг. ён узначальваў Камітэт дзяржаўнай бяспекі СССР, у час «будапешцкай восені» быў паслом СССР у Венгрыі. У 1982 г. стаў Генеральным сакратаром ЦК КПСС, аднак прабыў на гэтай пасадзе толькі 14 месяцаў, з якіх больш як палову з-за хваробы быў прыкаваны да ложка.


Ю. У. Андропаў

Ю. У. Андропаў лічыў, што выхад з цяжкага становішча, у якім апынулася краіна з прычыны «застою», магчымы шляхам навядзення жорсткага парадку, умацавання дысцыпліны, бараць-

бы з парушэннямі законнасці. Аднак эканамічных пераўтварэнняў у краіне фактычна праведзена не было.

Пасля смерці Ю. У. Андропава ў 1984 г. яго пост заняў К. У. Чарненка, да таго часу ўжо цяжка хворы. Ён вярнуўся да палітыкі брэжнеўскіх часоў. Перыяд яго кіравання краінай гісторыкі назвалі «мінізастоем», які працягваўся крыху больш за год. Пасля яго смерці на пост Генеральнага сакратара ЦК КПСС у **сакавіку 1985 г.** быў абраны М. С. Гарбачоў.

Паваротным пунктам у савецкай гісторыі стаў красавіцкі 1985 г. Пленум ЦК КПСС. На ім Гарбачоў паставіў пытанне аб зменах у грамадскім і эканамічным жыцці краіны, абнаўленні сацыяльна-эканамічнага ладу і духоўнай сферы грамадства. Ён верыў, што ад сацыялізму адмаўляцца нельга, але яго неабходна мадэрнізаваць і абнавіць.

Гарбачова падтрымала асноўная маса радавых членаў партыі і частка вышэйшага партапарату. У галіне эканомікі перад краінай стаяла задача пераадолець застой і зніжэнне тэмпаў росту вытворчасці. Быў вызначаны курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы і павышэнне дабрабыту народа.

У знешняй палітыцы было распрацавана *новае палітычнае мысленне.* Яно прадугледжвала адмаўленне ад чорна-белага бачання

**Штрыхі да палітычнага партрэта**

**М. С. Гарбачоў (нарадзіўся ў 1931 г.)**



Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў нарадзіўся ў Стаўрапольскім краі. У юнацтве працаваў памочнікам камбайнера. За высокія намалоты збожжа атрымаў ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Скончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. У 1966—1968 гг. Першы сакратар Стаўрапольскага гаркома КПСС. З 1970 г. Першы сакратар Стаўрапольскага крайкома КПСС. У 1978—1985 гг. сакратар ЦК КПСС. Генеральны сакратар ЦК КПСС у 1985—1991 гг. Старшыня Вярхоўнага Савета СССР у 1989—1990 гг. Прэзідэнт СССР у 1990—1991 гг. Са снежня 1991 г. прэзідэнт Міжнароднага фонду сацыяльнаэканамічных і паліталагічных даследаванняў («Гарбачоўфонд»). Удастоены Нобелеўскай прэміі міру за 1990 г.

ПЕРАБУДОВА Ў СССР (1985—1991). УТВАРЭННЕ СНД (1991)




свету (капіталізм — сацыялізм) і прызнанне таго, што існуюць агульначалавечыя каштоўнасці, якія аб’ядноўваюць усіх людзей.

Палітыка, пачатая Гарбачовым, атрымала ў гісторыі назву *перабудовы.* Перш за ўсё яна адбілася на ўнутрыпалітычным жыцці СССР. У 1987 г. быў аб’яўлены пераход да палітыкі *галоснасці.* Газеты і часопісы сталі публікаваць крытычныя матэрыялы па гісторыі савецкага грамадства і сучасным грамадска-палітычным жыцці. Пачалася рэабілітацыя партыйных дзеячаў 1920—1930-х гг. — М. І. Бухарына, А. І. Рыкава і іншых ахвяр рэпрэсій.

Аднак ажыццявіць курс перабудовы аказалася далёка не так проста. Узнікла неабходнасць рэфармавання ўсёй савецкай грамадска-палітычнай сістэмы, і найперш абнаўлення партыі. З гэтай мэтай у маі 1989 г. у Маскве адкрыўся I з’езд народных дэпутатаў СССР (**1). Але большасць дэлегатаў з’езда з’яўляліся прыхільнікамі захавання старой палітычнай сістэмы, што не дало магчымасці ініцыятарам радыкальных рэформаў правесці свае рашэнні.

У 1990 г. нечарговы З’езд народных дэпутатаў СССР абраў першым прэзідэнтам СССР М. С. Гарбачова. У гэтым жа годзе быў адменены 6-ы артыкул Канстытуцыі СССР, які замацоўваў кіруючую і накіроўваючую ролю КПСС у грамадстве. Розныя падыходы да перспектыў развіцця СССР абумовілі з’яўленне ў краіне шматпартыйнасці.

Цяпер многія гісторыкі прыходзяць да думкі, што красавіцкі паварот 1985 г. быў прагрэсіўнай і разам з тым драматычнай падзеяй. Сам Гарбачоў і яго прыхільнікі не мелі яшчэ поўнага ўяўлення аб шляхах рэфармавання савецкага грамадства. Гэтым тлумачыцца адсутнасць зладжаных дзеянняў і памылкі, якія былі дапушчаны ў ходзе перабудовы.

**Стан эканомікі краіны.** Да сярэдзіны 1980-х гг. развіццё савецкай эканомікі не толькі спынілася, але і пайшло на спад. Эканамічныя цяжкасці першапачаткова спрабавалі пераадолець з дапамогай адміністрацыйна-камандных метадаў, аднак гэта не прынесла чаканых вынікаў. У 1985—1989 гг. былі праведзены некаторыя мерапрыемствы, каб пераадолець спад эканомікі. Была ўведзена арэнда, створаны кааператывы і фермерскія гаспадаркі, дазволена індывідуальная працоўная дзейнасць.

Аднак гэтыя меры не закранулі асновы эканомікі — уласнасці. Эканамічнае становішча пагаршалі мільярдныя расходы на ваенна-прамысловы комплекс, тысячы незавершаных будоўляў і ўраўняльная сістэма аплаты працы. Для паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця ў краіне патрабавалася правесці радыкальную эканамічную рэформу, каб перайсці да рынкавай эканомікі.

**26 красавіка 1986 г.** адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Кіраўніцтва КПСС некаторы час утойвала маштабы катастрофы і яе наступствы, што адыграла фатальную ролю ў лёсе соцень тысяч людзей. Гэта аварыя нанесла вялізны ўрон эканоміцы краіны.

У 1989 г. пачаўся масавы забастовачны рух шахцёраў. Прычынай стала дрэннае забеспячэнне шахцёрскіх рэгіёнаў харчовымі і прамысловымі таварамі. Шахцёры былі абураны нізкай аплатай працы, невыкананнем тэхнікі бяспекі, частымі выпадкамі гібелі людзей на вытворчасці. У хуткім часе забастоўкі ў СССР сталі звычайнай з'явай і набылі палітычны характар. Асабліва вострай была харчовая праблема. У многіх рэспубліках звыклымі сталі талоны на прадукты. Не атрымала шырокага распаўсюджання развіццё фермерскіх і кааператыўных гаспадарак на вёсцы. Становішча заставалася вельмі нестабільным. У эканамічным жыцці краіны адбывалася абясцэньванне рубля, павышэнне цэн, рост унутранага і знешняга дзяржаўнага доўгу.

**Новае палітычнае мысленне і галоснасць.** За пасляваенныя дзесяцігоддзі свет карэнным чынам змяніўся. Ён перажыў і «халодную вайну», і гонку ўзбраенняў. М. С. Гарбачоў зрабіў вывад аб неабходнасці рашучага павароту ў знешняй палітыцы да новага мыслення, якое дапускала права свабоды выбару кожным народам свайго ўласнага шляху развіцця.

У канцы 1989 г. на тэрыторыі Усходняй Еўропы ўзнялася сапраўдная палітычная бура. Падзеі ў Венгрыі, Балгарыі, ГДР, Польшчы, Чэхаславакіі атрымалі агульную назву «аксамітных рэвалюцый», таму што ў большасці гэтых краін мірным шляхам да ўлады прыйшлі антыкамуністычныя сілы. СССР не стаў перашкаджаць «аксамітным рэвалюцыям» і аб'яднанню Германіі. У 1989—1990 гг. сусветная сацыялістычная сістэма перастала існаваць.



Вывад савецкіх войскаў з Афганістана. 15 лютага 1989 г.

Стабілізацыі міжнароднага становішча садзейнічалі неаднаразовыя сустрэчы М. С. Гарбачова з прэзідэнтамі ЗША Р. Рэйганам і Дж. Бушам (старэйшым). СССР у аднабаковым парадку прапанаваў спыніць выпрабаванні ядзернай зброі і знішчыць цэлы клас ракет сярэдняй і меншай дальнасці, размешчаных у еўрапейскай частцы краіны. 15 лютага 1989 г. быў завершаны




Фрагмент карціны «Вялікі эксперымент». Мастак І. Глазуноў

вывад савецкіх войскаў з Афганістана. У **1991 г.** спыніла сваё існаванне Арганізацыя Варшаўскага дагавора.

СССР прызнаў Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, прынятую яшчэ ў 1948 г. Кіраўніцтва краіны пашырала палітыку галоснасці, паступова знікалі так званыя «белыя плямы» і забароненыя тэмы ў савецкай гісторыі.

Перабудова ў СССР прывяла да змяненняў у свядомасці людзей. Палітыка галоснасці, паток раней невядомай інфармацыі, у асноўным крытычнай, зрабілі на грамадства сапраўды шокавы эфект. Асабліва востра ўспрымаліся пэўнай часткай насельніцтва рэзкія дыскусіі пра «белыя плямы» ў гісторыі.

Многія дзеячы культуры адгукнуліся на змену палітычнага курсу. Напрыклад, мастак І. Глазуноў прысвяціў некалькі сваіх грандыёзных палотнаў палітычным падзеям, што адбываліся ў Расіі і свеце з 1917 г. у ходзе будаўніцтва сацыялізму, а таксама 1000-годдзю прыняцця хрысціянства на Русі, якое адзначалася ў **1988 г.** Гэтым святкаваннем быў адкрыты новы этап ва ўзаемаадносінах дзяржавы і царквы. Дзяржава стала супрацоўнічаць з царквой.

Указам М. С. Гарбачова было вернута савецкае грамадзянства тым дзеячам культуры, якіх раней выслалі за мяжу. Так, на радзіму вярнуўся пісьменнік А. І. Салжаніцын, які выступіў з праграмай «Як нам адбудаваць Расію».

**Распад СССР і стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяр>жаў (СНД).** Да вясны 1991 г. сітуацыя ў СССР крайне абвастрылася. Перабудова не прынесла жаданых вынікаў. Нарастала незадаваль-

ненне народа. Праходзілі палітычныя забастоўкі з патрабаваннем адстаўкі М. С. Гарбачова. Яго аўтарытэт стаў імкліва падаць. У вышэйшым кіраўніцтве краіны таксама перасталі давяраць прэзідэнту і абвінавачвалі яго ў здрадзе інтарэсам СССР.

**12 чэрвеня 1990 г.** была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце РСФСР. *Дзяржаўны суверэнітэт* прадугледжваў незалежнасць краіны ва ўсіх знешніх і ўнутраных справах. Першай з савецкіх рэспублік аб сваёй незалежнасці і выхадзе з СССР заявіла Літва (сакавік 1990 г.). Гэтыя падзеі сталі пачаткам «параду суверэнітэтаў» рэспублік, якія ўваходзілі ў Савецкі Саюз. Спрабуючы захаваць у гэтых умовах СССР, М. С. Гарбачоў праводзіў падрыхтоўку да падпісання новага Саюзнага дагавора.

Некаторыя кіраўнікі СССР (Г. І. Янаеў, В. С. Паўлаў і інш.), спрабуючы прадухіліць распад дзяржавы, запатрабавалі ў Гарбачова, які знаходзіўся ў водпуску ў Крыме, дазволу на ўвядзенне на ўсёй тэрыторыі СССР надзвычайнага становішча. Аднак прэзідэнт адмовіўся выканаць гэтае патрабаванне. Раніцай **19 жніўня 1991 г.** было аб'яўлена аб хваробе Гарбачова і аб тым, што перабудова, пачатая па яго ініцыятыве, зайшла ў тупік, а ўсю паўнату ўлады ў краіне бярэ на сябе Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы (ДКНС) (**2). У Маскву былі ўведзены войскі і ажыццёўлена спроба зрабіць тое ж самае ў Ленінградзе.



На плошчы перад «Белым домам». Жнівень 1991 г. Масква

Б. М. Ельцын, абраны **12 чэрвеня 1991 г.** прэзідэнтам РСФСР, выдаў серыю ўказаў, якія характарызавалі дзеянні ДКНС як дзяржаўны пераварот. 19 жніўня 1991 г. каля будынка Вярхоўнага Савета РСФСР («Белага дома») сабраліся тысячы людзей, у асноўным моладзь. Яны падтрымалі Б. М. Ельцына. У многіх гарадах Расіі прайшлі масавыя мітынгі пратэсту супраць дзеянняў ДКНС. Частка войскаў таксама не падтрымала змоўшчыкаў. Спроба «жнівеньскага путчу» праваліласа. Яго арганізатары былі арыштаваны, а прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў вярнуўся ў Маскву.

Пасля падзей 19—21 жніўня 1991 г. указам Б. М. Ельцына дзейнасць КПСС была забаронена. М. С. Гарбачоў склаў з сябе абавязкі Генеральнага сакратара ЦК КПСС. Б. М. Ельцын разумеў, што ў сітуацыі, якая склалася, уся паўната ўлады афіцыйна належыць М. С. Гарбачову як прэзідэнту СССР, а падтрымка народа — на баку прэзідэнта Расіі. Ва ўмовах «параду суверэнітэтаў» і няўдалых спроб падпісаць новы Саюзны дагавор Б. М. Ельцын пайшоў на палітычны крок, які атрымаў у гісторыі назву *Белавежскага пагаднення.*

**8 снежня 1991 г.** у Белавежскай пушчы, у Віскулях, кіраўнікі Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны падпісалі пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД) (**3). У пагадненні заяўлялася, што «Саюз ССР як суб’ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне». Тры дзяржавы аб’ядналіся ў СНД і запрасілі ўступіць у Садружнасць савецкія рэспублікі, якія пасля падзей «жнівеньскага путчу» абвясцілі аб сваёй незалежнасці. У хуткім часе да Садружнасці далучыліся сярэднеазіяцкія рэспублікі. На алма-ацінскай сустрэчы ў снежні гэтага ж года была прынята Дэкларацыя, у якой пацвярджаўся факт спынення існавання СССР.

Да канца 1991 г. да СНД далучыліся Казахстан, Узбекістан, Таджыкістан, Туркменістан, Кыргызстан, Арменія, Малдова, Азербайджан. З пятнаццаці былых савецкіх рэспублік у склад СНД у сучасны момант уваходзяць дванаццаць (акрамя трох Прыбалтыйскіх рэспублік).

25 снежня 1991 г. М. С. Гарбачоў падпісаў указ аб зняцці з сябе паўнамоцтваў Вярхоўнага Галоўнакамандуючага і заявіў, што ён пакідае пост прэзідэнта СССР.

Наконт Белавежскага пагаднення існуе некалькі пунктаў гледжання. Адзін з іх заключаецца ў тым, што восенню 1991 г. адбылася

найвялікшая трагедыя ў савецкай гісторыі. Спыніла сваё існаванне вялікая дзяржава, якую на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ствараў і перабудоўваў шматнацыянальны савецкі народ.

Іншыя гісторыкі сцвярджаюць, што распад СССР быў цалкам заканамерны, таму што існаваць у тым выглядзе, у якім ён быў створаны ў 1922 г., Саюз ужо не мог, а падпісаць новы Саюзны дагавор не ўдалося. Пасля распаду СССР пачаўся перыяд вострых канфліктаў у розных рэгіёнах СНД.

## Дадатковы матэрыял

****1. З выступлення А. Дз. Сахарава на I з'ездзе народных дэпутатаў СССР**

«...З'езд заклікаНы абараніць дэмакратычныя прынцыпы народаўладдзя і тым самым — неабарачальнасць перабудовы і гарманічнае развіццё краіны. Я... звяртаюся да з'езда з заклікам прыняць „Дэкрэт аб уладзе“...

1. Артыкул 6 Канстытуцыі СССР адмяняецца.

2. Прыняцце законаў СССР з'яўляецца выключным правам З'езда народных дэпутатаў СССР...»

****2. Са звароту Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы ў СССР да савецкага народа. 1991 г.**

«...У цяжкі, крытычны для лёсаў Айчыны і нашых народаў час звяртаемся да вас! Над нашай вялікай Радзімай навісла смяротная небяспека! Пачатая па ініцыятыве М. С. Гарбачова палітыка рэформаў, задуманая як сродак забеспячэння дынамічнага развіцця краіны і дэмакратызацыі грамадскага жыцця, у выніку шэрагу прычын зайшла ў тупік.

…Выкарыстаўшы атрыманыя свабоды, груба зневажаючы кволыя парасткі дэмакратыі, узніклі экстрэмісцкія сілы, якія ўзялі курс на ліквідацыю Савецкага Саюза, развал дзяржавы, захоп улады любой цаной...»

****3. Заява кіраўнікоў дзяржаў Рэспублікі Беларусь, РСФСР, Украіны. 1991 г.**

«Мы, кіраўнікі Рэспублікі Беларусь, РСФСР, Украіны... усведамляючы адказнасць перад сваімі народамі і сусветнай супольнасцю і наспелую патрэбнасць у практычным ажыццяўленні палітычных і эканамічных рэформаў, заяўляем аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, пра што бакамі 8 снежня 1991 года падпісана пагадненне».

**Пытанні і заданні**

1. Пералічыце фактары, якія пагаршалі эканамічнае становішча СССР у другой палове 1980х гг.
2. Чаму некаторыя гісторыкі лічаць красавіцкі паварот 1985 г. драматычнай падзеяй у гісторыі СССР?
3. Пералічыце асноўныя кірункі палітыкі КПСС у перыяд перабудовы.
4. Якія вынікі новага палітычнага мыслення і галоснасці?
5. Чаму Дзень Расіі адзначаецца 12 чэрвеня? Пры адказе выкарыстайце паняцце *дзяржаўны суверэнітэт.*
6. Раскажыце пра жнівеньскія падзеі 1991 г. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
7. Якая гістарычная падзея атрымала назву Белавежскага пагаднення?

## § 17. РАСІЯ ПАСЛЯ РАСПАДУ СССР

**Успомніце**

Калі і якім чынам спыніў сваё існаванне СССР?

**Новыя з'явы ў жыцці Расіі.** У снежні 1991 г. Расійская Федэрацыя разам з іншымі рэспублікамі былога Саюза ўступіла на шлях самастойнага развіцця. У новых умовах перад ёй адкрываліся розныя варыянты вырашэння сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем. Аднак асноўны кірунак развіцця краіны вызначаўся агульнасусветным рухам да постіндустрыяльнага грамадства, што на практыцы азначала карэннае тэхналагічнае пераасначэнне эканомікі з адначасовай перабудовай яе структуры. У найкарацейшыя тэрміны і з мінімальнымі стратамі трэба было перайсці да рыначнай эканомікі.

Між тым кіраўніцтва Расіі і дэмакратычныя сілы, якія яго падтрымлівалі, не мелі абгрунтаванай і эфектыўнай праграмы канкрэтных эканамічных і палітычных пераўтварэнняў. Няпэўнасць далейшага развіцця эканомікі, дыскусіі аб грашовай рэформе і павышэнне цэн прывялі да таго, што насельніцтва пачало скупляць тавары першай неабходнасці. Прынятыя ўрадам меры не змаглі палепшыць сітуацыю.

Становішча ў краіне ўскладнялася таксама нарастаючай пагрозай распаду самой Расіі. Восенню 1991 г. аўтаномныя рэспублікі, якія ўваходзілі ў склад Расійскай Федэрацыі, абвясцілі сябе суверэннымі дзяржавамі. Краі і вобласці таксама пачалі барацьбу за раўнапраўе суб'ектаў Федэрацыі. У аснове гэтых рухаў ляжала жаданне распараджацца вынікамі сваёй працы. Сур'ёзным крокам на шляху захавання адзінства Расіі стала прыняцце Федэратыўнага дагавора. У яго аснову быў пакладзены прынцып уліку інтарэсаў усіх народаў Расіі. Гэта ў пэўнай меры знізіла палітычную напружанасць у краіне.

У канцы 1991 г. у краіне для выхаду з эканамічнага крызісу быў выбраны шлях шокавай тэрапіі. Галоўным яе прыхільнікам стаў эканаміст, унук знакамітага пісьменніка Я. Ц. Гайдар, які ўзначаліў урад. Важным аргументам на карысць шокавай тэрапіі з'яўлялася магчымасць атрымання Расіяй буйных крэдытаў ад Міжнароднага валютнага фонду (МВФ). Рэформы Гайдара працягваліся каля 15 месяцаў. Увесь іх цяжар лёг на плечы народа. Меркаванае павышэнне цэн у 5—10 разоў на справе абярнулася павелічэннем іх у 100 і болей разоў. Большасць насельніцтва Расіі апынулася за мяжой беднасці. У 1992 г. выпуск наяўных грошай павялічыўся ў 54 разы ў параўнанні з 1990 г. Абясцэніліся ўклады насельніцтва ў Ашчадбанку, рэзка паменшыліся дзяржаўныя зарплаты і пенсіі, памер якіх не пакрываў тэмпаў *інфляцыі.*

Расійскі ўрад спрабаваў праводзіць пэўныя эканамічныя рэформы. Галоўнай з іх стала *прыватызацыя* — перадача ў прыватную ўласнасць дзяржаўных прадпрыемстваў. У Расіі з'явіліся, з аднаго боку, так званыя алігархі-мільянеры, якія валодалі і валодаюць у наш час значнай доляй нацыянальнага капіталу краіны. З другога боку, мільёны расіян жылі бедна, на мяжы галечы, зарплаты часта выплачваліся з вялікімі затрымкамі.

Урад прадугледжваў шырокае прыцягненне ў расійскую эканоміку замежнага капіталу, аднак замест гэтага адбываўся вываз расійскага капіталу за мяжу. Адсутнасць канкрэтнай эканамічнай праграмы, непаслядоўнасць рэформаў і памылкі, дапушчаныя пры іх правядзенні, прывялі да росту сацыяльнай напружанасці ў краіне.

**Новыя з'явы ў палітычным жыцці Расіі.** З пачатку правядзення радыкальных рынчачных рэформаў ішла барацьба паміж заканадаў-

чай і выканаўчай галінамі ўлады, якія былі прадстаўлены парламентам — Вярхоўным Саветам — і прэзідэнтам. Да восені 1993 г. Расія апынулася ў стане глыбокага палітычнага крызісу. «Каменем спатыкнення» стала пытанне распрацоўкі праекта новай Канстытуцыі.

Прэзідэнтам і яго акружэннем быў падрыхтаваны праект новай Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі. Дэпутаты парламента імкнуліся абмежаваць паўнамоцтвы прэзідэнта і адкладвалі прыняцце Канстытуцыі.

21 верасня 1993 г. Б. М. Ельцын аб’явіў аб роспуску Вярхоўнага Савета і З’езда народных дэпутатаў. На 12 снежня былі прызначаны выбары новага парламента. Частка дэпутатаў адмовілася прызнаць законнасць дзеянняў прэзідэнта і паспрабавала адхіліць яго ад улады. У адказ на дзеянні прэзідэнта ў Маскве сіламі апазіцыі былі арганізаваны дэманстрацыі, у шэрагу месцаў узведзены барыкады, зроблена няўдалая спроба штурму мэрыі і Астанкінскага тэлецэнтра.

У Маскве было ўведзена надзвычайнае становішча, у горад сцягнуты войскі. **3—4 кастрычніка 1993 г.** адбыўся ўзброены канфлікт паміж прыхільнікамі Вярхоўнага Савета і вернымі прэзідэнту войскамі. «Белы дом», дзе знаходзілася частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета, быў абстраляны з танкавых гармат. Указам Б. М. Ельцына Вярхоўны Савет і Саветы ўсіх узроўняў былі распушчаны. Савецкая ўлада на тэрыторыі Расіі спыніла сваё існаванне. У падзеях верасня — кастрычніка 1993 г. удзельнічала некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Сотні ўдзельнікаў загінулі або атрымалі раненні.

**12 снежня 1993 г.** усенародным галасаваннем была прынята Канстытуцыя Расійскай Федэрацыі. Расія абвяшчалася дэмакратычнай федэратыўнай прававой дзяржавай з рэспубліканскай формай кіравання. Кіраўніком дзяржавы з’яўляўся прэзідэнт, які абіраўся ўсенародным галасаваннем.

Заканадаўчым органам дзяржаўнай улады стаў двухпалатны парламент — Федэральны сход. Яго верхнюю палату — Савет Федэрацыі — прадстаўляюць суб’екты Федэрацыі. У яе склад у 1990-я гг. уваходзілі губернатары, прэзідэнты аўтаномных рэспублік, кіраўнікі мясцовых заканадаўчых органаў, мэры Масквы і Санкт-Пецярбурга. Ніжняя палата Федэральнага сходу — Дзяржаўная дума — выбіраецца грамадзянамі, якія маюць права голасу. У Канстытуцыі заканадаўча замацавана шматпартыйнасць. Канстытуцыя стварала ўмовы



Дзяржаўны герб Расійскай Федэрацыі

для дасягнення ў грамадстве палітычнай стабільнасці.

У снежні 1993 г. адбыліся выбары ў новы орган дзяржаўнай улады — Федэральны сход Расійскай Федэрацыі. Напярэдадні выбараў утварылася некалькі палітычных блокаў і кааліцый. У выніку выбараў, праведзеных на шматпартыйнай аснове, найбольшую колькасць месцаў у парламенце ў 1993 г. атрымала Ліберальна-дэмакратычная партыя, а ў 1995 г. — Камуністычная партыя Расійскай Федэрацыі. У 1996 г. Б. М. Ельцын быў перавыбраны на пост Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі на другі тэрмін.



Б. М. Ельцын

Тым часам новае кіраўніцтва Чэчні імкнулася да аддзялення ад Расіі, што прывяло да ўзброенага канфлікту. У **снежні 1994 г.** на тэрыторыю Чэчні былі ўведзены ўзброеныя сілы Расіі. Гэта паклала пачатак чэчэнскай вайне, якая завяршылася ў канцы 1996 г. і зноў успыхнула ў 1999 г. з яшчэ большай жорсткасцю. У апошні час становішча ў Чэчні некалькі стабілізавалася.



У. У. Пуцін

31 снежня 1999 г. Б. М. Ельцын заявіў аб сваёй датэрміновай адстаўцы з паста прэзідэнта Расіі. Выконваючым абавязкі прэзідэнта стаў старшыня ўрада У. У. Пуцін, які **26 сакавіка 2000 г.** быў абраны прэзідэнтам краіны. Ён узяў курс на ўмацаванне Расійскай дзяржавы. Прыхільнікі У. У. Пуціна, якія выступалі за працяг рэформаў, абапіраліся на падтрымку большасці дэпутатаў Дзяржаўнай думы. У 2000 г. Дзяржаўная дума зацвердзіла дзяржаўную сімволіку Расійскай Федэрацыі: герб у выглядзе залатога двухгаловага арла, сцяг — бела-сіне-чырвонае палотнішча, гімн на словы С. Міхалкова і музыку А. Аляксандрава, у аснове якога засталася музыка Гімна СССР.

У выніку выбараў у Дзяржаўную думу ў снежні 2003 г. змяніўся яе партыйна-палітычны склад. Найбольшы поспех мела партыя

«Адзіная Расія», якая падтрымлівала прэзідэнта. Рэалізацыя У. У. Пуціным ідэй захавання сацыяльна-палітычнай стабільнасці ў краіне пры правядзенні рэформаў знайшла падтрымку ў насельніцтва і адбілася на выніках галасавання па выбарах прэзідэнта Расіі 14 сакавіка 2004 г. У. У. Пуцін атрымаў 71,2 % галасоў выбаршчыкаў.

**Знешняя палітыка Расіі.** Распад СССР змяніў становішча Расіі на міжнароднай арэне, яе палітычныя і эканамічныя сувязі са знешнім светам. У знешняй палітыцы Расійскай Федэрацыі прыярытэтнымі задачамі з'яўляюцца захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці і незалежнасці, забеспячэнне спрыяльных умоў для развіцця рыначнай эканомікі і ўключэнне ў сусветную супольнасць. Расія дабілася прызнання ў якасці правапераемніцы былога СССР у ААН, а таксама дапамогі заходніх краін у правядзенні курсу рэформаў. Важная роля адводзілася знешняму гандлю Расіі з замежнымі краінамі.

У **1994 г.** урад Расіі далучыўся да праграмы «Партнёрства ў імя міру», прапанаванай НАТО. У 1997 г. быў падпісаны Асноватворны Акт аб узаемных адносінах паміж НАТО і Расіяй. У ім сфармуляваны палажэнні аб скарачэнні ўзбраенняў, абавязацельствы аб неразмяшчэнні на пастаяннай аснове баявых сіл НАТО паблізу граніц Расіі, дагаворанасць не наносіць шкоду інтарэсам бяспекі адзін аднаго. У 2002 г. створаны Савет «Расія — НАТО». Дасягнута пэўная каардынацыя міжнародных намаганняў у барацьбе з тэрарызмам пры правядзенні міратворчых аперацый. Расія выступае супраць распаўсюджвання зброі масавага паражэння. Пасля падзей у Амерыцы 11 верасня 2001 г. Расія адыгрывае важную ролю ў антытэрарыстычнай кааліцыі. Яна аказала дапамогу ЗША і іх саюзнікам у барацьбе супраць талібаў на тэрыторыі Афганістана. Разам з тым Расія, Германія, Францыя ў 2003 г. не адобрылі вайну ЗША супраць Ірака без санкцыі ААН і пераканаўчых доказаў наяўнасці зброі масавага паражэння ў гэтай краіне.

Расія атрымала крэдыты Міжнароднага валютнага фонду. Еўрапейскія дзяржавы падтрымлівалі дзеянні Расіі, скіраваныя на яе інтэграцыю ў сусветную эканоміку. Расія ўвайшла ў лік вядучых дзяржаў свету як член «вялікай васьмёркі» (самых уплывовых дзяржаў).

Важнае месца ў знешнепалітычнай дзейнасці ўрада Расіі займае развіццё ўзаемаадносін з краінамі СНД. Асаблівую ўвагу гэтаму пытанню ўдзяляе Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі У. У. Пуцін. Найбольш канструктыўна развіваюцца ўзаемаадносіны паміж Расіяй і Беларуссю. **2 красавіка 1997 г.** было падпісана пагадненне аб Саюзе Беларусі і Расіі. У стадыі стварэння знаходзіцца Саюзная дзяржава.

**Развіццё культуры.** Дзяржаўнае рэгуляванне культурнай сферы ажыццяўлялася перш за ўсё на базе «Асноў заканадаўства Расійскай Федэрацыі аб культуры», зацверджаных у 1992 г. Дзейнічалі дзяржаўныя федэральныя праграмы захавання і развіцця культуры.

У 1990-я гг. сацыяльна-культурная галіна фінансавалася па «астаткавым прынцыпе». Толькі ў 1999 г. упершыню яна была прафінансавана на 100 %. Станоўчыя перамены ў культурным жыцці супярэчлівыя і абумоўлены яго вызваленнем ад ідэалагічнай апекі савецкіх часоў. У 1990-я гг. былі вернуты шырокаму колу расійскіх чытачоў раней недаступныя мастацкія творы выдатных рускіх пісьменнікаў, паэтаў, мысліцеляў — Г. Ахматавай, М. Цвятаевай, П. Васільева, У. Набокава, М. Булгакава, А. Салжаніцына, І. Бродскага, У. Максімава і многіх іншых. У літаратуры працягвалася развіццё айчынных рэалістычных традыцый. У гэтым кірунку працягвалі сваю творчую дзейнасць В. Астаф'еў, В. Распуцін, М. Аляксееў, Ю. Бондараў і інш. Разам з тым вялікую папулярнасць набылі пісьменнікі, якія працавалі ў жанры дэтэктыва і фантастыкі. У ліку найбольш вядомых — У. Вайновіч, Б. Акунін, А. Марыніна, В. Пялевін і інш.


Г. Ахматава

Новыя эканамічныя рэаліі прыкметна паўплывалі на развіццё расійскага кінематографа. Адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі прывяла да рэзкага скарачэння выпуску фільмаў. Калі «крымінальна-дэтэктыўныя» асаблівасці жыцця грамадства ў 1990-х гг. знайшлі даволі маляўнічае адлюстраванне ў кінематографе, то пытанне пра станоўчага «героя нашага часу» застаецца адкрытым.

У расійскім кінематографе значны рэзананс атрымалі фільмы рэжысёраў М. Міхалкова,

С. Гаварухіна, П. Тадароўскага, А. Рагожкіна, Э. Разанава, С. Бадрова-старэйшага і інш. У краіне штогод праводзіцца Усерасійскі кінафестываль у горадзе Сочы.

1990-я гг. сталі перыядам бурнага развіцця новай маладзёжнай музычнай культуры, якая вызначалася вялікай стылявой разнастайнасцю і ахоплівала шырокую аўдыторыю. Класічныя музычныя творы таксама карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў слухачоў.

У 1990-я гг. з'явілася шмат яркіх тэатральных пастановак, ствараліся новыя тэатры, студыі. Вялікай папулярнасцю ў гледачоў карысталіся Ю. Любімаў, А. Табакоў, Ю. Саломін, А. Калягін і інш.

Разнастайнасць формаў, стыляў і тэм была ўласціва таксама выяўленчаму мастацтву. Сярод найбольш вядомых расійскіх мастакоў — І. Глазуноў, А. Шылаў, М. Шэмякін (**1) і інш.

**Дадатковы матэрыял**

****1. Мастак Міхаіл Шэмякін**

Сябра У. Высоцкага мастак Міхаіл Шэмякін у 1971 г. выехаў у НьюЙорк, таму што яго творчасць не была прынята ў Савецкім Саюзе. Ён ствараў карціны ў стылі мадэрнізму, што выклікала незадаволенасць прадстаўнікоў улады. Сваю аўтабіяграфічную кнігу, выдадзеную на Захадзе, Шэмякін пачаў так: «Я сын савецкага афіцэра...». Яго бацька, кавалер шасці ордэнаў Чырвонага Сцяга, у гады вайны — сын палка, быў ідэалам для свайго сына. У 1988 г. М. Шэмякін узначаліў Міжнародны камітэт за выратаванне са вецкіх ваеннапалонных у Афганістане. Выручку ад выстаўкіпродажу сваіх карцін мастак перадаў на будаўніцтва цэнтра па рэабілітацыі савецкіх воінаў, якія вярнуліся параненымі з Афганістана.

**Пытанні і заданні**

1. Да якіх вынікаў прывялі шокавая тэрапія, інфляцыя і прыватызацыя?
2. Якія формы дзяржаўнага кіравання і ладу ў Расіі паводле Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі 1993 г.?
3. Ахарактарызуйце вынікі прэзідэнцкага кіравання Б. М. Ельцына.
4. Якога палітычнага курсу прытрымліваецца прэзідэнт Расіі У. У. Пуцін?
5. Растлумачце прычыны паводзін мастака М. Шэмякіна. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
6. Падрыхтуйце паведамленні пра новыя з'явы ў культурным жыцці Расіі.
7. Ахарактарызуйце асноўныя кірункі знешняй палітыкі Расіі.

# АСНОЎНЫЯ КІРУНКІ І ЎРОКІ РАЗВІЦЦЯ САВЕЦКАГА І РАСІЙСКАГА ГРАМАДСТВА Ў ПАСЛЯВАЕННЫ ПЕРЫЯД

## Урок паўтарэння і абагульнення

**1.** Ахарактарызуйце гістарычнае значэнне працэсу, які быў вызначаны курсам партыі, прынятым на XX з'ездзе КПСС. Прывядзіце гістарычныя факты, якія даказваюць працяг дадзенага курсу.

**2.** Вывучаючы прычыны дасягненняў СССР у даследаванні космасу пасля запуску першага штучнага спадарожніка Зямлі, урадавая камісія ЗША прыйшла да вываду, што гэта — вынік добра арганізаванай сістэмы адукацыі, заахвочвання таленавітай моладзі. У 1950 г. СССР траціў на адукацыю 10 % нацыянальнага даходу, а ЗША — толькі 4 %. У 1990 г. ЗША расходавалі на адукацыю 12 % нацыянальнага даходу, а СССР — толькі 7 %. Як вы лічыце, у чым заключалася небяспека «астаткавага прынцыпу» фінансавання адукацыі? Чаму касмічныя праграмы ў абедзвюх дзяржавах фінансаваліся за кошт ваеннага бюджэту?

**3.** У канцы 1960-х — пачатку 1970-х гг. СССР апераджаў ЗША па ўзроўні здабычы вугалю, вытворчасці трактароў, цэменту. Аднак назіралася адставанне па вытворчасці тавараў шырокага ўжытку. Растлумачце прычыны такога дысбалансу ў сацыяльна-эканамічным развіцці Савецкага Саюза.

**4.** Вызначце, пра якія падзеі вялася размова ў матэрыялах XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, што адбылася ў 1988 г. Выкарыстайце вытрымку з яе рэзалюцыі:

«Атрымліваючы ўрокі з мінулага, нельга не прызнаць, што камандна-адміністрацыйныя метады не абышлі і знешнепалітычную сферу. Здаралася, нават найважнейшыя рашэнні прымаліся вузкім колам асоб, без... усебаковага разгляду...»

Якая палітыка дазволіла адкрыта гаварыць аб праблемах гістарычнага развіцця савецкага народа?

**5.** Назавіце імёны палітыкаў і прадстаўнікоў культуры ў СССР, дзейнасць якіх характарызуе наступнае выказванне:

«...не з неба ж урэшце зваліліся і самі ідэі перабудовы. Былі здаровыя сілы ў партыі, ва ўсіх пластах грамадства, якія выношвалі

ідэі абнаўлення сацыялізму. Гэтыя сілы дзейнічалі і ў навуцы, і ў літаратуры, і ў мастацтве. Застой закранаў далёка не ўсіх… Большасць народа працавала ў імя сацыялізму ва ўсе часы».

Ахарактарызуйце асноўныя кірункі ў даследаваннях і творчасці названых вамі дзеячаў навукі і культуры.

**6.** Запоўніце табліцу «Асноўныя дасягненні СССР у галіне палітыкі, эканомікі, культуры».

| Галіны дасягненняў | 1945—1953 гг. | 1954—1964 гг. | 1965—1984 гг. | 1985—1991 гг. |
|---|---|---|---|---|
| Унутраная палітыка | | | | |
| Знешняя палітыка | | | | |
| Эканоміка (прамысловасць, сельская гаспадарка, жыллёвае будаўніцтва) | | | | |
| Культура | | | | |

**7.** Вызначце, у чым заключаліся прычыны крызісу савецкай грамадска-палітычнай сістэмы. Выкарыстайце для адказу вытрымку з выступлення М. С. Гарбачова 25 снежня 1991 г.:

«...калі я апынуўся на чале дзяржавы, ужо было зразумела, што з краінай нядобра. Усяго многа: зямлі, нафты і газу, іншых прыродных багаццяў, ды і розумам і талентам Бог не пакрыўдзіў, а жывём горш, чым у развітых краінах, усё больш адстаём ад іх. Прычына была ўжо бачная — грамадства задыхалася ў цісках каманднa-бюракратычнай сістэмы. Асуджанае абслугоўваць ідэалогію і несці страшны цяжар гонкі ўзбраенняў, яно — на мяжы магчымага».

**8.** Пацвердзіце з дапамогай гістарычных фактаў наступныя палажэнні з выступлення М. С. Гарбачова 25 снежня 1991 г.:

«...зроблена работа гістарычнай значнасці:

ліквідавана таталітарная сістэма...;

рэальнымі сталі свабодныя выбары, свабода друку, рэлігійныя свабоды... шматпартыйнасць;

...замацоўваецца роўнасць усіх формаў уласнасці... пачалі набіраць сілу прадпрымальніцтва, акцыяніраванне, прыватызацыя;

паканчана з „халоднай вайной“, спынена гонка ўзбраенняў і шалёная мілітарызацыя краіны...».

**9.** Запішыце ў табліцу факты, якія сведчаць пра асноўныя кірункі развіцця Расійскай Федэрацыі.

| | |
|---|---|
| Захаванне адзінства Расійскай Федэрацыі | |
| Пераадоленне супрацьстаяння паміж заканадаўчай і выканаўчай галінамі ўлады | |
| Пераадоленне эканамічнага крызісу | |
| Каардынацыя намаганняў у барацьбе з міжнародным тэрарызмам | |
| Развіццё культуры | |

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РАЗВІЦЦЯ КРАІН У ПАСЛЯ 1945 г.

**Асноўныя рысы сацыяльна>эканамічнага развіцця.** Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны працэс сацыяльна-эканамічнай мадэрнізацыі ўсходніх грамадстваў значна ўзмацніўся. Вылучыліся два асноўныя шляхі мадэрнізацыі: капіталістычны, які прадугледжваў развіццё прыватнага прадпрымальніцтва, рыначных адносін, і дзяржаўны, які меў сваёй перадумовай падтрымку нацыянальнага капіталу, пратэкцыянізм, адзяржаўленне эканомікі. Нярэдка яны спалучаліся.

Найбольш хутка развіваліся па шляху мадэрнізацыі краіны Усходняй Азіі (найперш Японія) і Паўднёва-Усходняй Азіі. Тут з’явіліся новыя індустрыяльныя дзяржавы, якія сталі называць «тыграмі»: Тайвань (фармальна належыць Кітаю, фактычна з’яўляецца самастойнай дзяржавай), Тайланд, Рэспубліка Карэя, Сінгапур, Малайзія — і «драконамі»: Кітай, Індыя, Інданезія і інш. Рухаючай сілай мадэрнізацыі ў гэтых краінах сталі транснацыянальныя карпарацыі (ТНК) і буйныя нацыянальныя манаполіі. Некаторыя з іх ператварыліся ў ТНК, як, напрыклад, паўднёвакарэйскія канцэрны «Самсунг» і «Дэу», якія адкрылі свае вытворчыя філіялы ў многіх краінах свету і гадавы аб’ём продажу якіх дасягае 50 млрд долараў. Асаблівасцю развіцця буйнога капіталу ва Усходнім рэгіёне стала наяўнасць манаполій сямейна-кланавага тыпу. Напрыклад, у Саудаўскай Аравіі галоўная роля ў эканоміцы краіны належыць клану Саудзідаў, які складаецца з 7 тыс. эміраў і 5 тыс. прынцэс.

У сферы гандлю краіны Усходняй і Паўднёва-Усходняй Азіі занялі лідзіруючыя пазіцыі ў свеце. У пачатку XXI ст. аб’ём гандлю ЗША і Азіі перавысіў аб’ём амерыканскага гандлю з Еўропай амаль у 2 разы. У канцы XX ст. найбольш дынамічнае эканамічнае развіццё ў свеце было характэрна для Японіі і Паўднёва-Усходняй Азіі. У пачатку XXI ст. Кітай стаў самым буйным у Еўразіі вытворцам і спажыўцом тавараў. КНР і Тайвань выпрацоўваюць на працягу года больш прадукцыі, тавараў, паслуг, чым ЗША. У 2003 г. у КНР было скарыстана 53,5 млрд долараў замежных інвестыцый.

Разам з тым многія рэгіёны і дзяржавы Усходу значна адстаюць па ўзроўні жыцця ад высокаразвітых краін Захаду, якія працягваюць

эксплуатаваць краіны «трэцяга свету». Гэтым паняццем прынята абазначаць афра-азіяцкія краіны ў стадыі развіцця, што вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці, а таксама многія дзяржавы Лацінскай Амерыкі. «Першы свет» — гэта краіны Захаду, «другі» — сацыялістычны лагер на чале з СССР (да 1991 г.) і СНД. З 1990-х гг. «трэці свет» часта называюць «бедным Поўднем», а развітыя краіны свету — «багатай Поўначчу».

Пасля краху каланіяльнай сістэмы (у 1950—1970-х гг.) шэраг дзяржаў «трэцяга свету» захавалі вузкаскіраваны характар эканомікі і нізкі ўзровень жыцця. Прычынай эканамічнай адсталасці многіх краін Усходу сталі такія фактары, як адсутнасць дастатковых сродкаў для развіцця эканомікі, захаванне феадальных перажыткаў, супраціўленне рэформам і мадэрнізацыі грамадства з боку традыцыйных кансерватыўных структур (абшчына, клан, каста, племя, царква), залежнасць ад замежнага капіталу, непрапарцыянальная структура гаспадаркі. Затрымліваюць эканамічнае развіццё хуткі рост колькасці насельніцтва, высокі ўзровень беспрацоўя, палітычная нестабільнасць, племянная варожасць. Напрыклад, у Танзаніі налічваецца каля 120 плямёнаў, якія маюць розныя мовы і звычаі. Эканамічны рост краін Азіі і Афрыкі стрымліваюць таксама моцная бюракратызацыя і карумпіраванасць грамадства, якія існуюць у шэрагу дзяржаў.

У большасці краін Усходу адсутнічаюць сучасныя, перадавыя галіны прамысловасці. Амаль 2/3 насельніцтва занята ў сельскай гаспадарцы. Да 85—90 % экспарту гэтых краін прыпадае на сыравіну. Доля краін у стадыі развіцця ў сусветным гандлі скарацілася з 30 % у 1950 г. да 25 % у 1990 г. Насельніцтва Афрыкі складае 14 % усіх жыхароў Зямлі, але доля тавараў, якія яны выпускаюць, у сусветнай прамысловай вытворчасці роўная толькі 1 %. У 1989 г. 45 слабаразвітых краін Усходу не змаглі дасягнуць узроўню аб'ёму вытворчасці ФРГ. У гэтых краінах сярэдні даход на душу насельніцтва склаў толькі 45 марак у месяц.

Залежнасць «беднага Поўдня» ад «багатай Поўначы» найбольш ярка праяўляецца ў росце фінансавых даўгоў краін Усходу і эксплуатацыі іх з боку ТНК. У канцы 1980-х гг. доўг краін Азіі і Афрыкі заходнім дзяржавам склаў больш за 600 млрд долараў. Аб'ём замежных капіталаўкладанняў, у асноўным з боку ТНК, у эканоміку краін, якія вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці, вырас з 45 млрд долараў у 1971 г. да звыш 100 млрд у пачатку 1990-х гг.

Народную гаспадарку краін Усходу эксплуатуюць каля 30 тыс. заходніх манаполій і фірмаў. Манапалізаваўшы гандаль рысам, каўчуком, нафтай на 70—75 %, воловам — на 80 %, джутам — на 85 %, амаль увесь гандаль жалезнай рудой, баксітамі, некаторымі відамі садавіны, ТНК збіваюць або ўзнімаюць у сваіх інтарэсах цэны на тавары. Транснацыянальныя карпарацыі карыстаюцца таннымі крыніцамі сыравіны, рабочай сілы, кантралююць сусветны рынак і фінансы. Галоўныя пазіцыі ў Міжнародным валютным фондзе і Міжнародным банку рэканструкцыі і развіцця належаць капіталу ЗША, краін Заходняй Еўропы і Японіі.

Вынікам эканамічнай залежнасці дзяржаў Усходу ад Захаду і іх уласнай адсталасці стаў нізкі ўзровень жыцця насельніцтва. У сярэднім нацыянальны даход краін у стадыі развіцця на аднаго чалавека ў 11—12 разоў ніжэйшы, чым у Японіі і заходніх дзяржавах (адпаведна 183 і 2500 долараў). У 1990 г. у дзяржавах Усходу было 900 млн непісьменных. Працягласць жыцця людзей у краінах, якія вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці, вагаецца ад 40 да 60 гадоў, у той час як у Еўропе яна складае 70—75 гадоў. У Азіі і Афрыцы галадаюць мільёны людзей. У 1980 г. тут ад голаду памерла 50 млн чалавек, у тым ліку 15 млн дзяцей. Штогод каля 100 тыс. дзяцей слепнуць ад недаядання.

Разам з тым трэба адзначыць, што ў 1970—1980-х гг. высокім стаў узровень жыцця ў жыхароў некаторых азіяцкіх «тыграў» (Тайвань, Сінгапур, Ганконг, Рэспубліка Карэя). У 1980-х гг. павысіўся дабрабыт грамадзян Турцыі, Пакістана, Інданезіі і некаторых іншых краін. Вялізныя даходы ад здабычы і продажу нафты атрымліваюць Саудаўская Аравія, Кувейт, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Бахрэйн, Бруней і іншыя дзяржавы.

**Асаблівасці палітычнага развіцця краін Усходу. Праблема міжнароднага тэрарызму.** Пасля краху каланіяльнай сістэмы з'явілася каля 100 новых дзяржаў, якія разам з іншымі краінамі Усходу сталі істотна ўплываць на суадносіны сіл на сусветнай палітычнай арэне, асабліва ў канцы XX — пачатку XXI ст. У большасці новых незалежных дзяржаў устанавіліся ваенныя дыктатуры або аўтарытарна-манархічныя рэжымы. Парламенцкая дэмакратыя, заходнія каштоўнасці не прыжыліся ў краінах, якія вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці, асабліва ў Афрыцы. Не змаглі ў іх усталявацца і рэжымы

сацыялістычнай арыентацыі, якія да пачатку 1990-х гг. пацярпелі поўны крах.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ўплыў ісламу ў свеце значна ўзрос. У сучасны момант налічваецца 1,2 млрд мусульман (хрысціян — 1,6 млрд). Амаль у 50 дзяржавах свету пераважная большасць насельніцтва — мусульмане. Найбольш хутка распаўсюджваўся іслам у Трапічнай Афрыцы. Калі ў пачатку XX ст. там было каля 10 млн мусульман, то да сярэдзіны 1980-х гг. — 100 млн. Мусульмане складаюць 60—80 % насельніцтва Сенегала, Гамбіі, Гвінеі, Самалі, Малі, Чада і іншых дзяржаў. У шэрагу краін іслам стаў дзяржаўнай рэлігіяй. Павялічылася колькасць экстрэмісцкіх ісламскіх арганізацый, кіраўнік адной з якіх заўважыў: «Наш марш пачаўся, і іслам нарэшце заваюе Еўропу і Амерыку, таму што іслам з’яўляецца адзіным шляхам да збавення, які яшчэ застаецца гэтаму разгубленаму свету».

Пасля таго як арабы ў 1967 і 1973 гг. пацярпелі паражэнне ў барацьбе з Ізраілем (саюзнік Захаду на Блізкім Усходзе), а Егіпет пачаў збліжацца з ЗША, у ісламе ўзмацніла пазіцыі фундаменталісцкая плынь. Перамога ісламскай рэвалюцыі 1978—1979 гг. у Іране выклікала «ісламскі бум» у свеце, хвалю *ісламскага фундаменталізму.* Яго асноўнымі прадстаўнікамі былі «Браты-мусульмане» і шыіцкае духавенства ў Іране на чале з Р. М. Хамейні. Амаль ва ўсіх мусульманскіх краінах фундаменталісты, або ісламісты, сталі патрабаваць устанаўлення «ісламскай дзяржавы» і «ісламскага шляху развіцця». Сейід Кутб (Егіпет), самы вядомы ідэолаг «Братоў-мусульман», сцвярджаў, што Каран у поўным аб’ёме і асноўная частка Суны поўнасцю прыдатныя для сучасных умоў, што яны — адзіная крыніца законаў, каштоўнасцей і нормаў паводзін. Хамейні лічыў, што права на існаванне можа мець толькі «дзяржава вялікага Алаха», г. зн. ісламская тэакратыя. Ён выступаў за экспарт ісламскай рэвалюцыі. «Пакуль іслам не пераможа ва ўсім свеце, барацьба будзе працягвацца», — заяўляў Хамейні. Фундаменталісты сцвярджаюць, што менавіта іслам выратуе чалавецтва ад духоўнага і фізічнага выраджэння і гібелі.

Фундаменталісты збіраюцца стварыць «мусульманскую эканоміку», заснаваную на «працоўнай» уласнасці, забароне ліхвярства і спекуляцыі, беспрацэнтных пазыках, салідарнасці і братэрстве.

Хамейні прапанаваў лозунг размеркавання матэрыяльных даброт: «Ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па набожнасці».

Ісламскі фундаменталізм стаў адной з ідэйных асноў міжнароднага тэрарызму, які з канца 1980-х — пачатку 1990-х гг. атрымаў шырокае распаўсюджанне і набыў арганізаваны характар. У 1990 г. У. бен Ладэн (Саудаўская Аравія) узначаліў міжнародную тэрарыстычную арганізацыю «Аль Каіда» («Аснова»). У. бен Ладэн і «Аль Каіда» былі цесна звязаны з ісламскімі фундаменталісцкімі арганізацыямі, якія існавалі на тэрыторыі Судана, Саудаўскай Аравіі, Афганістана. Тэрарыстычная сетка «Аль Каіды» ахоплівае каля 20 краін. У 1998 г. ісламскія фундаменталісты арганізавалі Сусветны ісламскі фронт барацьбы з іудзеямі і хрысціянамі. У 1990-х гг. ісламісты правялі шматлікія тэрарыстычныя акцыі супраць ЗША і іх саюзнікаў. Так, 11 верасня 2001 г. ЗША падвергліся тэрарыстычнай атацы. Пасля гэтага была створана міжнародная антытэрарыстычная кааліцыя на чале з ЗША. Яе войскі акупіравалі Афганістан і звергглі рэжым талібаў, якія хавалі на сваёй тэрыторыі У. бен Ладэна.

**Пытанні і заданні**

1. Пералічыце новыя індустрыяльныя краіны, якія сталі называць азіяцкімі «тыграмі» і «драконамі».
2. Прывядзіце прыклады вядомай ва ўсім свеце прадукцыі ТНК, якая выпускаецца ў краінах Азіі.
3. Якія прычыны эканамічнай адсталасці краін «трэцяга свету» і ў чым яна праяўляецца?
4. Якое месца займае іслам у сучасным свеце і якія погляды ісламскіх фундаменталістаў?

## § 18. РАСПАД КАЛАНІЯЛЬНАЙ СІСТЭМЫ

**Успомніце**

1. Што азначае паняцце *краіны «трэцяга свету»*?
2. Чаму захоўваецца эканамічная адсталасць многіх краін Усходу?

**Утварэнне незалежных дзяржаў.** У 1939—1945 гг. назіраўся рост нацыянальнай эканомікі ў большасці краін Азіі і Афрыкі. Гэты фактар, а таксама сумесная антыфашысцкая барацьба многіх калоній

і метраполій паскорылі працэс надання незалежнасці народам Усходу. Разгром фашызму ў Еўропе і Азіі выклікаў уздым дэмакратычнага і антыімперыялістычнага руху. Таму з 1945 г. пачаўся распад каланіяльнай сістэмы.

17 жніўня 1945 г. нацыянальна-патрыятычныя сілы Інданезіі на чале з А. Сукарна абвясцілі незалежнасць краіны. Да 1950 г. яны вялі барацьбу з англійскімі і галандскімі каланізатарамі. Асновай палітыкі дзяржавы сталі 5 прынцыпаў («панча шыла»): нацыяналізм, гуманізм, дэмакратыя, сацыяльны дабрабыт і вера ў Бога. У далейшым Нацыянальная партыя Інданезіі спрабавала будаваць грамадства «інданезійскага сацыялізму». Пасля путчысцкага выступлення кампартыі ў верасні 1965 г. да ўлады прыйшлі ваенныя на чале з генералам Сухарта.

Барацьба Лігі Незалежнасці В’етнама (В’ет Мінь) пад кіраўніцтвам Кампартыі Індакітая завяршылася абвяшчэннем 2 верасня 1945 г. Дэмакратычнай Рэспублікі В’етнам (ДРВ). Яе кіраўніком стаў лідэр камуністаў Хо Шы Мін. В’етнамскі народ перамог у вайне супраць Францыі (1946—1954). Паводле Жэнеўскіх пагадненняў 1954 г. быў прызнаны суверэнітэт В’етнама, а таксама незалежнасць Лаоса і Камбоджы.

Распад каланіяльнай сістэмы стаў незваротным працэсам пасля таго, як у Індыі пад кіраўніцтвам М. Гандзі і партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс (ІНК) завяршылася мірная нацыянальная рэвалюцыя. 14 і 15 жніўня 1947 г. Пакістан і Індыя здабылі незалежнасць. Сталі разбурацца асновы брытанскай каланіяльнай імперыі.

У Карэі і Кітаі камуністы з дапамогай СССР змаглі атрымаць перамогу ў грамадзянскай вайне. 9 верасня 1948 г. на поўначы Карэі была абвешчана Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка (КНДР). 1 кастрычніка 1949 г. утварылася Кітайская Народная Рэспубліка (КНР).

З 1950-х гг. на тэрыторыі Афрыкі працэс распаду каланіяльных імперый паскорыўся. У 1954—1962 гг. ва ўзброенай барацьбе супраць Францыі перамог алжырскі народ, была створана Алжырская Народная Дэмакратычная Рэспубліка.

На тэрыторыі Трапічнай Афрыкі пасля заваявання Ганай незалежнасці ў 1957 г. пачалася ланцуговая рэакцыя крушэння брытанскай і французскай каланіяльных імперый. **1960 г.** стаў называцца




«годам Афрыкі», таму што на працягу года 17 дзяржаў гэтага кантынента здабылі нацыянальную свабоду. Да пачатку 1970-х гг. уся Афрыка, за выключэннем Намібіі (уладанне ПАР) і партугальскіх калоній, вызвалілася ад улады метраполій. У 1975 г. пала каланіяльная імперыя Партугаліі: Ангола і Мазамбік дабіліся незалежнасці. У 1990 г. і Намібія — апошняя буйная калонія ў Афрыцы — стала

свабоднай. У наш час каля берагоў Афрыкі і ў Ціхім акіяне захаваліся яшчэ невялікія залежныя астраўныя тэрыторыі.

У сувязі з распадам каланіяльных імперый з'явілася звыш 100 новых дзяржаў, у якіх пражывала больш за 2 млрд чалавек. Гэта змяніла суадносіны сіл на міжнароднай арэне і ў ААН. Краіны ў стадыі развіцця ператварыліся ў сілу, якая магла ўплываць на ход сусветнай гісторыі. З сярэдзіны 1950-х гг. дзяржавы, якія вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці, сталі называцца «трэцім светам» (краіны Захаду — «першы свет», СССР і яго саюзнікі — «другі»). Пасля распаду Савецкага Саюза тэрмін «трэці свет» страціў сваё ранейшае значэнне.

Пасля 1945 г. адбыўся падзел краін Азіі і Афрыкі на некалькі асноўных груп. Першую складалі сацыялістычныя дзяржавы — Мангольская Народная Рэспубліка (МНР), КНДР, КНР, В'етнам, Камбоджа і Лаос. Іх грамадскі лад называлі *дзяржаўным сацыялізмам*. Для яго характэрныя панаванне дзяржаўнай уласнасці ў галіне эканомікі, ваенна-бюракратычная або аднапартыйная дыктатура, адзіная афіцыйная марксісцкая ідэалогія, татальны кантроль за грамадзянамі і абмежаванне іх правоў і свабод. Адным з варыянтаў дзяржаўнага сацыялізму стаў грамадскі лад КНДР.

Паслядоўнік Мао Цзэдуна правадыр «чырвоных кхмераў» Пол Пот, які прыйшоў да ўлады ў Камбоджы, зрабіў спробу яшчэ больш хуткімі тэмпамі, чым мааісты, пабудаваць камунізм у сваёй краіне. Для гэтага «чырвоныя кхмеры» сталі знішчаць усіх праціўнікаў і «лішніх грамадзян». «Казарменны камунізм» дорага каштаваў Камбоджы: у 1975—1978 гг. з 7 млн чалавек насельніцтва загінула каля 3 млн.



М. С. Хрушчоў на трыбуне Маўзалея з кіраўнікамі дзяржаў Афрыкі, якія сталі на шлях нацыянальнага вызвалення

КРАІНЫ І ТЭРЫТОРЫІ ПА ХАРАКТАРЫ І ЎЗРОЎНІ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ




Да другой групы краін Азіі і Афрыкі адносіліся дзяржавы, у якіх усталяваліся ваенна-бюракратычныя дыктатарскія рэжымы з рэвалюцыйна-дэмакратычнай або сацыялістычнай ідэалогіяй. Марксісты-ленінцы называлі іх краінамі сацыялістычнай арыентацыі. Галоўнымі прыкметамі гэтай групы краін было поўнае знішчэнне феадальных і абмежаванне капіталістычных адносін, стварэнне моцнага дзяржаўнага сектара ў эканоміцы, устанаўленне дзяржавы нацыянальнай або рэвалюцыйнай дэмакратыі, супрацоўніцтва з СССР. У розны час да краін сацыялістычнай арыентацыі, якія рыхтаваліся да будаўніцтва сацыялізму, прылічвалі каля 20 дзяржаў, у тым ліку Егіпет, Ірак, Сірыю, Афганістан, Бірму, Лівію, Алжыр, Эфіопію, Самалі, Танзанію,

Мадагаскар, Анголу, Мазамбік і інш. СССР пасля 1945 г. падтрымліваў у асноўным краіны сацыялістычнай арыентацыі (**1). Пасля распаду СССР стала відавочнай нежыццяздольнасць «некапіталістычнага шляху развіцця» гэтых краін.

У трэцюю групу дзяржаў Азіі і Афрыкі ўвайшлі краіны, якія развіваліся па капіталістычным шляху. Яны мелі розныя палітычныя рэжымы — ад дэмакратычных да аўтарытарных. Адрозніваўся і іх эканамічны патэнцыял — ад высокаразвітых краін (Японія, ПАР, Турцыя, Рэспубліка Карэя, Тайвань і інш.) да бедных дзяржаў Трапічнай Афрыкі.

**Ідэалагічныя плыні ў краінах, якія вызваліліся ад калані>яльнай залежнасці.** Пасля распаду каланіяльнай сістэмы ў Азіі і Афрыцы атрымалі распаўсюджанне марксізм-ленінізм і мааізм (кітаізаваны марксізм). Агульнае адмоўнае стаўленне да Захаду, непрыняцце рыначных адносін, прававой дзяржавы і грамадзянскай супольнасці, фармальная сацыяльная роўнасць, калектывізм, аднапартыйная дыктатура, культ правадыра зблізілі марксізм-ленінізм, сталінізм і мааізм з некаторымі традыцыйнымі каштоўнасцямі ўсходніх рэлігій і ідэалогій. У Кітаі, КНДР, В’етнаме марксізм-ленінізм адчуваў уплыў канфуцыянскіх традыцый, хаця камуністы перыядычна вялі там барацьбу супраць канфуцыянства. Спробы будаўніцтва марксісцка-сацыялістычнай мадэлі грамадства на будыйскай аснове былі характэрны для Бірмы (бірманскі шлях да сацыялізму), часткова для Лаоса, Камбоджы, дзе пераважаў марксізм-ленінізм. У гэтых краінах ён спалучаўся не толькі з будызмам, але і з нацыяналізмам. Мааізм меў вялікі ўплыў у Інданезіі, Бірме і на Філіпінах (дзе камуністы вялі працяглыя грамадзянскія войны), а таксама ў кампартыях некаторых афра-азіяцкіх краін. У Афрыцы, за выключэннем ПАР, кампартыі і іх ідэалогія не атрымалі вялікай падтрымкі.

Ідэі дэмакратычнага сацыялізму і Сацыялістычны інтэрнацыянал (міжнароднае аб’яднанне сацыялістычных і сацыял-дэмакратычных партый пасля 1945 г.) таксама зрабілі прыкметны ўплыў на фарміраванне ідэалогій у краінах, якія вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці. Гандзізм і дэмакратычны сацыялізм склалі аснову тэорыі «грамадства сацыялістычнага ўзору», якая з’яўляецца ідэалогіяй ІНК. Марксізм і дэмакратычныя ідэі ў спалучэнні з ісламам знайшлі сваё адлюстраванне ў канцэпцыі «інданезійскага сацыялізму» А. Сукарна.

У 1960—1970-х гг. марксізм-ленінізм зрабіў вызначальны ўплыў на фарміраванне тэорый сацыялізму «нацыянальнага тыпу». У выніку іх аснову склаў сінтэз нацыяналізму, рэлігіі і марксізму-ленінізму. «Арабскі», «алжырскі», «ісламскі», «афрыканскі» і іншыя віды сацыялізму сталі ідэалагічнымі дактрынамі кіруючых партый у краінах сацыялістычнай арыентацыі.

Г. А. Насэр на аснове ідэй «ісламскага сацыялізму» і арабскага нацыяналізму прапанаваў задачу пабудовы ў Егіпце «сацыялістычнага, дэмакратычнага, кааператыўнага грамадства». Сацыялізм, паводле Насэра, азначаў прызнанне вядучай ролі дзяржаўнага сектара ў эканоміцы, планавую сістэму гаспадаркі, сацыяльную справядлівасць, захаванне пазіцый ісламу ў грамадстве, кааператыўнае размеркаванне прыбытку (25 % — рабочым) на прадпрыемствах і ўдзел працоўных у кіраванні вытворчасцю.

У неарабскай частцы Афрыкі пасля 1945 г. узмацніўся ўплыў панафрыканізму, прадстаўнікі якога выступалі за вызваленне неграў Афрыкі і ЗША. Л. Сенгор у рамках панафрыканізму распрацаваў тэорыю негрыцюду — канцэпцыю пра асаблівыя якасці негроіднай расы і пабудову негра-берберскага патрыярхальнага сацыялізму. Сенгор сцвярджаў, што негры па ўзроўні фізічнага і духоўнага развіцця пераўзыходзяць белых, што ім ад прыроды ўласцівыя пачуццё калектывізму і дабрыня. Паводле Сенгора, у Афрыцы склалася асаблівая негра-афрыканская культура. Негрыцюд утрымліваў элементы «чорнага расізму», падкрэсліваў афрыканскую выключнасць. Гэтая тэорыя адыграла важную ролю ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе на тэрыторыі Афрыкі.

**Неакаланіялізм.** Пасля заваявання незалежнасці многія краіны Азіі і Афрыкі сутыкнуліся з цяжкавырашальнымі эканамічнымі і палітычнымі праблемамі. Заходнія краіны навязалі ім сістэму нераўнапраўных эканамічных адносін і ваенна-палітычных блокаў, якая атрымала назву *неакаланіялізму.*

Захаванню неакаланіялізму ў краінах «трэцяга свету» спрыялі не толькі палітыка перадавых дзяржаў Захаду, але і шматлікія сацыяльна-палітычныя праблемы на Усходзе. Пасля дэкаланізацыі выявіўся недахоп фінансавых сродкаў і кваліфікаваных кадраў, каб забяспечыць дастатковы ўзровень развіцця краіны. Палітычная нестабільнасць, мілітарызацыя грамадства, племянная варожасць, непісьмен-

насць, беднасць, нізкая прадукцыйнасць працы, аграрны і вузкаспецыялізаваны характар эканомікі, адсутнасць перадавых галін прамысловасці замацавалі неакаланіяльную залежнасць некаторых краін Усходу ад развітых дзяржаў свету.

**Дадатковы матэрыял**

### **1. СССР і краіны «трэцяга свету»

Прыкладна да канца 1950х гг. кіраўніцтва Савецкага Саюза асноўную ўвагу надавала падтрымцы Кітая, КНДР, МНР, ДРВ. Матэрыяльная дапамога гэтым краінам склала сотні мільярдаў рублёў. Савецкі народ дапамагаў будаваць там сацыялістычнае грамадства. Пачынаючы з сярэдзіны 1950х гг. СССР ажыццяўляў шырокія праграмы дапамогі краінам сацыялістычнай арыентацыі, асабліва Егіпту і іншым арабскім дзяржавам.

У 1960—1980х гг. СССР аказаў значную падтрымку Індыі, ДРВ, Сірыі, Іраку, Афганістану, Эфіопіі і Егіпту, з якімі былі падпісаны дагаворы аб дружбе і супрацоўніцтве. Асаблівыя надзеі ўскладаў Крэмль на Егіпет і яго прэзідэнта Г. А. Насэра, які стаў Героем Савецкага Саюза. У 1953—1971 гг. на Егіпет прыпадала 43 % усяго аб'ёму дапамогі, якую СССР аказваў краінам «трэцяга свету».

**Пытанні і заданні**

1. Прывядзіце гістарычныя факты, якія пацвярджаюць распад каланіяльнай сістэмы. Пры адказе выкарыстайце картасхему на с. 152.
2. Запоўніце параўнальную табліцу «Краіны Азіі і Афрыкі». Выкарыстайце картасхему на с. 154.

| Прыкметы для параўнання | Першая група | Другая група | Трэцяя група |
|---|---|---|---|
| Назва краіны | | | |
| Грамадскапалітычны лад | | | |
| Эканамічныя асновы | | | |

3. Чаму СССР пасля 1945 г. падтрымліваў краіны сацыялістычнай арыентацыі?
4. Пералічыце асноўныя ідэалагічныя плыні ў краінах, якія вызваліліся.
5. У чым заключаецца тэорыя негрыцюду?
6. Што ўяўляе сабой неакаланіялізм? Сфармулюйце магчымыя шляхі яго пераадолення.

# § 19—20. КІТАЙСКАЯ МАДЭЛЬ ПАБУДОВЫ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА

**Успомніце**

У чым заключаюцца асноўныя палажэнні суньятсенізму і мааізму?

**Утварэнне КНР. Першая пяцігодка.** У канцы Другой сусветнай вайны Кітай апынуўся на парозе грамадзянскай вайны паміж Камуністычнай партыяй Кітая (КПК) і кіруючай партыяй — Гаміньданам. СССР пасля разгрому Японіі перадаў КПК узбраенне японскай Квантунскай арміі, якая капітулявала. Ваенныя саветнікі і спецыялісты з Савецкага Саюза аказвалі дапамогу КПК. Галава гаміньданаўскага рэжыму Чан Кайшы з трывогай назіраў за ростам сіл камуні-



стычнага лагера. ЗША стараліся прымірыць КПК і Гаміньдан, аднак безвынікова. У 1946—1949 гг. у Кітаі адбылася грамадзянская вайна, якая закончылася перамогай камуністаў. Чан Кайшы быў вымушаны ўцякаць на востраў Тайвань, які ў той час абараняў амерыканскі флот. На Тайвані да сённяшняга дня існуе «Кітайская рэспубліка».

**1 кастрычніка 1949 г.** на плошчы Цяньаньмэнь у Пекіне Мао Цзэдун зачытаў дэкларацыю аб стварэнні Кітайскай Народнай Рэспублікі (КНР). Асновай палітычнага ладу, абвешчанага ў КНР, стала дэмакратычная дыктатура народа, або «новая дэмакратыя».

СССР прызнаў КНР і ў лютым 1950 г. падпісаў з ёй Дагавор аб дружбе, саюзе і ўзаемнай дапамозе тэрмінам на 30 гадоў.

У 1950—1952 гг. у КНР быў адноўлены даваенны ўзровень эканомікі. Пры дапамозе СССР Кітай дабіўся хуткага росту тэмпаў прамысловай вытворчасці ў перыяд першай пяцігодкі (1953—1957). Былі нацыяналізаваны сродкі вытворчасці, ліквідавана памешчыцкае землеўладанне, праведзена каапераванне вёскі. Сацыяльна-палітычныя рэформы праходзілі ў абстаноўцы масавага тэрору, накіраванага супраць сялян, у гарадах былі арганізаваны кампаніі барацьбы супраць «трох бед» (карупцыі, марнатраўства, бюракратызму) і «пяці бед» (хабарніцтва, ухілення ад платы падаткаў, раскрадання дзяржаўнай

### Штрыхі да палітычнага партрэта

**Мао Цзэдун (1893—1976)**



Мао Цзэдун — старшыня ЦК КП Кітая з 1943 г. Адзін з заснавальнікаў КПК. Пасля ўтварэння КНР узначальваў урад краіны. У 1954—1959 гг. старшыня КНР. Стаў прызнаным лідэрам камуністаў і ідэолагам «кітаізаванага марксізму». Адыграў вырашальную ролю ў барацьбе супраць Гаміньдана і ў працэсе ўтварэння КНР. Амаль тры дзесяцігоддзі знаходзіўся ва ўладзе. Мао меркаваў, што ўзброеная барацьба, тэрор і насілле адыгрываюць вырашальную ролю ў гісторыі. Такімі метадамі ён імкнуўся хуткімі тэмпамі пабудаваць сацыялізм і камунізм у Кітаі. Мао лічыў, што класавыя супярэчнасці пастаянна абвастраюцца ў ходзе будаўніцтва сацыялізму, таму ўвесь час вёў ідэалагічную барацьбу супраць сваіх апанентаў. Ён быў таксама прыхільнікам кітайскага нацыяналізму, заўсёды падкрэсліваў вядучую ролю кітайскай нацыі ў ходзе рэвалюцыйнага пераўтварэння свету.

маёмасці, невыканання дзяржзаказу, спекуляцыі). Гэтыя недахопы мааісты прыпісвалі чыноўнікам і прадпрымальнікам. У выніку такой палітыкі сотні тысяч з іх былі рэпрэсіраваны. Пасля кароткачасовага перыяду дэмакратызацыі, праводзімай пад лозунгам «Няхай расцвітаюць 100 кветак, няхай спрачаюцца 100 вучоных!», КПК расправілася з іншадумцамі ў сферы навукі і культуры.

**«Вялікі скачок» 1958—1960 гг.** Пасля паспяховага выканання планаў першай пяцігодкі 1953—1957 гг. Мао стаў навязваць КПК ідэю *«вялікага скачка»* да камунізму. Новая генеральная лінія КПК, зацверджаная ў 1958 г. на другой сесіі VIII з’езда партыі, зарыентавала народ на тое, каб, «напружыўшы сілы, імкнучыся наперад, будаваць сацыялізм згодна з прынцыпам: больш, хутчэй, лепш, эканомней». Была пастаўлена задача за 7—10 гадоў абагнаць па ўзроўні развіцця СССР і ЗША і пабудаваць камунізм. Для дасягнення пастаўленых мэт КПК заклікала «ўзварушыць масы, як ніколі раней», «ушчыльніць дваццаць гадоў у адзін дзень». «Тры гады напружанай працы і дзесяць тысяч гадоў шчасця» — такім стаў галоўны лозунг мааісцкай прапаганды.

Новая стратэгія пабудовы камунізму ў Кітаі атрымала назву курсу «трох чырвоных сцягоў» («вялікі скачок», народныя камуны, новая генеральная лінія КПК на хуткую пабудову сацыялізму). Народныя камуны (**1), арганізаваныя ў КНР у жніўні — верасні 1958 г., сталі асноўнай формай мабілізацыі мас для рэалізацыі «вялікага скачка».

У гэтыя гады пачалася «бітва за сталь», у якой удзельнічала 90 млн чалавек. Мааісты заклікалі не толькі заводы, але і ўсе іншыя ўстановы варыць сталь і чыгун. Нават школы, тэатры і бальніцы мелі ў дварах маленькія печы, да якіх жыхары зносілі металалом і хатняе начынне. Характэрнымі рысамі «вялікага скачка» і народных камун сталі мілітарызацыя працоўных адносін і «барацьба за поспех» (гігантаманія).

Была аб’яўлена «народная вайна супраць прыроды» з мэтай змяніць прыродныя ўмовы краіны. У ходзе гэтай кампаніі ў Кітаі адбылася трохдзённая «вераб’іная вайна». Лічылася, што вераб’і паядаюць шмат збожжа і перашкаджаюць вырашэнню харчовага пытання. У выніку было знішчана 1 млрд 204 млн птушак. Праследавалі яшчэ чатырох «шкоднікаў»: мух, пацукоў, маскітаў і смаўжоў. «Народная вайна супраць прыроды» замест таго, каб наблізіць «камуністычнае заўтра», нанесла шкоду экалогіі краіны.

Рэжым «казарменнага камунізму» ў Кітаі прывёў краіну да эканамічнай катастрофы. Палітыка «вялікага скачка» скончылася поўным правалам. Народныя камуны аказаліся неэфектыўнымі і былі пераўтвораны ў вытворчыя брыгады. У Кітаі пачаўся голад. Каб паменшыць беспрацоўе і змякчыць наступствы голаду, у 1961—1962 гг. з гарадоў у вёску было перaселена каля 30 млн чалавек. Пачаўся перыяд «урэгулявання» народнай гаспадаркі КНР.

**«Культурная рэвалюцыя» 1966—1976 гг.** Пасля смерці І. В. Сталіна Мао Цзэдун асудзіў палітыку хрушчоўскай «адлігі» ў СССР і заявіў, што цэнтр сусветнага рэвалюцыйнага руху цяпер знаходзіцца ў Кітаі. Мааісты вырашылі падавіць апазіцыю ўнутры КНР і ўстанавіць ваенна-бюракратычную дыктатуру. Была распрацавана тэорыя «вялікай пралетарскай культурнай рэвалюцыі», новага этапу класавай барацьбы ў ходзе будаўніцтва сацыялізму, у выніку якога, паводле задумы мааістаў, павінны былі ўстанавіцца новая пралетарская культура і сацыялістычны спосаб жыцця.

Падставай да пачатку *«культурнай рэвалюцыі»* паслужыла крытыка п’есы У Ханя «Разжалаванне Хай Жуя», у якой у алегарычнай форме асуджалася палітыка Мао Цзэдуна. У маі 1966 г. Мао паставіў задачу пачаць «культурную рэвалюцыю» і ўзяцца за правядзенне масавай «чысткі» ў радах партыі. Многія лідэры КПК былі рэпрэсіраваны або зняты са сваіх пастоў. Галоўнай сілай «культурнай рэвалюцыі» сталі маладзёжныя атрады хунвэйбінаў («чырвоных ахоўнікаў») і цзаафаняў («бунтароў»). У атрады хунвэйбінаў уваходзілі ў асноўным навучэнцы школ і студэнты, цзаафанямі былі прадстаўнікі рабочай моладзі.

Некаторыя лідэры партыі, спасылаючыся на стары ўзрост Мао Цзэдуна, паспрабавалі выступіць супраць «культурнай рэвалюцыі» і зняць Мао з паста старшыні КПК. Аднак ён зрабіў нечаканы для многіх учынак. 16 ліпеня 1966 г. 72-гадовы Мао за 65 хвілін праплыў уніз па цячэнні Янцзы (каля Уханя) 15 км, даказаўшы тым самым, што знаходзіцца ў выдатнай фізічнай форме. Пяць тысяч маладых хунвэйбінаў суправаджалі яго ў вадзе, а яшчэ сто тысяч чалавек апладзіравалі на беразе. У хуткім часе праціўнікі Мао былі рэпрэсіраваны. Пленум ЦК КПК у жніўні 1966 г. прыняў праграмныя дакументы «культурнай рэвалюцыі». Партыйныя арганізацыі былі разгромлены. Улада перайшла да рэвалюцыйных камітэтаў (рэўкомаў),

якімі кіравалі ваенныя і мааісты. У Кітаі ўстанавілася мааісцкая дыктатура.

Сорак мільёнаў хунвэйбінаў, якіх называлі чырвонай гвардыяй, сталі праводзіць масавы тэрор у краіне. Сапраўдных ці ўяўных працаўнікаў існуючага ладу мааісты ссылалі ў канцлагеры. Больш за ўсё пацярпела інтэлігенцыя. Школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы фактычна не працавалі, іх занялі хунвэйбіны. Настаўнікі і выкладчыкі зневажаліся. Была аб'яўлена таксама рашучая барацьба супраць буржуазнага спосабу жыцця (**2).

Старшыню КНР Лю Шааці мааісты абвясцілі «здраднікам, правакатарам, штрэйкбрэхерам, ланцужным сабакам імперыялізму, рэвізіянізму і гаміньданаўскай рэакцыі». Ён быў арыштаваны і памёр у турме ў 1969 г. Генеральнага сакратара ЦК КПК Дэн Сяапіна саслалі ў правінцыю, дзе ён працаваў слесарам.

У 1969 г. на IX з'ездзе КПК было заяўлена пра перамогу «культурнай рэвалюцыі», хаця яна працягвалася да самай смерці Мао Цзэдуна ў 1976 г. Акрамя Мао, кіраўнікамі «культурнай рэвалюцыі» былі Цзянь Цын (жонка Мао) і Лінь Бяо (міністр абароны).

Арганічнай часткай мааізму стала прапаганда ідэй сусветнай атамнай вайны. 20 мая 1958 г. на другой сесіі VIII з'езда КПК Мао цынічна заявіў, што ў выніку вайны ў жывых застанецца 900 млн чалавек з 2,9 млрд, але затое «загіне капіталізм». У Кітаі быў узяты курс на падрыхтоўку да вайны са звышдзяржавамі, а ЗША названы «папяровым тыграм», г. зн. бяспечнымі для КНР (**3).

У ходзе падрыхтоўкі да вялікай вайны кітайцы ў буйных гарадах пабудавалі бамбасховішчы і тунелі. З 1963 г. у прыгранічных раёнах з СССР пачасціліся канфлікты, таму што КНР стала патрабаваць перагляду граніц. Тады СССР, каб засцерагчы ад небяспекі свае рубяжы і аказаць ціск на Кітай, у 1966 г. увёў войскі ў Манголію, з якой быў падпісаны дагавор аб дружбе. У сакавіку 1969 г. адбыліся буйныя бітвы паміж кітайскімі і савецкімі войскамі за востраў Даманскі на рацэ Усуры.

Кіраўнікі КПК усхвалялі Мао як не параўнальнага ні з кім генія, які зрабіў усё для таго, каб даказаць, што кітайцы — самая вялікая і здольная нацыя на Зямлі. Яны лічылі, што ідэі Мао сталі «наймагутнейшай духоўнай атамнай бомбай». У канцы 1960-х гг. культ «вялікага рулявога», як называлі Мао, дасягнуў свайго найвышэйшага пункта.

У 1970—1971 гг. пачалася новая хваля барацьбы за ўладу сярод мааісцкага кіраўніцтва. Лінь Бяо прэтэндаваў на пост старшыні КНР, ён таксама выступаў супраць палітыкі збліжэння паміж ЗША і Кітаем. У 1971 г. Лінь Бяо ўзначаліў змову супраць Мао. Аднак цягнік, на якім ехаў «вялікі рулявы», узарваць не ўдалося. А неўзабаве загінуў і сам Лінь Бяо. Паводле афіцыйнай версіі, самалёт, на якім ён вылецеў у СССР, пацярпеў катастрофу ў МНР. Усе пасажыры загінулі. X з'езд КПК у 1973 г. асудзіў групу Лінь Бяо. Пасля з'езда быў рэабілітаваны Дэн Сяапін.

У студзені 1975 г. новая Канстытуцыя КНР замацавала ваенна-бюракратычную дыктатуру мааістаў. Рэўкомы лічыліся органамі ўлады на месцах. Скасоўвалася пракуратура, узмацнялася роля органаў дзяржбяспекі. У канстытуцыі было запісана, што ў КНР існуе не народная дэмакратыя, а «сацыялістычная дзяржава дыктатуры пралетарыяту».

У першай палове 1970-х гг. палепшыліся адносіны паміж Кітаем і ЗША. Амерыканскія прэзідэнты Р. Ніксан і Дж. Форд наведалі Пекін. З 1972 г. Японія і КНР устанавілі дыпламатычныя адносіны. Кітай адмовіўся ад сваёй долі рэпарацый, якія выплачвала Японія пасля 1945 г.

У студзені 1976 г. памёр прэм'ер-міністр Чжоў Эньлай. У дзень памінання памерлых у красавіку 1976 г. на плошчы Цяньаньмэнь адбылося ўскладанне вянкоў у яго памяць. Мааісты ўбачылі ў гэтым пратэст супраць сваёй палітыкі. Дэн Сяапін, якога лічылі натхняльнікам гэтых падзей, быў зняты з усіх пастоў.

9 верасня 1976 г. памёр Мао Цзэдун. З яго смерцю закончылася і «вялікая пралетарская культурная рэвалюцыя», якая не толькі перашкаджала эканамічнаму развіццю краіны, але і нанесла вялізныя страты кітайскаму народу. Было рэпрэсіравана больш за 100 млн чалавек, з іх, паводле розных звестак, загінула ад 8 да 10 млн.



Дэн Сяапін — адзін з ініцыятараў «кітайскай перабудовы»

**«Кітайская перабудова».** Пасля смерці Мао ўнутры КПК абвастрылася барацьба за ўладу, у выніку якой перамог мааіст-рэфарматар Дэн Сяапін. «Культурная рэвалюцыя» была прызнана «феадальна-фашысцкай» дык-

КІТАЙ у канцы XX — пачатку XXI в.




татурай, а ў канцы **1978 г.** пачаліся рэформы, якія сталі называць *«кітайскай перабудовай»*.

Першапачаткова асноўная ўвага аддавалася сельскай гаспадарцы. Сем'і, брыгады або кааператывы атрымлівалі зямлю ва ўласнае карыстанне ці ў падрад тэрмінам да 50 гадоў. Частку прадукцыі сяляне па кантракце здавалі дзяржаве, а рэшткамі ўраджаю распараджаліся паводле свайго жадання. Прамысловасць Кітая перайшла на новыя прынцыпы работы — самаакупнасць, гаспадарчы разлік, самастойны збыт прадукцыі. У эканоміку КНР стаў шырока прыцягвацца замежны капітал, для яго аб'явілі адкрытымі 14 буйных гарадоў і партоў. Былі створаны спецыяльныя эканамічныя зоны для дзейнасці замежных прадпрымальнікаў.

У 1980—1988 гг. эканамічныя рэформы забяспечылі небывалы ўздым народнай гаспадаркі. У Кітаі была вырашана харчовая праблема. Збожжа збіралася звыш 400 млн тон у год. Даходы сялян выраслі

больш чым у тры разы. КПК адобрыла ход эканамічных рэформаў і зарыентавала народ на пабудову сацыялізму з «кітайскай спецыфікай».

Дэн Сяапін стаў прызнаным кіраўніком «кітайскай перабудовы» і самай вялікай кампартыі ў свеце (больш за 46 млн членаў у 1987 г., 51 млн — у 1992 г.).

Рэформы ў краіне, а таксама ўплыў Захаду выклікалі ўздым дэмакратычнага руху, авангардам якога сталі студэнцкая моладзь і частка інтэлігенцыі. Яны патрабавалі дэмакратызацыі грамадскага ладу краіны, адмовы КПК ад кіруючай ролі. У канцы 1986 г. па Кітаі пракацілася хваля дэманстрацый студэнтаў, якія выступалі за палітычныя рэформы. Падтрымліваў гэтыя патрабаванні лідэр КПК Ху Яабан, якога называлі «кітайскім Гарбачовым». Ён быў зняты са свайго паста. Яго смерць у маі 1989 г. стала падставай для масавай студэнцкай дэманстрацыі ў **чэрвені 1989 г.** на плошчы Цяньаньмэнь у Пекіне. Аднак з дапамогай арміі ўлады падавілі выступленне студэнтаў. У выніку загінулі тысячы маладых людзей, больш за 120 тыс. былі арыштаваны. У наступныя гады расправам падвергліся шматлікія прадстаўнікі дэмакратычных сіл.

У 1987 г. былі вызначаны этапы будаўніцтва сацыялістычнага грамадства з «кітайскай спецыфікай»: перыяд неразвітога сацыялізму (1957—2000), перыяд даволі развітога сацыялізму (2000—2050), а таксама пачатак уступлення ў этап развітога сацыялізму (з 2050 г.)



Разгон дэманстрацыі на плошчы Цяньаньмэнь. Пекін, 4 чэрвеня 1989 г.

і перыяд далейшага будаўніцтва камунізму. Кіраўнікі Кітая ў сваёй палітыцы прытрымліваюцца наступных прынцыпаў: сацыялістычны шлях развіцця Кітая, народна-дэмакратычная дыктатура, кіруючая роля кампартыі, марксізм-ленінізм і ідэі Мао Цзэдуна, якія сталі асновай ідэалогіі КПК.

Кіраўніком КПК у 1989—2002 гг. быў Цзян Цзэмінь. У канцы 2002 г. генсекам КПК стаў пераемнік Цзян Цзэміня — Ху Цзіньтао. У Кітаі паспяхова працягваецца рэфармаванне сацыялістычнага грамадства. У сакавіку 2004 г. Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў прыняў закон аб прызнанні прынцыпу прыватнай уласнасці і выступіў за пашырэнне рыначных адносін і далейшую дэмакратызацыю палітычнага жыцця краіны.

Кітай у канцы 1970-х гг. аднавіў дыпламатычныя адносіны з ЗША, падпісаў дагавор аб міры і дружбе з Японіяй. У сваю чаргу Японія і ЗША прызналі Тайвань часткай КНР. На Тайвані пасля смерці Чан Кайшы ў 1975 г. узмацніўся рух за ўз'яднанне з КНР паводле прынцыпу «адна краіна — дзве сістэмы». Тайвань да гэтага часу ператварыўся ў квітнеючую дзяржаву. Так, напрыклад, нацыянальны даход на душу насельніцтва ў Тайвані ў сярэдзіне 1980-х гг. складаў 3600 долараў, у КНР — 500. Кітай дабіўся вяртання англійскай калоніі — Ганконга (Сянган, 1997) і партугальскага ўладання Макао (Аамынь, 1999). Калі адбудзецца яшчэ і ўз'яднанне Тайваня з КНР, то эканамічны патэнцыял краіны значна ўзрасце.

Адносіны КНР і СССР да 1985 г. былі напружанымі. У 1979 г. у час кітайска-в'етнамскага ўзброенага канфлікту ўзнікла пагроза вайны паміж СССР і КНР. Кітай патрабаваў ад Масквы вывесці савецкія войскі з Афганістана, Манголіі і садзейнічаць вываду войскаў в'етнамскай арміі з Кампучыі.

Пасля вываду войскаў з гэтых дзяржаў у 1989—1991 гг. адносіны КНР і СССР палепшыліся і сталі дынамічна развівацца. У апошнія гады кіраўніцтва Расіі заяўляе пра неабходнасць «стратэгічнага партнёрства» дзвюх краін. КНР і Расія паспяхова супрацоўнічаюць на міжнароднай арэне.

**Культура ў КНР.** У 1950-х гг. мааісты правялі шэраг ідэалагічных кампаній, скіраваных на падаўленне ў Кітаі ліберальных і дэмакратычных ідэй. Але галоўную ўвагу КПК аддавала развянчанню ідэалаў і каштоўнасцей канфуцыянства, якое працягвала быць духоўнай асновай

кітайскай цывілізацыі. Многія вучоныя, ідэолагі, пісьменнікі выступілі ў абарону канфуцыянства або за спалучэнне яго з марксізмам.

У гады «культурнай рэвалюцыі» мааісты не толькі крытыкавалі канфуцыянства, якое лічылі ідэалогіяй рабаўладальнікаў, але і знішчалі помнікі Канфуцыю, закрывалі храмы. У 1973—1974 гг. у КНР прайшла ідэалагічная кампанія, накіраваная супраць міністра абароны Лінь Бяо. Чан Кайшы, Лю Шаацы, Лінь Бяо былі аб'яўлены паслядоўнікамі Канфуцыя і рэакцыянерамі.

Пасля заканчэння «культурнай рэвалюцыі» ў Кітаі пачаўся працэс адраджэння канфуцыянскіх каштоўнасцей. Сталі адкрывацца храмы Канфуцыя, праводзіцца канферэнцыі і дыскусіі па вывучэнні яго спадчыны. Постмааісты былі вымушаны прыняць такія канфуцыянскія каштоўнасці, як трыманне дысцыпліны, строгая іерархія і падпарадкаванне, працавітасць і стараннасць у вучобе, гармонія чалавека і прыроды, дух карпаратыўнасці, клана, сям'і. Пасля «культурнай рэвалюцыі» ў Кітаі сталі адраджацца даасізм, будызм і хрысціянства. Былі адкрыты сотні будыйскіх і дааскіх манастыроў, каля 2 тыс. хрысціянскіх цэркваў.

У КНР значна павялічылася колькасць навукова-даследчых устаноў. Вядучыя сярод іх — Акадэмія навук Кітая, Акадэмія грамадскіх навук і універсітэты найбуйнейшых гарадоў. Кітайская навука дабілася значных поспехаў. Пра гэта сведчаць выпрабаванні атамнай бомбы ў 1964 г. і вадароднай бомбы ў 1967 г., запуск штучнага спадарожніка Зямлі ў 1970 г. і балістычных ракет у 1980 г. Быў спраектаваны суперкамп'ютэр, здольны выконваць 100 млн аперацый у секунду, створана магутная ракета «Чанчжэн-3». У кастрычніку 2003 г. КНР стала касмічнай дзяржавай. Касманаўт Ян Лівэй вывеў карабель на калязямную арбіту. У 2005 г. адбыўся другі касмічны палёт кітайскіх касманаўтаў. У апошнія гады адукацыя і навука ў КНР развіваюцца хуткімі тэмпамі. Кітай выходзіць на перадавыя рубяжы навукова-тэхнічнага прагрэсу.

У 1958 г. у галіне мастацкай культуры мааісты навязалі пісьменнікам і мастакам адзіны метад творчасці — спалучэнне рэвалюцыйнага рэалізму з рэвалюцыйным рамантызмам. Афіцыйная літаратура адлюстроўвала ў асноўным толькі мааісцкую інтэрпрэтацыю гісторыі і жыцця людзей.

Апазіцыйныя літаратары праследаваліся. У 1954—1955 гг. у ходзе крытыкі філосафа Ху Шы асуджаліся ліберальныя ідэі ў мастацтве.

У 1957 г. пасля завяршэння кампаніі пад лозунгам «Няхай расцвітаюць 100 кветак, няхай спрачаюцца 100 вучоных!» былі рэпрэсіраваны многія пісьменнікі і паэты, у тым ліку лаўрэат Сталінскай прэміі Дзін Лін, якая напісала вядомы раман «Сонца над ракой Сангань», і паэт Ай Цын — аўтар вершаў «Поўнач», «Падае снег на кітайскую зямлю» і інш. Іх абвінавацілі ў надкласавай пазіцыі і нізкапаклонстве перад замежным мастацтвам.

«Культурная рэвалюцыя» мела катастрафічныя вынікі для кітайскай літаратуры. Уся літаратура да 1966 г., за выключэннем кніг Лу Сіня, была аб'яўлена нявартай новай пралетарскай культуры. Лепшыя пісьменнікі Кітая былі рэпрэсіраваны. Трагічным быў лёс народнага пісьменніка КНР Лао Шэ. Ён не вытрымаў здзекаў хунвэйбінаў, якія патрабавалі ад пісьменніка спаліць свае ўласныя кнігі як «феадальнае смецце», і ў 1966 г. скончыў жыццё самагубствам.

У 1978—1980 гг. уцалелыя пісьменнікі былі рэабілітаваны. У 1980-х гг. з'явіўся новы жанр — «літаратура шрамаў», прысвечаная ахвярам «культурнай рэвалюцыі». Ай Цын у паэме «На грэбені хвалі» паказваў, як мааісты эксплуатавалі народ, і заклікаў вызваліць кітайцаў з «духоўнай турмы». Ван Мэн у аповесці «З бальшавіцкім прывітаннем» апісаў сістэму паклёпніцтва і даносаў, што існавала ў Кітаі, жорсткія дзеянні хунвэйбінаў і ўлад, скіраваныя супраць апазіцыі і простых кітайцаў.

Аднак КПК, дапусціўшы «разняволенне свядомасці» пасля 1978 г., працягвае кантраляваць літаратурнае жыццё. Дэмакратычная літаратура часта падвяргаецца крытыцы.

У галіне выяўленчага мастацтва найбольшае развіццё ў КНР атрымала «новае гохуа» (сучасны кітайскі жывапіс, выкананы ў традыцыйнай тэхніцы — вадзянымі фарбамі на шаўковых і папяровых скрутках). Яго заснавальнікамі лічацца Сюй Бэйхун (напісаў у 1949 г. карціну «Кангрэс прыхільнікаў міру ў Празе»), Цы Байшы (стварыў палотны «Чорная півоня», «Крэветкі» і інш.) і Пань Цяньшоў (карціна «Лотас»). У юхуа (алейны жывапіс) афіцыйнае прызнанне атрымалі карціны «Абвяшчэнне КНР» Дун Сівэня, «Сустрэча атрадаў Мао Цзэдуна і Чжу Дэ ў Цзынганшань» Ван Шыго і інш.

Цэнтральнае месца ў жывапісе заняў агітацыйны плакат. Цзаафані стварылі, напрыклад, вядомы плакат «Тым, хто супраць стар-

шыні Мао, разаб'ём сабачыя галовы». На ім Мао намаляваны ў выглядзе магутнага хунвэйбіна, які разбівае сабачыя галовы, што сімвалізуюць імперыялізм. У гады «культурнай рэвалюцыі» многія мастакі таксама падпалі пад рэпрэсіі. Шмат хто з іх быў высланы ў так званыя працоўныя лагеры.



Мао Цзэдун, лідэр Кампартыі Кітая, абвяшчае 1 кастрычніка 1949 г. Кітайскую Народную Рэспубліку. Прапагандысцкі плакат

У 1980—1990-х гг. Лі Кэжань, Сунь Цынбо працягвалі традыцыі гохуа. У карцінах Фэн Гадуна прасочваўся ўплыў абстракцыянізму і іншых плыней заходняга мастацтва.

У архітэктуры КНР спалучаюцца нацыянальныя традыцыі і элементы заходняга горадабудаўніцтва, напрыклад, у праекце будынка Дзяржаўнай бібліятэкі ў Пекіне. У апошнія гады ў гарадах былі ўзведзены ультрасучасныя атэлі і будынкі. У аснову многіх твораў манументальнага мастацтва пакладзены выявы дракона, фенікса, чарапахі і іншых шанаваных кітайцамі істот. Самым вядомым мемарыяльным скульптурным творам стаў манумент народным героям на плошчы Цяньаньмэнь. У перыяд «вялікага скачка» была створана велічная скульптура «Рассоўваем горы і ствараем моры», дзе мускулісты кітаец сімвалізаваў 600-мільённы кітайскі народ, які ідзе пад кіраўніцтвам КПК да камунізму.

У часы «культурнай рэвалюцыі» хунвэйбіны і мааісты ставілі толькі «пралетарскія п'есы». Жонка Мао Цзянь Цын стала кіраваць балетам і пекінскай музычнай драмай. Яна стварыла шэраг узорных рэвалюцыйных п'ес і два балеты. Мааісты асудзілі і выключылі з рэпертуару тэатраў творы, якія змяшчалі ўскосную крытыку палітыкі КПК.

У гады «культурнай рэвалюцыі» афіцыйная крытыка падтрымлівала шаблонныя мааісцкія фільмы, такія, як «Падземная вайна» і «Мінная вайна», у якіх усхвалялася роля КПК і Мао. У 1966 г. хунвэйбіны склалі «Спіс 400 фільмаў — ядавітых траў». Кінематограф быў разгромлены. Прыкладам мааісцкага кіно стаў фільм «Быць

шрубкай, якая ніколі не ржавее», дзе расказвалася пра жыццё салдата Лэй Фэна, адданага Мао і КПК.

У 1980—1990-х гг. у Кітаі сталі здымаць фільмы, прысвечаныя самым разнастайным тэмам. Прэмій Саюза кінематаграфістаў КНР «Залаты певень» і «Сто кветак» удастоены карціны «Дзікія горы», «Голас вёскі», «Доктар Сунь Ятсен». Міжнародную вядомасць набылі актрысы Гун Лі і Сун Сяаін.

**Новыя з’явы ў спосабе жыцця кітайцаў.** Сацыялістычная рэвалюцыя мааісцкага ўзору ў Кітаі, якая пачалася ў 1949 г., карэнным чынам змяніла жыццё кітайцаў. Камуністы правялі экспрапрыяцыю ўласнасці і сталі насаджаць ідэалы і каштоўнасці «казарменнага» сацыялізму і камунізму. Да пачатку 1980-х гг. кітайскі народ жыў бедна. У гады «вялікага скачка» і «культурнай рэвалюцыі» ён перанёс усеагульную ўраўнілаўку, падаўленне асобы і свабоды чалавека, мілітарызацыю ўсіх сфер жыцця, у тым ліку быту і забаў. Народныя камуны, турмы і канцлагеры, эксплуатацыя чалавека, яго поўнае бяспраўе, прапаганда камуністычнай утопіі і рэвалюцыйных войнаў сталі характэрнымі прыкметамі сацыялістычнага спосабу жыцця ў Кітаі.

Асабліва гаравала вясковае насельніцтва, таму што за кошт сялянства праводзілася палітыка пераважнага развіцця цяжкай прамысловасці і індустрыялізацыя краіны. Асноўная маса сялян па-ранейшаму апрацоўвала поле сахой, плугам і матыкай. У гарадах да 1986 г. існавала сістэма пажыццёвага найму на работу і жорсткай прывязкі працоўных да прадпрыемства. Да 2002 г. сельскія жыхары маглі пераехаць у горад толькі па спецыяльным дазволе.

«Кітайская перабудова», праведзеная ў 1980-х гг., садзейнічала паляпшэнню жыцця народа. Колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у горадзе паменшылася з 20 млн чалавек у 1978 г. да 2,3 млн у 1987 г. Разам з тым у вёсках пражывае каля 100 млн чалавек, якія не маюць пастаяннай працы.

Хаця за гады рэформаў сярэднія даходы сялян і гараджан выраслі ў 2—3 разы, у канцы XX ст. Кітай па памеры нацыянальнага даходу на душу насельніцтва ўваходзіў толькі ў другую сотню дзяржаў планеты. У пачатку XXI ст. плануецца павялічыць нацыянальны даход на аднаго чалавека да 1 тыс. долараў, што дазволіць заняць 70—80-е месца ў свеце.

**Дадатковы матэрыял**

### **1. Народныя камуны ў Кітаі

У народных камунах уводзілася «ваенная дэмакратыя», сутнасць якой праяўлялася ў прынцыпах работы камун: ваенізацыя арганізацыі, баевізацыя яе дзейнасці, дысцыплінаванне жыцця. Камуны ўяўлялі сабой вялікія калектывы (у сярэднім 20—30 тыс. чалавек), у якіх людзі пазбаўляліся пры сядзібных участкаў і прылад працы, уся маёмасць, акрамя асабістых рэчаў, станавілася агульнай. Характэрнай адзнакай камун стала «калектывізацыя штодзённага жыцця»: жыхароў зганялі ў агульныя дамы, агульныя спальныя залы. Жанчыны не гатавалі ежу дома, сем'і харчаваліся ў сталоўках. Працавалі дзіцячыя садкі, пральні, атэлье. Для старых ствараліся агульныя «дамы шчасця». Жыццё камуны было мілітарызавана. Усё працаздольнае насельніцтва, арганізаванае ў батальёны, палкі і дывізіі, працавала пад лозунгам «Кожны — салдат, увесь народ — вытворчая армія». Дзвесце мільёнаў чалавек складалі народную міліцыю. У камунах уводзіўся камуністычны прынцып размеркавання даброт: з «агульнага катла» — па патрэбнасцях. Увесь Кітай уяўляў сабой у 1958—1959 гг. адзіны ваенны лагер казарменнага камунізму.

### **2. Дзейнасць хунвэйбінаў у час «культурнай рэвалюцыі»

У школах, ВНУ, установах праводзіліся сходы, на якіх абвінавачаныя павінны былі крытыкаваць сябе і цярпець здзекі. Звычайна ім надзявалі папяровы каўпак або сметніцу на галаву, на грудзі вешалі плакат з надпісам «Чорны бандыт», «Буржуазны элемент» і г. д., збівалі, ставілі на калені ці прымушалі бегаць да знямогі. Хунвэйбіны вялі барацьбу з так званым буржуазным спосабам жыцця: забаранялася слухаць заходнія радыёстанцыі, купляць ласункі, садавіну, насіць непралетарскую адзежу, упрыгожанні, карыстацца касметыкай. На вуліцах хунвэйбіны адразалі дзяўчатам косы, зрывалі з вушэй завушніцы, здымалі пярсцёнкі, адсякалі вузкія наскі туфель, а юнакам распорвалі «стыльныя» штаны.

Хунвэйбіны пачыналі пагромы з перайменавання вуліц і пераключэння святлафораў. Чырвонае святло стала азначаць свабодны праезд, а зялёнае — «стоп». Лічылася, што спыняльнае значэнне святлафорнага чырвонага сігналу з'яўляецца абразлівым для камуністычнага чырвонага колеру.

### **3. Мао Цзэдун аб «папяровых тыграх»

«Калі мы гаворым: „Імперыялізм люты і жорсткі“, мы маем на ўвазе тое, што яго прырода не можа змяніцца, што імперыялісты аж да самай сваёй гібелі нізавошта не адкінуць нож мясніка, ніколі не стануць будамі. Амеры

канскі імперыялізм здаецца грамадзінай, але фактычна з'яўляецца „папяровым тыграм" і робіць перадсмяротныя намаганні. Усе рэакцыянеры — гэта „папяровыя тыгры". На выгляд рэакцыянеры страшныя, але ў сапраўднасці яны не такія ўжо моцныя. Калі разглядаць пытанне з пункту гледжання працяглага перыяду часу, то сапраўды магутнай сілай валодаюць не рэакцыянеры, а народ».

**Пытанні і заданні**

1. Што ўяўляў сабой мааізм? Пры адказе выкарыстайце паняцце *дзяржаўны сацыялізм* і матэрыял рубрыкі «Штрыхі да палітычнага партрэта» на с. 159.
2. Растлумачце, у чым заключалася сутнасць «народнай вайны супраць прыроды». Чаму яна скончылася поўным правалам?
3. У чым заключалася ідэя «вялікага скачка», прапанаваная Мао Цзэдунам, і як яна была рэалізавана?
4. Чаму менавіта інтэлігенцыя падпала пад рэпрэсіі ў час правядзення «культурнай рэвалюцыі»? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
5. Чаму палітыка Дэн Сяапіна атрымала назву «кітайскай перабудовы»? У чым заключаюцца асаблівасці сацыялізму з «кітайскай спецыфікай»?
6. Чаму Мао Цзэдун назваў ЗША «папяровым тыграм»? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
7. Чаму кітайская моладзь выйшла на плошчу Цяньаньмэнь у Пекіне ў 1989 г.?
8. Раскажыце пра асаблівасці развіцця культуры ў КНР і прывядзіце адпаведныя прыклады.

## § 21—22. САЦЫЯЛЬНА>ПАЛІТЫЧНАЕ І ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ ЯПОНІІ. КУЛЬТУРА І СПОСАБ ЖЫЦЦЯ

**Успомніце**

Якімі былі вынікі Другой сусветнай вайны для Японіі?

**Рэформы 1945—1949 гг.** Атамная бамбардзіроўка амерыканскімі ВПС Хірасімы і Нагасакі і разгром савецкімі войскамі Квантунскай арміі прымусілі Японію падпісаць **2 верасня 1945 г.** Акт аб

безагаворачнай капітуляцыі. У бітвах Другой сусветнай вайны загінула каля 3 млн японцаў.

Войскі ЗША акупіравалі Японію. Фактычна ўлада ў краіне належала камандуючаму амерыканскімі войскамі генералу Д. Макартуру. ЗША да 1949 г. не аказвалі Японіі істотнай эканамічнай дапамогі. Яны стараліся ўкараніць на яе тэрыторыі сістэму амерыканскай дэмакратыі, г. зн. правесці ў краіне мірную дэмакратычную рэвалюцыю. Ужо ў кастрычніку 1945 г. выйшла дырэктыва Макартура аб правядзенні ў краіне дэмакратычных рэформаў.

Былі ліквідаваны фашысцкія арганізацыі, арыштаваны ваенныя злачынцы. Дапускалася шматпартыйнасць. Рабочыя атрымалі права арганізоўваць прафсаюзы, баставаць. Аднак іх зарплата заставалася ў 5—8 разоў меншай, чым у краінах Захаду. Найважнейшай рэформай у пасляваеннай Японіі стала ліквідацыя памешчыцкага землеўладання. Сяляне атрымалі зямлю ў прыватную ўласнасць. Зямельны надзел не павінен быў перавышаць 3 га, а на востраве Хакайда — 10 га.

3 мая 1947 г. увайшла ў сілу дэмакратычная Канстытуцыя Японіі. Усеагульнае выбарчае права, аддзяленне рэлігіі ад дзяржавы, адмена абагатварэння імператара, двухпалатны парламент, наданне правоў і свабод грамадзянам — усё гэта падкрэслівала яе дэмакратычны і прагрэсіўны характар. Унікальны ў гісторыі дзяржавы і права 9-ы артыкул японскай Канстытуцыі. Ён абвяшчае адмову нацыі ад арміі і флоту, ад вядзення войнаў і прымянення сілы. Паводле канстытуцыі ўлада належыць народу, а імператар застаецца толькі сімвалам нацыі.

Узмацненне «халоднай вайны» паміж ЗША і СССР, паражэнне Чан Кайшы і пагроза з’яўлення «чырвонага Кітая» прымусілі ЗША змяніць палітыку ў адносінах да Японіі. «Зваротны курс» ЗША ў Японіі азначаў ператварэнне гэтай краіны ў саюзніка амерыканцаў на ўсходзе Азіі.

**Японія ў 1950—1960>х гг.** У час карэйскай вайны 1950—1953 гг. Японія стала асноўнай базай для перакідкі войскаў ЗША ў Карэю. На японскіх прадпрыемствах размяшчаліся амерыканскія ваенныя заказы. Насуперак 9-му артыкулу Канстытуцыі ў Японіі былі сфарміраваны ўзброеныя сілы, якія атрымалі назву «сілы самаабароны».

У **1951 г.** ЗША, Вялікабрытанія і шэраг іншых дзяржаў падпісалі ў Сан-Францыска мірны дагавор з Японіяй. Дагавор аднаўляў суверэ-

нітэт Японіі, прадугледжваў вывад амерыканскіх войскаў, фіксаваў адмову Японіі ад прэтэнзій на Паўднёвы Сахалін, Курыльскія астравы, Тайвань. Аднак у дакуменце не ўказвалася, што гэтыя тэрыторыі вяртаюцца СССР і Кітаю. Акрамя таго, Японія прызнавала незалежнасць Карэі. СССР адмовіўся падпісаць дагавор.

Адначасова быў падпісаны і япона-амерыканскі пакт бяспекі, які даваў ЗША права размяшчаць свае войскі на тэрыторыі Японіі. Падпісанне гэтага дакумента выклікала рух пратэсту ў Японіі.

У 1953 г. працоўныя Японіі падтрымалі жыхароў вёскі Уцінада, якія выступалі за ліквідацыю амерыканскага палігона. Амерыканцы вымушаны былі пакінуць ваенную базу. 1 сакавіка 1954 г. пасля ўзрыву амерыканскай вадароднай бомбы на атоле Бікіні (Маршалавы астравы) падверглася радыеактыўнаму заражэнню японская рыбалавецкая шхуна. Пасля гэтай трагедыі заклік да забароны атамнай зброі падпісалі 30 млн чалавек. У Японіі стала традыцыйнай такая форма барацьбы працоўных за мір, як дэманстрацыі і паходы. Напрыклад, з 1958 г. штогод арганізоўваюцца маршы міру з Хірасімы і Нагасакі ў Токіо.

Антываенны і дэмакратычны рух выклікаў перагрупоўку палітычных сіл. У 1955 г. была створана Ліберальна-дэмакратычная партыя Японіі (ЛДП), якая да 1993 г. знаходзілася ва ўладзе і выступала за стварэнне «дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту». ЛДП, улічваючы інтарэсы дзелавых колаў, патрабаванні Сацыялістычнай партыі Японіі




Марш міру. 2006 г.

(СПЯ) і іншых левых сіл, пайшла на перагаворы з СССР. У кастрычніку 1956 г. у Маскве ўрады СССР і Японіі падпісалі сумесную дэкларацыю аб спыненні стану вайны паміж дзвюма краінамі і аднаўленні дыпламатычных адносін. У дэкларацыі закраналася таксама праблема «паўночных тэрыторый». Японія патрабавала вярнуць ёй частку Курыльскіх астравоў: Ітуруп, Кунашыр, Шыкатан, Хабамаі. СССР згадзіўся перадаць Шыкатан і Хабамаі Японіі. Паўднёвы Сахалін, які Японія анексіравала яшчэ ў гады руска-японскай вайны, на правах пераможцы ў Другой сусветнай вайне СССР пакідаў за сабой. У 1960 г. у сувязі з падпісаннем новага амерыкана-японскага дагавора СССР заявіў, што перадасць Японіі астравы Шыкатан і Хабамаі толькі пры ўмове вываду амерыканскіх войскаў з яе тэрыторыі. З тых часоў праблема «паўночных тэрыторый» пастаянна ўскладняла савецка-японскія і расійска-японскія адносіны.

У першай палове 1960-х гг. у Японіі ў асноўным завяршыўся працэс фарміравання шматпартыйнай сістэмы. Ад СПЯ адкалолася правае крыло, на аснове якога ўзнікла Партыя дэмакратычнага сацыялізму (ПДС). Яе стала падтрымліваць Усеяпонская канфедэрацыя працы. У лістападзе 1964 г. будыйская арганізацыя «Сока гакай» заснавала Партыю чыстай палітыкі («Камэйта»), якая выступала за стварэнне «грамадства трэцяй цывілізацыі», «будыйскага сацыялізму».

**Японскі «эканамічны цуд».** Эканамічны ўздым у Японіі быў звязаны перш за ўсё з палітыкай ЗША ў адносінах да Краіны ўзыходзячага сонца і курсам эканамічных рэформаў, якія ў ёй праводзіліся. У сярэдзіне 1950-х гг. японцы ажыццявілі мадэрнізацыю эканомікі на базе сучаснай тэхнікі і дасягненняў НТР. У гэты час аднавілі свой эканамічны патэнцыял такія найбуйнейшыя фінансава-прамысловыя групы, як «Міцуі», «Міцубісі», «Нісан» і інш.

Японія стала масава скупляць замежныя патэнты і ліцэнзіі, г. зн. правы на выкарыстанне перадавых тэхналогій. Велізарныя сродкі выдзяляліся на развіццё навуковых даследаванняў, якія праводзіліся ў сваёй краіне. Гэта ў сваю чаргу спрыяла з’яўленню новых галін — электрарадыётэхнікі, нафтахіміі, аўтамабілебудавання. Сімваламі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў Японіі ў 1950—1960-х гг. сталі: «бум транзістараў», які «спарадзіла» фірма «Соні», каляровыя тэлевізары, магнітафоны, аўтамабілі «Таёта», «Нісан», новыя сінтэтычныя



Таргі на такійскай біржы. 1990 г.

матэрыялы і г. д. Пасля пераадолення эканамічнага спаду ў сярэдзіне 1970-х гг. японская эканоміка развівалася высокімі тэмпамі.

За апошнія 10—15 гадоў Японія здзейсніла пераход ад індустрыяльнай да постіндустрыяльнай сістэмы прадукцыйных сіл, ад эканомікі матэрыяльнай вытворчасці да эканомікі паслуг і інфармацыйнага грамадства. Гэта азначае электранізацыю эканомікі, шырокую аўтаматызацыю, рабатызацыю і камп'ютэрызацыю працы, пераход да вытворчасці новых матэрыялаў (керамікі, пластмас), шырокае прымяненне мікраэлектроннай тэхнікі і біятэхналогій. У постіндустрыяльным грамадстве прыярытэтнай стала сфера паслуг: развіццё гандлю, транспарту, сувязі, інфарматыкі, аховы здароўя, адукацыі і навукі, забаў.

Поспеху японскага «эканамічнага цуду» садзейнічала і стварэнне моцнай банкаўскай сістэмы. Па колькасці найбуйнейшых банкаў Японіі належыць сусветнае першынство. Біржа ў Токіо — самая вялікая біржа ў свеце.

Важнай прычынай эканамічнага росквіту з'яўляецца традыцыйны светапогляд, які існуе ў японскім грамадстве. Згодна з сінтаізмам, японцы разглядаюць сваё грамадства як адзіную сям'ю-дзяржаву, дзеля працвітання якой яны павінны аддаць усю сваю працоўную і творчую энергію. Японцы лічаць прадпрыемствы і фірмы, дзе яны працуюць, сваімі вялікімі сем'ямі на чале з «бацькамі» («патэрамі») —

кіраўнікамі вытворчасці, дырэктарамі заводаў і фабрык. Такі від працоўных адносін атрымаў назву *«патэрналізм».* На многіх вялікіх прадпрыемствах існуе сістэма пажыццёвага найму. Чалавек на ўсё жыццё звязвае свой лёс з пэўнай фірмай, працуе і жыве дзеля яе інтарэсаў. Вядучыя кампаніі пры прыёме на работу ўлічваюць маральныя і асабістыя якасці як самога работніка, так і яго сям'і. У Японіі шмат увагі надаецца псіхалагічнай падрыхтоўцы работнікаў.

**Асноўныя тэндэнцыі палітычнага развіцця ў 1970>х гг. — пачатку XXI ст.** У Японіі ў асноўным завяршыўся працэс фарміравання шматпартыйнай сістэмы, ва ўмовах якой выбаршчыкі аддавалі перавагу стабільнай эканамічнай і сацыяльнай палітыцы ЛДП. У 1979 г. колькасць яе членаў перавысіла 1,5 млн чалавек, што ўдвая больш за колькасць членаў іншых партый, разам узятых. Пад кіраўніцтвам ЛДП Японія ператварылася ў раўнапраўнага эканамічнага і палітычнага партнёра Захаду. Стаўшы звышдзяржавай у галіне эканомікі, Японія ўмацавала свой ваенны патэнцыял. Сілы нацыянальнай самаабароны па баявой моцы займаюць 5—6-е месца ў свеце.

Шматгадовае праўленне адной партыі нярэдка садзейнічае палітычнаму застою, карупцыі, гучным скандалам. Не пазбегла гэтага і ЛДП. З лютага 1976 г. у Японіі некалькі гадоў абмяркоўвалася справа «Локхід» — авіякампаніі ЗША, якая падкупіла кіраўніцтва ЛДП. Кіруючыя члены партыі атрымалі 13 млн долараў хабару за садзейнічанне ў атрыманні для «Локхід» выгадных заказаў.

У гэтых умовах СПЯ ўдалося заняць другое месца па колькасці дэпутатаў у парламенце пасля ЛДП. У пачатку 1990-х гг. у ЛДП адбыўся раскол. У ліпені 1993 г. яна пацярпела паражэнне на выбарах. У сувязі з гэтым у Японіі ва ўладзе знаходзіліся кааліцыйныя ўрады. У сярэдзіне 1990-х гг. ЛДП вярнулася да ўлады. У сучасны момант прэм'ер-міністр Японіі Дз. Каідзумі (з вясны 2001 г.) здолеў умацаваць пазіцыі ЛДП у краіне.

У 1989 г. памёр імператар Японіі Хірахіта, які займаў трон з 1926 г. Закончылася эпоха Сёва («бліскучы свет»). Японскім манархам стаў яго сын Акіхіта, які абвясціў эру Хэйсэй («дасягненне міру»).



Імператар Хірахіта

Рабочы і дэмакратычны рух у Японіі сёння актыўна змагаецца за мір і выступае за забарону атамнай зброі. Большасць японцаў падтрымліваюць тры няядзерныя прынцыпы: не вырабляць, не ўвозіць і не размяшчаць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю.

У галіне знешняй палітыкі, нягледзячы на «гандлёвыя войны» з ЗША, Японія застаецца іх верным саюзнікам. У 1972 г. былі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны з КНР, а ў 1978 г. Кітай і Японія падпісалі Дагавор аб міры і дружбе. Японскі ўрад прынёс прабачэнні за агрэсію супраць Кітая ў 1931—1945 гг. Японія рэзка асудзіла ўвод савецкіх войскаў у Афганістан у 1979 г. Яна ўвяла эканамічныя санкцыі супраць СССР, байкатавала XXII Алімпійскія гульні ў Маскве летам 1980 г. і актывізавала барацьбу за вяртанне «паўночных тэрыторый».

Пасля распаду СССР Японія стала імкнуцца хутчэй вырашыць тэрытарыяльнае пытанне з Расіяй, абяцаючы ў выпадку станоўчага зыходу аказаць Расійскай Федэрацыі эканамічную дапамогу.

**Адукацыя.** Японія лічыцца краінай узорнай сістэмы адукацыі. Каля 450 універсітэтаў, амаль 600 каледжаў і звыш 8 тыс. прафтэхвучылішчаў выпускаюць мільёны высокакваліфікаваных спецыялістаў. У Японіі знаходзіцца болей універсітэтаў, чым на тэрыторыі ўсёй Заходняй Еўропы. У іх штогод атрымліваюць адукацыю больш за 2 млн студэнтаў (для параўнання: у Вялікабрытаніі студэнтаў у 4 разы меней). Каля 73 % японскіх ВНУ з'яўляюцца прыватнымі, навучанне ў іх каштуе дорага, але затое яны выпускаюць спецыялістаў найвышэйшага класа. Самым прэстыжным лічыцца Такійскі ўніверсітэт, які рыхтуе чыноўнікаў высокага рангу, і ўніверсітэт Васэдза, з якога выходзіць палітычная эліта Японіі. Будучыя бізнесмены атрымліваюць адукацыю ва ўніверсітэце Кэйо.

Вучоба ў школе пачынаецца з 6 гадоў. Пачатковая школа і трохгадовая малодшая сярэдняя школа з'яўляюцца абавязковымі і бясплатнымі. Затым амаль усе вучні ідуць у трохгадовую старэйшую школу. Каля 40 % яе выпускнікоў паступаюць у ВНУ. Старэйшая сярэдняя школа падзяляецца на два аддзяленні — агульнаадукацыйнае і прафесійнае. Першае рыхтуе большую частку навучэнцаў да паступлення ў ВНУ. Прафесійнае аддзяленне часцей за ўсё мае пяць патокаў: тэхналагічны, прамысловы, сельскагаспадарчы, камерцыйны, марскога промыслу. У японскіх школах вучні ўжо з 6 гадоў здаюць экзаме-

ны. Адукацыі надаецца вялікае значэнне, існуе сапраўдны культ ведаў. Напрыклад, калі вучань захварэў, то яго маці нярэдка прысутнічае на ўроках і старанна запісвае новы матэрыял і заданні на дом.

Духоўныя каштоўнасці сінта, будызму і канфуцыянства — ідэйная аснова выхавання і навучання. У 1962 г. урад распрацаваў «Праграму фарміравання чалавека», задачай якой з'яўляецца павышэнне маральнага ўзроўню навучэнцаў, выхаванне патрыятызму, лаяльнасці да ўлады, фарміраванне «абароннай свядомасці». ЛДП прапанавала тэзіс пра неабходнасць «новага патрыятызму» — адданасці сваёй справе і фірме, стараннасці ў вучобе і працы. Мэтай жыцця японца павінна стаць «растварэнне ў рабоце», ён абавязаны ўкладваць у яе сваю душу. У 1970—1990-я гг. народная адукацыя была падпарадкавана задачам стварэння інфармацыйнага грамадства. Камп'ютэры і ЭВМ з пачатку 1970-х гг. сталі звычайнай з'явай у школах і ВНУ. У сувязі з гэтым была зроблена спроба ўзмацніць дыферэнцыяцыю ў школах і ўвесці навучанне з 4 гадоў па схеме 4+4+6 гадоў. У эксперыментальных школах навучэнец, які скончыў 8 класаў, у 12 гадоў павінен ужо выбраць сваю будучую прафесію.

**Японская культура.** У пасляваенны час у мастацкай літаратуры Японіі разглядаюцца такія актуальныя праблемы, як пераасэнсаванне вынікаў вайны, барацьба супраць прымянення атамнай зброі і за мірнае развіццё краіны; уплыў Захаду на японскую цывілізацыю; асаблівасці яе гісторыі, культурных традыцый; наступствы НТР для чалавека і прыроды і інш.

Адной з галоўных тэм дэмакратычнага кірунку ў літаратуры стала праблема адказнасці за развязванне вайны і беды, выкліканыя атамнай бамбардзіроўкай Японіі. Гэтай тэме прысвечаны творы Е. Арымы «Той, які перадаў пісьмо памерлага сябра», С. Аокі «Ваенныя нататкі з вострава Лентэ» і інш. Пра жыццё простага японца-працаўніка расказвае ў сваіх раманах Дз. Кінасіта («Бясконцыя рэйкі») і інш. Радыкальныя настроі японскай моладзі, адмаўленне ёю «маралі бацькоў», пошукі новых маральных ідэалаў найбольш ярка адлюстраваны ў бестселеры «Сонечны сезон» С. Ісіхары. Адзін з самых вядомых пісьменнікаў Японіі К. Абэ ў сваіх філасофскіх і алегарычных раманах раскрываў тэмы адчужэння асобы, духоўнай раз'яднанасці, страху і няўпэўненасці ў сучасным грамадстве («Жанчына ў пясках», «Чужы твар», «Чалавек-скрынка» і інш.).

Значнае месца ў японскай літаратуры занялі гістарычныя раманы, дэтэктывы, раманы жахаў, баевікі пра самураяў. Найбольш вядомым пісьменнікам-нацыяналістам, песняром японізму і мілітарызму быў Юкіа Місіма. У сваіх творах «Патрыятызм», «Мора багацця», «Сонца і сталь» ён заклікаў вярнуцца да мілітарысцкіх традыцый. У п’есе «Мой сябар Гітлер» пісьменнік апраўдваў злачынства як натуральнае самавыяўленне моцнай асобы. Пісьменнік стварыў ваенізаваную арганізацыю «Таварыства шчыта», займаўся каратэ і кэндо, прапагандаваў бусідо. Пасля няўдалай спробы ажыццявіць ваенны дзяржаўны пераварот у 1970 г. Місіма зрабіў харакіры.

Ідэалы японскай прыгажосці, японскае бачанне свету раскрываў у сваіх творах «Тысячакрылы журавель», «Стогн гары», «Старая сталіца» знакаміты пісьменнік Я. Кавабата, удастоены ў 1968 г. Нобелеўскай прэміі. У 1994 г. гэтую прэмію атрымаў іншы вядомы пісьменнік Японіі К. Оэ, у раманах якога адлюстраваны духоўныя і маральныя пошукі пасляваеннага пакалення, трывога за лёс чалавецтва ў неспакойны ядзерны век.

Выяўленчае мастацтва Японіі развівалася пад уплывам мастацкіх школ Захаду і нацыянальных традыцый. У жывапісе вялікіх поспехаў дасягнулі майстры японскай народнай гравюры.

У архітэктуры Японіі ў 1950-х гг. дамінаваў функцыяналізм. Будынкі былі дапасаваны да навакольнага ландшафту і адпавядалі нацыянальным традыцыям будаўніцтва. У 1960 г. японскія архітэктары прапанавалі ідэю метабалізму (зменлівасці, незавершанасці) пры ўзвядзенні гарадоў і будынкаў. К. Тангэ прапанаваў замест класічнай прамавугольнай сеткі вуліц будаваць «метабалістычны ствол», «дрэва», г. зн. некалькі паралельных транспартных артэрый. Вакол іх павінны былі ўзводзіцца жылыя кварталы, якія відазмяняліся ў залежнасці ад патрэбнасцей горадабудаўніцтва.
У 1960 г. Тангэ прапанаваў план перабудовы Токіо. Пазней метабалісты распрацавалі праект стварэння найбуйнейшага ў свеце мегаполіса ў зоне Токіо і Осакі. Па праектах архітэктара Тангэ пабудаваны спартыўны Цэнтр ёгі да Алімпійскіх гульняў 1964 г., экспазіцыя сусветнай выстаўкі ЭКСПА-70 і іншыя буйныя аб’екты. Небаскробы, ультрасучасныя будынкі, падземныя кварталы сталі характэрнымі прыкметамі буйных гарадоў.

Выдатнымі дасягненнямі японскай архітэктуры і тэхнікі лічацца двух’ярусны 10-кіламетровы мост паміж астравамі Хонсю і Сікоку і 54-кіламетровы тунель, які злучыў астравы Хонсю і Хакайда.

Пасля 1945 г. развіваліся класічныя тэатры ноа і кабукі, а таксама тэатры, у якіх ставіліся сучасныя п’есы. Вялікую цікавасць выклікаў спектакль К. Абэ «Прывід сярод нас». Ён расказваў пра лёс былых салдат у пасляваеннай Японіі. У 1966 г. адкрыўся першы ў гісторыі японскага тэатральнага мастацтва Дзяржаўны тэатр.

Да 1980-х гг. японскае кіно перажывала ўздым. Славутыя рэжысёры і акцёры А. Курасава, Т. Міфунэ, К. Накамура, К. Курыхара і іншыя прысвячалі фільмы самым разнастайным тэмам — ад пошуку гуманістычных ідэалаў да ўслаўлення кодэкса гонару самураяў. З 1980-х гг. колькасць знятых у Японіі фільмаў стала памяншацца. Кінаіндустрыя не вытрымлівае канкурэнцыі з тэлебачаннем і відэа.

**Асноўныя рысы японскага спосабу жыцця.** Духоўную аснову японскага спосабу жыцця складаюць сінтаісцкія, будыйскія і канфуцыянскія каштоўнасці і ўяўленні пра свет. Разам з тым японцы засвоілі і некаторыя асаблівасці заходняга спосабу жыцця (**1).

Галоўнымі маральнымі і духоўнымі нормамі жыцця ў Японіі прызнаны «пяць пастаянстваў»: выкананне абавязку, мудрасць, выхаванасць, вернасць і чалавечнасць. У японцаў зыходным прынцыпам паводзін з’яўляецца гіры — выкананне абавязацельстваў, пачуццё абавязку, абавязак удзячнасці, гонар. У паняцце «гіры» ўваходзяць і знешне пачцівыя адносіны да знаёмых людзей — з паклонамі, кленчаннем і г. д.

Да японскіх нацыянальных каштоўнасцей адносяцца такія, як літасць да ўсяго жывога, пачуццё віны, сарамлівасць, сціпласць, стрыманасць, узаемная любоў і ўдзячнасць. Зразумела, не ўсе і не заўсёды выконваюць гіры і прытрымліваюцца іншых нормаў паводзін, аднак у цэлым уплыў гіры на спосаб жыцця японцаў вельмі вялікі (**2).

Сінтаізм і будызм абумовілі і своеасаблівыя адносіны японцаў да свету, успрыманне чалавека і прыроды. Больш за ўсё ў грамадстве і мастацтве шануюцца натуральнасць, сціпласць, харaство звычайнага, някідкасць, наяўнасць падтэксту, намёку, недагаворанасці.

Японскі «эканамічны цуд» і дасягненні НТР змянілі ўзровень і якасць жыцця японцаў. Калі ў сярэдзіне 1960-х гг. зарплата японскіх рабочых была ў 5—7 разоў ніжэйшая, чым на Захадзе, то да 1985 г.

яна склала 317 тыс. іен у месяц, г. зн. зраўнялася з зарплатай амерыканскіх рабочых (9,5 долара ў гадзіну).

Па шэрагу іншых паказчыкаў узроўню жыцця Японія таксама займае лідзіруючыя пазіцыі ў свеце. У 1989 г. сярэдняя працягласць жыцця японцаў складала 76 гадоў у мужчын і 82 гады — у жанчын. У 1990 г. Японія заняла першае месца ў свеце па індэксе развіцця чалавека — узроўні адукацыі, пакупной здольнасці і працягласці жыцця.

## Дадатковы матэрыял

### **1. Са штодзённага жыцця японцаў

У Японіі вельмі высокая аўтаматызацыя хатняй гаспадаркі. Камп'ютэры, электроніка кантралююць расход вады, газу, энергіі і г. д. Не выходзячы з дому, японец можа зрабіць пакупкі і расплаціцца за іх, заказаць білеты, абед у рэстаране, паслаць тэлеграму, атрымаць любую інфармацыю і кансультацыю. Асабліва развіта сетка сямейных рэстаранаў, сістэма вольнага часу, забаў, спорту. Папулярныя «клубы прыгожага цела», турызм і г. д. Не страцілі свайго значэння каратэ і іншыя віды адзінаборстваў. Традыцыйна карыстаецца папулярнасцю нацыянальная барацьба сумо.

Жыллё, ежа, адзенне японцаў зведалі значную еўрапеізацыю, але разам з тым захавалі нацыянальныя асаблівасці. У многіх дамах засталіся рассоўныя сцены і перагародкі. Мэблі ў кватэрах мала — жыццё японца праходзіць на татамі. Дома японцы носяць нацыянальнае адзенне, на працы — еўрапейскае.

У 1965—1990 гг. спажыванне мяса ў Японіі ўзрасло больш як у 3 разы (хаця японцы ядуць мяса нашмат меней, чым еўрапейцы). У рацыёне значна павялічылася доля садавіны. Японцы ў 2 разы болей, чым на Захадзе, ядуць гародніны і рыбы. «Амерыканізацыя» харчавання праяўляецца ў распаўсюджванні еўрапейскіх страў, а таксама ва ўжыванні кавы, какавы, сокаў, віна, віскі і каньяку. Закладка дома, дзень нараджэння, вяселле, святы, пахаванне і іншыя важныя сямейныя падзеі праходзяць, як і раней, у адпаведнасці з сінтаісцкімі і будыйскімі абрадамі.

### **2. Рысы характару японцаў

У японскім нацыянальным характары рэльефна вылучаюцца: а) агульнаэтнічныя рысы — працавітасць, моцна развітае эстэтычнае пачуццё, любоў да прыроды, вернасць традыцыям, схільнасць да запазычанняў, этнацэнтрызм (японацэнтрызм), практыцызм; б) рысы групавых паводзін — дыс

цыплінаванасць, адданасць аўтарытэту, пачуццё абавязку; в) штодзённа жыццёвыя рысы — ветлівасць, акуратнасць, самавалоданне, беражлівасць, дапытлівасць.

**Пытанні і заданні**

1. У чым унікальнасць 9га артыкула Канстытуцыі Японіі, якая ўступіла ў дзеянне ў 1947 г.?
2. Што ўяўляў сабой «зваротны курс» ЗША ў адносінах да Японіі і якімі абставінамі было выклікана яго правядзенне?
3. У чым заключаецца праблема «паўночных тэрыторый»?
4. Якія прычыны і вынікі «эканамічнага цуду» ў Японіі? Якім чынам яму садзейнічаў «патэрналізм»?
5. Якую ролю адыгрывае ЛДП у палітычнай сістэме Японіі?
6. Чаму Японія прытрымліваецца няядзерных прынцыпаў? Назавіце іх.
7. Раскажыце пра асаблівасці сістэмы навучання і выхавання ў Японіі.
8. Як спалучаюцца ў японскім спосабе жыцця нацыянальныя і еўрапейскія традыцыі? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.

## § 23. САЦЫЯЛЬНА>ПАЛІТЫЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ ІНДЫІ. КУЛЬТУРА І СПОСАБ ЖЫЦЦЯ

**Успомніце**

У чым заключаецца сутнасць гандзізму?

**Утварэнне Рэспублікі Індыя.** Дзве асноўныя падзеі 1945—1946 гг. паслужылі імпульсам да далейшага ўздыму барацьбы за незалежнасць Індыі. Па закліку партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс (ІНК) па ўсёй краіне прайшлі акцыі пратэсту супраць выкарыстання Вялікабрытаніяй індыйскіх войскаў у Інданезіі і супраць дзеянняў каланіяльных улад, якія задушылі паўстанне індыйскіх маракоў у лютым 1946 г. Падставай для выступлення стала выдача маракам у якасці ежы рысу з пяском.

Летам 1947 г. англійскі парламент і прэм’ер-міністр Вялікабрытаніі К. Этлі ўхвалілі план віцэ-караля Індыі Маўнтбетэна. Паводле гэтага плана Індыі надаваўся статус *дамініёна,* г. зн. дзяржавы

ІНДЫЯ І СУМЕЖНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ў 1945—2005 гг.



ў складзе Брытанскай Садружнасці нацый з прызнаннем кіраўніком краіны англійскай каралевы. У выніку адбыўся падзел Індыі на два дамініёны — Індыйскі Саюз пераважна з індуісцкім насельніцтвам і Пакістан, дзе пераважную большасць складалі мусульмане. «План Маўнтбетэна» быў зацверджаны англійскім парламентам у якасці закона, які ўступіў у сілу **15 жніўня 1947 г.** У гэты дзень Дж. Нэру ўзняў нацыянальны сцяг над гістарычным Чырвоным фортам у Дэлі. Індыя здабыла незалежнасць. Перамагла мірная нацыянальная рэвалюцыя на чале з М. Гандзі. Першым прэм'ер-міністрам дамініёна Індыйскі Саюз стаў Дж. Нэру (**1). Яго ўрад узяў курс на правядзенне дэмакратычных рэформаў і ўмацаванне суверэнітэту краіны.


Дж. Нэру

Пасля падзелу былой брытанскай калоніі ўзніклі складаныя эканамічныя і сацыяльна-палітычныя праблемы. Многія важныя крыніцы сыравіны і аграрныя вобласці апынуліся ў складзе Пакістана. Акрамя таго, абвастрылася барацьба паміж мусульманамі і індусамі, якая прывяла да грамадзянскай вайны ў шэрагу рэгіёнаў Індыі і ваеннага сутыкнення з Пакістанам у Кашміры. Гандзі імкнуўся прымірыць індусаў і мусульман, аднак у 1948 г. ён быў забіты членам індуісцкай нацыяналістычнай арганізацыі.

**26 студзеня 1950 г.** уступіла ў сілу Канстытуцыя Індыі, якая абвясціла краіну суверэннай дэмакратычнай рэспублікай. У дзяржаве была забаронена каставая няроўнасць і гарантаваліся правы і свабоды чалавека. Індыя стала поўнасцю незалежнай дзяржавай.

**«Курс Нэру» і барацьба за яго прадаўжэнне (1950—1970>я гг.).** Прыйшоўшы да ўлады, ІНК на чале з Дж. Нэру правёў глыбокія сацыяльна-эканамічныя і палітычныя рэформы, якія вызначылі развіццё краіны на шмат гадоў. У 1955 г. ІНК прыняў праграму пабудовы «грамадства сацыялістычнага ўзору», або «кангрэсісцкага сацыялізму». Тэарэтычнымі асновамі гэтай праграмы сталі гандзізм, некаторыя ідэі еўрапейскай сацыял-дэмакратыі і савецкага вопыту будаўніцтва сацыялізму. Тэорыя і практыка пабудовы «грамадства сацыялістычнага ўзору» атрымала назву *«курс Нэру»*.

Гэты курс прадугледжваў пераважнае развіццё дзяржаўнага сектара эканомікі, кантроль дзяржавы над асноўнымі галінамі прамысловасці, рэгуляванне прыватнага прадпрымальніцтва, падтрымку дробнага прыватнага капіталу, правядзенне антыфеадальных, антыімперыялістычных мерапрыемстваў, дэмакратызацыю палітычнага ладу, міралюбівую знешнюю палітыку. У 1950—1960-я гг. ІНК неаднаразова перамагаў на парламенцкіх выбарах, аднак аўтарытэт Дж. Нэру і ІНК у краіне знізіўся пасля таго, як Індыя пацярпела паражэнне ў пагранічным узброеным канфлікце з Кітаем восенню 1962 г. Кітайскія войскі занялі невялікую спрэчную частку тэрыторыі Індыі ў Тыбеце. У гэтых умовах унутры ІНК узмацніўся ўплыў апазіцыі, якая выступала супраць «курсу Нэру». Але прэм'ер-міністру ўдалося вывесці з урада некалькі міністраў, незадаволеных палітыкай яго кабінета. 22 мая 1964 г. Нэру, выдатны лідэр ІНК і індыйскага народа, памёр.

У цяжкіх эканамічных умовах, выкліканых вайной паміж Індыяй і Пакістанам (у 1965 г.), прэм'ер-міністрам краіны ў 1966 г. стала І. Гандзі — дачка Дж. Нэру. Урад І. Гандзі правёў мерапрыемствы па ўзмацненні ролі дзяржаўнага сектара ў эканоміцы, нацыяналізаваў шэраг банкаў, устанавіў кантроль за цэнамі, павысіў зарплату. Росту аўтарытэту І. Гандзі і ІНК садзейнічалі заключэнне ў жніўні 1971 г. Дагавора аб міры, дружбе і супрацоўніцтве паміж Індыяй і СССР, які прадугледжваў стварэнне ваеннага саюзу гэтых дзвюх краін у выпадку нападу на адну з іх, а таксама перамога Індыі ў вайне з Пакістанам у канцы 1971 г. Ва Усходнім Пакістане ў гэты час была абвешчана Народная Рэспубліка Бангладэш, якую падтрымала Індыя. Гэта вайна нанесла вялікі ўрон эканоміцы Індыі. Краіна прыняла больш за 10 млн бежанцаў з Усходняга Пакістана і аказала вялікую эканамічную дапамогу Бангладэш.

Праціўнікі ІНК абвінавацілі І. Гандзі ў злоўжыванні ўладай. У чэрвені 1975 г. у краіне было ўведзена надзвычайнае становішча. У сувязі з гэтым двойчы пераносіліся тэрміны выбараў у індыйскі парламент. У той жа час І. Гандзі распрацавала праграму рэформаў па далейшым абмежаванні капіталу і ўзмацненні ролі дзяржсектара ў эканоміцы. Індыя была абвешчана сацыялістычнай рэспублікай. Імкнучыся вырашыць харчовую праблему, урад правёў кампанію па прымусовай стэрылізацыі (пазбаўленні магчымасці дзетанараджэн-

ня), ахвярамі якой сталі 10 млн чалавек. У гарадах паводле загаду ўлад зносіліся трушчобы, дзе жылі бяздомныя людзі, а саміх людзей прымусова высялялі ў вёскі. Усё гэта выклікала вялікую незадаволенасць насельніцтва.



І. Гандзі

У 1977 г. ІНК прайграў парламенцкія выбары. І. Гандзі пайшла ў адстаўку. Яна стварыла новую партыю — Індыйскі нацыянальны кангрэс (Індзіра) — ІНК(І). Другая частка партыі стала называцца ІНК (Сацыялістычны). У студзені 1980 г. ІНК(І) выйграў выбары ў парламент, і І. Гандзі зноў стала на чале ўрада. У гэты час абвастрылася барацьба супраць сікхаў-сепаратыстаў, якія патрабавалі стварэння незалежнай дзяржавы сікхаў у Пенджабе. Армія заняла рэлігійны цэнтр сікхаў «Залаты храм» у горадзе Амрытсар. У кастрычніку 1984 г. І. Гандзі была забіта сікхамі — супрацоўнікамі яе асабістай аховы.

У гады кіравання І. Гандзі Індыя дабілася прыкметных поспехаў у развіцці сучасных галін эканомікі і абароннай прамысловасці. У 1974 г. быў праведзены ўзрыў індыйскай атамнай бомбы, у наступным годзе стартаваў у космас першы індыйскі спадарожнік. У 1984 г. Р. Шарма на савецкім караблі здзейсніў палёт у космас. Гэта стала сімвалам савецка-індыйскага супрацоўніцтва і саюзніцкіх адносін дзвюх дзяржаў.

**Сучаснае становішча Індыі (1980-я гг. — пачатак XXI ст.).** Пасля смерці І. Гандзі прэм'ер-міністрам краіны стаў яе сын Р. Гандзі. Ён прапанаваў праграму мадэрнізацыі эканомікі, прыцягнення ў краіну замежнага капіталу, укаранення передавой тэхналогіі. Ураду Р. Гандзі ўдалося закласці асновы найноўшых галін эканомікі, у тым ліку пачаць камп'ютэрызацыю краіны. У адрозненне ад маці, Р. Гандзі не праводзіў курс аднабаковай арыентацыі Індыі на СССР. Да канца 1980-х гг. найбуйнейшым гандлёвым партнёрам Індыі і пастаўшчыком новых тэхналогій сталі ЗША. Адносіны з СССР былі пастаўлены на новую аснову пасля падпісання ў 1986 г. у ходзе візіту М. С. Гарбачова ў Дэлі Дэкларацыі аб прынцыпах свабоднага ад ядзернай зброі і ненасільнага свету.



Р. Гандзі

Аднак па-ранейшаму актуальным для Індыі заставалася нацыянальнае пытанне. Некаторыя народы імкнуліся стварыць самастойныя або аўтаномныя дзяржавы. Сепаратысты, асабліва сікхі ў штаце Пенджаб, вялі тэрарыстычную барацьбу супраць цэнтральнага ўрада.

Кабінет Р. Гандзі не здолеў вырашыць нацыянальнае пытанне і праблемы, звязаныя з ліквідацыяй беспрацоўя і беззямеллем сялян. У 1989 г. ІНК(І) прайграў выбары, і да ўлады прыйшла апазіцыя. У ходзе передвыбарнай барацьбы ў 1991 г. Р. Гандзі загінуў ад узрыву бомбы, схаванай у адзенні тэрарысткі-камікадзэ. Нягледзячы на гэта, на выбарах перамог ІНК(І). Урад узначаліў Н. Рао. У Індыі была праведзена эканамічная рэформа, якая дабратворна паўплывала на эканоміку краіны. Разам з тым у Індыі абвастрылася барацьба паміж індусамі і мусульманамі.

На чале дзяржавы ў 1996 г. стаў апазіцыйны ІНК(І) блок палітычных партый — Аб'яднаны фронт. У 1998 г. да ўлады прыйшла кааліцыя палітычных сіл на чале з Індыйскай народнай партыяй (Бхаратыя джаната парты — БДП) (**2). Партыя з'яўляецца выразніцай інтарэсаў індусаў і займае нацыяналістычныя пазіцыі. Кіраўніком урада стаў лідэр БДП А. Б. Ваджпаі. Індыя правяла дэманстратыўныя ўзрывы атамных бомбаў і зрабіла больш жорсткай сваю палітыку ў адносінах да Пакістана.

У маі 2004 г. БДП пацярпела паражэнне на парламенцкіх выбарах. Да ўлады зноў вярнуўся ІНК, які прапанаваў праграму «эканамічнага росту і сацыяльнай гармоніі» ў Індыі. Урад узначаліў адзін з лідэраў ІНК М. Сінгх.

**Мастацкая культура.** У мастацтве Індыі адлюстраваліся барацьба індыйскага народа за незалежнасць, уплыў індуізму і традыцый, уздзеянне культуры Захаду на індыйскую цывілізацыю, сучасныя праблемы краіны і г. д.

У літаратурным жыцці найбольш уплывовай лічыцца школа пісьменнікаў-гандзістаў. У вершах С. Найду, рамане Р. К. Нараяна «Чаканне Махатмы» праслаўляўся вялікі грамадзянскі подзвіг М. Гандзі, які згуртаваў індыйскі народ у барацьбе за нацыянальную свабоду Індыі. Рабочы і сялянскі рух, народны быт сталі галоўнымі тэмамі творчасці пісьменніка К. Чандара («Амрытсар», «Вяселле»). У духу крытычнага рэалізму напісаны творы М. Р. Ананды («Кулі»).

Бессэнсоўнасць і жорсткасць чалавечага жыцця, норавы «свабоднага кахання» апісвалі ў сваіх раманах і вершах прадстаўнікі мадэрнісцкага кірунку В. Аг’ей («Астравы на рацэ») і Б. С. Мардхекар («Яшчэ некаторыя вершы»). У паэзіі вядучае месца належыць рамантызму, прадстаўнікамі якога з’яўляюцца паэты С. Т. Нірала, Шры Шры і інш.

Вялікі ўплыў на развіццё індыйскага жывапісу зрабіла творчасць выдатнага мастака і скульптара Д. Чаўдхуры, які ўзначальваў адкрытую ў 1954 г. Акадэмію прыгожых мастацтваў. Пасля 1945 г. ён напісаў шэраг вядомых рэалістычных карцін — «За мураванай сцяной», «Будаўнікі дарог», партрэт Р. Тагора і інш.

Прызнанне ў Індыі атрымалі работы С. М. Рэрыха. Ён стварыў шмат пейзажных карцін і палотнаў, якія праслаўляюць талент і працавітасць індыйскага народа («Таемная пара», «Гірнар», «Чырвоная зямля», «Працуем»).

Фармалізм, абстракцыянізм, запазычанне вопыту еўрапейскага поп-арту прасочваюцца ў творчасці М. Ф. Хусейна. Некаторыя індыйскія жывапісцы і скульптары зведалі ў сваёй творчасці ўплыў экспрэсіянізму і сюррэалізму. Найбольш вядомым скульптарам Індыі пасля 1945 г. лічыцца П. Д. Гупта (скульптурная група «Джай Хінд!»).



Р. Капур

У архітэктуры індыйскія майстры выкарыстоўвалі перадавы вопыт сусветнага дойлідства. Б. Дошы і іншыя архітэктары ўдзельнічалі пад кіраўніцтвам О. Кёнігсбергера і Ш. Э. Ле Карбюзье ў праектаванні новых гарадоў — Гандхідхама і Чандыгарха.

Хуткімі тэмпамі развіваўся індыйскі кінематограф. Індыя стала буйной кінадзяржавай свету: на яе кінастудыях здымаецца звыш 800 фільмаў у год. Сусветную вядомасць набылі рэжысёры і акцёры Радж і Шашы Капуры. Ш. Азмі, Ом Пуры, С. Патыл і іншыя кінаакцёры сталі зоркамі сусветнага кіно. У 1990-х гг. у дзесятку самых папулярных замежных акцёраў у Расіі ўваходзілі чатыры індыйскія кінаартысты — М. Чакраборці, Гавінда, А. Кхан і А. Бачан.



Ш. Капур

**Змены ў спосабе жыцця індыйцаў.** Згодна з 15-м артыкулам індыйскай Канстытуцыі 1950 г. была ўстаноўлена роўнасць кастаў, скасавана недатыкальнасць і забаронена каставая дыскрымінацыя — уціск правоў ніжэйшых кастаў. Было зарэгістравана 779 прыгнечаных кастаў, якія выконвалі брудную і непрэстыжную работу. Парламент прыняў некалькі законаў, якія рабілі больш жорсткім пакаранне за парушэнне гэтага артыкула.

Для ніжэйшых кастаў было зарэзервавана 76 месцаў у парламенце, пост міністра працы, 29 % пасад у дзяржаўным апараце, устаноўлена квота прыёму ў ВНУ і г. д. Дзяржава выдзяляе датацыі для былых «недатыкальных». Аднак, нягледзячы на юрыдычную роўнасць, каля 120 млн чалавек застаюцца нераўнапраўнымі членамі грамадства, хаця каставыя ўмоўнасці ў наш час, асабліва ў горадзе, праяўляюцца не так, як раней. У індыйскай вёсцы і цяпер у асноўным захаваліся традыцыйныя маральныя каштоўнасці і ўяўленні пра свет (**3).

Як і раней, у Індыі адзначаюць дзесяткі асноўных індуісцкіх святаў. Найбольш вядомыя з іх — сустрэча змены пораў года і дні ўраджаю, свята вясны, кахання, кветак і колераў, дні нараджэння Рамы, Крышны і іншых багоў, дзень пакланення карове, якая лічыцца ў Індыі свяшчэннай жывёлай, ноч Шывы і інш. Паводле народнага павер'я, адна з аватар (увасабленняў) жонкі Шывы Калі патрабуе толькі крывавых ахвяр, у тым ліку прынясення ў ахвяру людзей. Індыйская прэса ў 1950—1960 гг. паведамляла пра дзесяткі выпадкаў рытуальных забойстваў дзяцей і дарослых.

Узровень дабрабыту ў Індыі невысокі. Каля 40 % насельніцтва жыве за мяжой беднасці: менш за 3 тыс. рупій у год на сям'ю, якая складаецца з 5 чалавек. У краіне шмат беспрацоўных і жабракоў.

Спосаб жыцця асноўнай масы індыйскіх сялян мала змяніўся ў параўнанні з даваенным часам. Засталіся ранейшымі і галоўныя абрады, звязаныя з нараджэннем дзяцей, вяселлем і смерцю людзей. Напрыклад, як і раней, большасць шлюбаў заключаецца па волі бацькоў і сваякоў, захоўваюцца каставыя ўмоўнасці і звычаі.

Востра стаіць перад краінай дэмаграфічная праблема. Барацьба за зніжэнне нараджальнасці ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Прызнанай нормай лічыцца 2—3 дзіцяці ў сям'і. Аднак, як і раней, сярэдняя індыйская сям'я мае 5—7 дзяцей. Пры такім хуткім росце народанасельніцтва Індыя можа ў будучым абагнаць Кітай па колькасці жыхароў.

## Дадатковы матэрыял

### ** 1. Дж. Нэру аб пабудове сацыялізму

«Калі сацыялізм уводзіцца ў адсталай і неразвітой краіне, ён не зробіць яе менш адсталай. У сапраўднасці мы атрымаем адсталы, паглынуты бед насцю сацыялізм. Канчатковым лякарствам для прыходу да сацыялізму з'яўляецца адукацыя і здароўе чалавека, і няважна, хто кантралюе дзяржаву і сродкі вытворчасці».

### ** 2. Індыйская народная партыя (БДП)

БДП створана ў 1980 г. на аснове нацыяналістычнай індускай партыі Індыйскі народны саюз. БДП змагаецца за ўзрастанне ролі індуізму ў жыцці грамадства, умацаванне каставага ладу, індускай абшчыны, стварэнне «індускай дзяржавы». БДП ператварылася ў партыю індускага фундаменталізму. Яна правяла масавыя акцыі супраць мусульман. Пад яе кіраўніцтвам была разбурана мячэць Бабура ў Аёдх'і ў 1992 г. У 1998 г. партыя ўзначаліла правячую ў Індыі кааліцыю палітычных сіл.

### ** 3. Асноўныя каштоўнасці жыцця ў індусаў

На аснове індуізму ў Індыі склалася ўяўленне пра тры асноўныя мэты, або каштоўнасці, жыцця чалавека. Першая мэта заключаецца ў выкананні дхармы — сістэмы рэлігійных і свецкіх абавязкаў і рытуалаў ва ўсіх сферах жыцця, асабліва ў сямейнабытавой галіне. Другая каштоўнасць — артха — вызначае сродкі і спосабы дасягнення чалавекам поспеху ў жыцці і назапашванне матэрыяльных даброт. Трэцяя мэта — кама — прадпісвае чалавеку задавальненне яго пачуццяў і інстынктаў.

Найвышэйшая мэта, паводле індуізму, заключаецца ў вызваленні душы чалавека як боскай часцінкі ад эгаістычных памкненняў, зла і страсцей шляхам духоўнага і маральнага ўдасканальвання, каб дасягнуць стану нірваны.

## Пытанні і заданні

1. Пакажыце на картасхеме на с. 184 падзел Індыі ў 1947 г. Раскажыце пра яго наступствы.
2. Ахарактарызуйце паняцце *«курс Нэру»* ў сацыяльнаэканамічнай і палітычнай галінах. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
3. Параўнайце курс урада Р. Гандзі з палітыкай І. Гандзі.
4. Якія асаблівасці спосабу жыцця і сістэма каштоўнасцей у індусаў? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.

# § 24—25. САЦЫЯЛЬНА>ПАЛІТЫЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ І КУЛЬТУРА МУСУЛЬМАНСКАГА СВЕТУ

**Успомніце**

Што ўяўляе сабой ісламскі фундаменталізм?

**Антыімперыялістычная рэвалюцыя ў Егіпце.** Пасля 1945 г. у Егіпце склаліся перадумовы нацыянальна-вызваленчай, дэмакратычнай рэвалюцыі. Памешчыцкае землеўладанне, манархія, панаванне Вялікабрытаніі ў зоне Суэцкага канала, эксплуатацыя егіпецкай эканомікі з боку замежнага капіталу стрымлівалі развіццё краіны. Найбуйнейшымі памешчыкамі Егіпта былі «сябры караля» Фарука, які атрымліваў са сваіх зямель 3 млн егіпецкіх фунтаў даходу ў год. Каралеўскі двор супрацоўнічаў з англічанамі.

Егіпецкі ўрад з дапамогай англійскіх войскаў падаўляў забастоўкі і дэманстрацыі. Аднак нацыянальна-вызваленчы рух за поўную незалежнасць Егіпта не спыняўся. Адна за адной праходзілі масавыя акцыі пратэсту супраць палітыкі каралеўскага двара. У зоне Суэцкага канала егіпцяне-партызаны вялі актыўную барацьбу супраць англічан.

У такіх абставінах арганізацыя «Свабодныя афіцэры», у якую ўваходзілі ваенныя, ажыццявіла **23 ліпеня 1952 г.** дзяржаўны пераварот. Кароль Фарук быў адпраўлены ў Італію. У **1953 г.** Егіпет быў абвешчаны рэспублікай. У 1954 г. Вялікабрытанія пачала вывад войскаў з Егіпта. Да кіравання дзяржавай прыйшоў Г. А. Насэр, які стаў у 1956 г. прэзідэнтам краіны. Ён выдаў дэкрэт аб нацыяналізацыі Суэцкага канала, што выклікала Суэцкі крызіс 1956 г., у час якога вайну супраць Егіпта вялі Ізраіль, Англія і Францыя. З дапамогай СССР Егіпет адстаяў свае інтарэсы ў зоне Суэцкага канала. «Траістая агрэсія» супраць Егіпта пацярпела правал. Гэта ўмацавала аўтарытэт Г. А. Насэра, які стаў цесна супрацоўнічаць з Савецкім Саюзам.

«Свабодныя афіцэры» сфармулявалі шэсць прынцыпаў егіпецкай рэвалюцыі: ліквідацыя імперыялізму, выкараненне феадальных перажыткаў, знішчэнне манаполій, сацыяльная справядлівасць, дэ-




макратычная сістэма, моцная нацыянальная армія. Да 1961 г. была праведзена дэмакратычная аграрная рэформа, устаноўлены максімум уладанняў зямлёй у 200 феданаў (50 га). У 1956 г. Егіпет нацыяналізаваў Суэцкі канал. У хуткім часе была праведзена «егіптызацыя» замежнага капіталу, г. зн. нацыяналізаваны замежныя кампаніі, узяты курс на пабудову «кааператыўнага, дэмакратычнага арабскага сацыялізму». «Кааператыўным» яго назвалі таму, што рабочыя сталіся саўладальнікамі прадпрыемстваў і мелі долю ў прыбытках. Прэзідэнт Насэр у сваіх выступленнях не раз падкрэсліваў, што егіпецкі сацыялізм у адрозненне ад марксізму-ленінізму прызнае сацыялістычны характар ісламу, адмаўляе дыктатуру рабочага класа і ўстанаўлівае «дэмакратыю ўсяго народа».

У кастрычніку 1962 г. прыхільнікі Насэра ўтварылі кіруючую партыю — Арабскі сацыялістычны саюз. Канстытуцыя 1964 г. абвясціла Егіпет дэмакратычнай сацыялістычнай дзяржавай. Усе нацыяналізаваныя прадпрыемствы былі аб'яўлены ўласнасцю народа.

СССР аказваў вялікую падтрымку Егіпту. Ён фінансаваў будаўніцтва Асуанскай плаціны. У 1964 г. Насэру і яго паплечніку фельдмаршалу А. Х. Амеру было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Аднак прыхільнікам Насэра так і не ўдалося пабудаваць «арабскі сацыялізм» у Егіпце. У 1970 г. пасля смерці Г. А. Насэра пост прэзідэнта заняў А. Садат. Ён адмовіўся ад сацыялістычнага курсу і стаў праводзіць палітыку «інфітаха» — дэнацыяналізацыі прамысловасці, прыватызацыі і прыцягнення замежнага капіталу. Пасля чарговага паражэння ў кастрычніку 1973 г. у вайне супраць Ізраіля Егіпет узяў курс на прымірэнне з гэтай дзяржавай і збліжэнне з ЗША. У 1976 г. быў дэнансаваны (разарваны) дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве з СССР. У 1978 г. пры пасрэдніцтве ЗША А. Садат падпісаў Кэмп-Дэвідскія пагадненні па ўрэгуляванні сітуацыі на Блізкім Усходзе. Яны паслужылі асновай для заключэння егіпецка-ізраільскага мірнага дагавора 1979 г. Аднак многія арабскія краіны асудзілі мірную палітыку прэзідэнта Егіпта. У 1981 г. ён быў забіты ісламістамі.

Новы прэзідэнт Егіпта Х. Мубарак і кіруючая Нацыянальна-дэмакратычная партыя ў цэлым працягваюць рэфарматарскі курс А. Садата, стараюцца вынішчыць адмоўныя наступствы «інфітаха» — рост цэн, інфляцыю, расслаенне ў грамадстве, ізаляцыю ў арабскім свеце. Быў прыняты Нацыянальны праект прэзідэнта Мубарака, які прадугледжвае захаванне балансу паміж дзяржсектарам і прыватным прадпрымальніцтвам.

У 1980—1990-х гг. у Егіпце ўзмацнілася барацьба з ісламскімі фундаменталістамі, якія праводзяць палітыку тэрору, патрабуюць стварэння ў краіне ісламскай дзяржавы.

**Барацьба алжырскага народа за незалежнасць.** У 1954 г. пад кіраўніцтвам Фронта нацыянальнага вызвалення (ФНВ) пачалася партызанская вайна алжырскіх патрыётаў супраць французскіх каланіяльных улад, у ходзе якой загінула больш за 1 млн алжырцаў. У **1962 г.** была абвешчана Алжырская Народная Дэмакратычная Рэспубліка, прэзідэнтам якой стаў А. Бен Бела. Дзейнасць усіх партый была забаронена. ФНВ заявіў аб будаўніцтве сацыялістычнага грамадства. У гэтыя гады СССР аказаў вялікую дапамогу алжырскаму народу. У 1964 г. Бен Бела быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Аднак у 1965 г. ён быў адхілены ад улады ў ходзе ваеннага перавароту, а ў краіне ўстаноўлены дыктатарскі рэжым.

У 1960—1980-х гг. Алжыр развіваўся па некапіталістычным шляху, г. зн. з'яўляўся краінай сацыялістычнай арыентацыі. Кіраўніцтва ФНВ (Х. Бумедзьен, Ш. Бенджадзід) спрабавала пабудаваць «алжырскі сацыялізм», але нацыяналізацыя сродкаў вытворчасці, стварэнне самакіравальнага сектара ў эканоміцы не прывялі да эканамічнага ўздыму. Як і «арабскі сацыялізм» у Егіпце, «ісламскі сацыялізм» у Алжыры адмаўляў дыктатуру пралетарыяту і прызнаваў «неэксплуататарскую прыватную ўласнасць».

Нягледзячы на дапамогу СССР і некаторыя поспехі ў галіне эканомікі і культуры, аднапартыйны дыктатарскі рэжым не змог забяспечыць высокага ўзроўню жыцця народа. У краіне разгарнуўся народны рух супраць кіраўніцтва ФНВ. Правячая партыя заявіла пра пачатак дэмакратызацыі ў краіне. На рэферэндуме ў 1989 г. была адобрана канстытуцыя, у якой не было ўпамінанняў пра сацыялізм. З'явіліся новыя палітычныя партыі. У 1990-х гг. у Алжыры абвастрылася супрацьстаянне паміж ФНВ, ваеннымі і ісламскімі фундаменталістамі. У 1999 г. прэзідэнтам быў абраны А. А. Бутэфліка, які абвясціў курс на ўсталяванне грамадзянскага міру ў Алжыры.

**Іракская рэвалюцыя 1958 г.** Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны іракскі народ змагаўся супраць панавання Вялікабрытаніі. Англійскі ўрад здолеў навязаць Іраку Портсмуцкі мірны дагавор 1948 г., які даваў права Вялікабрытаніі акупіраваць краіну ў выпадку ваеннай пагрозы. Іракскі каралеўскі двор Фейсала II і рэакцыйныя сілы на чале з Нуры Саідам працягвалі супрацоўнічаць з англічанамі. У 1955 г. было падпісана пагадненне паміж Іракам і Англіяй, якое прадугледжвала цесны ваенны і эканамічны саюз дзвюх краін. Супраць такой палітыкі Нуры Саіда выступіла частка ваенных (яны стварылі арганізацыю «Свабодныя афіцэры»), кампартыя, Партыя арабскага сацыялістычнага адраджэння (Баас) і іншыя патрыятычныя сілы. У ліпені **1958 г.** яны падтрымалі ваенны пераварот, у выніку якога Нуры Саід і Фейсал II былі забіты, а Ірак абвешчаны рэспублікай.

Новае кіраўніцтва краіны разарвала дагаворы з Вялікабрытаніяй і ЗША. Ірак выйшаў з Багдадскага пакта — ваенна-палітычнага блока, які складаўся з Вялікабрытаніі, Ірака, Ірана, Турцыі і Пакістана. У 1959 г. СССР заключыў з Іракам пагадненне аб супрацоўніцтве. У краіне пачалі праводзіцца дэмакратычныя рэформы



С. Хусейн

і будавацца «арабскі сацыялізм». З 1968 г. ва ўладзе (да сакавіка 2003 г.) знаходзілася Баас. Ірак ператварыўся ў саюзніка СССР у барацьбе супраць Ізраіля і ЗША на Блізкім Усходзе. З 1969 г. у кіраванні краінай важную ролю стаў адыгрываць С. Хусейн, які заняў у 1979 г. пост прэзідэнта. У час яго праўлення былі развязаны войны супраць Ірана (1980—1988) і Кувейта (1990—1991).

**Іран.** Пасля 1945 г. Англія і ЗША захоўвалі ўплыў у эканамічным і палітычным жыцці Ірана. Вялікабрытанія дамагалася прывілей для Англа-іранскай нафтавай кампаніі (АІНК), якая эксплуатавала прыродныя багацці Ірана. Абапіраючыся на падтрымку народа, урад Нацыянальнага фронту на чале з прэм’ер-міністрам М. Масадыкам у 1951 г. правёў у жыццё рашэнне парламента аб нацыяналізацыі нафтавай прамысловасці. Аднак у жніўні 1953 г. ЗША арганізавалі ваенны пераварот у Іране і адхілілі Масадыка ад улады.

У 1963 г. шах Ірана Махамед Рэза Пехлеві пры падтрымцы ЗША распачаў правядзенне сацыяльных рэформаў, якія атрымалі назву «белай рэвалюцыі шаха і народа», г. зн. бяскроўнай рэвалюцыі «зверху» пры падтрымцы народных мас.

У Іране было ліквідавана буйное памешчыцкае землеўладанне, рабочыя сталі валодаць часткай прыбытку дзяржаўных прадпрыемстваў. Рэформы і павелічэнне ў чатыры разы здабычы нафты спрыялі развіццю эканомікі. Аднак хутка ў «белай рэвалюцыі» з’явілася шмат праціўнікаў. У прыватнасці, рэлігійныя колы былі незадаволены эканамічным і духоўным пранікненнем Захаду ў Іран, абмежаваннем прывілей і правоў духавенства. У краіне склаўся культ шаха, які заклікаў стварыць вялікую іранскую цывілізацыю, адрадзіць славу старажытнаіранскай арыйскай цывілізацыі. У 1975 г. шах распусціў усе палітычныя партыі і стварыў адну партыю — «Адраджэнне Ірана». У краіне ўстанавілася дыктатура манарха.

Кіраўніком антышахскага руху стаў рэлігійны дзеяч аятала («знак алаха», вышэйшае духоўнае званне ў шыітаў) Хамейні. Ён узначаліў антышахскую рэвалюцыю, якая пачалася ў 1978 г. З самага пачатку рэвалюцыя насіла ісламскі характар. Ёй кіравалі ісламскія фунда-

менталісты. У пачатку 1979 г. іранскі шах вымушаны быў пакінуць краіну. Хамейні, які жыў у эміграцыі ў Францыі, вярнуўся ў Тэгеран. **1 красавіка 1979 г.** была абвешчана Ісламская Рэспубліка Іран, на чале якой стаў Р. М. Хамейні (**1).



Аятала Хамейні

У краіне ўстанавілася дыктатура мусульманскага духавенства. Тысячы людзей, незадаволеных палітыкай, якую праводзіў Хамейні, былі пакараны смерцю. Поўнай ісламізацыі падвергліся ўсе сферы жыцця. Праводзіліся масавыя антыамерыканскія і антыізраільскія кампаніі. У 1979 г. ісламісты захапілі супрацоўнікаў пасольства ЗША ў Тэгеране. Толькі ў 1981 г. заложнікаў удалося вызваліць.

Рэвалюцыя (1978—1979), вайна з Іракам (1980—1988) рэзка пагоршылі эканамічнае становішча Ірана. Пасля смерці аяталы Хамейні ў 1989 г. кіраўніцтва краіны праводзіць больш гібкую палітыку. Абраны ў 1997 г. прэзідэнтам Ірана М. Хатамі прытрымліваўся курсу памяркоўнага ісламскага фундаменталізму. Новы прэзідэнт Ірана М. Ахмадзінежад (з 2005 г.) стаў праводзіць больш кансерватыўную палітыку. Абвастрыліся адносіны з ЗША, якія імкнуцца не дапусціць стварэння ў Іране атамнай зброі.

**Турцыя.** У пасляваенны перыяд Турцыя атрымала ваенную і эканамічную дапамогу ЗША згодна з дактрынай Трумэна і планам Маршала, а таксама ўступіла ў НАТО (1952). Частка кемалістаў, якія сфарміравалі дэмакратычную партыю, у сваёй дзейнасці сталі арыентавацца на Захад і патрабаваць большай свабоды для прыватнага капіталу. У 1950—1960 гг. Дэмакратычная партыя на чале з А. Мендэрэсам знаходзілася ва ўладзе. Супраць празаходняй палітыкі выступілі ваенныя і прадпрымальнікі, звязаныя з кемалістамі.

27 мая 1960 г. у Турцыі адбыўся пераварот. Улада перайшла да Камітэта нацыянальнага адзінства на чале з генералам Дж. Гюрселем. Установчы сход у маі 1961 г. зацвердзіў новую канстытуцыю, паводле якой Турцыя абвяшчалася нацыянальнай, свецкай, дэмакратычнай і сацыяльна-прававой дзяржавай. Прэзідэнтам Турцыі быў абраны камандуючы сухапутнымі войскамі генерал Гюрсель. У краіне разгарнулася вострая палітычная барацьба паміж Народна-

рэспубліканскай партыяй і Партыяй справядлівасці, што ў канчатковым выніку выклікала палітычную нестабільнасць і прывяло да новага ваеннага перавароту ў 1980 г. Была прынята новая канстытуцыя, якая ўзмацніла ўладу прэзідэнта — генерала К. Эўрэна. У 1983 г. на выбарах перамагла Партыя бацькаўшчыны на чале з эканамістам Т. Азалам.

С 1983 г. у Турцыі (па рэкамендацыі Міжнароднага валютнага фонду) праводзілася перабудова эканомікі. Да канца 1980-х гг. эканоміка краіны не толькі стабілізавалася, але і стала развівацца хуткімі тэмпамі. У 1989 г. адзін са стваральнікаў гэтага «эканамічнага цуду» Т. Азал быў абраны прэзідэнтам. Пасля яго смерці ў 1993 г. прэзідэнцкі пост заняў С. Дэмірэль (лідэр Партыі сапраўднага шляху). На выбарах у 1995 г. значнага поспеху дабіліся турэцкія ісламісты, кіраўнік якіх Н. Эрбакан стаў прэм'ер-міністрам. Аднак у 1997 г. кіраўніцтва турэцкай арміі, у якой моцныя пазіцыі кемалістаў, адхіліла яго ад улады. У 2002 г. прэзідэнтам краіны быў абраны А. Н. Сезер, а прэм'ер-міністрам — Б. Эджэвіт — лідэр Дэмакратычнай левай партыі.

**Мастацкая культура.** Галоўнымі тэмамі мастацтва мусульманскага свету сталі нацыянальна-вызваленчая барацьба, жыццё працоўнага народа, пошукі шляхоў нацыянальнага развіцця, уплыў Захаду і СССР на краіны Усходу і г. д. Усе гэтыя тэмы знайшлі яркае адлюстраванне ў літаратуры.

У арабскім свеце найбольш вядомы егіпецкія пісьменнікі. Звыш 20 раманаў напісаў Н. Махфуз. У 1956—1957 гг. выйшла яго славутая трылогія «Паміж двума палацамі», якая расказвае пра лёс трох пакаленняў каірскай купецкай сям'і. У 1988 г. пісьменнік быў удастоены Нобелеўскай прэміі. Пасля 1945 г. працягвалі творчую дзейнасць вядомыя пісьменнікі і паэты М. Х. Хейкал, М. Тэймур і інш. У 1970-х гг. раман «Вяртанне ўсведамлення» Т. аль-Хакіма выклікаў вострыя дыскусіі ў Егіпце. Ён крытыкаваў панарабскія ідэі Г. А. Насэра, яго палітыку, якая прынесла краіне, на думку пісьменніка, больш шкоды, чым карысці. Аль-Хакім выступаў за нейтралітэт Егіпта ў арабскім свеце, за вяртанне да вытокаў егіпецкай цывілізацыі (фараанізму), заклікаў егіпцян не ваяваць за інтарэсы арабскіх краін, якія ператварыліся ў багатыя нафтавыя дзяржавы і выкарыстоўваюць Егіпет у сваіх карыслівых мэтах.

У Сірыі, Іраку і Ліване вядучая роля ў літаратуры належыць пісьменнікам-рэалістам. Яны раскрываюць вострыя сацыяльныя праблемы і расказваюць у сваіх творах пра барацьбу арабскага народа супраць Ізраіля і Захаду.

Выкрыванню Захаду і яго масавай культуры, ідэі ісламскай салідарнасці прысвяцілі свае творы іранскія пісьменнікі і паэты Д. А. Ахмад («Заходніцтва»), Г. Саэдзі («Мядовы месяц») і інш. У 1980 г. у Іране пачалася ісламская культурная рэвалюцыя. У школах быў уведзены курс «Літаратура ісламскай рэвалюцыі», у рамках якога праслаўляліся шыізм, аятала Хамейні і крытыкаваліся «д'ябальская ідэалогія» марксізму-ленінізму, а таксама ідэйныя плыні Захаду. З'явіліся творы аб іранскай рэвалюцыі 1978—1979 гг.

У турэцкай літаратуры моцныя дэмакратычныя традыцыі. Пяру Я. Кемаля належаць раманы-эпапеі, прысвечаныя жыццю народа (напрыклад, «Худы Мамед»). Ідэі сацыялізму прапагандаваў Ч. Алтан («Вось ён, Стамбул»), «турэцкім Горкім» называлі А. Кемаля, едка высмейваў заганы грамадства сатырык А. Несін.

Значных поспехаў дабіўся кінематограф у Турцыі, Егіпце, Алжыры і Ліване. Таварыства арабскай кінапрадукцыі, Егіпецкая ўсеагульная кінаарганізацыя выпускалі ў 1960—1970 гг. па 130—140 фільмаў у год. Атрымалі вядомасць рэалістычныя карціны рэжысёраў з некаторых мусульманскіх краін, у тым ліку фільмы Ю. Шахіна і аш-Шэйха пра барацьбу супраць Ізраіля («Барацьба ў даліне», «Мармур»). У 1970—1980-х гг. міжнароднае прызнанне здабылі карціны ліванскага рэжысёра Ш. Багдадзі, прысвечаныя грамадзянскай вайне ў Ліване, адпору ізраільскай агрэсіі («На памяць аб Бейруце», «Маленькія войны»).



Чытанне Карана

**Новыя з'явы ў мусульманскім спосабе жыцця.** Іслам па-ранейшаму вызначае спосаб жыцця ўсіх мусульман, асабліва ў тых краінах, дзе ён прызнаны дзяржаўнай рэлігіяй. Святы і звычаі мусульман у асноўным не змяніліся.

Новыя з'явы ў мусульманскім спосабе жыцця звязаны перш за ўсё з урбанізацы-

яй, навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй, міграцыяй рабочай сілы і «ісламскім бумам» канца 1970—1980-х гг. Так, больш за 2/3 жыхароў сучасных гарадоў перасяліліся туды з вёсак у 1960—1980-х гг. Насельніцтва Каіра, Алжыра, Тэгерана, Карачы, Анкары, Трыпалі, Багдада за апошнія 20—25 гадоў павялічылася ў 3—5 разоў. У Стамбуле жыве больш за 11 млн чалавек. Мяркуюць, што хутка ён злучыцца з гарадамі Ізмітам і Эдзірнэ, і тады ўзнікне мегаполіс з насельніцтвам 20—25 млн чалавек.

Змяненні ў структуры народнай гаспадаркі, індустрыялізацыя, здабыча нафты, наяўнасць свабодных рабочых рук выклікалі міграцыю рабочай сілы. У 1975—1985 гг. у Саудаўскай Аравіі, Лівіі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах і Кувейце працавала каля 5 млн рабочых і спецыялістаў, галоўным чынам выхадцаў з арабскіх краін, Пакістана і Індыі. У гарадах, а таксама ў неісламскіх краінах мусульмане хутчэй засвойвалі элементы заходняга спосабу жыцця (еўрапейскае адзенне, новы тып жылля, новая кухня, даступнасць інфармацыі і г. д.).

У вёсцы поруч з выкарыстаннем плуга, сахі, матыкі і буйвалаў з'явіліся трактары, машыны, хімічныя ўгнаенні, сучасныя бытавыя прыборы. Аднак значная частка сельскіх жыхароў вядзе яшчэ традыцыйную малаэфектыўную гаспадарку. Гэта адбіваецца на ўзроўні жыцця насельніцтва. У большасці краін мусульманскага свету, акрамя Турцыі і дзяржаў, багатых нафтай, ён даволі нізкі. Напрыклад, Японія і Егіпет у 1949 г. мелі аднолькавы даход на душу насельніцтва — 100 долараў, а ў сярэдзіне 1980-х гг. — 9 тыс. долараў і 500 долараў адпаведна. У арабскіх краінах і Іране яшчэ захавалася качавая гаспадарка, якую вядуць некалькі мільёнаў чалавек.

Пасля 1945 г. у гарадах Турцыі, Егіпта, Сірыі, Туніса спрасціліся многія абрады. Напрыклад, намаз спраўляюць не 5, а 2 разы ў дзень. Радыё і тэлебачанне аблягчылі выкананне абрадаў. Авіятранспарт і караблі паскорылі правядзенне хаджу ў Мекку або дастаўку жывёлы з Аўстраліі і іншых краін да свята курбан-байрама (ахвярапрынашэння).

З канца 1970-х гг. узмацнілася ісламізацыя спосабу жыцця, асабліва ў Іране, Судане і Пакістане. У гэтых краінах вярнуліся да нормаў *шарыяту.* Заходняя «масавая культура» забаронена. Жанчыны абавязаны насіць чадру, вучыцца асобна ад мужчын. Зноў было ўведзена мнагажонства, часовы шлюб (у шыітаў), жанчынам забараняецца быць суддзямі, геолагамі, археолагамі, вадзіць машыну і г. д. За шлюб-

ную здраду або страту нявіннасці жанчыну караюць — пабіваюць камянямі. На плошчах публічна праводзяцца пакаранні няверных жонак і зладзеяў.

### Дадатковы матэрыял

**** 1. З Канстытуцыі Ісламскай Рэспублікі Іран 1979 г.**

«Адметная асаблівасць нашай рэвалюцыі ў параўнанні з іншымі рэвалюцыйнымі рухамі ў Іране за апошняе стагоддзе заключаецца ў яе рэлігійным, ісламскім характары. Прайшоўшы шлях ад антыдэспатычнага руху за канстытуцыйную манархію да руху за нацыяналізацыю нафты, іранскі народ здабыў найкаштоўнейшы вопыт, які сведчыў, што пералічаныя вышэй рухі не мелі поспеху зза свайго нерэлігійнага характару. Хаця ў рухах апошняга часу рэлігійная ісламская думка і лідэрства духавенства, якое змагаецца, адыгрывала асноўную ролю, гэтыя рухі адыходзілі ад сапраўды ісламскіх пазіцый і хутка гублялі дынамізм развіцця. Таму народ пад кіраўніцтвам вялікага аяталы Хамейні ўсвядоміў неабходнасць прадаўжэння сапраўднага ісламскага руху.

...Ісламская рэспубліка — гэта сістэма кіравання, заснаваная на веры ў Адзінага Бога, у тое, што Ён устанаўлівае законы шарыяту і што чалавек павінен пакарацца Яго волі; боскія адкрыцці і іх асноватворную ролю ў тлумачэнні законаў; страшны суд і яго канструктыўную ролю ў чалавечым удасканальванні на шляху да Бога; боскую справядлівасць у стварэнні і ўстанаўленні законаў шарыяту; пераемнасць імамаў (імамат) і іх апеку над грамадствам і асноватворную ролю гэтага прынцыпу ў прадаўжэнні ісламскай рэвалюцыі».

### Пытанні і заданні

1. Прывядзіце гістарычныя факты, якія ілюструюць «егіптызацыю» замежнага капіталу і палітыку «інфітаха» ў Егіпце, правядзенне «белай рэвалюцыі» ў Іране.
2. У чым заключаюцца асаблівасці «арабскага сацыялізму» ў Егіпце і Алжыры?
3. Чаму прэзідэнтам Егіпта Г. А. Насэру і Алжыра А. Бен Бела было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза?
4. Якога знешнепалітычнага курсу прытрымліваецца Ірак пасля 1958 г.?
5. У чым заключаецца асаблівасць рэвалюцыі 1978—1979 гг. у Іране? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.
6. Вызначце, якой палітыкі ў развіцці Турцыі прытрымліваліся кемалісты.
7. Якая тэматыка твораў дзеячаў мастацтва мусульманскага свету?
8. Раскажыце пра традыцыйныя і новыя з’явы ў мусульманскім спосабе жыцця.

# § 26. ЛАКАЛЬНЫЯ ВОЙНЫ И КАНФЛІКТЫ ПАСЛЯ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

**Успомніце**

Якія канфлікты адбываліся паміж СССР і ЗША ў перыяд «халоднай вайны»?

**Войны ў В'етнаме.** У гады Другой сусветнай вайны В'етнам быў акупіраваны Японіяй. На поўначы В'етнама на граніцы з Кітаем в'етнамскія камуністы на чале з Хо Шы Мінам, заснавальнікам Кампартыі Індакітая, у вызваленым раёне стварылі апорную базу для барацьбы за незалежнасць краіны. У жніўні 1945 г. у выніку ўзброенага паўстання японцы, якія не аказалі сур'ёзнага супраціўлення, былі адхілены ад улады. 2 верасня 1945 г. была абвешчана Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам (ДРВ). Прэм'ер-міністрам быў абраны Хо Шы Мін.

У сакавіку 1946 г. урады ДРВ і Францыі падпісалі канвенцыю. Францыя прызнавала ДРВ «свабоднай дзяржавай», якая ўваходзіць у склад Французскага саюза. Французскія войскі заставаліся на в'етнамскай тэрыторыі на пяць гадоў. Лёс Паўднёвага В'етнама павінен быў вырашыць рэферэндум. Аднак супярэчнасці паміж ДРВ і Францыяй абвастрыліся. У гэтых умовах у снежні 1946 г. Хо Шы Мін заклікаў да ўсенароднай вайны супраць французскіх каланізатараў, якая закончылася разгромам французскіх войскаў у 1954 г.

У ходзе мірных перагавораў у 1954 г. былі падпісаны Жэнеўскія пагадненні. Яны прызнавалі незалежнасць В'етнама. Яго тэрыторыя была часова раздзелена па 17-й паралелі. Аднак уз'яднаць поўдзень і поўнач краіны не ўдалося. У Паўднёвым В'етнаме ўсталяваўся праамерыканскі палітычны рэжым.

У 1954 г. Партыя працоўных В'етнама — ППВ (былая кампартыя) узяла курс на правядзенне сацыялістычнай рэвалюцыі на поўначы і народна-дэмакратычнай рэвалюцыі на поўдні краіны. У 1959 г. ППВ перайшла да ўзброеных формаў барацьбы ў Паўднёвым В'етнаме. У 1960 г. там быў створаны Нацыянальны фронт вызвалення Паўднёвага В'етнама, які сфарміраваў Народныя ўзброеныя сілы вызвалення. Гэта прымусіла ЗША ў 1961 г. пачаць «асобую вайну» ў Паўднёвым В'етнаме.



Хо Шы Мін

У жніўні 1964 г. адбыўся «танкінскі інцыдэнт» — паўночнав'етнамскія тарпедныя катэры атакавалі два амерыканскія эсмінцы. Гэты інцыдэнт паслужыў прычынай для прамога ўмяшання ЗША ў в'етнамскі канфлікт на баку Паўднёвага В'етнама. ЗША пачалі вайну супраць ДРВ. З **лютага 1965 г.** амерыканскія ВПС ажыццяўлялі бамбардзіроўкі в'етнамскай тэрыторыі з прымяненнем спецыяльных хімічных сродкаў, шарыкавых бомбаў і напалму. Сімвалам пакут і мужнасці в'етнамскага народа стала спаленая вёска Сангмі. ДРВ падтрымлівалі СССР і яго саюзнікі. У В'етнаме ваявалі савецкія добраахвотнікі, ваенныя спецыялісты і лётчыкі.



У 1968 г. у Парыжы пачаліся перагаворы паміж ДРВ і ЗША. Летам 1969 г. прэзідэнт ЗША Р. Ніксан прапанаваў гуамскую дактрыну — план «в’етнамізацыі» вайны. Гэты план меў на ўвазе працяг ваенных дзеянняў сіламі паўднёвав’етнамскага рэжыму пры падтрымцы ЗША, якія прынялі рашэнне вывесці свае войскі з Паўднёвага В’етнама. У 1969 г. на поўдні краіны патрыятычныя сілы абвясцілі Рэспубліку Паўднёвы В’етнам, якая далучылася да ўдзельнікаў парыжскіх перагавораў.

**27 студзеня 1973 г.** у Парыжы былі падпісаны пагадненні аб спыненні вайны ў В’етнаме. На працягу 60 дзён амерыканскія войскі пакінулі краіну. У сакавіку 1975 г. войскі камуністаў і сілы, якія іх падтрымлівалі, пачалі наступленне і ў хуткім часе занялі Паўднёвы В’етнам. У **1976 г.** завяршылася аб’яднанне В’етнама, **2 ліпеня** была абвешчана Сацыялістычная Рэспубліка В’етнам (СРВ). ЗША пацярпелі паражэнне ў в’етнамскай вайне, на якой загінула больш за 58 тыс. амерыканцаў.

**Блізкаўсходні канфлікт.** Блізкаўсходняя праблема ўзнікла ў канцы XIX ст. і была звязана з развіццём *сіянізму*. Тэрмін «сіянізм» паходзіць ад назвы свяшчэннай для яўрэяў гары Сіён у Іерусаліме і азначае нацыянальна-вызваленчы рух часткі яўрэйскага народа за адраджэнне незалежнай дзяржавы яўрэяў у Палесціне. У лістападзе 1917 г., згодна з Дэкларацыяй Бальфура (міністр замежных спраў Вялікабрытаніі), Англія дала права яўрэям аднавіць свой «нацыянальны ачаг» у Палесціне. У пачатку XX ст. колькасць яўрэяў, якія перасяліліся ў Палесціну, значна ўзрасла. Пасля прыходу Гітлера да ўлады і ў гады Другой сусветнай вайны гэты працэс набыў масавы характар. У Палесціне перасяленцы стваралі свае палітычныя партыі, прафсаюзы, ваенізаваныя арганізацыі.

У 1947 г. палесцінскую праблему разгледзела ААН. Савецкі Саюз падтрымаў план стварэння дзвюх самастойных дзяржаў — арабскай і яўрэйскай. У лістападзе 1947 г. на Генеральнай Асамблеі ААН было прынята рашэнне пра ўтварэнне дзвюх дзяржаў на тэрыторыі Палесціны. Арабскія краіны не падтрымалі гэты план. СССР выступіў за паскарэнне перасялення яўрэяў у Палесціну. З сакавіка 1948 г. Савецкі Саюз і Чэхаславакія пастаўлялі зброю сіяніцкім арганізацыям Палесціны і дапамагалі ім у абучэнні ваенных кадраў. Пазней, у 1968 г., першы прэм’ер-міністр Ізраіля Д. Бен-Гурыён прызнаў, што

**БЛІЗКАЎСХОДНІ КАНФЛІКТ**




ваенная дапамога СССР і Чэхаславакіі выратавала Ізраіль у ходзе першай араба-ізраільскай вайны.

**14 мая 1948 г.** у Тэль-Авіве была абвешчана Дзяржава Ізраіль, якую ў хуткім часе прызналі ЗША і СССР. 15 мая 1948 г. Егіпет, Ірак, Сірыя, Ліван і Трансіарданія пачалі вайну з Ізраілем, не прызнаючы за ім права на існаванне. Пачалася першая араба-ізраільская вайна. Для Ізраіля гэта была вайна за незалежнасць. Так блізкаўсходняя праблема ператварылася ў найвастрэйшы канфлікт, не вырашаны да гэтага часу.

Блізкі Усход — гэта рэгіён існавання некалькіх цывілізацый. У Палесціне знаходзяцца святыя месцы хрысціян, мусульман і іудзеяў.

Блізкі Усход — гэта важны ў стратэгічных адносінах рэгіён. Суэцкі канал, Міжземнамор’е звязваюць два кантыненты — Еўразію і Афрыку. На Блізкім Усходзе сканцэнтраваны найбагацейшыя запасы нафты і іншых відаў сыравіны. Усе гэтыя фактары абвастраюць блізкаўсходні канфлікт, які яшчэ больш узмацніла палесцінская праблема.

У першай араба-ізраільскай вайне **1948—1949 гг.** Вялікабрытанія падтрымлівала арабскія краіны, а СССР і ЗША — Ізраіль. Арміі арабскіх краін былі разбіты. Вайна скончылася перамір’ем. У ходзе вайны Ізраіль захапіў большую частку тэрыторыі Палесціны, адведзенай ААН для Палесцінскай арабскай дзяржавы, і заходнюю частку Іерусаліма. Так узнікла праблема арабаў-бежанцаў і стварэння арабскай дзяржавы ў Палесціне. У ходзе яшчэ чатырох араба-ізраільскіх войнаў **(1956, 1967, 1973, 1982)** Ізраіль умацаваў свае пазіцыі ў Палесціне. У 1964 г. была створана Арганізацыя вызвалення Палесціны (АВП), якая з’яўляецца выразніцай інтарэсаў палесцінскіх арабаў і бежанцаў-палесцінцаў.

У 1988 г. АВП прызнала існаванне Ізраіля і ўступіла ў перагаворы з яго кіраўніцтвам. У 1993—1998 гг. Ізраіль і АВП заключылі пагадненне пра ўзаемнае прызнанне і стварэнне часовай Палесцінскай аўтаноміі на Заходнім беразе ракі Іардан, у сектары Газа і ў зоне горада Іерыхон; былі ўрэгуляваны адносіны паміж Ізраілем і Іарданіяй. Аднак ізраільскія войскі застаюцца на Галанскіх вышынях, што перашкаджае заключэнню міру з Сірыяй.

У апошнія гады АВП на чале з Я. Арафатам (памёр у 2005 г.) узмацніла барацьбу за стварэнне палесцінскай дзяржавы. Радыкальныя ісламскія арганізацыі (ХАМАС, «Браты-мусульмане», Ісламскі джыхад і інш.) праводзілі тактыку бесперапыннага тэрору ў Ізраілі, што ўзмацніла ўплыў правых партый у краіне. Лідэр блока Лікуд (блока правых партый) прэм’ер-міністр Ізраіля А. Шарон выступаў за актыўнае супрацьдзеянне АВП і ісламскім тэрарыстам. Хвароба Шарона і перамога ХАМАС на выбарах у Палесцінскай аўтаноміі ў пачатку 2006 г. зноў абвастрылі сітуацыю. Летам 2006 г. Ізраіль пачаў ваенныя дзеянні ў Ліване, спаслаўшыся на неабходнасць разгрому сіл тэрарыстаў на поўдні гэтай краіны.


Я. Арафат

**Карэйская вайна.** Стварэнне **9 верасня 1948 г.** на поўначы Карэі Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі на чале з Кім Ір Сенам замацавала факт расколу Карэі па 38-й паралелі. КНДР атрымлівала пэўную дапамогу ад СССР. Вясной 1950 г. І. В. Сталін згадзіўся з планам кіраўніка КНДР Кім Ір Сена — ваенным шляхам аб'яднаць Карэю. Паўднёвая Карэя, якую падтрымлівалі ЗША, не паспела падрыхтавацца да вайны. **25 чэрвеня 1950 г.** КНДР пачала наступ у глыб Паўднёвай Карэі і хутка захапіла амаль усю яе тэрыторыю.




ААН асудзіла агрэсію КНДР на поўдні Карэі і накіравала туды войскі 16 дзяржаў. Іх асноўную частку складала армія ЗША. У канцы 1950 г. амерыканцы занялі Пхеньян (сталіца КНДР) і выйшлі да граніц з Кітаем. Савецкія лётчыкі аказалі дапамогу ў вядзенні паветранай вайны ў небе КНДР супраць сіл ААН. СССР рыхтаваўся накіраваць у Паўночную Карэю 5 дывізій. На дапамогу КНДР рушылі «кітайскія добраахвотнікі». У ходзе жорсткіх баёў фронт стабілізаваўся прыкладна па 38-й паралелі. Пасля працяглых перагавораў у ліпені **1953 г.** было заключана перамір'е. Так свет пазбегнуў рэальнай пагрозы Трэцяй сусветнай вайны. Кітай страціў забітымі каля 1 млн салдат, ЗША — 54 тыс. Вялікія ахвяры панёс карэйскі народ — загінула больш за 1 млн чалавек. Аднак праблема аб'яднання Карэі застаецца нявырашанай і цяпер.

**Войны ў Афганістане.** У 1965 г. у Афганістане ўтварылася Народна-дэмакратычная партыя (НДПА), якая ставіла сабе нерэальную мэту — пабудаваць сацыялізм (марксісцка-ленінскай мадэлі) у краіне з ісламскім укладам жыцця. У 1973 г. у Афганістане была звергнута манархія.

У хуткім часе прэзідэнт Афганістана М. Дауд усталяваў рэжым асабістай дыктатуры. У краіне пачалося праследаванне дэмакратычных сіл. У гэтых умовах у красавіку 1978 г. частка ваенных, НДПА і Аб'яднаны фронт камуністаў ажыццявілі дзяржаўны пераварот, які ўвайшоў у гісторыю як красавіцкая рэвалюцыя. Была абвешчана Дэмакратычная Рэспубліка Афганістан (ДРА). Але ў НДПА не было адзінства: у ёй існавалі дзве асноўныя фракцыі — «Хальк» («Народ») і «Парчам» («Сцяг»). «Хальк» была выразніцай інтарэсаў сярэдніх пластоў насельніцтва і складалася ў асноўным з пуштунаў. Халькісты займалі левыя пазіцыі і выступалі за хуткую пабудову сацыялізму. У больш памяркоўнай фракцыі «Парчам» аб'ядналіся прадстаўнікі гарадскога насельніцтва і непуштунскіх плямён. Лідэры фракцыі «Хальк» Н. М. Таракі і Х. Амін адцяснілі ад кіраўніцтва ДРА парчамістаў на чале з Б. Кармалем. У ходзе ўнутрыпартыйнай барацьбы за ўладу Амін у верасні 1979 г. атрымаў перамогу. Халькісты разгарнулі тэрор супраць духавенства, феадалаў і апазіцыянераў.

5 снежня 1978 г. СССР заключыў з Афганістанам Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве, паводле якога Савецкі Саюз забяспечваў тэрытарыяльную цэласнасць Афганістана. Тым часам супраць новага рэжыму ў Афганістане не раз паўставалі розныя плямёны. Кіраўніцтва ДРА настойліва звярталася за дапамогай да СССР.

12 снежня 1979 г. савецкае кіраўніцтва (некаторыя члены Палітбюро ЦК КПСС) на чале з Л. І. Брэжневым прыняло рашэнне пасланць часці Савецкай Арміі ў Афганістан. 25—27 снежня **1979 г.** сюды быў уведзены абмежаваны кантынгент савецкіх войскаў. Новым кіраўніком ДРА стаў стаўленік Крамля Б. Кармаль. СССР аказаўся ўцягнутым у грамадзянскую вайну ў Афганістане.



Б. Кармаль

Прыход да ўлады новага кіраўніцтва ДРА на чале з М. Наджыбулой у 1986 г. і курс на нацыянальнае прымірэнне не прынеслі вынікаў. У 1988 г. СССР падпісаў Жэнеўскія пагадненні па Афганістане, 15 лютага **1989 г.** савецкія войскі пакінулі краіну. Афганскія маджахеды («змагары за веру», праціўнікі ДРА), базы якіх знаходзі-

ліся ў Афганістане і Іране, працягвалі барацьбу супраць рэжыму НДПА. Перайменаванне ДРА ў Рэспубліку Афганістан (1987) і НДПА ў партыю Айчыны (Ватан), а таксама згода Наджыбулы стварыць кааліцыйны ўрад не задаволілі маджахедаў. Пасля бітваў з урадавымі войскамі яны занялі Кабул — сталіцу Афганістана. 15 красавіка 1992 г. рэжым Наджыбулы быў звергнуты. Пасля гэтага ў краіне пачалася ўнутраная барацьба за ўладу. У 1996—1997 гг. значную тэрыторыю Афганістана занялі войскі талібаў — афганскіх ісламістаў, якіх падтрымліваў Пакістан.

У 1997 г. талібы абвясцілі Афганістан эміратам — тэакратычнай ісламскай дзяржавай на чале з эмірам М. Амарам. Талібы хавалі кіраўнікоў ісламскіх тэрарыстаў, у тым ліку лідэра міжнароднай арганізацыі ісламскіх тэрарыстаў «Аль Каіда» («Аснова») У. бен Ладэна. Пасля правядзення ісламістамі 11 верасня 2001 г. тэрарыстычнай атакі на ЗША рэжым талібаў быў звергнуты ў выніку антытэрарыстычнай аперацыі войскаў заходніх дзяржаў на чале з ЗША **(2001—2002).** У Афганістане быў створаны залежны ад Захаду ўрад, які імкнецца стабілізаваць становішча ў краіне.

**Войны ў зоне Персідскага заліва.** У 1971 г. абвастрылася тэрытарыяльная спрэчка паміж Іракам і Іранам наконт пагранічных зямель — трох астравоў, занятых іранцамі. У 1975 г. было дасягнута пагадненне аб тым, што Іран павінен вярнуць Іраку частку занятай тэрыторыі. Аднак ісламісты на чале з аяталой Хамейні, якія прыйшлі да ўлады ў Іране, не збіраліся выконваць яго. Пачаліся пагранічныя сутыкненні. Іракскі ўрад патрабаваў вярнуць занятыя Іранам астравы. У **1980 г.** Ірак разарваў дасягнутыя дамоўленасці, яго войскі перайшлі граніцу і прасунуліся ў глыб Ірана.

Хамейні аб'явіў «свяшчэнную вайну» супраць Ірака, заклікаў вызваліць шыітаў у гэтай краіне. У Іраку 40 % мусульман з'яўляюцца сунітамі — прадстаўнікамі шырока распаўсюджанага кірунку ў ісламе. Яны знаходзіліся ва ўладзе. У той жа час 60 % насельніцтва Ірака складаюць шыіты. Хамейні хацеў адхіліць сунітаў ад улады ў Іраку і стварыць там ісламскую дзяржаву. Аднак галоўная прычына ірана-іракскай вайны заключалася ў імкненні абедзвюх краін кантраляваць важны нафтаносны і стратэгічны раён у Персідскім заліве. Ваенныя дзеянні былі бязлітаснымі і праходзілі з пераменным поспехам. У **1988 г.** краіны заключылі перамір'е.

У 1990 г. кіраўніцтва Ірака абвінаваціла Кувейт, на долю якога прыпадае 13 % сусветных запасаў нафты і газу, у прысваенні іракскай нафты. Пасля зрыву перагавораў з Кувейтам 2 жніўня 1990 г. Ірак акупіраваў гэтую краіну. С. Хусейн (**1) заявіў аб далучэнні Кувейта да Ірака, а таксама стаў пагражаць вайной Ізраілю. Савет Бяспекі ААН запатрабаваў ад Ірака вывесці войскі з Кувейта.

Аднак С. Хусейн не выканаў ультыматуму ААН. Тады ў студзені **1991 г.** пачалася ваенная аперацыя «Бура ў пустыні» супраць Ірака, у якой прымалі ўдзел войскі ЗША, Турцыі, Саудаўскай Аравіі, Англіі, Францыі і іншых краін. СССР падтрымаў дзеянні саюзнікаў у Іраку. 28 лютага 1991 г. Ірак быў вымушаны прызнаць сваё паражэнне і вывесці войскі з Кувейта.

У пачатку XXI ст. рэзка абвастрыліся адносіны паміж ЗША і Іракам. Кіраўніцтва ЗША лічыла С. Хусейна памагатым міжнароднага тэрарызму і паставіла задачу звергнуць яго рэжым. У сакавіку 2003 г. ЗША пачалі вайну супраць Ірака без санкцыі Савета Бяспекі ААН. Амерыканскія войскі занялі Ірак. Хусейн і яго прыхільнікі былі арыштаваны. У краіне ўстанавілася новая палітычная сістэма. Аднак становішча ў Іраку застаецца нестабільным, на войскі ЗША і іх саюзнікаў часта робяцца напады, праводзяцца шматлікія тэрарыстычныя акцыі.

**Дадатковы матэрыял**

****1. Садам Хусейн: з палітычнай біяграфіі**

С. Хусейн нарадзіўся ў горадзе Тыкрыт у сям'і селяніна 28 красавіка 1937 г. Ён рана застаўся без бацькі. У 18 гадоў Садам стаў членам Партыі арабскага сацыялістычнага адраджэння (Баас). У 1958 г. за сваю палітычную дзейнасць быў арыштаваны і правёў 6 месяцаў у турме. У тым жа годзе ў Іраку была звергнута манархія, і да ўлады прыйшоў генерал А. Касем. У 1959 г. Садам у якасці лідэра маладзёжнай групы, якая складалася з 10 чалавек, удзельнічаў у замаху на Касема. Генерал быў паранены, але не забіты. Хусейн таксама атрымаў раненне ў нагу, але здолеў схавацца.

У 1960 г. за гэты тэрарыстычны акт іракскі суд завочна асудзіў Садама да пакарання смерцю. Аднак да гэтага моманту яму ўдалося ўцячы ў Сірыю, адкуль ён перабраўся ў Егіпет. С. Хусейн вучыўся ў Каірскім універсітэце (вывучаў юрыспрудэнцыю). У 1963 г. апынуўся ў турме пасля спробы дзяржаўнага перавароту, зробленай Баас. У час турэмнага зняво

ленне быў абраны членам Цэнтральнага камітэта Баас. У 1967 г. Хусейн уцёк з турмы і поўнасцю прысвяціў сябе партыйнай рабоце.

17 ліпеня 1968 г. пераварот, арганізаваны генералам А. Бакрам, прывёў Баас да ўлады ў Іраку. У новым урадзе С. Хусейн заняў пост віцэпрэзідэнта. У 1979 г. А. Бакр пайшоў у адстаўку (паводле іншых звестак, яго звергнуў Садам) і Хусейн стаў аднаасобным правіцелем Ірака.

Хусейн вёў замкнуты спосаб жыцця, рэдка з'яўляўся на публіцы, што тлумачылася меркаваннямі бяспекі. Жанаты, меў пяцёра дзяцей — двух сыноў і трох дачок. Сыны прымалі актыўны ўдзел у палітычнай дзейнасці: старэйшы (Удэй) з'яўляўся старшынёй Саюза іракскай моладзі і студэнтаў, займаў шэраг іншых пастоў; малодшы (Кусэй) кіраваў дзейнасцю спецслужбаў Ірака. У сакавіку — красавіку 2003 г. ЗША і іх саюзнікі нанеслі паражэнне Іраку і акупіравалі яго. С. Хусейн здолеў схавацца. Сыны дыктатара былі забіты ў ходзе сутыкнення з амерыканскім спецназам. У хуткім часе быў арыштаваны і сам С. Хусейн. У цяперашні момант над былым дыктатарам Ірака праходзіць судовы працэс.

### Пытанні і заданні

1. Раскажыце, выкарыстоўваючы картасхемы на с. 203, 205 і 207, пра лакальныя войны і канфлікты ў Азіі пасля Другой сусветнай вайны.
2. Які характар насіла вайна ЗША супраць В'етнама?
3. У чым заключаецца палесцінская праблема? Якую ролю ў арабаізраільскім канфлікце адыгралі ЗША і СССР, ААН і АВП?
4. У чым заключаецца прычына карэйскай вайны і праблема аб'яднання Карэі?
5. Чаму кіраўніцтва Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан звярнулася за дапамогай да СССР?
6. Вызначце прычыны, якія прымусілі ЗША ўвесці свае войскі ў Афганістан і Ірак. Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял да параграфа.

## АСНОЎНЫЯ ВЫНІКІ РАЗВІЦЦЯ КРАІН УСХОДУ ПАСЛЯ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

### Урок паўтарэння і абагульнення

**1.** Сярод краін Усходу вылучаюцца так званыя «тыгры». Штогадовы прырост іх нацыянальнага даходу складае 9—11 %. Прадукцыя, якая выпускаецца ў гэтых краінах, шырока вядомая ва ўсім свеце. Назавіце гэтыя краіны. Якія фактары абумовілі іх лідзіруючае становішча?

**2.** Пераадоленне разрыву ва ўзроўні развіцця паміж краінамі Усходу і Захаду магчымае шляхам мадэрнізацыі традыцыйнага грамадства, што склалася ў дзяржавах Усходу. Пералічыце краіны Усходу, у якіх мадэрнізацыя адбываецца найбольш паспяхова, і пацвердзіце гэта з дапамогай адпаведных прыкладаў. Дакажыце, што некаторыя краіны Усходу адыгрываюць вырашальную ролю ў станаўленні сучаснага шматполюснага свету.

**3.** На пытанне «Якое грамадства вы будуеце?», зададзенае мэру Сеула, ён адказаў: «Мы гэтага не ведаем, у нас усе абуты, накормлены, адзеты, хутка ўсе будуць з машынамі...». Падумайце, што на гэта пытанне мог бы адказаць мэр Пхеньяна. Чаму адказы прадстаўнікоў карэйскага народа на адно і тое ж пытанне могуць быць рознымі?

**4.** Вызначце, ці ўтрымліваюцца супярэчнасці ў наступным выказванні кіраўніка «кітайскай перабудовы» Дэн Сяапіна і якім чынам яны паўплывалі на вынікі «кітайскай перабудовы»:

«Мы за спалучэнне розных формаў уласнасці, але супраць тых, хто адмаўляе вядучую ролю народнай; мы за шматпартыйнасць, але супраць тых, хто выступае за адмену вядучай ролі КПК; мы за плюралізм — „няхай расцвітаюць сто кветак, няхай спрачаюцца сто вучоных", але мы будзем змагацца з тымі, хто адмаўляе вялікія ідэі Маркса — Леніна — Мао».

Растлумачце з пункту гледжання задач мадэрнізацыі кітайскага грамадства сэнс выказвання Дэн Сяапіна, які на пытанне «Якому грамадскаму ладу — сацыялістычнаму або капіталістычнаму — вы аддаяце перавагу?» адказаў так: «Якая розніца, якога колеру кошка, чорнага ці белага, важна, каб яна лавіла мышэй».

**5.** Запоўніце ў сшытку табліцу «Грамадскае развіццё краін Азіі ў пасляваенны перыяд».

| План характарыстыкі | Кітай | Японія | Індыя |
|---|---|---|---|
| Асноўныя палітычныя сілы і іх лідэры | | | |
| Асноўныя ідэі, пакладзеныя ў аснову палітыкі | | | |
| Рэлігія | | | |
| Новыя з'явы ў спосабе жыцця | | | |

**6.** Запоўніце ў сшытку параўнальную табліцу, якая характарызуе «эканамічны цуд» у Германіі і Японіі.

| План параўнання | Германія | Японія |
|---|---|---|
| Прычыны эканамічнага росту | | |
| Вынікі эканамічнага развіцця | | |

**7.** Запоўніце ў сшытку табліцу «Лакальныя войны і канфлікты ў Азіі ў другой палове XX і пачатку XXI ст.».

| Храналагічны перыяд | Краіны — удзельніцы канфлікту, вайны | Прычыны канфлікту, вайны | Вынік канфлікту, вайны |
|---|---|---|---|
| | | | |

Наколькі правільнае сцвярджэнне аб тым, што вайна ёсць працяг палітыкі, якая праводзіцца насільнымі метадамі, для характарыстыкі становішча, што склалася ў краінах Усходу ў другой палове XX ст.? Ці магчыма сёння, у пачатку XXI ст., вырашаць усе пытанні ваеннымі дзеяннямі? Свой адказ аргументуйце.

**8.** У 1947 г. Генеральная Асамблея ААН прыняла рашэнне аб раздзеле Палесціны, якая знаходзілася пад англійскім кіраваннем. На яе тэрыторыі плошчай 14,1 тыс. км$^2$ стваралася яўрэйская дзяржава з насельніцтвам, якое складала 35,1 %, а на плошчы 11,1 тыс. км$^2$ — арабская дзяржава з 64,9 % усяго насельніцтва Палесціны. Ці можна лічыць такое рашэнне ААН прычынай канфлікту на Блізкім Усходзе? Свой адказ абгрунтуйце. Растлумачце сэнс заявы ізраільскіх пасяленцаў на Заходнім беразе ракі Іардан пасля акупацыі Ізраілем у 1967 г. арабскіх тэрыторый: «Ізраіль, як ён адзначаны ў Бібліі, распасціраецца ад Ірака да ракі Ніл. Мы зусім не жменька фанатыкаў. Знаходзячыся тут, мы ахоўваем Тэль-Авіў».

**9.** У 9-м артыкуле Канстытуцыі Японіі 1946 г. была зафіксавана адмова ад арміі і флоту як сродку вырашэння міжнародных канфліктаў. Урад краіны прыняў тры няядзерныя прынцыпы. Разам з тым ЗША разглядалі Японію як свой «непатапляльны авіяносец». У чым тут заключаецца супярэчнасць, па якіх прычынах яна ўзнікла і як была вырашана? Ці звязаны з гэтым фарміраванне ў японцаў «абарончай свядомасці» і заклікі да вырашэння праблемы «паўночных тэрыторый»?

**10.** У 1980-я гг. у краінах Усходу кожны пяты пакутаваў ад недаядання або голаду, 250 млн чалавек жылі ў трушчобах, 2 млрд — не мелі доступу да крыніц чыстай вады. Працягласць жыцця была ў сярэднім на 30 гадоў меншай, чым у еўрапейскіх краінах. Непісьменнасць насельніцтва дасягала ў асобных краінах 95 %. Разам з тым насельніцтва Азіі ў перыяд з 1950 па 1989 г. павялічылася з 1,3 да 3 млрд чалавек, у Афрыцы — з 224 да 626 млн. Вызначце, у чым заключаюцца праблемы развіцця краін Усходу і чаму яны набылі характар глабальных. Прапануйце свае аргументаваныя варыянты вырашэння абазначаных праблем.

**11.** У пасляваенным Егіпце ажыццяўляліся розныя па сваім змесце праграмы развіцця краіны. Параўнайце палітыку, якую праводзілі Г. А. Насэр і А. Садат. Прыкметы параўнання вызначце самастойна.

**12.** Вызначце, у чым заключаецца глабальны характар небяспекі, што паходзіць ад руху, лідэры якога заяўляюць наступнае: «Наш марш пачаўся, і іслам нарэшце заваюе Еўропу і Амерыку, таму што іслам з'яўляецца адзіным шляхам да збавення, які застаецца гэтаму роспачнаму свету».

# ХРАНАЛАГІЧНАЯ ТАБЛІЦА

**1945 г., 9 мая** — Дзень Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне.

**1945 г.** — утварэнне Арганізацыі Аб’яднаных Нацый (ААН).

**1945 г., ліпень — жнівень** — Патсдамская канферэнцыя.

**1945 г., 2 верасня** — падпісанне Акта аб безагаворачнай капітуляцыі Японіі. Завяршэнне Другой сусветнай вайны.

**1946 г.** — абвяшчэнне рэспублікі ў Італіі.

**1946 г.** — устанаўленне Чацвёртай рэспублікі ў Францыі.

**1947 г.** — прыняцце ў ЗША плана Маршала і дактрыны Трумэна.

**1947 г., 15 жніўня** — Дзень незалежнасці Індыі.

**1948 г., 9 верасня** — абвяшчэнне Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі.

**1948 г., 14 мая** — абвяшчэнне Дзяржавы Ізраіль.

**1948—1949 гг.** — першая араба-ізраільская вайна.

**1948 г.** — прыняцце Генеральнай Асамблеяй ААН Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека.

**1949 г.** — стварэнне Савета Эканамічнай Узаемадапамогі (СЭУ).

**1949 г.** — утварэнне Арганізацыі Паўночнаатлантычнага дагавора (НАТО).

**1949 г.** — стварэнне Савета Еўропы.

**1949 г., жнівень** — выпрабаванне савецкай атамнай бомбы.

**1949 г., 1 кастрычніка** — абвяшчэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі.

**1949 г.** — раскол Германіі. Утварэнне Федэратыўнай Рэспублікі Германія і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

**1950 г., 26 студзеня** — абвяшчэнне Рэспублікі Індыя.

**1950—1953 гг.** — карэйская вайна.

**1951 г.** — падпісанне ЗША, Вялікабрытаніяй і шэрагам іншых дзяржаў мірнага дагавора з Японіяй у Сан-Францыска.

**1952 г., 23 ліпеня** — дзяржаўны пераварот у Егіпце.

**1953 г.** — абвяшчэнне Егіпта рэспублікай.

**1953 г., 5 сакавіка** — смерць І. В. Сталіна.

**1953 г., верасень** — абранне М. С. Хрушчова Першым сакратаром ЦК КПСС.

**1955 г**. — утварэнне Арганізацыі Варшаўскага дагавора (АВД).

**1956 г.** — другая араба-ізраільская вайна.

**1956 г.** — XX з'езд КПСС. Асуджэнне культу асобы Сталіна.

**1956 г.** — палітычнае супрацьстаянне ў Венгрыі («будапешцкая восень»).

**1957 г.** — утварэнне Еўрапейскай эканамічнай супольнасці, або Агульнага рынку.

**1958 г.** — абвяшчэнне Ірака рэспублікай.

**1958 г.** — устанаўленне Пятай рэспублікі ў Францыі.

**1958—1960 гг.** — «вялікі скачок» у КНР.

**1959 г.** — рэвалюцыя на Кубе.

**1960 г.** — «год Афрыкі». Абвяшчэнне незалежнасці 17 афрыканскіх дзяржаў.

**1961 г., 12 красавіка** — першы ў гісторыі чалавецтва палёт у космас грамадзяніна СССР Ю. А. Гагарына.

**1961 г.** — XXII з’езд КПСС. Прыняцце праграмы пабудовы камунізму.

**1961 г.** — узвядзенне Берлінскай сцяны.

**1961 г.** — заснаванне Руху недалучэння.

**1962 г.** — карыбскі крызіс.

**1962 г.** — абвяшчэнне Алжырскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі.

**1963 г.** — падпісанне ў Маскве Дагавора аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, касмічнай прасторы і пад вадой.

**1964 г.** — адстаўка М. С. Хрушчова. Першым сакратаром ЦК КПСС абраны Л. І. Брэжнеў (з 1966 г. — Генеральны сакратар ЦК КПСС).

**1965—1973 гг.** — барацьба в’етнамскага народа супраць агрэсіі ЗША.

**1966—1976 гг.** — «культурная рэвалюцыя» ў Кітаі.

**1967 г.** — трэцяя араба-ізраільская вайна.

**1968 г.** — палітычнае супрацьстаянне ў Чэхаславакіі («пражская вясна»).

**1968 г., май** — масавыя хваляванні студэнтаў і працоўных у Францыі.

**1970 г.** — падпісанне дагавора паміж СССР і ФРГ.

**1972 г.** — падпісанне Дагавора аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў (АСУ-1) паміж СССР і ЗША.

**1973 г.** — чацвёртая араба-ізраільская вайна.

**1973 г.** — дзяржаўны пераварот і ўсталяванне дыктатуры А. Піначэта ў Чылі.

**1975 г.** — падпісанне Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

**1976 г., 2 ліпеня** — абвяшчэнне Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам.

**1977 г.** — прыняцце новай Канстытуцыі СССР.

**1978 г.** — пачатак эканамічных рэформаў у Кітаі.

**1979 г., 1 красавіка** — абвяшчэнне Ісламскай Рэспублікі Іран.

**1979—1989 гг.** — прысутнасць абмежаванага кантынгенту савецкіх войскаў у Афганістане.

**1979 г., 18 чэрвеня** — падпісанне Дагавора аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў (АСУ-2) паміж ЗША і СССР.

**1980—1988 гг.** — ірана-іракская вайна.

**1980 г.** — XXII Алімпійскія гульні ў Маскве.

**1980 г.** — выступленні рабочых у Польшчы. Утварэнне прафсаюзнага аб'яднання «Салідарнасць».

**1982 г.** — пятая араба-ізраільская вайна.

**1985 г., сакавік** — абранне М. С. Гарбачова Генеральным сакратаром ЦК КПСС.

**1985—1991 гг.** — палітыка перабудовы ў СССР.

**1986 г., 26 красавіка** — аварыя на Чарнобыльскай АЭС.

**1988 г.** — 1000-годдзе прыняцця хрысціянства на Русі.

**1989—1990 гг.** — дэмакратычныя («аксамітныя») рэвалюцыі ў краінах Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы.

**1989 г., чэрвень** — падаўленне студэнцкіх выступленняў у Кітаі.

**1989 г., 9 лістапада** — падзенне Берлінскай сцяны.

**1990 г., 12 чэрвеня** — прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце РСФСР.

**1990 г., 3 кастрычніка** — аб'яднанне Германіі.

**1991 г.** — вайна супраць Ірака ў раёне Персідскага заліва (аперацыя «Бура ў пустыні»).

**1991 г., 12 чэрвеня** — абранне прэзідэнтам РСФСР Б. М. Ельцына.

**1991 г., 19 жніўня** — стварэнне Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы (ДКНС) у СССР («жнівеньскі путч»).

**1991 г., 8 снежня** — распад СССР. Стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).

**1991 г.** — роспуск Савета Эканамічнай Узаемадапамогі (СЭУ) і Арганізацыі Варшаўскага дагавора (АВД).

**1991—1995 гг.** — міжэтнічныя сутыкненні ў Югаславіі і яе распад.

**1992 г.** — падпісанне Дагавора аб Еўрапейскім Саюзе ў горадзе Маастрыхт (Нідэрланды).

**1993 г.** — распад Чэхаславакіі. Утварэнне Чэшскай Рэспублікі і Славацкай Рэспублікі.

**1993 г., 3—4 кастрычніка** — узброенае выступленне апазіцыйных сіл у Маскве.

**1993 г., 12 снежня** — прыняцце Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі.

**1994 г.** — далучэнне Расіі да праграмы НАТО «Партнёрства ў імя міру».

**1994 г., снежань** — пачатак баявых дзеянняў у Чэчні.

**1997 г., 2 красавіка** — падпісанне пагаднення аб Саюзе Беларусі і Расіі.

**1999 г.** — ваенная аперацыя НАТО супраць Югаславіі.

**1999 г.** — уступленне Польшчы, Чэхіі, Венгрыі ў НАТО.

**2000 г., 26 сакавіка** — абранне прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі У. У. Пуціна.

**2001 г., 11 верасня** — напад тэрарыстаў на будынкі Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Йорку і іншыя аб’екты ў ЗША.

**2001—2002 гг.** — ваенная аперацыя ЗША супраць Афганістана, звяржэнне рэжыму талібаў.

**2003 г., сакавік** — ваенная аперацыя войскаў ЗША і іх саюзнікаў у Іраку. Звяржэнне рэжыму С. Хусейна.

**2004 г.** — уступленне ў НАТО Балгарыі, Румыніі, Славакіі, Славеніі, Латвіі, Літвы, Эстоніі.

**2004 г.** — далучэнне да Еўрапейскага Саюза Чэхіі, Венгрыі, Польшчы, Славакіі, Славеніі, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Кіпра, Мальты.

## СЛОЎНІК ТЭРМІНАЎ

**«Аксамі Стныя рэвалюСцыі»** — ненасільныя рэвалюцыі, дэмакратычныя па сваім характары, якія адбыліся ў шэрагу краін Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы на мяжы 1980—1990-х гг. і прывялі да адмаўлення ад сацыялістычнага шляху развіцця.

**АрганізаСцыя ВаршаСўскага дагавоСра (АВД)** — ваенна-палітычная арганізацыя еўрапейскіх сацыялістычных краін, створаная ў процівагу НАТО для захавання бяспекі краін-удзельніц у 1955—1991 гг.

**АрганізаСцыя ПаўночнаатлантыСчнага дагавоСра (НАТО)** — ваенна-палітычны саюз, які аформіўся ў 1949 г. па ініцыятыве ЗША і быў накіраваны ў перыяд свайго стварэння супраць сацыялістычных краін і нацыянальна-вызваленчага руху.

**БелавеСжскае пагаднеСнне** — пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падпісанае 8 снежня 1991 г. у Віскулях (Белавежская пушча) кіраўнікамі трох савецкіх рэспублік: РСФСР, Беларусі, Украіны.

**«БудапеСшцкая воСсень»** — спроба змены мадэлі грамадскага ладу і выступленне апазіцыі на тэрыторыі Венгрыі ў 1956 г.

**ВаеСннапрамыслоСвы коСмплекс (ВПК)** — саюз ваеннай прамысловасці, арміі і звязаных з ім дзяржаўнага апарату і навукі, які склаўся ў шэрагу краін (ЗША, СССР і інш.) у ходзе Другой сусветнай вайны і ўмацаваўся ў перыяд «халоднай вайны».

**ВалавыС нацыянаСльны прадуСкт (ВНП)** — падлічаная ў рыначных цэнах вартасць выпушчаных на працягу года краінай прадукцыі, тавараў, паслуг.

**ВалюнтарыСзм** — палітыка, якая вызначаецца суб’ектыўнымі жаданнямі і самавольствам асоб, што прымаюць пэўныя рашэнні.

**«Вялі Скі скачоСк»** — палітыка Мао Цзэдуна ў 1958—1960 гг., арыентаваная на паскораную пабудову камунізму ў Кітаі, якая праду-

гледжвала стварэнне камун і фарсіраванае развіццё прамысловасці.

**ГалоСснасць** — дэмакратычны прынцып, які забяспечвае адкрытасць работы органаў кіравання і даступнасць азнаямлення з іх дзейнасцю праз сродкі масавай інфармацыі.

**Геапалі Стыка** — навука аб кантролі над планетарнай прасторай і глабальных праблемах міжнародных адносін.

**ГлабалізаСцыя** — працэсы фарміравання сусветнага рынку капіталу, тавараў, паслуг і інфармацыі, якія заключаюцца ў пашырэнні міжнародных сувязей, паўсюдным укараненні новых тэхналогій у эканоміцы, прызнанні дэмакратычных правоў і свабод грамадзян у палітыцы, сумесным вырашэнні праблем аховы навакольнага асяроддзя.

**ГлабаСльныя прабleСмы сучаСснасці** — праблемы існавання і развіцця чалавецтва ў цэлым, вырашэнне якіх немагчымае без аб'яднання намаганняў народаў і дзяржаў усяго свету.

**ГрамадзяСнская супоСльнасць** — грамадства, у якім дасягнуты высокі ўзровень эканамічных, прававых, палітычных і культурных адносін паміж людзьмі, узаемадзеяння грамадзян і дзяржаўных структур.

**ДактрыСна ТруСмэна** — знешнепалітычная праграма ЗША, прапанаваная прэзідэнтам ЗША Г. Трумэнам у 1947 г., накіраваная на стварэнне вакол СССР і краін сацыялізму стратэгічных ваенных баз.

**Дамініён** — дзяржава — былая калонія, якая ўваходзіла ў склад Брытанскай Садружнасці нацый (1931—1947), мела права самакіравання і прызнавала кіраўніком дзяржавы англійскую каралеву (караля).

**ДзяржаСўны сацыялі Сзм** — грамадскі лад у краінах Азіі (Паўночная Карэя, Манголія, Кітай, В'етнам, Камбоджа), які характарызаваўся панаваннем дзяржаўнай уласнасці на сродкі вытворчасці,

ваенна-бюракратычнай або аднапартыйнай дыктатурай, адзінай афіцыйнай ідэалогіяй і абмежаваннем правоў і свабод грамадзян.

**ДзяржаСўны суверэнітэСт** — незалежнасць дзяржавы ў знешніх і самастойнасць ва ўнутраных справах.

**ДысідэСнты** — іншадумцы, погляды якіх разыходзяцца з пазіцыяй кіруючых колаў і пануючай ідэалогіяй. У СССР — удзельнікі выступленняў супраць палітычнага рэжыму, які існаваў, у абарону правоў чалавека.

**ДэпартаСцыя** — насільнае выгнанне, высылка з краіны як прымусовая мера з боку дзяржавы.

**ДэсталінізаСцыя** — пераадоленне вынікаў культу асобы Сталіна, звязанае з працэсам дэмакратызацыі і рэабілітацыі.

**ЕўрапеСйскі СаюСз** — назва аб'яднання еўрапейскіх краін, утворанага ў 1993 г. у адпаведнасці з Маастрыхцкім дагаворам. Дагавор прадугледжвае стварэнне палітычнага, эканамічнага і валютнага саюзу, завяршэнне фарміравання адзінага ўнутранага рынку, правядзенне сумеснага курсу ў галіне знешняй палітыкі і бяспекі, каардынацыю намаганняў у пытаннях аховы навакольнага асяроддзя, барацьбы са злачыннасцю. Устанаўліваецца адзінае еўрапейскае грамадзянства, уведзена ў абарачэнне адзіная валюта — еўра.

**ІндустрыяСльнае грамаСдства** — грамадства, у якім завершаны працэс стварэння буйной прамысловасці з высокім узроўнем навукова-тэхнічнага развіцця як асновы эканомікі, агульнанацыянальным рынкам, значным прагрэсам у розных сферах жыцця.

**ІнтэграСцыя** — працэс згуртавання, аб'яднання палітычных, эканамічных, дзяржаўных і грамадскіх структур у рамках адной краіны, рэгіёна, свету. Прыкладам міжнароднай эканамічнай і палітычнай інтэграцыі з'яўляецца Еўрапейскі Саюз.

**Інтэнсі Сўны шлях развіццяС гаспадаСркі** — развіццё вытворчасці за кошт выкарыстання якасна новых метадаў і тэхнічнага ўдасканалення, якія значна павышаюць прадукцыйнасць працы.

**ІнфармацыСйнае грамаСдства** — тэрмін для сучаснай характарыстыкі шэрагу краін, якія ўступілі ў стадыю развіцця, што настае ўслед за індустрыяльным грамадствам. Вядучую ролю ў інфармацыйным грамадстве набываюць сфера паслуг; навука і адукацыя; вытворчасць, размеркаванне і спажыванне інфармацыі.

**ІнфляСцыя** — празмернае павелічэнне масы папяровых грошай, якая знаходзіцца ў абарачэнні, у параўнанні з рэальнай прапановай тавараў, абясцэньванне папяровых грошай з прычыны выпуску іх у абарачэнне ў памерах, што перавышаюць патрэбнасці тавараабароту. Інфляцыя суправаджаецца ростам цэн на тавары і падзеннем рэальнай заработнай платы, зніжэннем узроўню жыцця насельніцтва.

**ІслаСмскі фундаменталі Сзм** — рэлігійны рух, які абвяшчае прыхільнасць да нормаў ісламу, выкладзеных у Каране, і выступае за распаўсюджванне ісламскай рэвалюцыі ва ўсім свеце. Ісламскі фундаменталізм цесна звязаны з міжнародным тэрарызмам.

**КарыСбскі крыСзіс** — крызіс у адносінах паміж СССР і ЗША ў 1962 г. пасля размяшчэння савецкіх ракет на Кубе ў якасці меры ў адказ на размяшчэнне амерыканскіх ракет у Турцыі і Італіі, а таксама на пагрозу ўварвання амерыканскіх войскаў на Кубу.

**«КітаСйская перабудоСва»** — палітыка рэформаў, якая пачалася ў 1978 г. у Кітаі па ініцыятыве Дэн Сяапіна і азначала будаўніцтва «сацыялізму з кітайскай спецыфікай».

**«КультуСрная рэвалюСцыя»** — тэорыя і практыка новага этапу класавай барацьбы ў ходзе будаўніцтва сацыялізму ў Кітаі ў 1966—1976 гг., у выніку якога, паводле задумы Мао Цзэдуна, павінны былі ўсталявацца новая пралетарская культура і сацыялістычны спосаб жыцця.

**«Курс ХХ з’еСзда»** — курс, прыняты па ініцыятыве М. С. Хрушчова на ХХ з’ездзе КПСС у 1956 г. і накіраваны на выкрыццё культу асобы Сталіна, асуджэнне неабгрунтаваных рэпрэсій, рэабілітацыю рэпрэсіраваных.

**«Курс НэСру»** — тэорыя і практыка пабудовы ў Індыі «грамадства сацыялістычнага ўзору» паводле праграмы, прынятай у 1955 г. Індыйскім нацыянальным кангрэсам на чале з Дж. Нэру.

**Мааі Сзм** — ідэалогія і практыка, якія ўяўляюць сабой кітаізаваны варыянт марксізму. У аснове мааізму ляжыць ідэя паскоранага будаўніцтва сацыялізму і камунізму.

**МадэрнізаСцыя** — абнаўленне, змяненне чаго-небудзь у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі.

**«МакартыСзм»** — кампанія па праследаванні прагрэсіўных дзеячаў і арганізацый у ЗША, разгорнутая ў першай палове 1950-х гг. сенатарам Дж. Макарці і названая яго імем. Называлася таксама «паляванне на ведзьмаў».

**МаСсавая культуСра** — паняцце, якое ахоплівае разнастайныя з’явы культуры XX ст., атрымала распаўсюджанне ў сувязі з НТР і абнаўленнем сродкаў масавай камунікацыі. Для яе характэрныя масавая вытворчасць культурнай прадукцыі, стандартнасць, спрошчанасць, відовішчнасць, забаўляльнасць.

**МаСфія** — тайная тэрарыстычная арганізацыя, якая займаецца злачынным бізнесам: кантрабандай наркотыкаў і інш. Узнікла на мяжы XVIII— XIX стст. у Італіі, а затым з’явілася і ў іншых краінах. Дзейнічае метадамі шантажу, насілля, забойстваў і да т. п. Часам словам «мафія» абазначаюць усе формы арганізаванай злачыннасці.

**МеліяраСцыя** — сістэма мерапрыемстваў па паляпшэнні неспрыяльных прыродных умоў зямель з мэтай павышэння іх урадлівасці (шляхам асушэння, арашэння, умацавання сыпучых пяскоў і інш.).

**НавукоСватэхні Счная рэвалюСцыя (НТР)** — карэннае, якаснае змяненне прадукцыйных сіл на аснове ператварэння навукі ў вядучы фактар развіцця грамадскай вытворчасці. Пачалася з сярэдзіны XX ст. Прад’яўляе ўсё большыя і большыя патрабаванні да ўзроў-

ню адукацыі, кваліфікацыі, культуры, арганізаванасці, адказнасці работнікаў.

**Неакаланіялі Сзм** — сістэма нераўнапраўных эканамічных адносін і ваенна-палітычных блокаў, навязаная менш развітым у сацыяльна-эканамічных адносінах былым калоніям з боку больш моцных у эканамічных і ваенных адносінах дзяржаў.

**НеафашыСзм** — фашызм, які відазмяніў у адпаведнасці з сучаснымі ўмовамі канкрэтныя лозунгі і метады дзейнасці пры захаванні сваёй ідэйна-палітычнай асновы.

**НоСвае палітыСчнае мыСсленне** — пераасэнсаванне рэальнасцей сусветнага развіцця, якія змяніліся, з улікам глабальных праблем сучаснасці. Тэрмін шырока выкарыстоўваўся партыйнымі і дзяржаўнымі дзеячамі СССР (М. С. Гарбачовым) у другой палове 1980-х гг. у перыяд правядзення палітыкі перабудовы.

**«НоСвая ўсхоСдняя палі Стыка»** — палітыка ўрэгулявання адносін ФРГ з краінамі Усходняй Еўропы і ГДР, якая праводзілася ў 1970-я гг.

**«Патэрналі Сзм»** — палітыка апекі, «бацькоўскага клопату» пра каго-небудзь.

**ПерабудоСва** — палітыка кіраўніцтва КПСС на чале з М. С. Гарбачовым, якая праводзілася ў 1985—1991 гг., была скіравана на частковую мадэрнізацыю савецкага грамадска-палітычнага ладу і паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

**План МаСршала** — праграма аднаўлення і развіцця краін Еўропы пасля Другой сусветнай вайны шляхам аказання ім амерыканскай эканамічнай дапамогі пры ўмове падтрымкі ЗША ў барацьбе супраць утварэння сусветнай сістэмы сацыялізму, прынятая ў 1947 г.

**ПостіндустрыяСльнае грамаСдства** — новая стадыя грамадскага развіцця, якая надыходзіць услед за індустрыяльным грамадствам. Для характарыстыкі постіндустрыяльнай эпохі выкарыстоўваецца таксама паняцце «інфармацыйнае грамадства».

**«ПраСжская вяснаС»** — спроба абнаўлення існуючай мадэлі грамадскага ладу і стварэння сацыялізму «з чалавечым тварам» у Чэхаславакіі ў 1968 г.

**ПрыватызаСцыя** — перадача або продаж аб’ектаў дзяржаўнай уласнасці ў прыватную.

**РазраСдка** — адмова ад палітыкі, заснаванай на недаверы, саперніцтве і напружанасці паміж краінамі з рознымі сацыяльна-палітычнымі сістэмамі; адмова ад выкарыстання сілы або накаплення ўзбраенняў як сродку ўздзеяння на палітыку дзяржаў; умацаванне ўзаемнага даверу і ўзаемаразумення, вырашэнне спрэчак і канфліктаў мірным шляхам; неўмяшанне ва ўнутраныя справы дзяржаў, павага да іх суверэнітэту.

**Рух недалучэСння** — рух, які аб’ядноўвае краіны, што абвясцілі асновай свайго знешнепалітычнага курсу няўдзел у ваенна-палітычных блоках і групоўках. Быў заснаваны ў 1961 г. па ініцыятыве лідэраў Індыі, Егіпта і Югаславіі. У 1992 г. у Рух недалучэння ўваходзілі 108 краін.

**РэабілітаСцыя** — аднаўленне рэпутацыі, правоў несправядліва абвінавачанай асобы.

**РэйганоСміка** — эканамічная палітыка адміністрацыі прэзідэнта ЗША Р. Рэйгана ў 1981—1989 гг., звязаная з абмежаваннем дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку.

**РэканвеСрсія** — перавод эканомікі краіны пасля заканчэння вайны на вытворчасць мірнай прадукцыі.

**СавеСт Эканамі Счнай УзаемадапамоСгі (СЭУ)** — міжнародная міжурадавая эканамічная арганізацыя сацыялістычных краін у 1949—1991 гг.

**Сіяні Сзм** — ідэалогія, накіраваная на адраджэнне яўрэйскай самасвядомасці і дзяржавы ў Палесціне. Узнік у канцы XIX ст. Пасля 1948 г. сіянізм арыентаваны на падтрымку Ізраіля.

**СтагнаСцыя** — застой у вытворчасці і ў цэлым у эканамічным развіцці.

**СярэСдні клас** — пласт насельніцтва, стабільнае матэрыяльнае і сацыяльнае становішча якога забяспечвае стабільнае развіццё грамадства.

**ТранснацыянаСльныя карпараСцыі (ТНК)** — шматгаліновыя комплексы, якія дзейнічаюць на прынцыпах спецыялізацыі і кааперацыі вытворчасці на сусветным узроўні.

**«ТрэСці свет»** — у канцы 1940-х — пачатку 1990-х гг. абазначэнне групы былых каланіяльных і паўкаланіяльных (якія вызваліліся) краін, што адставалі ад іншых па ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця.

**ТэрарыСзм** — палітыка запалохвання палітычнага праціўніка насільнымі метадамі.

**ТэтчэрыСзм** — эканамічная палітыка, якая праводзілася прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі М. Тэтчэр у 1979—1990 гг. і звязана са скарачэннем дзяржаўных расходаў на сацыяльныя патрэбы, распрадажай дзяржаўнай уласнасці.

**«УсхоСдні блок»** — шэраг краін Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы, якія аказаліся саюзнікамі СССР і паступова ўвайшлі ў сусветную сістэму сацыялізму.

**«ХалоСдная вайнаС»** — ваенна-палітычнае супрацьстаянне паміж СССР і яго саюзнікамі, з аднаго боку, і ЗША і іх саюзнікамі — з другога. Узнікла ў хуткім часе пасля Другой сусветнай вайны і завяршылася ў пачатку 1990-х гг. Для «халоднай вайны» характэрныя гонка ўзбраенняў, стварэнне супрацьлеглых адзін аднаму ваенна-палітычных блокаў.

**ХеСльсінкскі працэСс** — этап працэсу разрадкі міжнароднай напружанасці і замацавання прынцыпаў мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадска-палітычным ладам, які пачаўся пасля Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, што адбылася ў 1973—1975 гг. у Хельсінкі (Фінляндыя).

**ХрушчоСўская «адліСга»** — перыяд 1956—1964 гг., звязаны з рэфармаваннем савецкага грамадства пры захаванні марксісцка-ленінскай ідэалогіі і адміністрацыйна-каманднай сістэмы кіравання эканомікай.

**ШарыяСт** — звод нормаў мусульманскага права, маралі і рэлігійных прадпісанняў, якія тычацца ўсіх бакоў жыцця і дзейнасці мусульман.

**«ШвеСдская мадэСль» сацыяліСзму** — практыка сацыяльна-эканамічнага развіцця краін Паўночнай Еўропы, якая абапіраецца на дзяржаўную сістэму сацыяльнай абароны грамадзян, самакіраванне на вытворчасці і адмаўляе палажэнні марксізму аб класавай барацьбе і неабходнасці нацыяналізацыі сродкаў вытворчасці як метадах пабудовы сацыялізму.

**ЭкзістэнцыяліСзм** — філасофія існавання чалавека, асэнсаванне яго трагічнага лёсу ў свеце і спробы чалавека зрабіць свой выбар жыццёвага шляху з мэтай рэалізацыі спрадвечна закладзенага ў кожным імкнення да свабоды.

# МЕТАДЫЧНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

## Як рыхтаваць дамашняе заданне па параграфе вучэбнага дапаможніка

1. Успомніце, што вы вывучалі на ўроку.

2. Звярніце ўвагу на структуру параграфа: яго назву, фармулёўкі загалоўкаў, вывады. Пасля азнаямлення з паслядоўнасцю выкладання матэрыялу вы зможаце скласці план адказу і лагічна ўзнавіць змест параграфа.

3. Чытайце параграф па частках, абазначаных загалоўкамі. Падбірайце з тэксту параграфа факты, якія адпавядаюць фармулёўкам загалоўкаў і могуць стаць пунктамі вашага плана.

4. Звярніце ўвагу на выдзеленыя курсівам у тэксце параграфа новыя тэрміны і іх тлумачэнні. Выкарыстайце для азначэння тэрмінаў слоўнік у канцы вучэбнага дапаможніка. Мэтазгодна весці ў сшытку свой слоўнік гістарычных тэрмінаў.

5. Уважліва разгледзьце картасхемы, ілюстрацыйны матэрыял і подпісы да іх. Вызначце, як гэтую інфармацыю можна выкарыстаць пры адказе.

6. Адкажыце на пытанні і выканайце заданні, змешчаныя ў канцы параграфа.

## Як працаваць з дадатковым матэрыялам да параграфа

1. Прачытайце дакументы, змешчаныя ў дадатковым матэрыяле.

2. Вызначце, па магчымасці, кім з’яўляецца аўтар гістарычнага дакумента. Для гэтага выкарыстайце тэкст параграфа і рубрыку «Штрыхі да палітычнага партрэта».

3. Адкажыце на пытанні ў канцы параграфа, якія патрабуюць выкарыстання дадатковага матэрыялу.

## Як рыхтаваць вусны разгорнуты адказ

1. Складзіце план адказу. Вызначце, што ў вашым адказе будзе ўступам, якія факты будуць утрымлівацца ў асноўнай частцы, якія вывады вы зробіце ў заключэнні.

2. Ва ўступе дайце невялікую папярэднюю інфармацыю пра падзею, якая вывучаецца.

3. У асноўнай частцы паслядоўна выкладзіце адпаведныя факты. Выкарыстайце пры гэтым складзены вамі план адказу, гістарычныя тэрміны, гістарычныя карты, неабходныя ілюстрацыі, дадатковы матэрыял. План адказу мэтазгодна напісаць на дошцы.

4. У заключэнні сфармулюйце адпаведныя вывады па змесце вывучанага матэрыялу.

## Як даказваць свой вывад

1. Доказ будуецца паводле наступнага плана: тэзіс — аргументы — вывад.

2. Сфармулюйце *тэзісы* — асноўныя палажэнні, ідэі, якія вы будзеце даказваць.

3. Падбярыце факты, якія пацвярджаюць вашы тэзісы.

4. Сфармулюйце *аргументы* — довады, якія дапамогуць растлумачыць, чаму прыведзеныя вамі факты пацвярджаюць тэзіс.

5. Сфармулюйце *вывад,* які будзе даказваць, чаму ваш тэзіс правільны.

## Як складаць сінхранічную табліцу

1. Вызначце падзеі, якія адбываліся ў розных краінах у адзін і той жа час.

2. Запоўніце табліцу паводле наступнага прыкладнага плана.

| Перыяд развіцця | Назва краін (рэгіёнаў) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | ЗША | Краіны Захаду | СССР | Краіны «ўсходняга блока» | Краіны Азіі |
| «Халодная вайна» | Падзеі | Падзеі | Падзеі | Падзеі | Падзеі |

3. Устанавіце агульнае і адметнае (асаблівае) у гістарычным развіцці краін, якія вывучаюцца.

4. Сфармулюйце вывад аб узаемасувязях гістарычных падзей.

## Як раскрываць прычынна>выніковыя сувязі паміж гіста>рычнымі падзеямі

1. Вызначце, у якой галіне чалавечай дзейнасці (эканамічнай, палітычнай, культурнай) вы будзеце прасочваць прычынна-выніковыя сувязі.

2. Вызначце, якая гістарычная падзея з'яўляецца прычынай, а якая — вынікам. Для гэтага звярніце ўвагу на тое, што адна з падзей, размешчаных у храналагічнай паслядоўнасці, як бы «спараджае» іншую.

3. Растлумачце, як адна падзея звязана з другой з дапамогай «лагічнага ланцужка». Улічвайце пры гэтым, што вынікі адной падзеі могуць з'яўляцца адначасова прычынамі іншай падзеі.

# СПІС РЭКАМЕНДАВАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

## Раздзел I

*Александров В. В.* Новейшая история стран Европы и Америки, 1945—1986. М., 1988.

*Амброз С.* Эйзенхауэр. Солдат и президент: Пер. с англ. М., 1993.

Американские президенты. М., 1997.

*Бжезинский З.* Великая шахматная доска. Господство Америки и его геостратегические императивы: Пер. с англ. М., 1998.

*Бжезинский З.* Выбор. Мировое господство или глобальное лидерство. М., 2005.

*Бурстин Д.* Американцы: Демократический опыт. М., 1993.

*Громыко А., Кокошин А.* Братья Кеннеди. М., 1985.

XX век: Многообразие, противоречивость, целостность: Сборник статей. М., 1996.

*Джонсон П.* Современность: Мир с двадцатых по девяностые годы: Пер. с англ. В 2 ч. Ч. 2. М., 1995.

*Дугин А. Г.* Основы геополитики. М., 2000.

*Заболотный В. М.* Новейшая история стран Европы и Северной Америки. Конец XX — начало XXI века. М., 2004.

*Иванян Э. А.* Рональд Рейган: хроника жизни и времени. М., 1991.

*Колпаков А. Д.* Ирландия — остров мятежный. М., 1965.

*Маклэйн Д.* Внешняя политика Англии после Суэца. М., 1972.

*Молчанов Н. Н.* Генерал де Голль. М., 1988.

*Наленч Д.* и *Т.* Юзеф Пилсудский: легенды и факты. М., 1990.

Новейшая история стран Европы и Америки: В 3 ч. Ч. 2—3. М., 2001.

*Овчинников В.* Сакура и дуб: Впечатления и размышления о японцах и англичанах. М., 1983.

*Огден К.* Маргарет Тэтчер. Женщина у власти: портрет человека и политика. М., 1992.

*Перегудов С. П.* Тэтчер и тэтчеризм. М., 1996.

*Роббинс К.* Черчилль. М., 1997.

*Рубинский Ю. И.* Французы у себя дома. М., 1989.

*Смирнов В. П.* Франция: страна, люди, традиции. М., 1988.
Тоталитаризм в Европе XX века. М., 1996.
*Трухановский В. Г.* Уинстон Черчилль. М., 1989.
*Филитов А. М.* Германский вопрос: от раскола к объединению. Новое прочтение. М., 1993.
*Фурсенко А. А.* Президенты и политика США, 70-е годы. Л., 1989.
*Яковец Ю. В.* Глобализация и взаимодействие цивилизаций. М., 2001.

## Раздзел II

*Боффа Дж.* История Советского Союза: Пер. с итал.: В 2 т. Т. 2. М., 1994.
*Боффа Дж.* От СССР к России. История неоконченного кризиса 1964—1994 гг. М., 1996.
*Бурлацкий Ф. И.* Н. С. Хрущев. Политический портрет. М., 1989.
*Верт Н.* История советского государства, 1900—1991: Пер. с англ. М., 1998.
*Волкогонов Д. А.* Семь вождей: В 2 кн. Кн. 2. М., 1995.
*Горбачев М. С.* Жизнь и реформы: В 2 кн. М., 1995.
*Громов Б. В.* Ограниченный контингент. М., 1994.
*Громыко А. А.* Памятное. М., 1988.
*Добрынин А.* Сугубо доверительно: Посол в Вашингтоне при шести президентах США (1962—1986). М., 1997.
*Ельцин Б. Н.* Президентский марафон. Размышления, воспоминания, впечатление. М., 2000.
История России. Советское общество 1917—1991 / Под общ. ред. В. В. Журавлева. М., 1997.
Конфликты в послевоенном развитии восточноевропейских стран. М., 1997.
*Медведев Р.* Личность и эпоха: Политический портрет Л. И. Брежнева: В 2 кн. Кн. 1. М., 1991.
*Микоян А. И.* Так было. Размышления о минувшем. М., 1999.
*Млечин Л.* Формула власти. От Ельцина к Путину. М., 2000.
Основы евразийства. М., 2002.

*Пихоя Р. Г.* Советский Союз: история власти, 1945—1991. М., 1998.
Путч. Хроника тревожных дней. М., 1991.
*Сахаров А. Д.* Тревога и надежда. М., 1990.
Советская внешняя политика в годы «холодной войны» (1945—1985). Новое прочтение. М., 1995.
Советская военная мощь от Сталина до Горбачева. М., 1999.
*Соловьев В., Клепикова Е.* Борис Ельцин: Политические метаморфозы. М., 1992.
*Сорман Г.* Выйти из социализма. М., 1991.
*Харт Г.* Россия потрясает мир. М., 1992.
*Хоскинг Дж.* История Советского Союза, 1917—1991. М., 1994.
*Хрущев Н. С.* Воспоминания. Избранные фрагменты. М., 1997.
*Хрущев С. Н.* Рождение сверхдержавы. Книга об отце. М., 2000.
*Черняев А. С.* Шесть лет с Горбачевым. М., 1993.

**Раздзел III**

*Агаев С. Л.* Иран в прошлом и настоящем. М., 1981.
*Агарышев А.* Гамаль Абдель Насер. М., 1975.
*Антонова К. А. и др.* История Индии. М., 1979.
*Апдайк Р. Дж.* Саддам Хусейн. Ростов н/Д, 1999.
*Барач Д.* Дэн Сяопин. М., 1989.
*Бузов В. И.* Новейшая история стран Азии и Африки, 1945—2004. Ростов н/Д, 2005.
*Бурлацкий Ф.* Мао Цзэдун и его наследники. М., 1980.
*Ваджпаи А. Б.* Индия на пути в будущее. М., 2001.
*Васильев А. М.* Египет и египтяне. М., 1986.
*Гай Д., Снегирев В.* Вторжение: неизвестные страницы необъявленной войны. М., 1991.
*Горев А. В.* Роса на лотосе. Индира Ганди: мечты и свершения. М., 1987.
Государство Израиль в 80-е гг. М., 1992.
Деятели национально-освободительного движения. Политические портреты. М., 1989.

*Джилл С. С.* Династия Ганди. Ростов н/Д, 1997.
*Дмитриев Е.* Палестинская трагедия. М., 1986.
*Дэн Сяопин.* Основные вопросы современного Китая: Пер. с кит. М., 1988.
*Еремеев Д. Е.* Ислам: образ жизни и стиль мышления. М., 1990.
*Жданов Н. В., Игнатенко А. А.* Ислам на пороге XXI века. М., 1989.
*Жемчугов А.* Китайская головоломка. М., 2004.
*Иванов П. М.* Гонконг. История и современность. М., 1990.
Иранская революция 1978—1979. М., 1989.
Ислам: традиции и новации. М., 1991.
История Китая. М., 2002.
История Кореи. М., 2003.
Китай: история в лицах и событиях. М., 1991.
*Кожушко Е. П.* Современный терроризм. Анализ основных направлений. Мн., 2000.
*Концельман Г.* Ясир Арафат: от террориста к человеку мира. Ростов н/Д, 1997.
*Кошелев В. С.* Египет: уроки истории. Мн., 1984.
*Кузнецов Ю. Д. и др.* История Японии. М., 1988.
*Куликов В. С.* Китайцы о себе. М., 1989.
*Курбанов С. О.* Курс лекций по истории Кореи: с древности до конца XX столетия. СПб., 2002.
*Ледовский А. М.* СССР и Сталин в судьбах Китая. М., 1999.
*Ляховский А. А., Забродин В. М.* Тайны афганской войны. М., 1991.
*Митрохин Л. В.* Индия. Вступая в XXI век. М., 1987.
*Неру Дж.* Открытие Индии: Пер. с англ. Кн. 1—2. М., 1989.
Новейшая история Китая 1917—1970 гг. М., 1972.
Новейшая история стран Азии и Африки. XX век: В 3 ч. Ч. 2—3. М., 2001.
*Овчинников В. В.* Ветка сакуры. М., 1988.
*Панин А., Альтов В.* Северная Корея. Эпоха Ким Чен Ира на закате. М., 2004.
*Пронников В. А., Ладанов И. Д.* Японцы. М., 1996.

*Светлов Г. Е.* Путь богов. М., 1985.
*Сидихменов В. Я.* Китай: общество и традиции. М., 1990.
*СилаНовицкая Т. Г.* Культ императора в Японии. М., 1990.
*Стьюк У.* Корейская война. М., 2002.
*Толорая Г. Д.* Республика Корея. М., 1991.
*Торкунов А. В.* Загадочная война: корейский конфликт 1950—1953 гг. М., 2000.
*Усов В. Н.* История КНР: В 2 т. М., 2006.
*Усов В. Н.* Китайский Берия Кан Шэн. М., 2004.
*Цветов В. Я.* Пятнадцатый камень сада Рёандзи. М., 1986.
*Шорт Ф.* Мао Цзэдун. М., 2001.
Япония: идеология, культура, литература. М., 1989.

## ЗМЕСТ

(Назва і нумар школы)

| Вучэбны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Космач** Генадзь Аркадзьевіч
**Лазько** Рыгор Рыгоравіч
**Тугай** Уладзімір Васільевіч

# СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ
## навейшага часу
## 1945—2005 гг.

**Вучэбны дапаможнік для 10 класа ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з беларускай мовай навучання з 12гадовым тэрмінам навучання**

*2е выданне*

Рэдактары *А. В. Семенчукова, Т. Я. Янчук*
Дызайн вокладкі *Л. У. Ледзеневай*
Мастацкі рэдактар *Дз. П. Сіняўскі*
Тэхнічны рэдактар *А. У. Крывадубская*
Карэктары *М. М. Валынчыц, Н. Б. Кучмель, Г. А. Рабянкова, А. А. Сямашка*
Камп'ютэрная вёрстка *Н. Я. Бацюковай*

Падпісана да друку 09.11.2006. Фармат 60·90/16. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Літаратурная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,0. Ул.-выд. арк. 12,5.
Тыраж 35 027 экз. Зак. 2911.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага універсітэта».
ЛИ № 02330/0131748 ад 01.04.2004.
220030, Мінск, вул. Чырвонаармейская, 6.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў у Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве
«Мінская фабрыка каляровага друку». 220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.